# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

## XIX – пачатак XXI ст.

**Вучэбны дапаможнік**
**для 11 класа агульнаадукацыйных устаноў**
**з беларускай мовай навучання**

Пад рэдакцыяй доктара гістарычных навук,
прафесара Я. К. Новіка

*Дапушчана Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

Мінск
«Выдавецкі цэнтр БДУ»
2009

УДК 94(476)"18/20"(075.3=161.3)
ББК 63.3(4Беи)6я721.6
Г51

А ў т а р ы:
*Я. К. Новік* — § 3, 14—25, 28—31, 33, «Найважнейшыя даты гісторыі Беларусі (XIX — пачатак XXI ст.)»;
*І. Л. Качалаў* — § 2, 4, 8—12, 14, 15;
*В. А. Цяплова* — § 1, 5—7;
*Н. Я. Новік* — § 13, 26, 27, 32

Аўтар метадычнага апарату
*В. В. Гінчук*

Р э ц э н з е н т ы:
кафедра гісторыі Беларусі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка;
старшы навуковы супрацоўнік навукова-даследчага сектара Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А. А. Куляшова, дацэнт *Я. І. Трашчанок;*
дацэнт кафедры гуманітарных дысцыплін Інстытута прадпрымальніцкай дзейнасці *П. М. Гламбоцкі;*
настаўнік гісторыі гімназіі № 21 г. Мінска *Г. Э. Давідоўская*

**Гісторыя** Беларусі, XIX — пачатак XXI ст. : вучэб. дапам. для
Г51 11-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. мовай навучання / Я. К. Новік [і інш.] ; аўт. метад. апарату В. В. Гінчук ; пад рэд. Я. К. Новіка. — Мінск : Выд. цэнтр БДУ, 2009. — 239 с. : іл.
ISBN 978-985-476-699-7.

**УДК 94(476)"18/20"(075.3=161.3)**
**ББК 63.3(4Беи)6я721.6**

**ISBN 978-985-476-699-7**

# АД АЎТАРАЎ

Вучэбны дапаможнік «Гісторыя Беларусі, XIX — пачатак XXI ст.» прызначаецца для вучняў 11 класа агульнаадукацыйных устаноў.

Ён складаецца з «Уводзін», двух раздзелаў «Беларусь у XIX — пачатку XX ст.» і «Беларусь у XX — пачатку XXI ст.», да якіх прыводзяцца ўрокі абагульнення, а таксама «Заключэння», памятак «Як вывучаць гісторыю» і храналагічнай табліцы «Найважнейшыя даты гісторыі Беларусі (XIX — пачатак XXI ст.)». Раздзелы ў сваю чаргу падзяляюцца на параграфы.

Перад вывучэннем кожнага параграфа рэкамендуецца адказаць на пытанні рубрыкі «Успомніце», якія накіраваны на аднаўленне ў памяці ўжо вядомых гістарычных падзей, з'яў і працэсаў, неабходных для разумення і асэнсавання новага вучэбнага матэрыялу. Вельмі важна навучыцца не проста назапашваць новыя гістарычныя факты, а вызначаць паміж імі прычынна-выніковыя, лагічныя сувязі, якія дазваляюць успрымаць гісторыю як працэс, разумець абумоўленасць гістарычных падзей асаблівасцямі папярэдняга развіцця.

Гістарычны матэрыял (даты, паняцці, прозвішчы гістарычных дзеячаў), на які трэба звярнуць асаблівую ўвагу, вылучаны ў тэксце *курсівам* і **тлустым шрыфтам**.

Да кожнага параграфа прапаноўваюцца два блокі пытанняў і заданняў. «Пытанні і заданні для самаправеркі» прадугледжваюць рэпрадуктыўнае аднаўленне вучэбнага матэрыялу: па іх можна праверыць, ці засвоена вамі асноўная гістарычная інфармацыя з параграфа. Звяртаем увагу, што крыніцай гістарычнай інфармацыі з'яўляецца не толькі тэкст параграфа, але і ілюстрацыі і картасхемы да яго.

Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку накіраваны на засваенне і ўдасканаленне розных спосабаў дзейнасці з гістарычнай інфармацыяй: аналіз, параўнанне, абагульненне, сістэматызацыю, вызначэнне асноўных тэндэнцый гістарычнага развіцця Айчыны, складанне тэзіснага плана, канспекта, паведамлення і інш. Алгарытмы выканання гэтых заданняў змешчаны ў памятках «Як вывучаць гісторыю». Звяртаем увагу, што колькасць заданняў, якія выконваюцца вучнямі на ўроку і пры падрыхтоўцы дамашняга задання, рэгулюецца настаўнікам.

Існуюць розныя навуковыя погляды на гісторыю Беларусі XIX — пачатку XXI ст. Рубрыка «Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку» прадугледжвае знаёмства з рознымі меркаваннямі пра падзеі айчыннай гісторыі, дае магчымасць выказаць сваё стаўленне да гістарычных з'яў. Галоўным крытэрыем пры ацэнцы адказаў на такія пытанні з'яўляецца абгрунтаванасць выказанага меркавання.

Немагчыма ведаць гісторыю Беларусі, не валодаючы інфармацыяй пра гісторыю краю (вобласці, раёна, горада, вёскі), у якім вы жывяце. Шэраг заданняў вучэбнага дапаможніка арыентуе на падрыхтоўку паведамленняў з выкарыстаннем краязнаўчага матэрыялу. Работа з рознымі гістарычнымі крыніцамі (матэрыяламі музеяў, перыядычным друкам, мемуарамі і інш.) — адно з найважнейшых уменняў, якім неабходна авалодаць пры вывучэнні гісторыі.

Спадзяёмся, што работа з вучэбным дапаможнікам будзе садзейнічаць удасканаленню вашых ведаў па гісторыі Беларусі XIX — пачатку XXI ст., больш выразнаму ўсведамленню ролі Беларусі ў гістарычным працэсе, дазволіць зразумець тэндэнцыі сучаснага развіцця беларускага грамадства і паспяхова знайсці сваё месца ў вырашэнні задач, якія стаяць перад нашай краінай.

Жадаем поспехаў!

# УВОДЗІНЫ

## § 1. РОЛЯ І МЕСЦА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ Ў ПРАЦЭСАХ ГРАМАДСКА-ГІСТАРЫЧНАГА РАЗВІЦЦЯ

**Успомніце.** 1. Калі тэрыторыя Беларусі была заселена людзьмі? 2. У які час адбылося засяленне славянамі беларускіх зямель? 3. Якія ўсходнеславянскія супольнасці сфарміраваліся на тэрыторыі Беларусі? 4. Што такое этнічная супольнасць (этнас)?

**Адзінства гістарычнага працэсу ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне.** Беларускі народ мае змястоўную шматвяковую гісторыю. Яе складае велізарная праца народа па развіцці гаспадаркі і стварэнні матэрыяльных каштоўнасцей, а таксама гераічныя старонкі барацьбы супраць іншаземных захопнікаў, выдатныя дасягненні ў галіне навукі і культуры. Каштоўнасці, назапашаныя беларускім народам, а таксама тое багацце, якое перадаецца з пакалення ў пакаленне, з'яўляюцца неабходнай умовай прагрэсіўнага развіцця нашага грамадства. Нельга крочыць наперад, не ўлічваючы і не выкарыстоўваючы папярэдняга вопыту.

Беларусь з'яўляецца часткай Еўропы, таму беларускі народ рухаўся па сваім гістарычным шляху адначасова з еўрапейцамі. Найбуйнейшыя народы Еўропы — рускі, беларускі, украінскі, польскі, чэшскі, балгарскі, сербскі і інш. — належаць да славянскай моўнай групы, якая ў сваю чаргу ўваходзіць у індаеўрапейскую сям'ю моў. Акрамя славянскіх моў індаеўрапейская сям'я ўключае германскую (немцы, галандцы, скандынавы, англічане і інш.), раманскую (італьянцы, французы, іспанцы і інш.), іранскую (іранцы, таджыкі, асеціны, афганцы), індыйскую (народы Індыі і Пакістана) моўныя групы, а таксама мовы армян, грэкаў і некаторых іншых народаў свету.

Шмат тысячагоддзяў таму продкі ўсіх гэтых сучасных народаў складалі адзіную супольнасць, размаўлялі на адной мове, мелі падобныя побыт, грамадскую арганізацыю, рэлігійныя ўяўленні і г. д. Гэта старажытная супольнасць называецца *індаеўрапейцамі*. З цягам часу індаеўрапейцы рассяліліся на велізарнай тэрыторыі ад Заходняй Еўропы да Індыі (адкуль і назва). На новых месцах жыхарства яны прыстасоўваліся да мясцовых умоў, змешваліся з тутэйшым насельніцтвам.

Прыкладна 3—2 тысячагоддзі таму ад агульнай індаеўрапейскай супольнасці адасобіліся продкі славян, якіх умоўна называюць *праславянамі*. Месцам іх жыхарства ў тую пару была тэрыторыя паміж Эльбай, Віслай і Нёманам. З павелічэннем колькасці насельніцтва, а таксама ў выніку ціску з боку суседзяў праславяне пачалі рассяляцца на новыя тэрыторыі. Яны засялілі амаль усю Цэнтральную і Усходнюю Еўропу. На поўначы славяне дайшлі да Балтыйскага мора, на захадзе — да ракі Эльбы, на поўдні — да Грэцыі, на ўсходзе — да вярхоўяў рэк Волгі, Акі, Дона.

У VIII—IX стст. сфарміраваліся саюзы плямён усходніх славян, якія займалі тэрыторыю Усходняй Еўропы. Уздоўж сярэдняга цячэння Дняпра жылі паляне, на поўнач ад іх — драўляне, на паўночны ўсход — севяране, на захад — валыняне (бужане), а на паўднёвым захадзе, ля Чорнага мора і Дуная, знаходзіліся улічы і ціверцы. У лясной зоне (Палессе) рассяліліся дрыгавічы, радзімічы (па рацэ Сож), вяцічы (па рацэ Ака). Уздоўж Заходняй Дзвіны, ля вытокаў Волгі і Дняпра, жылі крывічы, якія прасунуліся таксама на поўнач і ўсход. Самым паўночным саюзам славянскіх плямён былі ільменскія славене, што пасяліліся ля возера Ільмень і ракі Волхаў.

Суседзямі ўсходніх славян сталі заходнія славяне (палякі, славакі, чэхі і інш.) і частка паўднёвых славян (балгары). У Прыбалтыцы жылі продкі літоўцаў і латышоў (старажытныя балты), а таксама продкі сучасных эстонцаў.

У працэсе змяшэння розных славянскіх груп з мясцовым насельніцтвам узніклі і замацаваліся новыя, уласцівыя толькі ім прыкметы: усходнеславянскі тып гаворкі, адзіная культура, агульная этнічная самасвядомасць.

Засваенне новай тэрыторыі, развіццё гаспадаркі паскорыла працэс разбурэння родаплемяннога ладу. Менавіта ў гэтых умо-

вах ва ўсходніх славян, як і ў заходніх і паўднёвых, упершыню сфарміравалася дзяржаўнасць. Палітычным цэнтрам першага дзяржаўнага ўтварэння ўсходніх славян наканавана было стаць у IX ст. Кіеву. Можна меркаваць, што менавіта ў гэты перыяд ва ўсходніх славян з'яўляецца і агульная саманазва «русь», «рускія».

**Гісторыя Беларусі ў кантэксце рэгіянальнага развіцця.** На думку беларускага гісторыка Я. І. Трашчанка, агульны падыход да вывучэння любой рэгіянальнай гісторыі, у тым ліку і беларускай, вызначаецца яе цывілізацыйнай прыналежнасцю. Чалавецтва ёсць і будзе, нягледзячы на глабалізацыю ў галіне навукова-тэхнічнага прагрэсу, сістэмай цывілізацый, а любая цывілізацыя праходзіць у сваім развіцці пэўныя сацыяльна-эканамічныя фармацыі. У сваю чаргу гісторыя кожнага народа звязана з гісторыяй іншых народаў.

Беларускі народ як частка ўсяго ўсходняга славянства звязаны з рускім і ўкраінскім народамі агульным паходжаннем, блізкасцю гістарычнага і культурнага развіцця. Разам з тым кожны народ — непаўторная з'ява ў гэтай славянскай супольнасці, а ўзаемадзеянне розных народаў узаемаўзбагачае іх.

У багатай гісторыі Старажытнай Русі беларускія землі вылучаюцца сваёй яркай самабытнасцю. Аўтар «Слова пра паход Ігаравы», гарачы прыхільнік Усяслава Полацкага, шмат апавядае пра Полацкую зямлю і яе ўладароў, ідэалізуючы іх учынкі. Усіх сучасных яму рускіх князёў ён падзяляе на «Ярославлих внуков» (нашчадкаў Яраслава Мудрага) і «Всеславлих внуков» (нашчадкаў Усяслава Полацкага). Дынастычна полацкія князі складалі асобную галіну Рурыкавічаў. У Полацкай зямлі былі ўсе ўмовы для набыцця незалежнасці ад Кіева. У гэтым яна прыпадабнялася Вялікаму Ноўгараду. У Полацку, моцным гандлёвым цэнтры, як і ў Ноўгарадзе, было вельмі ўплывовым мясцовае баярства, існавала веча, збіраліся «братчыны», якія супрацьстаялі князям. Полацк самастойна выбіраў сабе князёў. Раней за іншыя землі Русі Полацкая зямля канчаткова адасобілася ад улады Кіева.

Працяглым і самабытным перыядам у гісторыі Беларусі з'яўляецца час уваходжання беларускіх зямель у склад Вялікага княства Літоўскага (сярэдзіна XIII — другая палова XVI ст.) — адной з найбольш значных дзяржаў Еўропы таго часу. Землі Беларусі і Літвы сталі асноўным ядром гэтай велізарнай і магут-

най дзяржавы. З другой паловы XVI ст. і да канца XVIII ст. беларускія землі ўваходзілі ў склад новага дзяржаўнага ўтварэння — Рэчы Паспалітай.

Геапалітычнае становішча беларускіх зямель характарызавалася іх знаходжаннем на памежжы дзвюх падсістэм еўрапейскай хрысціянскай цывілізацыі і культуры: заходнехрысціянскай (рымска-каталіцкай) і ўсходнехрысціянскай (візантыйска-праваслаўнай). У старажытную і сярэдневяковую эпохі канфесіянальны фактар быў вырашальным ва ўсёй сістэме сацыяльных адносін. Характар дзяржавы вызначаўся веравызнаннем суверэна і вярхоў грамадства, на якія ён абапіраўся і з якіх фарміраваўся ўвесь апарат кіравання, а не веравызнаннем большасці насельніцтва, пазбаўленага ўладных функцый.

Першапачаткова беларускія землі, якія ўваходзілі ў склад Старажытнарускай дзяржавы, належалі да ўсходнеславянскай (праваслаўнай) падсістэмы еўрапейскай хрысціянскай цывілізацыі. Аднак з часу падпісання Крэўскай уніі (1385) язычніцка-праваслаўнае Вялікае княства Літоўскае, у склад якога ўваходзілі і беларускія землі, стала каталіцкай дзяржавай. Каталіцкае духавенства, якое прыйшло ў Вялікае княства Літоўскае з Польшчы, а таксама феадалы-католікі занялі прывілеяванае становішча. Усе некатолікі сталі непаўнапраўнымі. З каталіцызмам прыйшлі на беларускія землі польскія мова і культура. Заходнерускія феадалы Літвы, імкнучыся захаваць свае прывілеі, адмовіліся ад веры, мовы і культуры свайго народа і паступова перайшлі ў адзіную шляхецкую польскую нацыю. Беларускі народ пазбавіўся сваёй эліты. Ён апынуўся ў становішчы «сялянскай нацыі», для якой адзіным аб'яднальным фактарам заставалася праваслаўная царква. Этнічная і канфесійная прыналежнасці зліліся: католік — значыць, паляк, праваслаўны — рускі.

Пад знакам расколу грамадства на праваслаўных і католікаў праходзіла ўся наступная гісторыя беларускіх зямель. Пад гэтым жа знакам фарміравалася і беларуская гістарыяграфія з дзвюма непрымірымымі пазіцыямі. Адна з іх — каталіцкая, носьбітамі якой з'яўляліся каталіцкая шляхта і каталіцкае духавенства, другая — праваслаўная, носьбітамі якой былі праваслаўныя гараджане і духавенства пры стыхійнай падтрымцы праваслаўнага сялянства.

У цэлым шлях беларускага народа праз стадыі старажытнай і сярэдневяковай гісторыі, гісторыі новага і навейшага часу адлюстроўвае ўсеагульныя гістарычныя заканамернасці. У 1991 г. пачала ствараццa суверэнная Рэспубліка Беларусь, а ў яе нетрах — грамадства сацыяльнай справядлівасці. Асэнсаванне ж гістарычнага мінулага дапамагае пазбягаць памылак цяпер і ў будучыні.

**Асаблівасці фарміравання і развіцця беларускага народа.** Кожны народ мае сваю культуру. Нельга змешваць навукова-тэхнічную культуру, інтэрнацыянальную па сваёй сутнасці, і нацыянальную культуру народа. Толькі ва ўлонні нацыянальнай культуры можа існаваць народ. Без гэтай асновы настае духоўная смерць народа, адбываецца працэс яго ператварэння ў этнаграфічны матэрыял для іншай цывілізацыі.

На базе якіх этнакультурных традыцый фарміраваліся мова і культура беларускага этнасу?

Уваходжанне заходніх зямель Русі ў склад Вялікага княства Літоўскага супадае з пачаткам працэсу фарміравання беларускай этнічнай супольнасці. Менавіта ў гэты час продкі беларусаў пачалі ўсведамляць сябе як адметны народ са сваім гістарычным мінулым, звычаямі, гаспадарчым і жыццёвым ладам. Але ёсць падставы меркаваць, што некаторыя ўласцівыя беларускаму этнасу прыкметы пачалі выспяваць яшчэ ў нетрах Старажытнарускай дзяржавы. Асновай культурнага развіцця ўсходніх славян было ўсходнехрысціянскае веравызнанне, з прыняццем якога пачалі распаўсюджвацца пісьменства, храмавае дойлідства, іканапіс і г. д. Этнічная тэрыторыя беларусаў знаходзілася там, дзе да рассялення славян пражывалі балцкія плямёны. Пэўны ўплыў язычніцкай балцкай культуры садзейнічаў з'яўленню і замацаванню некаторых рыс, якія сталі ўласцівымі толькі беларусам.

На працягу XIV—XVI стст. ва ўмовах моцнай вярхоўнай улады і адзінага заканадаўства ў ВКЛ фарміраваліся і замацоўваліся адметныя рысы гаспадарчай дзейнасці мясцовага славянскага насельніцтва. Складвалася аднастайная бытавая культура, агульныя рысы назіраліся ў абрадах, звычаях, народнай мастацкай творчасці. Ажыўленне эканамічнай дзейнасці спрыяла з'яўленню моцнага гарадскога саслоўя з яго характэрным бытам.

Істотна змянялася мова мясцовых жыхароў — яна набывала рысы, уласцівыя новаму этнасу, а замацаванне яе ў якасці мовы дзяржаўнай дакументацыі, заканадаўства і судаводства спрыяла яе лексічнаму ўзбагачэнню. Пад уздзеяннем польскага культурнага фактару ў лексіку літаратурнай мовы пранікала шмат слоў з польскай мовы і сярэдневяковай латыні. Але мясцовыя народныя гаворкі захавалі шмат старажытнарускіх рыс.

Пасля Крэўскай уніі ў фарміраванне беларускай этнічнай супольнасці актыўна ўключыўся і каталіцкі польскі фактар. На заходнерускіх і паўднёварускіх землях пачала ўкараняцца культурная традыцыя, якая ўспрымалася мясцовым насельніцтвам як чужая.

На скрыжаванні трох згаданых этнакультурных традыцый — усходнеславянскай, балцкай і польскай — фарміравалася і этнічная самасвядомасць беларусаў. Значная частка насельніцтва былых заходнерускіх зямель не вылучала сябе па этнічных прыкметах з жыхароў іншых рэгіёнаў былой Русі. Да канца XVIII ст. беларусы карысталіся пераважна саманазвай «рускія» ці «русіны», адчуваючы сябе спадчыннікамі агульнай усходнеславянскай культуры. Доўгі час этнічная прыналежнасць атаясамлівалася з рэлігійнай: «рускі» азначала праваслаўны ў адрозненне ад «паляка» — католіка. І толькі ў канцы XIX — пачатку XX ст. тэрмін «Белая Русь» распаўсюдзіўся на ўсю беларускую этнічную тэрыторыю, а за жыхарамі замацавалася назва «беларусы».

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Пералічыце народы, якія належаць да індаеўрапейскай моўнай сям'і.
2. Якую тэрыторыю 3—2 тысячагоддзі таму засялялі праславяне?
3. Вызначце напрамкі рассялення славян у Еўропе. Апішыце тэрыторыю рассялення ўсходніх славян.
4. Якія прыкметы дазваляюць гісторыкам рабіць выснову аб утварэнні ўсходнеславянскай (старажытнарускай) народнасці?
5. Назавіце асноўныя этапы фарміравання беларускага народа.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

Вызначце фактары, якія ўплывалі на фарміраванне беларускага народа. Складзіце тэзісны план адказу на гэтае пытанне.

## § 2. БЕЛАРУСЬ ВА ЎСХОДНЕСЛАВЯНСКІМ СВЕЦЕ (V — першая палова XIII ст.)

**Успомніце.** 1. Як ішоў працэс засялення беларускіх зямель? 2. Якімі былі прычыны феадальнай раздробленасці ў Заходняй Еўропе?

**Раннефеадальная дзяржаўнасць усходніх славян на тэрыторыі Беларусі.** У VIII—IX стст. у выніку славяна-балцкага ўзаемадзеяння на тэрыторыі сучаснай Беларусі ўзніклі тры тэрытарыяльныя культурна-этнічныя супольнасці: *дрыгавічы*, *крывічы* і *радзімічы*. Дрыгавічы займалі большую частку Паўднёвай і значную частку Сярэдняй Беларусі (паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіной). Радзімічы засялялі землі паміж Дняпром і Дзясной (асноўны арэал іх рассялення — басейн ракі Сож). Крывічы жылі на поўначы Беларусі і ў суседніх раёнах Падзвіння і Падняпроўя (у вярхоўях рэк Заходняй Дзвіны, Дняпра і Ловаці). Крывічы, дрыгавічы і радзімічы ўяўлялі сабой саюзы плямён.

Яшчэ да сярэдзіны IX ст. на тэрыторыі, населенай старажытнаславянскімі плямёнамі, пачалі фарміравацца племянныя княжанні — прамежкавая стадыя паміж саюзам плямён і дзяржавай. У кожнага княжання была свая тэрыторыя, якая складвалася з зямель былых родавых абшчын, свой князь з дружынай, сістэма падаткаабкладання і права. Улада князя была ўжо спадчыннай. Князі разам з дружынамі абаранялі тэрыторыі княжання ад знешніх ворагаў, ажыццяўлялі ваенныя паходы ў суседнія землі, вяршылі суд над сваімі падданымі.

Развіццё земляробства і жывёлагадоўлі, гарадоў, рамяства і гандлю, а таксама неабходнасць аб'яднання для абароны славянскіх зямель ад набегаў ваяўнічых суседзяў прывялі да стварэння магутнай дзяржавы, якая атрымала назву «Кіеўская Русь».

**Месца беларускіх зямель у працэсе станаўлення Кіеўскай Русі.** Утварэнне Кіеўскай Русі было падрыхтавана ўсім папярэднім ходам сацыяльна-гістарычнага развіцця ўсходніх славянскіх зямель. У сярэдзіне IX ст. племянныя княжанні пачалі аб'ядноўвацца ў саюзы. Славене і крывічы разам з фінскім племем чудзь стварылі паўночны саюз княжанняў. У Сярэднім Падняпроўі на аснове княжання палян сфарміраваўся паўднёвы саюз. У сярэдзіне IX ст. ва Усходняй Еўропе з'явіліся варагі — выхадцы з Паў-

ночнай Еўропы і Скандынавіі, удзельнікі гандлёва-грабежніцкіх і заваёўніцкіх паходаў у Еўропе, дзе іх звалі па-рознаму: вікінгамі, нарманамі і інш. З'яўленне варагаў не мела вырашальнага значэння для ўзнікнення Кіеўскай Русі, але паскорыла ўтварэнне гэтай дзяржавы. Летапісная гісторыя Старажытнарускай дзяржавы пачынаецца з 862 г., калі паўночны саюз княжанняў запрасіў правіць у Ноўгарадзе варага Рурыка. Яго пераемнік варажскі князь Алег авалодаў у 882 г. Кіевам, забіўшы мясцовых князёў Аскольда і Дзіра, пашырыў уладу на многія ўсходнеславянскія і некаторыя неславянскія плямёны. Так пачала фарміравацца Старажытнаруская дзяржава — Кіеўская Русь.

Кіеўская Русь складалася з розных тэрытарыяльных адзінак, якія называліся валасцямі, землямі, княствамі. На чале яе быў вялікі князь кіеўскі. У склад дзяржавы ўваходзілі асобныя землі на чале са сваімі племяннымі князямі, якія знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад кіеўскага князя. Яны павінны былі з'яўляцца са сваімі дружынамі па патрабаванні кіеўскага князя для ажыццяўлення ваенных паходаў. Падначаленае племянным князям насельніцтва плаціла даніну кіеўскаму князю. У той жа час племянныя князі мелі амаль неабмежаваную ўладу ў сваіх землях.

Вялікі князь кіеўскі кіраваў Старажытнарускай дзяржавай пры дапамозе ваеннай дружыны. Пэўную ролю ў вырашэнні важных пытанняў адыгрываў княжацкі савет з баяр (вышэйшы пласт феадальнага грамадства) і старэйшых дружыннікаў. У гарадах існавала веча — народны сход.

Кіеўская Русь не была адзіным і цэнтралізаваным дзяржаўным утварэннем. На працягу ўсяго часу яе існавання ішла барацьба дзвюх тэндэнцый: узмацнення ўлады кіеўскага князя і імкнення да сепаратызму асобных тэрыторый. Даволі моцная ваенная арганізацыя дазваляла Кіеўскай Русі абараняцца ад пагрозы з боку суседніх дзяржаў і набегаў ваяўнічых качэўнікаў, ажыццяўляць заваёўніцкія паходы ў суседнія багатыя краіны і трымаць пэўны час у падпарадкаванні мясцовых князёў і баяр, схільных да сепаратызму. Эканамічныя і этнічныя сувязі ў гэтай дзяржаве наўрад ці можна лічыць трывалымі.

У перыяд Кіеўскай Русі на тэрыторыі Беларусі самымі значнымі княствамі былі Полацкае і Тураўскае, якія ўваходзілі ў склад

Старажытнарускай дзяржавы. Полацкае княства ўтварылася ў сярэднім цячэнні Заходняй Дзвіны ў 960-я гг. Яно займала ўсю Паўночную Беларусь і межавала на поўначы з Новагародскай зямлёй, на ўсходзе — са Смаленскай, на поўдні — з Тураўскай, на захадзе і паўночным захадзе — з землямі літоўскіх плямён. Полацкае княства займала звыш трэці тэрыторыі сучаснай Беларусі. У Полацку існавала княжацкая дынастыя, правы якой захоўваліся на працягу многіх пакаленняў.

Сярод полацкіх князёў найбольшую вядомасць атрымалі князі Брачыслаў і Усяслаў, якія кіравалі Полацкім княствам у XI ст. У гэты час пашырылася тэрыторыя княства, узрасло яго палітычнае значэнне. Полацкія князі стараліся праводзіць незалежную ад Кіева палітыку.

Улада князя ў Полацку суіснавала з уладай веча, роля якога асабліва ўзмацнілася з канца 1120-х гг. Веча запрашала князя на княжанне, выдавала законы, выбірала пасаднікаў, тысяцкіх і іншых прадстаўнікоў мясцовага кіравання, ухваляла аб'яўленне вайны ці міру. Улада веча распаўсюджвалася не толькі на горад, але і на ўсю воласць, раскіданыя па ўсім княстве пасяленні. У Полацкім княстве веча праіснавала да канца XV ст. (1498), калі гораду было дадзена магдэбургскае права.

Князі займаліся вайсковай справай, хадзілі ў паходы са сваёй дружынай у іншыя землі. Акрамя таго, князь быў заняты адміністрацыйнай справай, вяршыў суд, ахоўваў гандлёвыя шляхі і караваны ў сваім княстве. Пасля ўвядзення хрысціянства і ўтварэння ў 992 г. Полацкай епархіі высокае грамадскае становішча ў Полацку займаў епіскап. Ад імя князя і епіскапа пісаліся дагаворы, якія заключала полацкае веча, і да дакументаў прывешваліся іх пячаткі.

У пачатку XII ст. Полацкае княства ўступіла ў перыяд палітычнай раздробленасці і распалася на некалькі ўдзельных княстваў: Полацкае, Мінскае, Віцебскае, Друцкае, Ізяслаўскае, Лагойскае і інш.

Другім буйным княствам на тэрыторыі Беларусі было Тураўскае, якое ўтварылася ў канцы X ст. Яго тэрыторыя ў асноўным адпавядала месцам рассялення дрыгавічоў на поўдні Беларусі ў басейне Прыпяці. Палітычным цэнтрам княства стаў Тураў, буйным горадам з'яўляўся таксама Пінск. Узнікненню і развіццю

Турава і Пінска садзейнічала іх выгаднае размяшчэнне на водным Прыпяцка-Бугскім гандлёвым шляху з Кіева і іншых рускіх зямель у Заходнюю Еўропу. Тураўскае княства часам мела самастойнасць, а часам належала Кіеву ў якасці часткі велікакняжацкіх уладанняў. У 1150-я гг. Тураў выйшаў з падпарадкавання Кіеву, і ў ім усталявалася самастойная княжацкая дынастыя. У другой палове XII — пачатку XIII ст. на тэрыторыі Тураўскага княства ўтварыўся шэраг дробных феадальных княстваў: Тураўскае, Пінскае, Слуцкае, Клецкае, Дубровіцкае (на тэрыторыі сучаснай Паўночнай Украіны).

Такім чынам, Полацкае і Тураўскае княствы можна лічыць першымі дзяржаўнымі ўтварэннямі на тэрыторыі Беларусі.

У далейшым развіццё феадальных адносін, узнікненне моцных мясцовых цэнтраў, сепаратызм мясцовых феадалаў прывялі да аслаблення Кіеўскай Русі.

У пачатку XII ст. Старажытнаруская дзяржава распалася на асобныя княствы. У гэты перыяд Кіеўская Русь ужо не ўяўляла сабой адзінага палітычнага цэлага і складалася з шэрагу асобных зямель. Тэрыторыя Беларусі ўваходзіла ў склад Полацкага, Тураўскага, Пінскага, Новагародскага і часткова Смаленскага, Чарнігаўскага, Кіеўскага і Уладзіміра-Валынскага княстваў. У пачатку XIII ст. працэс палітычнага драблення пайшоў яшчэ хутчэй. Княствы пачалі драбіцца на ўдзелы. XII—XIII стст. прайшлі ў бесперапынных міжусобных войнах.

**Духоўныя каштоўнасці ўсходнеславянскага свету і Беларусь.** Неабходна падкрэсліць, што, нягледзячы на існаванне ў розных частках Старажытнарускай дзяржавы асобных культурных і палітычных традыцый, Кіеўская Русь адыграла важную ролю ў збіранні ўсіх усходнеславянскіх зямель. У выніку аб'яднання розных супольнасцей (крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, палян, драўлян, вяцічаў і інш.) сфарміравалася новая ўсходнеславянская этнічная супольнасць — старажытнаруская (усходнеславянская) народнасць. У X ст. замацавалася агульная назва гэтай тэрыторыі — Русь, Руская зямля. Кіеўскія князі называліся рускімі князямі.

Вялікае значэнне ў аб'яднанні ўсходніх славян у Кіеўскай Русі мела ўвядзенне ў 988 г. хрысціянства, якое стала адзінай духоўнай і культурнай асновай Старажытнарускай дзяржавы.

У Кіеўскай Русі была замацавана агульнасць мовы і культуры насельніцтва ўсёй дзяржавы, дамінавалі агульнарускія рысы, якія забяспечвалі культурную маналітнасць усходнеславянскага «рускага свету» на ўсёй тэрыторыі ад Карпат да Белага мора. Не апошнюю ролю ў гэтым адыгралі адзіныя славянскія карані ўсіх супольнасцей, якія складалі старажытнарускую народнасць. Славянскі характар этнасу быў замацаваны ў саманазвах «русь», «русы», «рускія». Таму старажытнарускую народнасць трэба лічыць найважнейшым этапам у фарміраванні трох братніх народаў — беларускага, рускага і ўкраінскага.

Такім чынам, ужо ў перыяд Кіеўскай Русі была сфармулявана ідэя агульнарускага адзінства. Не падлягае сумненню і тое, што ідэя беларускай дзяржаўнасці паходзіць са старажытнарускай дзяржаўнасці і мае агульнарускія карані.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Якія культурна-этнічныя супольнасці сфарміраваліся на тэрыторыі Беларусі падчас рассялення ўсходніх славян?
2. Пералічыце фактары, што спрыялі ўтварэнню дзяржаўнасці на землях усходніх славян.
3. Назавіце першыя дзяржаўныя ўтварэнні, якія складаліся на беларускіх землях.
4. Ахарактарызуйце дзяржаўны лад першых княстваў на тэрыторыі Беларусі.
5. Якія фактары спрыялі аб'яднанню ўсходнеславянскіх плямён у старажытнарускую (усходнеславянскую) народнасць?

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Дакажыце, што на тэрыторыі Усходняй Еўропы ўжо ў IX ст. складваліся дзяржаўныя ўтварэнні.
2. Канкрэтызуйце фактамі палажэнне: «Кіеўская Русь не была адзіным і цэнтралізаваным дзяржаўным утварэннем».
3. Растлумачце, чаму развіццё сістэмы феадальных адносін, узнікненне моцных мясцовых цэнтраў, сепаратызм мясцовых феадалаў прывялі да аслаблення Кіеўскай Русі.

## § 3. БЕЛАРУСЬ У ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ (другая палова XIII — першая палова XVI ст.)

**Успомніце.** Якімі былі прычыны ўтварэння цэнтралізаваных дзяржаў у Заходняй Еўропе?

**Утварэнне Вялікага княства Літоўскага. Шматэтнічны склад насельніцтва княства.** У XIII—XIV стст. вызначыліся два цэнтры кансалідацыі ўсходніх славян. Адзін з іх быў звязаны са старажытнарускімі гарадамі Новагародкам і Вільняй, вакол якіх аб'ядноўваліся заходнерускія і літоўскія землі і фарміравалася магутная дзяржава — Вялікае княства Літоўскае. Другі цэнтр — Масква, якая кансалідавала ўсходнерускія землі. Вакол яе сфарміравалася таксама вялікая і магутная Маскоўская дзяржава. Узнікае пытанне: чаму заходнерускія і літоўскія землі ў сярэдзіне XIII ст. пачалі аб'ядноўвацца і ствараць адзіную дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае?

Існуюць тры групы прычын утварэння ВКЛ. Першая з іх — *сацыяльна-эканамічныя прычыны.* Інтэнсіўнае развіццё феадальных адносін, запрыгоньванне новых катэгорый насельніцтва — вольных абшчыннікаў, узмацненне баярства, развіццё земляробства, рост гарадоў, пашырэнне гандлю, рамёстваў, узнікненне тэрытарыяльнай спецыялізацыі працы — усё гэта адраджала аб'яднальную тэндэнцыю — тэндэнцыю да адзінай дзяржавы, у якой пасля працяглай феадальнай раздробленасці можна было больш паспяхова вырашаць сацыяльна-эканамічныя задачы.

Другая група — *унутрыпалітычныя прычыны.* Далейшае развіццё феадальных адносін непазбежна вяло да абвастрэння сацыяльных супярэчнасцей, якія прымалі розныя формы: ад крадзяжу феадальнай уласнасці, знішчэння знакаў, якімі феадалы адзначалі захоп і прысваенне абшчынных зямель, да падпалу будынкаў феадалаў, забойстваў прадстаўнікоў феадальнай адміністрацыі. Сацыяльныя канфлікты ў феадальным грамадстве заўсёды з'яўляліся адным з фактараў аб'яднальных працэсаў. Гаспадарам зямлі спатрэбілася згуртаваць сілы для ўзмацнення прававога рэгулявання феадальных адносін, уніфікацыі прыгнёту, каб прымусіць сялян працаваць на зямлі феадала.

Трэцяя група — *знешнепалітычныя прычыны.* Пагроза ў XIII ст. заходнерускім (сучасным беларускім) землям з захаду ад крыжакоў (Лівонскі і Тэўтонскі ордэны), з поўдня і ўсходу — ад татара-манголаў (заваяванне Усходняй і Паўднёвай Русі) падштурхоўвала заходнерускія і літоўскія княствы да аб'яднання і ўтварэння адзінай дзяржавы.

Працэс утварэння ВКЛ быў працяглым і меў складаны характар. Ён адбываўся больш за стагоддзе — з другой чвэрці XIII ст. па трэцюю чвэрць XIV ст. У адных выпадках тэрыторыі далучаліся пры дапамозе ваеннай сілы, у другіх — на аснове пагадненняў паміж рускімі і літоўскімі князямі, у трэціх — шляхам дынастычных шлюбаў. На працягу XIII—XIV стст. у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ўтварылася феадальная дзяржава — Вялікае княства Літоўскае, якое ахоплівала тэрыторыю цяперашніх Літвы і Беларусі, большую частку Украіны і частку Расіі (Смаленскую, Тульскую, Арлоўскую і частку Маскоўскай вобласці). У перыяд свайго росквіту ў XV ст. ВКЛ распасціралася ад Балтыйскага да Чорнага мора і ад межаў Польшчы і Венгрыі да Мажайска, што за 100 км ад Масквы.

**Развіццё беларускіх зямель у складзе Вялікага княства Літоўскага.** З самага пачатку існавання ВКЛ былі закладзены асновы федэраліСцкіх пачаткаў у дзяржаўным будаўніцтве феадальнай манархіі (адносная аўтаномнасць далучаных зямель, іх самабытнасць і першапачатковы ўклад жыцця, поўнае гаспадаранне князёў у сваіх вотчынах і г. д.). Вярхоўная ўлада імкнулася да цэнтралізацыі. Каб аслабіць процідзеянне цэнтралізатарскай палітыцы, Вітаўт (1392—1430) сілай зброі ліквідаваў сістэму спадчыннага надзельнага землеўладання, а інстытут княжання замяніў інстытутам намесніцтва. Пасля смерці ўладальніка землі не дзяліліся паміж нашчадкамі, як на Русі. Часцей на прастоле заставаўся адзін з нашчадкаў у якасці велікакняжацкага намесніка, астатнія атрымлівалі пасады ў іншых месцах.

У канцы XIV—XV ст. Вялікае княства Літоўскае вырашала праблему ўзаемаадносін з Польшчай, пытанне літоўска-польскага саюзу. Крэўская унія 1385 г. была не чым іншым, як спробай уключыць ВКЛ у Польскую Карону, пазбавіць княства самастойнага існавання і зліць яго з Польшчай. Больш за 100 гадоў ВКЛ знаходзілася ў стане персанальнай уніі з Польшчай, але застава-

лася пры гэтым суверэннай дзяржавай дзякуючы намаганням рускіх і літоўскіх феадалаў.

Ліквідацыя Вітаўтам абласных княжанняў, выбарнасць вялікіх князёў літоўскіх на аснове Крэўскай уніі 1385 г., узмацненне ваенна-служылага саслоўя (шляхецтва) і яго процідзеянне неабмежаванай уладзе вялікага князя, прыняцце ў 1529, 1566 і 1588 гг. Статутаў Вялікага княства Літоўскага, дзейнасць паноў-рады і вальных соймаў — усё гэта сведчыла не толькі пра поспехі ў справе цэнтралізацыі, але і пра паступовае набыццё ВКЛ статусу абмежаванай манархіі.

Галоўны сродак вытворчасці і галоўнае багацце Вялікага княства Літоўскага — зямля — у залежнасці ад таго ці іншага ўладальніка дзялілася на катэгорыі: дзяржаўную (гаспадарскую), прыватнаўласніцкую (княжацкую і баярскую), царкоўную. Сяляне, якія жылі на гэтых землях, адпаведна называліся дзяржаўнымі, прыватнаўласніцкімі і царкоўнымі. Разам з тым яны дзяліліся на катэгорыі ў адпаведнасці са сваім маёмасным і падатным становішчам, а таксама ў залежнасці ад ступені асабістай свабоды, якой яны карысталіся. Гэта — чэлядзь нявольная, цяглыя сяляне, слугі з іх галоўнай павіннасцю — вайсковай службай, «пахожыя» і «непахожыя» сяляне.

За карыстанне зямлёй сяляне плацілі рэнту. Асноўнымі яе відамі былі адработачная (паншчына), грашовая (чыншавая) і натуральная (прадуктовая).

Уся зямля — і тая, што знаходзілася ў карыстанні асобнай сям'і, ці «дыма», і тая, якой карысталіся ўсе жыхары сяла (лясы, балоты, азёры, рэкі і г. д.), — належала спецыфічнаму сялянскаму згуртаванню, якое называлася абшчынай. Сялянская, ці сельская, абшчына з'яўлялася калектыўным землекарыстальнікам. Яна размяркоўвала паміж сялянамі зямлю і паншчыну, кантралявала выкананне імі законаў і павіннасцей, назірала за іх паводзінамі, становішчам сялянскіх гаспадарак, своечасовым выкананнем сельскагаспадарчых работ, рэгулявала карыстанне выганам і лесам, вырашала спрэчкі паміж абшчыннікамі, іншы раз дапамагала бедным, асабліва ў неўраджайныя (галодныя) гады.

Аграрная рэформа 1557 г. Жыгімонта II Аўгуста, што ўвайшла ў гісторыю пад назвай «валочная памера», павысіла прыбытковасць княжацкіх фальваркаў, забяспечыла масавае запрыгонь-

ванне сялян, якія гублялі права пераходу ад аднаго гаспадара да другога і станавіліся цалкам прыгоннымі. Статуты Вялікага княства Літоўскага 1566 і 1588 гг. вызначылі спачатку 10-гадовы, а потым 20-гадовы тэрмін вышуку беглых сялян і вяртання іх гаспадарам. Гэта азначала канчатковае юрыдычнае замацаванне прыгоннага права на беларускіх землях, якое праіснавала амаль 300 гадоў. Ажыццяўленне валочнай памеры ў Заходняй і Цэнтральнай Беларусі прывяло да замены абшчыннага землекарыстання падворным. Абшчыннае землекарыстанне засталося толькі ва Усходняй Беларусі.

Раслі гарады і паселішчы гарадскога тыпу — мястэчкі. Яны ўзнікалі як на дзяржаўных, так і на прыватнаўласніцкіх землях. Каля 40 % гарадоў належалі феадалам. Жыхары гэтых гарадоў неслі феадальныя павіннасці на карысць свайго гаспадара. Насельніцтва дзяржаўных, ці вялікакняжацкіх, гарадоў лічылася асабіста вольным. Аднак у XVI ст. у гэтых гарадах з'явіліся так званыя «юрыдыкі» — уладанні свецкіх і духоўных феадалаў, якія не падпарадкоўваліся ўладзе гарадскога самакіравання. Гарады з'яўляліся цэнтрамі культурнага жыцця, рамёстваў і гандлю. Большую частку іх насельніцтва складалі рамеснікі і гандляры. Яны называліся мяшчанамі.

З канца XIV ст. літоўскія князі пачалі даваць гарадам прывілеі ці граматы на магдэбургскае права — самакіраванне. Паншчынная і іншыя павіннасці на карысць феадала замяняліся адзіным грашовым падаткам. Стварaўся орган адміністрацыйнага кіравання горадам — магістрат. Ён складаўся з рады і лавы (суда). Магістраты размяшчаліся ў спецыяльных будынках — ратушах.

**Фарміраванне беларускай народнасці.** На заходнерускіх землях у ВКЛ працягваўся працэс утварэння новай этнічнай супольнасці — *беларускай народнасці.* Яна, як і руская і ўкраінская, фарміравалася на аснове старажытнарускай народнасці. Што ж такое народнасць? *Народнасць* — гэта гістарычна сфарміраваная супольнасць людзей (этнічная супольнасць), для якой характэрна адзіная мова, тэрыторыя, агульны эканамічны лад, этнічная самасвядомасць, псіхічны склад і культура.

Беларуская народнасць фарміравалася і існавала ў XII—XIX стст. Народнасці як этнічнай супольнасці папярэднічалі такія супольнасці, як *род* і *племя*.

Пачатак фарміравання народнасцей беларусаў, рускіх і ўкраінцаў трэба шукаць у тых далёкіх часах, калі ўсходнія славяне рассяляліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі, Расіі і Украіны і ўзаемадзейнічалі з мясцовымі этнасамі, асімілюючы іх.

Далейшы працэс фарміравання беларускай народнасці працягваўся ў перыяд палітычнай раздробленасці і ў часы ВКЛ. У XIII—XVI стст. адзіная вярхоўная ўлада, адзінае дзяржаўнае кіраванне, адзінае заканадаўства садзейнічалі больш цесным палітычным, эканамічным і этнічным сувязям паміж княствамі, ваяводствамі, паветамі і валасцямі ВКЛ. Паступова фарміраваліся *этнічная тэрыторыя* беларусаў, агульныя рысы ў гаспадарчай дзейнасці, у абрадах, звычаях, народнай мастацкай творчасці на гэтай тэрыторыі, аднолькавая бытавая культура.

Складвалася таксама *адзіная старабеларуская*, ці *старажытнабеларуская*, *мова*. Для яе характэрна «дзеканне» і «цеканне» («дзед», «цень»), цвёрдае вымаўленне гука «р», «аканне» і «яканне» («бяроза»), выкарыстанне прыстаўных гукаў у пачатку слова («возера», «ільняны», «імгла» і г. д.). Старажытнабеларуская мова паступова стала афіцыйнай мовай дзяржаўных дакументаў і заканадаўства. Яна ўзбагацілася элементамі моў рускага, польскага, літоўскага і іншых народаў.

Пэўную ролю ў этнічнай кансалідацыі адыгрываў *канфесіянальны фактар*. Прыкмета веры станавілася своеасаблівай прыкметай народа. Паняцце «праваслаўны» ў той час атаясамлівалася з паняццем «рускі».

*Этнічная самасвядомасць* — яшчэ адна ўласцівасць народнасці. Яна фарміруецца больш складана і доўга ў параўнанні з іншымі прыкметамі. Этнічная самасвядомасць з'яўляецца ў народа тады, калі ён пачынае аддзяляць сябе ад іншых народаў. У перыяд існавання ВКЛ беларусы адрознівалі сябе ад палякаў і літоўцаў, бо яны размаўлялі на чужой мове і насаджалі чужую каталіцкую рэлігію. Значна пазней беларускі народ пачаў адрозніваць сябе ад рускага народа. Насельніцтва беларускіх тэрыторый ВКЛ доўга называла сябе рускімі і мову сваю рускай. Так, рускім называў сябе ў сваіх кнігах вялікі беларускі асветнік XVI ст. Францыск Скарына, і мову сваіх кніг ён таксама называў рускай. Этнічная самасвядомасць беларусаў сфарміравалася пазней за апошнія этнічныя прыкметы.

Яшчэ адна прыкмета народнасці — *культура*. Яна фарміравалася пад уздзеяннем культур суседніх народаў: рускага, польскага і літоўскага, а таксама пад уплывам заходнееўрапейскіх культурных традыцый і традыцый гуманізму.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Назавіце храналагічныя рамкі ўтварэння дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага. Якімі былі прычыны ўзнікнення гэтай дзяржавы?
2. Якімі шляхамі беларускія землі далучаліся да ВКЛ?
3. Што такое народнасць? Назавіце яе прыкметы.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Ахарактарызуйце асаблівасці палітычнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця ВКЛ.
2. Вызначце асаблівасці фарміравання беларускай народнасці. Складзіце тэзісны план адказу на гэтае пытанне.

## § 4. БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ Ў СКЛАДЗЕ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ (другая палова XVI—XVIII ст.)

**Успомніце.** 1. Што такое «залатыя шляхецкія вольнасці»? 2. Калі хрысціянская царква падзялілася на праваслаўную і каталіцкую? 3. Калі адбываліся падзелы Рэчы Паспалітай?

**Люблінская унія. Утварэнне Рэчы Паспалітай.** Да другой паловы XVI ст. выспелі ўмовы для больш цеснага дзяржаўнага аб'яднання ВКЛ з Польшчай. Першая група прычын гэтага аб'яднання звязана са знешнепалітычнымі абставінамі. Саперніцтва паміж Вялікім княствам Літоўскім і Вялікім княствам Маскоўскім за ўсходнеславянскія землі вылілася ў першай палове XVI ст. у цэлы шэраг руска-літоўскіх войнаў, у выніку якіх ВКЛ страціла чвэрць сваёй тэрыторыі. З 1500 па 1569 г. у межы Вялікага княства Літоўскага 45 разоў урываліся полчышчы крымскага хана, у тым ліку 10 разоў спусташалі тэрыторыю Беларусі. Барацьба ВКЛ, Польшчы і Маскоўскай дзяржавы за Лівонію прывяла да працяглай Лівонскай вайны (1558—1583). Каб больш паспяхова

супрацьстаяць знешняй агрэсіі, польскія паны прапанавалі ВКЛ аб'ядначца ў адзіную дзяржаву пад эгідай Польшчы.

Другая група прычын звязана з унутрыпалітычным развіццём ВКЛ. Сярэдняя і дробная шляхта, незадаволеная ўладай вялікага князя літоўскага і магнатаў, лічыла становішча польскай шляхты лепшым за сваё, а таму актыўна выступала за аб'яднанне з Польшчай, для таго каб атрымаць яшчэ больш прывілей.

Можна назваць і яшчэ адну прычыну ўзнікнення новай дзяржавы. Пасля трох шлюбаў у польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста не было нашчадкаў. Палякі баяліся, што пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста асабістая унія, якая злучала дзве дзяржавы, канчаткова спыніцца. Яны былі зацікаўлены ў яго разводзе і новым шлюбе. Жыгімонт II Аўгуст вырашыў развесціся з трэцяй жонкай і ажаніцца чацвёрты раз. Развод і дазвол на чацвёрты шлюб можна было атрымаць толькі ў папы рымскага. У гэтай сітуацыі Жыгімонт II Аўгуст пачаў выслужвацца перад Ватыканам, папам рымскім і каталіцкім духавенствам, добрасумленна выконваць іх загады і прапановы па ўзмацненні каталіцызму на тэрыторыі ВКЛ і далучэнні апошняга да Польскай Кароны.

У такіх умовах 10 студзеня 1569 г. у Любліне сабраўся агульны сейм ВКЛ і Польшчы з мэтай заключэння больш цеснай уніі паміж дзяржавамі. Палякі выстаўлялі розныя ўмовы, аж да ліквідацыі беларуска-літоўскай дзяржаўнасці. Паслы ж ВКЛ жадалі захаваць саюз з Польшчай, але пры гэтым не страціць сваю самастойнасць і незалежнасць. Перамовы зацягваліся. У канцы лютага 1569 г. паслы ВКЛ пакінулі Люблін.

Такія паводзіны прадстаўнікоў ВКЛ выклікалі абурэнне з боку польскай магнатэрыі. Пад яе ціскам Жыгімонт II Аўгуст пачаў ажыццяўляць план расчлянення і анексіі асобных частак ВКЛ. 5 сакавіка 1569 г. ён абвясціў аб далучэнні да Польшчы Падляшша і загадаў падляшскім паслам прысягнуць Польшчы пад пагрозай пазбаўлення пасад і прывілей. 26 красавіка 1569 г. была абвешчана анексія Валыні. Але валынскія паслы не ехалі ў Люблін. Тады кароль паабяцаў пазбавіць іх маёнткаў і пагражаў выгнаннем. Пад страхам расправы сенатары і паслы Валыні прысягнулі на вернасць Польшчы. Такім жа чынам да Польшчы былі далучаны Падолле і Кіеўшчына.

У складзе ВКЛ засталіся толькі Беларусь і Літва. Нягледзячы на супрацьстаянне прадстаўнікоў вышэйшай знаці ВКЛ, яны былі вымушаны таксама падпісаць унію. 1 ліпеня 1569 г. згодна з Люблінскай уніяй ВКЛ і Польшча злучыліся ў адзіную дзяржаву — Рэч Паспалітую. Быў абраны адзіны гаспадар — кароль польскі і вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, мазавецкі, жамойцкі, кіеўскі, валынскі, падляшскі і ліфляндскі. Адмяняліся абранне вялікага князя ВКЛ і яго пажыццёвае валоданне княствам. Выбіраўся адзіны сейм, які павінен быў склікацца ў Польшчы. Уводзіліся адзіныя мытная прастора, грашовая адзінка, праводзілася агульная знешняя палітыка. Усе жыхары Рэчы Паспалітай мелі права набываць маёнткі і зямлю ва ўласнасць у любой частцы краіны. Скасоўваліся ўсе пастановы, законы, якія супярэчылі уніі, а таксама асобны сейм ВКЛ. Вышэйшая знаць і службовыя асобы павінны былі прысягаць каралю і Кароне Польскай.

**Становішча Вялікага княства Літоўскага ў складзе Рэчы Паспалітай.** У выніку жорсткай барацьбы за незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць на Люблінскім сейме і пасля яго кіруючым колам ВКЛ удалося захаваць частку тэрыторыі былой дзяржавы, а таксама рэшткі дзяржаўнасці і аўтаномію ў межах Рэчы Паспалітай. Абедзве былыя самастойныя дзяржавы захавалі свае ранейшыя назвы — Вялікае княства Літоўскае і Польская Карона, а таксама свае законы, органы выканаўчай улады, судовую і фінансавую сістэмы, мясцовае самакіраванне, узброеныя сілы і да канца XVII ст. свае дзяржаўныя мовы. Статутам Вялікага княства Літоўскага 1588 г. чужаземцам (у тым ліку этнічным палякам, польскім магнатам) забаранялася купляць зямлю і маёмасць на тэрыторыі княства, а таксама займаць дзяржаўныя пасады. Такім чынам, Рэч Паспалітая была федэратыўнай дзяржавай, у якой ВКЛ і Польшча мелі адносную самастойнасць, абмежаваную дзейнасцю адзінага польскага караля і адзінага органа заканадаўчай улады — сейма Рэчы Паспалітай. Разам з тым у канцы XVII—XVIII ст. узмацнілася тэндэнцыя да засілля польскіх паноў і пашырэння польскага ўплыву на беларускіх і літоўскіх землях.

У выніку Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. была створана уніяцкая царква. Яна падначальвалася папу рымскаму, але абрады на першым этапе заставаліся праваслаўнымі, пазней яны пачалі замяняцца каталіцкімі. Пры дапамозе уніяцкай царквы Ватыка-

нам і польскім каталіцкім духавенствам рабілася спроба паступова, незаўважна, шляхам падману, праз выкарыстанне беларускай мовы ў пропаведзях акаталічыць праваслаўнае насельніцтва Беларусі.

Такім чынам, уніяцкая царква ўяўляла сабой сродак акаталічвання насельніцтва на нацыянальнай аснове, а не нацыянальную царкву як сімвал суверэнітэту дзяржавы. Беларуская шляхта перайшла ў каталіцтва, а вернікамі уніяцкай царквы сталі сяляне і гарадскія нізы, якіх нярэдка сілай і падманам далучалі да гэтай царквы.

**Палітычныя крызісы Рэчы Паспалітай. Падзелы Рэчы Паспалітай.** Ад пачатку існавання Рэчы Паспалітай у ёй паступова выспяваў палітычны крызіс, які найбольш востра выявіўся ў другой палове XVIII ст. і прывёў да распаду гэтай дзяржавы.

Першая падстава для палітычнага крызісу была закладзена ў момант падпісання Люблінскай уніі. З таго часу ўся гісторыя Рэчы Паспалітай — гэта барацьба ВКЛ за захаванне незалежнасці. Гэта аслабляла і Карону Польскую, і княства ў эканамічных і ваенных адносінах, рабіла федэратыўную дзяржаву лёгкай здабычай для суседніх краін.

Другой падставай былі шляхецкія вольнасці («ліберум вета», канфедэрацыі, мясцовыя сеймікі і інш.), якія заканамерна падрывалі асновы дзяржаўнасці Рэчы Паспалітай. Яны вялі да ўзмацнення шляхты і аслаблення адміністрацыйнага кіравання.

Трэцяй падставай палітычнага крызісу была рэлігійная і нацыянальная палітыка, імкненне апалячыць жыхароў ВКЛ, перавесці іх з праваслаўя ў каталіцкую веру.

Чацвёртая прычына — спалучэнне нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту з феадальным, што выклікала сялянскія выступленні і падрывала моц дзяржавы.

Пятая падстава — барацьба паміж магнатамі за ўладу ў краіне. Зварот розных груповак з просьбамі аб дапамозе да суседніх краін, стварэнне канфедэрацый, падзенне нораваў шляхецкага саслоўя, няздольнасць улады кансалідаваць дзяржаву, а таксама пастаянныя войны — усё гэта разбурала Рэч Паспалітую.

У другой палове XVIII ст. Рэч Паспалітая перажывала глыбокі ўнутрыпалітычны крызіс. У краіне панавала феадальная анархія. Усеўладдзе магнатаў прывяло да дэцэнтралізацыі ўлады. Ста-

новішча Рэчы Паспалітай ускладнялася існаваннем вакол яе моцных цэнтралізаваных дзяржаў: Аўстрыі, Прусіі і Расіі. Для іх Рэч Паспалітая мела важнае стратэгічнае значэнне ў барацьбе за ўплыў у міжнароднай палітыцы. Вялікая шматнацыянальная, але палітычна слабая дзяржава апынулася перад пагрозай страты сваёй самастойнасці.

У гэтых умовах галоўнай мэтай было захаванне палітычнага адзінства Рэчы Паспалітай і яе дзяржаўнага суверэнітэту. Выразіць гэту задачу спрабавалі прыхільнікі асветніцкіх ідэй, якія выступалі супраць феадальна-арыстакратычнай і каталіцкай рэакцыі, адстойвалі прынцыпы роўнасці нацый, недатыкальнасці дзяржаўнага суверэнітэту.

Ідэалогія Асветніцтва адлюстравалася ў дзейнасці Адукацыйнай камісіі, якая зрабіла шэраг прагрэсіўных для свайго часу рэформаў у галіне народнай асветы. Кульмінацыйным пунктам дзейнасці асветнікаў стаў *Чатырохгадовы сейм* (1788—1792) і прынятая на ім *Канстытуцыя 3 мая 1791 г.* Аднак гэтая апошняя спроба вывесці Рэч Паспалітую з палітычнага крызісу і захаваць яе дзяржаўнасць не мела поспеху. Паўстанне Т. Касцюшкі ў абарону Канстытуцыі пад асветніцкімі лозунгамі вольнасці, цэласці і незалежнасці было асуджана на паражэнне. Рэч Паспалітая знікла з палітычнай карты Еўропы.

Больш за два стагоддзі гісторыя беларускага народа была звязана з Рэччу Паспалітай. Гэты перыяд меў выключнае значэнне ў першую чаргу для нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў і для іх палітычнага самавызначэння. Але трэба ўлічваць той бясспрэчны факт, што як дзяржава Рэч Паспалітая менш за ўсё была зацікаўлена ў развіцці беларусаў як самастойнага народа. Наадварот, рабілася ўсё, каб сцерці з памяці беларускага народа яго этнічную прыналежнасць. Ва ўмовах пастаяннага нарастання польска-каталіцкага ўціску большасць беларусаў усведамлялі, што для свайго самазахавання як этнасу, для свайго далейшага гістарычнага развіцця яны павінны вярнуцца да сваіх агульнарускіх каранёў, да вытокаў сваёй дзяржаўнасці. Яскравым сведчаннем гэтага з'яўляецца вострая рэлігійна-нацыянальная барацьба, якая разгарнулася на беларускіх і ўкраінскіх землях і не прыпынялася да самага ўз'яднання іх з Расійскай дзяржавай.

На працягу ўсяго перыяду існавання Рэчы Паспалітай у ёй паступова паглыбляўся падзел грамадства па нацыянальна-культурнай і сацыяльна-рэлігійнай прыналежнасці. На тэрыторыі Беларусі яго рысы мелі асабліва выразны характар. У канцы XVIII ст. беларускія магнаты былі католікамі, а шляхта ў большасці сваёй прытрымлівалася каталіцтва ці уніяцтва, таму яны арыентаваліся на польскія нацыянальна-культурныя традыцыі. У той жа час большасць беларускага сялянства былі праваслаўнымі. Нягледзячы на колькасную перавагу уніяцкіх прыходаў над праваслаўнымі, працэс замены праваслаўнага веравызнання каталіцкім у асяроддзі беларускіх сялян-уніятаў быў яшчэ далёка не завершаны. Гэта паўплывала і на палітыка-ідэалагічнае размежаванне ў беларускім грамадстве.

Прыхільнікі каталіцкага касцёла і сацыяльныя вярхі уніяцкай царквы імкнуліся да захавання самастойнасці Рэчы Паспалітай, а пасля яе падзелаў — да аднаўлення гэтай дзяржавы ў былых межах. У сваю чаргу праваслаўнае насельніцтва Беларусі, у тым ліку і большасць сялян-уніятаў, цягнулася да Расіі, якая не толькі традыцыйна лічылася галоўнай абаронцай праваслаўнай веры, але этнічна і гістарычна была беларусам бліжэйшая за Польшчу. Існаванне дзвюх гэтых тэндэнцый і барацьба паміж імі сталі галоўнай асаблівасцю гістарычнага развіцця Беларусі на доўгі час.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Калі была ўтворана Рэч Паспалітая? Назавіце прычыны ўтварэння гэтай дзяржавы.
2. На якіх умовах ВКЛ і Польшча аб’ядналіся ў адну дзяржаву?
3. Якімі былі перадумовы палітычнага крызісу ў Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст.?
4. Якія захады былі зроблены для захавання дзяржаўнага суверэнітэту Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст.?

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Дакажыце, што Рэч Паспалітая была федэратыўнай дзяржавай.
2. Ахарактарызуйце ролю канфесіянальнага фактару ў гісторыі Рэчы Паспалітай.
3. Выкажыце сваё абгрунтаванае меркаванне па пытанні, ці былі непазбежнымі падзелы Рэчы Паспалітай.

# РАЗДЗЕЛ І
# БЕЛАРУСЬ У XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

## § 5. АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫ ПАДЗЕЛ. ПАЛІТЫЧНАЕ І КАНФЕСІЯНАЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСІ Ў ПЕРШАЙ ЧВЭРЦІ XIX ст.

**Успомніце.** 1. Як доўга беларускія землі знаходзіліся ў складзе Рэчы Паспалітай? 2. Ахарактарызуйце сацыяльна-эканамічную, культурную, канфесіянальную палітыку Рэчы Паспалітай на беларускіх землях. 3. Назавіце галоўную мэту знешняй палітыкі Напалеона. 4. Якімі былі ўмовы Тыльзіцкага міру?

**Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел.** У выніку падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) беларускія землі з насельніцтвам каля 3 млн чалавек увайшлі ў склад паўночна-заходняга рэгіёна Расійскай імперыі. Паводле праведзенай у 1796 г. адміністрацыйнай рэформы тут утварыліся губерні: Беларуская з губернскім горадам Віцебскам, Мінская з губернскім горадам Мінскам і Літоўская з губернскім горадам Вільняй. У выніку новага адміністрацыйнага падзелу Расіі **1801—1802 гг.** Беларуская губерня была падзелена на Магілёўскую і Віцебскую. Да 1856 г. яны ўваходзілі ў склад Беларускага (Віцебскага, Магілёўскага і Смаленскага) генерал-губернатарства. Літоўская губерня падзялілася на Гродзенскую і Віленскую, якія разам з Мінскай губерняй да 1912 г. былі ў складзе Літоўскага (Віленскага) генерал-губернатарства. У час паўстання 1830—1831 гг. і некалькі гадоў пасля яго Мінская губерня мела статус асобнага генерал-губернатарства (1831—1834). Канчатковы адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Беларусі ў складзе пяці губерняў (Магілёўскай, Віцебскай, Гродзенскай, Віленскай і Мінскай) замацаваўся ў 1843 г. і заставаўся такім да Першай сусветнай вайны.




*Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Беларусі ў сярэдзіне XIX ст.*

**Кіраванне далучанымі беларускімі землямі.** Пасля далучэння на беларускія землі былі распаўсюджаны агульныя прынцыпы расійскага кіравання. Асаблівасцю беларускіх губерняў была наяўнасць інстытута генерал-губернатарства, што абумоўлівалася іх аддаленасцю ад сталіцы. Генерал-губернатары з'яўляліся даверанымі асобамі імператара і мелі амаль неабмежаваныя паўнамоцтвы. Выканаўчая ўлада належала губернатарам, якія кіравалі праз канцылярыі ў складзе віцэ-губернатара, дарадчыкаў, пракурора, сакратароў і іншых чыноўнікаў. Як правіла, вышэйшыя пасады займалі рускія чыноўнікі, а на іншыя дапускаліся і мясцовыя ўраджэнцы. Дваране-католікі, якія жадалі паступіць на

дзяржаўную службу, павінны былі прайсці абавязковую 5-гадовую «стажыроўку» ў вялікарасійскіх губернях.

Для вырашэння грамадзянскіх спраў на беларускіх землях выкарыстоўвалі Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Аднак у 1831 г. Мікалай I скасаваў яго дзеянне ў Віцебскай і Магілёўскай губернях, а ў 1840 г. — на ўсёй астатняй тэрыторыі Беларусі. Замест Статута ўводзіўся «Збор законаў Расійскай імперыі», што спрыяла фарміраванню адзінай прававой прасторы.

**Сацыяльная і канфесіянальная палітыка.** Сацыяльная і канфесіянальная палітыка Расійскай імперыі на беларускіх землях была скіравана на стварэнне апоры сярод вышэйшых прывілеяваных саслоўяў: дваранства, духавенства, купецтва і нешматлікай групы ганаровых грамадзян. Усе яны вызваляліся ад цялесных пакаранняў, такіх дзяржаўных павіннасцей, як рэкрутчына, падушны падатак і інш. Улічваючы гістарычныя асаблівасці, расійскі ўрад дыферэнцыравана падыходзіў да розных груп беларускага дваранства. У дачыненні да прадстаўнікоў дробнага дваранства, што складалі абсалютную большасць прывілеяванага саслоўя, з 1772 г. праводзіўся так званы *«разбор» шляхты*: шляхціцы, што не змаглі дакументальна пацвердзіць сваё дваранскае паходжанне, прыпісваліся да розных груп падатковага саслоўя. У сувязі са складанай юрыдычнай сістэмай доказаў дваранскага паходжання «разбор» праводзіўся марудна. З пачатку XIX ст. адным са шляхоў аслаблення пазіцый дробнага дваранства было скарачэнне органаў дваранскага самакіравання.

Важным крокам на шляху ўмацавання пазіцый расійскіх улад на беларускіх землях з’явілася *канфіскацыя маёнткаў* у мясцовай шляхты за ўдзел у антыўрадавай дзейнасці. Канфіскацыі праводзіліся ў некалькі этапаў. У 1773 — 1775 гг. яны закранулі тых, хто не захацеў прынесці прысягу расійскаму імператару, пазней — удзельнікаў паўстання Т. Касцюшкі, у 1812—1813 гг. — здраднікаў у вайне 1812 г.

У час царавання Аляксандра I беларускіх памешчыкаў зацікавіла вырашэнне сялянскага пытання. Той факт, што ў Остзейскім краі (частка Латвіі і Эстоніі) у 1816—1819 гг. сяляне вызваляліся асабіста, але памешчык заставаўся ўласнікам усіх зямельных угоддзяў, умацаваў жаданне памешчыкаў памежных

раёнаў вызваліць сялян без зямлі. Дваранства Віцебскай губерні стварыла камітэт для выпрацоўкі адпаведнага палажэння, аднак работа над ім не была завершана.

Спробай вырашыць сялянскае пытанне было і ўвядзенне ў Магілёўскай і Віцебскай губернях па ініцыятыве А. А. Аракчэева *ваенных пасяленняў*. У выніку сяляне ператвараліся ў ізаляваную ваенную касту, што забяспечвала сябе харчаваннем і з'яўлялася апорай урада. Аднак гэты вопыт не меў поспеху.

Задачай канфесіянальнай палітыкі ў Беларусі з'яўлялася ўзмацненне пазіцый праваслаўя. З далучэннем Беларусі да Расійскай імперыі мясцовая праваслаўная царква перайшла пад юрысдыкцыю расійскага Свяцейшага Сінода на чале з обер-пракурорам — прадстаўніком імператара. На беларускіх землях існавалі Магілёўская (створана ў 1632 г.), Мінская (створана ў 1793 г.), Полацка-Віцебская (адноўлена ў 1833 г.) і Літоўская (створана ў 1839 г.) епархіі. Вернікамі былі ў асноўным прыгонныя сяляне, бедная шляхта і мяшчане. Праваслаўная царква знаходзілася ў цяжкім матэрыяльным становішчы.

Поўнай свабодай у беларускіх губернях карысталіся каталіцтва і нават пратэстантызм. Езуіты мелі права займацца місіянерскай дзейнасцю. У Магілёве, Мсціславе, Віцебску, Юравічах і Оршы дзейнічалі езуіцкія калегіумы. У 1812 г. Полацкі езуіцкі калегіум атрымаў статус акадэміі з правамі універсітэта. Пасля вайны 1812 г., падчас якой каталіцкае духавенства супрацоўнічала з акупацыйнай адміністрацыяй, стаўленне расійскіх улад да езуітаў змянілася. У **1820 г.** езуіты былі выгнаны з Расіі, а іх маёмасць канфіскавана. У гэтым жа годзе была закрыта і Полацкая езуіцкая акадэмія.

Пад ціскам мясцовых памешчыкаў-католікаў распачаўся пераход уніятаў у каталіцтва. Толькі ў Полацкай архіепіскапіі ў 1803 г. лацінскі абрад прынялі каля 100 тыс. вернікаў. Каб захаваць цэласнасць уніяцкай царквы, у 1805 г. у рымска-каталіцкай калегіі быў створаны уніяцкі дэпартамент, які ўзначальваў архіепіскап І. Лісоўскі. Годам пазней ён быў прызначаны уніяцкім мітрапалітам.

**Вайна 1812 г. і яе вынікі для Беларусі.** Напярэдадні вайны імператар Аляксандр I, каб забяспечыць падтрымку з боку дваранства Літвы і Беларусі, істотна знізіў падаткі і выказаў жаданне




*Вайна 1812 г.*

аднавіць цэласнасць краю пад эгідай Расіі. Па даручэнні імператара ў 1811 г. магнаты *М. К. Агінскі, Ф. К. Любецкі, К.* і *Л. Плятэры* і інш. склалі праект *«Палажэння аб кіраванні аўтаномным Вялікім княствам Літоўскім»*. У склад апошняга мусілі ўвайсці ўсе тэрыторыі, што адышлі да Расіі ад былой Рэчы Паспалітай.

Расійскі ўрад ведаў пра падрыхтоўку Напалеона да вайны і прымаў меры для абароны краіны. Паскорана аднаўляліся крэпасці і ўмацаванні, будаваліся новыя. У Літве, Беларусі і Паўночнай Украіне дыслацыраваліся тры рускія арміі: 1-я — генерала *М. Б. Барклая дэ Толі* ў Віленскай губерні, па лініі Расіены — Ліда, 2-я — генерала *П. І. Баграціёна* ў Гродзенскай губерні, паміж Нёманам і Бугам, 3-я — генерала *А. П. Тармасава* — у Валынскай губерні закрывала французам шлях на Кіеў. Паводле плана, распрацаванага саветнікам Аляксандра І прускім генералам К. Фулем, рускія арміі размяшчаліся на 600 км па лініі фронту і былі адарваны адна ад адной на 100—200 км, што стварала рэальную пагрозу разгрому іх паасобку.

**12 (24)* чэрвеня 1812 г.** больш чым 600-тысячная армія Напалеона перайшла граніцу з Расіяй у раёне Коўна. Яна перавышала па колькасці рускую армію амаль у тры разы. У яе склад уваходзіла даволі шмат польскіх вайскоўцаў (каля 60—70 тыс. чалавек), у тым ліку корпус пад камандаваннем князя Ю. А. Панятоўскага. Князь Д. Г. Радзівіл за свой кошт стварыў трохтысячны полк уланаў, які змагаўся на баку Напалеона.

Напалеон спадзяваўся разбіць рускія войскі ў прыгранічных раёнах і прымусіць Расію заключыць мір. У пачатку вайны расійскае камандаванне на нарадзе ў Дрысенскім лагеры прыняло рашэнне не ўступаць у вырашальную бітву да аб'яднання 1-й і 2-й армій у Віцебску. Армія М. Б. Барклая дэ Толі адыходзіла да Віцебска праз Вільню — Свянцяны — Дрысу — Полацк. Для прыкрыцця пецярбургскага напрамку ў Дрысенскім лагеры быў пакінуты корпус П. Х. Вітгенштэйна. Армія П. І. Баграціёна, якая адступала ў напрамку Ваўкавыск — Слонім — Навагрудак — Нясвіж — Магілёў, апынулася ў асабліва цяжкім становішчы, страціўшы сувязі з асноўнымі рускімі войскамі.

16 (28) чэрвеня 1812 г. французская армія заняла Вільню. У чэрвені — ліпені адбыліся жорсткія баі каля Гродна, пад Ашмянамі Віленскай губерні, паблізу мястэчкаў Карэлічы, Мір і Рамανава Мінскай губерні, каля мястэчка Астроўна Магілёўскай губерні, каля вёскі Кукавячына і пад Клясціцамі Віцебскай губерні. 15 (27) ліпеня А. П. Тармасаў разбіў пад Кобрынам саксонскі корпус Ж. Л. Рэнье і знішчыў каля 2 тыс. салдат і афіцэраў праціўніка. Аднак 1-й і 2-й расійскім арміям не ўдалося злучыцца ў раёне Віцебска. Корпус Л. Н. Даву, апярэдзіўшы іх, заняў Магілёў і каля вёскі Салтанаўка адрэзаў шлях да злучэння. П. І. Баграціён пераправіў армію праз Дняпро каля Новага Быхава і выратаваў яе ад разгрому. Наступным пунктам сустрэчы рускіх армій быў прызначаны Смаленск.

Амаль уся Беларусь, апрача паўднёвых паветаў, кантралявалася французскім камандаваннем. Але ўжо на пачатку вайны Напалеон мусіў пакідаць значныя сілы ў гарнізонах, асабліва ў Вільні, Мінску, Віцебску. Напалеонаўская армія разам з хворымі і дэзерцірамі страціла да 150 тыс. чалавек.

* Тут і далей у дужках адзначаецца дата паводле новага стылю.

У захопленай Вільні паводле распараджэння Напалеона быў утвораны часовы ўрад пад назвай «Камісія часовага кіравання Вялікага княства Літоўскага», якому падпарадкоўваліся Віленская, Гродзенская, Мінская губерні і Беластоцкая вобласць. У склад Камісіі ўвайшлі мясцовыя землеўладальнікі і палітычныя дзеячы: С. Солтан (старшыня), К. Прозар, Ю. Серакоўскі, А. А. Сапега, А. Патоцкі, Я. Снядэцкі і інш. Часовы ўрад павінен быў перш за ўсё забяспечваць усім неабходным французскую армію. У яго функцыі ўваходзілі: збор падаткаў і размеркаванне бюджэтных сум, арганізацыя ўзброеных сіл, фарміраванне жандармерыі і суда. Вышэйшая ваенная ўлада ў княстве належала генерал-губернатару графу Дз. ван Гогендорпу, а ў кожным дэпартаменце (адзінкі новага адміністрацыйнага падзелу) дзейнічаў ваенны губернатар. Для Віцебскай і Магілёўскай губерняў былі арганізаваны асобныя так званыя польскія праўленні.

Нягледзячы на просьбы польскага сейма аднавіць Польскае каралеўства ў старых межах, Напалеон ухіляўся ад прамога адказу, бо не жадаў, каб паміж ім і Аляксандрам I паўставала неперaадольная перашкода для заключэння міру. Літоўска-беларуская шляхта не жадала аб'яднання з Польшчай, бо марыла аб стварэнні самастойнай дзяржавы. Таму Напалеон не далучыў тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага да герцагства Варшаўскага.

Насельніцтва Беларусі да французаў ставілася неадназначна. Шляхта амаль усюды ўспрымала іх як вызваліцеляў ад расійскіх захопнікаў. Падтрымку Напалеону аказвала і каталіцкая царква. На сялян жа лёг асноўны цяжар вайны. Новая ўлада не толькі не скасавала прыгон, але і павялічыла паборы з сялян, чым выклікала варожасць апошніх. Жыхары многіх вёсак стваралі ў тыле акупантаў партызанскія атрады. Найбольш вядомыя з іх — атрады вёсак Стараселле, Мажаны, Есьман і Клеўкі ў Барысаўскім, Жарцы ў Полацкім паветах і інш. У ліпені Аляксандр I падпісаў у Полацку маніфест аб скліканні народнага апалчэння.

22 ліпеня (3 жніўня) 1812 г. арміі П. І. Баграціёна і М. Б. Барклая дэ Толі злучыліся пад Смаленскам. 4—6 (16—18) жніўня адбылася Смаленская бітва, у якой Напалеон страціў больш за 14 тыс. чалавек. З 8 (20) жніўня Заходнія арміі ўзначаліў М. І. Кутузаў. 26 жніўня (7 верасня) каля вёскі Барадзіно адбылася генеральная бітва, якая не прывяла да перамогі ніводзін з бакоў.



*Пераправа праз Бярэзіну. Мастак П. Гес*

Сфарміраваныя на Віцебшчыне чатыры палкі 3-й пяхотнай дывізіі абаранялі на Барадзінскім полі вядомыя Баграціёнавы флешы. Ураджэнцы Мінскай губерні, што служылі ў 24-й пяхотнай дывізіі, гераічна змагаліся каля батарэі М. М. Раеўскага.

Каб захаваць армію, М. І. Кутузаў пакінуў Маскву французам. Але, не дачакаўшыся адказу Аляксандра І на прапановы аб міры, Напалеон 6 (18) кастрычніка 1812 г. пачаў адступаць з Масквы па спустошанай старой Смаленскай дарозе. 7 (19) кастрычніка 1812 г. рускія войскі вызвалілі Полацк, 26 кастрычніка (7 лістапада) — Віцебск, 4 (16) лістапада — Мінск, 9 (21) лістапада — Барысаў, 12 (24) лістапада — Магілёў.

Завяршальны ўдар па французах быў нанесены пры іх пераправе праз Бярэзіну, каля вёскі Студзёнка паблізу Барысава. Тут загінулі больш за 50 тыс. іншаземных вайскоўцаў. Пасля гэтага «Вялікая армія» фактычна перастала існаваць. Галодныя і змерзлыя салдаты кідалі зброю і натоўпамі рухаліся да Вільні. 23 лістапада (5 снежня) у Смаргоні Напалеон даручыў камандаванне І. Мюрату, пакінуў армію і з'ехаў у Парыж.

Вайна прынесла беларускаму народу вялікія бедствы. Многія паселішчы былі знішчаны. Колькасць гарадскога насельніцтва

зменшылася ў 2—3 разы (у Мінску з 11 200 жыхароў засталося 3480). У Гродзенскай губерні загінула каля 37 тыс. адных толькі мужчын, а матэрыяльныя страты склалі 28 млн рублёў серабром. Заняпала сельская гаспадарка: амаль напалову скараціліся пасяўныя плошчы і пагалоўе жывёлы. Негатыўныя наступствы вайны адчуваліся ў Беларусі на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Французскімі войскамі былі пашкоджаны многія помнікі царкоўнага дойлідства: Сафійскі сабор у Полацку, Барысаглебская царква ў Віцебску, Кацярынінскі храм у Мінску і інш.

У гонар перамогі расійскіх войскаў над арміяй Напалеона на тэрыторыі Беларусі пастаўлены помнікі ў Брэсце, Верхнядзвінску, Віцебску, Кобрыне, Маладзечне, Полацку, Друі, у вёсках Астроўна, Капцэвічы, Клясціцы, Салтанаўка і інш.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Назавіце адміністрацыйныя адзінкі, на якія была падзелена тэрыторыя Беларусі пасля ўваходжання ў склад Расійскай імперыі.
2. Якія мерапрыемствы расійскага ўрада былі накіраваны на аслабленне пазіцый дробнай шляхты на беларускіх землях?
3. Ахарактарызуйце канфесіянальную сітуацыю ў Беларусі ў першай чвэрці XIX ст. Што з'яўлялася галоўнай задачай канфесіянальнай палітыкі царскага ўрада на тэрыторыі Беларусі?
4. Назавіце асноўныя ваенныя падзеі 1812 г. на тэрыторыі Беларусі.
5. З якой мэтай французы ўтварылі Камісію часовага кіравання Вялікага княства Літоўскага? Якія функцыі яна выконвала?
6. Якімі былі вынікі вайны 1812 г. для Беларусі?

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Пачніце запаўненне табліцы «Палітыка царскага ўрада на тэрыторыі Беларусі ў першай палове XIX ст.».

| Прыкметы для параўнання | Палітыка царскага ўрада ў пачатку XIX ст. | Палітыка царскага ўрада пасля паўстання 1830—1831 гг. |
|---|---|---|
| | | |

2. Складзіце тэзісны план адказу па тэме «Беларусь у вайне 1812 г.».

## § 6. САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ У ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

**Успомніце.** 1. Назавіце істотныя рысы феадальнай і капіталістычнай гаспадаркі. 2. Што такое рамесная майстэрня, мануфактура, фабрыка? 3. Дайце азначэнне паняцця *урбанізацыя*.

**Асаблівасці развіцця сельскай гаспадаркі.** Беларусь у першай палове XIX ст. з'яўлялася выключна аграрным рэгіёнам. Адной з асаблівасцей развіцця яе сельскай гаспадаркі было панаванне буйнога дваранскага землеўладання. Асновай памешчыцкай гаспадаркі з'яўлялася земляробства. Яно прыносіла ўладальнікам асноўны прыбытак, таму яны імкнуліся павялічваць плошчу варыўных зямель. Вырошчваліся жыта, авёс, ячмень і асабліва бульба, якая ператварылася з агароднай у палявую культуру. Пашыралася вытворчасць ільну, каноплі, цукровых буракоў. У маёнтках будаваліся прамысловыя прадпрыемствы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны: суконныя, вінакурныя, цукраварныя, смалакурныя. Значны прыбытак даваў продаж лесу. На мяса-малочнай жывёлагадоўлі ў той час спецыялізаваліся толькі асобныя памешчыкі, што мелі ў сябе вінакурныя заводы.

Некаторыя ўладальнікі маёнткаў дзеля павелічэння таварнасці гаспадаркі выпісвалі з Англіі сельскагаспадарчыя машыны, уводзілі шматпольны севазварот, паляпшалі пароды жывёлы, выкарыстоўвалі наёмную працу, пераважна на прамысловых прадпрыемствах і ў будаўніцтве. Прапагандай перадавых метадаў земляробства і жывёлагадоўлі займалася *Беларускае вольнае эканамічнае таварыства*, якое існавала ў 1826—1841 гг. у Віцебску.

Асноўнай вытворчай базай памешчыцкага маёнтка з'яўлялася сялянская гаспадарка. Зямельныя надзелы сялян у Віленскай, Гродзенскай, Мінскай губернях знаходзіліся ў падворным карыстанні. У Віцебскай, акрамя чатырох інфлянцкіх (латышскіх) паветаў, і Магілёўскай губернях пераважала абшчыннае землекарыстанне. Размеркаванне зямельных надзелаў паміж сялянамі было няроўным: у канцы 1850-х гг. сярэдні надзел у Віцебскай губерні складаў 6,5 дзесяціны (дзесяціна = 1,09 га), у Магілёўскай — 7,3. У Віленскай, Гродзенскай, Мінскай губернях асноў-

най адзінкай зямельнага забеспячэння лічылася валока (21,36 га) сенажаці, ворыўнай і прысядзібнай зямлі на двор. Гэтых надзелаў ледзь хапала для забеспячэння пражытачнага мінімуму сялянскай сям'і. Паншчына ў большасці маёнткаў Заходняй і Цэнтральнай Беларусі складала 6 чалавека-дзён з сялянскай гаспадаркі.

Дзяржаўныя сяляне былі зусім малазямельныя. Сярэднія надзелы на рэвізскую душу складалі ў Гродзенскай губерні ад 1 да 2 дзесяцін, у Віцебскай і Магілёўскай — ад 3 да 5. Гаспадарка як дзяржаўных, так і памешчыцкіх сялян была прымітыўнай. У пошуках выйсця з цяжкага эканамічнага становішча невялікая частка сялян займалася промысламі, гандлем і іншымі пабочнымі заробкамі. Яны выраблялі на продаж ільняныя і суконныя тканіны, аўчыну і інш.

Сярод сялян з'яўляліся заможныя сем'і, якія выкарыстоўвалі наёмную працу. Многія з іх арандавалі млыны, займаліся дробным гандлем, карысталіся ў сваіх гаспадарках markednymi механічнымі прыстасаваннямі. Але такіх сялян было няшмат. Разам з тым на вёсцы расла колькасць беззямельных сялян, бабылёў, кутнікаў. Шмат прыгонных разараліся і не маглі, як раней, несці павіннасці.

Крызіс прыгонніцкага ладу ў сельскай гаспадарцы выявіўся ў рэзкім зніжэнні прыбытковасці памешчыцкай і дзяржаўнай вёскі, у абеззямельванні і збядненні сялянства, у росце сацыяльных канфліктаў. Усё гэта прымусіла расійскі ўрад змяніць сялянскую палітыку ў Беларусі: былі распрацаваны сацыяльна-эканамічныя рэформы, якія прадугледжвалі мадэрнізацыю старых парадкаў і змякчэнне феадальнага прыгнёту. Ініцыятарам і асноўным правадніком рэформаў быў граф П. Дз. Кісялёў — міністр дзяржаўных маёмасцей, прыхільнік абмежавання прыгону.

**Аграрныя рэформы П. Дз. Кісялёва.** Першай у Беларусі была рэфармавана дзяржаўная вёска. У 1839 г. імператар Мікалай I падпісаў «Палажэнне аб люстрацыі дзяржаўных маёмасцей у заходніх губернях і Беластоцкай вобласці». Рэформа прадугледжвала: люстрацыю (апісанне ўсіх дзяржаўных маёмасцей) і дакладнае вызначэнне павіннасцей дзяржаўных сялян у залежнасці ад іх гаспадарчага становішча; перавод малазямельных і беззямельных сялян у разрад цяглых ці паўцяглых шляхам перадачы ў іх карыстанне палявых надзелаў, сенакосаў, рабочай



П. Дз. Кісялёў

жывёлы, неабходнага інвентару; спыненне здачы дзяржаўных маёнткаў у арэнду і паступовы перавод дзяржаўных сялян з паншчыны на аброк. Каб упарадкаваць кіраванне дзяржаўнымі маёнткамі, быў уведзены жорсткі кантроль за часовымі ўладальнікамі, павышаны статус сельскай абшчыны, якая займалася землеўладкаваннем, размеркаваннем падаткаў паміж сялянамі і інш.

Яшчэ адным мерапрыемствам рэформы П. Дз. Кісялёва з'яўлялася палітыка «апякунства» над дзяржаўнымі сялянамі. Прадугледжвалася арганізацыя дапамогі сялянам у выпадку неўраджаяў і эпідэмій. Ставілася пытанне аб арганізацыі пачатковага навучання дзяцей. У планы рэфарматараў уваходзіла аказанне медыцынскай дапамогі, правядзенне розных агранамічных мерапрыемстваў, актывізацыя гандлю, развіццё сістэмы страхавання. Аднак недахоп сродкаў, жаданне палепшыць сялянскі побыт цалкам за кошт сялян перашкаджалі ажыццяўленню палітыкі «апякунства».

Адмова ад фальваркова-паншчыннай сістэмы і перавод дзяржаўных сялян на аброк з'явіліся галоўнымі вынікамі рэформы, якія вызначылі яе прагрэсіўны характар. Асабліва спрыяльныя змены адбыліся ў прававым статусе дзяржаўных сялян. За імі прызнавалася грамадзянская свабода, што выгадна адрознівала іх ад бяспраўных памешчыцкіх сялян. Вялікае значэнне таксама мелі набытыя дзяржаўнымі сялянамі правы на атрыманне спадчыны і ўласнасці, на занятак гандлем і промысламі.

З 1844 г. П. Дз. Кісялёў пачаў праводзіць інвентарную рэформу памешчыцкай вёскі з мэтай павысіць яе эканамічны ўзровень да дзяржаўнай. У заходніх губернях ствараліся «Камітэты для разгляду і складання інвентароў памешчыцкім маёнткам». Рэформа мела на мэце ўрэгуляванне памераў надзелаў і павіннасцей памешчыцкіх сялян. Для гэтага складаліся дакладныя спісы сялянскіх павіннасцей (інвентары). Афіцыйна складанне абавязковых інвентароў было завершана ў 1849 г. У 1852 г. уводзіліся інвентарныя правілы, паводле якіх сялянам пакідалася зямля, што знаходзілася ў іх карыстанні. Аднак з прычыны супраціўлення памешчыкаў

перагляд і выпраўленне гэтых правіл расцягнуліся да 1857 г., калі распачалася падрыхтоўка адмены прыгоннага права. У адрозненне ад дзяржаўнай вёскі, пераведзенай на аброк, у памешчыцкай засталіся ранейшыя павіннасці. Інвентарная рэформа не вырашыла і найважнейшага пытання — аб сялянскім землекарыстанні.

Прынцыпы рэфармавання дзяржаўнай вёскі памешчыкі палічылі занадта радыкальнымі. Сацыяльна-прававое становішча памешчыцкіх сялян змянілася мала. Панская ўласнасць заставалася некранутай.

**Развіццё прамысловасці.** Да сярэдзіны XIX ст. прамысловая вытворчасць у Беларусі знаходзілася пераважна на дробнатаварнай і мануфактурнай ступенях развіцця. Асноўнымі прадпрыемствамі гэтага часу былі вотчынныя мануфактуры, гаспадарамі якіх з'яўляліся памешчыкі, што прымушалі працаваць там сваіх прыгонных сялян. Пераважнае выкарыстанне працы прыгонных на прамысловых прадпрыемствах Беларусі ўяўляла сабой важную асаблівасць яе эканамічнага развіцця.

У гарадах і мястэчках было шмат дробных прадпрыемстваў (з 1—3 рабочымі), гаспадарамі якіх былі купцы і мяшчане. У адрозненне ад памешчыкаў яны не мелі сваёй зямлі, рабочай сілы, сыравіны і мусілі плаціць за ўсё неабходнае для вытворчасці. Сярод прадпрыемстваў, якімі валодалі купцы і мяшчане, пераважалі скураныя, медныя, цагельныя, капялюшныя. Іх вырабы збываліся ў асноўным на мясцовым рынку. Гарадская прамысловасць у параўнанні з вотчыннай была менш развітой.

Побач з вотчыннай мануфактурай у першай палове XIX ст. з'явіліся прадпрыемствы, заснаваныя на вольнай працы. Але большасць «вольнанаёмных» былі прыгоннымі, якіх паны на кароткі час адпускалі на заробкі. Прыгоннае права рабілася сур'ёзнай перашкодай для развіцця прамысловасці.

Новай з'явай у прамысловым развіцці Беларусі стала выкарыстанне на асобных прадпрыемствах машын і паравых рухавікоў. Аднак колькасць прадпрыемстваў, якія ўкаранялі машынную тэхніку, была нязначнай. Уладальнікамі большасці з іх былі памешчыкі. Але ўжо з 1830-х гг. больш за палову прамысловых прадпрыемстваў належала купцам і мяшчанам.

Размяшчэнне прамысловых прадпрыемстваў у беларускіх губернях было нераўнамерным. Да сярэдзіны XIX ст. колькасную



*Саборная плошча ў Мінску. Мастак Б. Лавернь. 1840 г.*

перавагу мела Гродзеншчына (5112 рабочых), другое месца займала Магілёўская губерня (1882), найменш рабочых было ў Мінскай губерні (815 чалавек). На тэрыторыі Беларусі найбольш пашыранымі былі перапрацоўчыя прадпрыемствы, якія выкарыстоўвалі сельскагаспадарчую сыравіну: вінакурныя, суконныя, палатняныя, цукровыя, мукамольныя.

Вядучай галіной прамысловасці ў першай палове XIX ст. заставалася суконная. Каб заахвоціць прадпрымальнікаў да стварэння новых мануфактур, даваліся дзяржаўныя пазыкі. Ужо ў 1861—1863 гг. на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі 64 суконныя прадпрыемствы, на якіх працавала звыш 51 тыс. рабочых. Суконная прамысловасць была сканцэнтравана ў Гродзенскай губерні (55 прадпрыемстваў).

Другое месца ў прамысловасці займала вытворчасць вырабаў з воўны. У 1857 г. налічвалася 7 прадпрыемстваў гэтай галіны. Усе яны знаходзіліся ў Гродзенскай губерні. На іх працавала 1444 рабочых. На тэрыторыі Беларусі дзейнічалі таксама папяровыя, шкляныя, чыгунныя, медзеплавільныя, цагельныя і іншыя прадпрыемствы. Жалезаапрацоўчыя прадпрыемствы працавалі на мясцовай сыравіне, якую здабывалі з балотнай руды. Шкляная прамысловасць была найбольш развітой у Магілёўскай губерні, дзе знаходзілася 8 з 14 заводаў.

Фабрыкі ў Беларусі з'явіліся ў 1820-я гг. Першымі былі пабудаваны суконныя фабрыкі ў мястэчках Хомск Кобрынскага і Косава Слонімскага паветаў. З 1839 г. дзейнічаў буйны цукровы завод князя І. Ф. Паскевіча ў Гомелі.

З пачатку 1830-х гг. прамысловасць Беларусі перажывала крызіс, звязаны з крызісам прыгоннай сістэмы. Прамысловасць адчувала востры недахоп у працоўнай сіле і асабліва ў людзях, якія валодалі тэхнічнымі ведамі. У пошуках выйсця з гэтай сітуацыі частка прадпрымальнікаў стварала новыя прадпрыемствы, якія мелі паравыя рухавікі. Але маламагутныя заводы Беларусі не вытрымалі канкурэнцыі з буйнейшымі прадпрыемствамі Расіі, Украіны, Польшчы і ў сярэдзіне 1860-х гг. спынілі сваю дзейнасць.

Нягледзячы на істотныя зрухі ў развіцці прамысловасці Беларусі ў першай палове XIX ст., яе маштабы ў параўнанні з агульнарасійскімі былі нязначнымі, а тэмпы развіцця — запаволенымі.

Працэс разлажэння прыгонніцкіх адносін абумовіў змяненне складу беларускага насельніцтва і рост гарадоў як гандлёва-прамысловых цэнтраў. Да сярэдзіны XIX ст. у Беларусі налічвалася ўжо 40 гарадоў і больш за 300 мястэчак. Найбольш буйнымі гарадамі былі Магілёў (31 062 жыхары), Віцебск (30 664), Мінск (26 760), Гродна (20 241). У іх працягвалі развівацца гандаль і рамяство. Насельніцтва гарадоў расло як за кошт натуральнага прыросту, так і ў выніку прымусовага перасялення яўрэяў з памешчыцкіх маёнткаў. Пераважную большасць (70—80 %) гарадскога насельніцтва складала мяшчанства (рамеснікі, дробныя гандляры), 6—7 % — дваранства і духавенства, 2—2,5 % — купецтва. Аднак у першай палове XIX ст. гарады Беларусі яшчэ не сталі цэнтрамі прамысловасці.

**Унутраны і знешні гандаль.** Развіццё прамысловасці, рост гарадскога насельніцтва стымулявалі пашырэнне ўнутранага рынку. Гандаль Беларусі развіваўся пераважна ў форме *кірмашоў*, часта з вялікім гандлёвым абаротам. На самым буйным з іх — Зэльвенскім — гадавы абарот перавышаў 1 млн рублёў. Буйнымі былі таксама Любавіцкі ў Магілёўскай губерні і Мінскі кірмашы. Усяго ў Беларусі праводзілася каля 200 кірмашоў у год. Сюды прывозілі сельскагаспадарчыя і прамысловыя тавары не толькі з Беларусі, але і з Маскоўскай, Ніжагародскай губерняў, Украіны, Польшчы, Прусіі і іншых месцаў. У Беларусь паступалі воўна,

металічныя вырабы, галантарэя і інш. Назіралася паступовае змяненне асартыменту прывезеных тавараў. Напрыклад, на Стаўпянскую прыстань у 1827 г. прывозілі пераважна прадметы раскошы (фарфоравы і фаянсавы посуд, крышталь, люстэркі), а ў 1850-я гг. выгружалі пераважна чыгунныя вырабы, свінец, волава, паперу. Важнае значэнне для Беларусі меў вывазны гандаль. Прадметамі экспарту былі збожжа, лён, каноплі, лес, спірт, смала, паташ і г. д.

**Паляпшэнне шляхоў зносін.** З развіццём гандлю важную ролю пачалі адыгрываць суднаходныя рэкі — Бярэзіна, Прыпяць, Дняпро, Заходняя Дзвіна, Нёман, якія праз каналы звязалі Беларусь з балтыйскімі і чарнаморскімі партамі. На гэтых рэках знаходзілася да 85 прыстаней. У 1804—1805 гг. скончылася будаўніцтва Агінскага і Бярэзінскага каналаў, якія звязалі Дняпро з Заходняй Дзвіной і Нёманам. Хоць прапускная здольнасць каналаў была невялікай, яны ўсё ж мелі важнае транспартнае значэнне. Праз Рыгу, Гданьск, Кёнігсберг з Беларусі за мяжу адпраўлялі буйныя баржы з таварамі. Паляпшаліся і сродкі сувязі, будаваліся дарогі, напрыклад Маскоўска-Варшаўская, што прайшла праз тры беларускія губерні: Магілёўскую, Мінскую, Гродзенскую.

Развіццё гандлю было цесна звязана са станам прамысловасці, сельскай гаспадаркі, плацежаздольнасцю насельніцтва. Феадальна-прыгонніцкая сістэма стрымлівала развіццё ўсіх галін народнай гаспадаркі, абмяжоўвала пашырэнне ўнутранага рынку. Знішчэнне прыгонніцкіх адносін з'яўлялася неабходнай перадумовай далейшага эканамічнага развіцця Беларусі.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Якія змены адбыліся ў памешчыцкай і сялянскай гаспадарцы ў першай палове XIX ст.?
2. У чым выявіўся крызіс прыгонніцкага ладу ў сельскай гаспадарцы Беларусі ў першай палове XIX ст.?
3. Якія мерапрыемствы прадугледжвалі рэформы П. Дз. Кісялёва?
4. У чым заключаліся асаблівасці прамысловага развіцця Беларусі ў першай палове XIX ст.? Чаму гарадская прамысловасць была ў гэты час менш развітой, чым вотчынная?
5. Назавіце асаблівасці працэсу урбанізацыі на тэрыторыі Беларусі ў першай палове XIX ст.

6. Ахарактарызуйце развіццё гандлю ў беларускіх губернях у першай палове XIX ст.: формы гандлю, шляхі зносін, прадметы экспарту і імпарту.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Запоўніце табліцу «Эканамічнае развіццё Беларусі ў першай палове XIX ст.». Вызначце феадальныя і капіталістычныя рысы ў сельскай гаспадарцы і прамысловасці Беларусі ў першай палове XIX ст. Зрабіце выснову.

| Галіны эканомікі | Феадальныя рысы | Капіталістычныя рысы |
|---|---|---|
| Сельская гаспадарка | | |
| Прамысловасць | | |

2. Прааналізуйце аграрныя рэформы П. Дз. Кісялёва паводле плана: прычыны, сутнасць, вынікі.
3. Вызначце прычынна-выніковыя сувязі паміж:
   а) крызісам феадальна-прыгонніцкай сістэмы і крызісам прамысловасці;
   б) крызісам феадальна-прыгонніцкай сістэмы і марудным развіццём сельскай гаспадаркі;
   в) феадальна-прыгонніцкай сістэмай і вузкім унутраным рынкам.

## § 7. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ РУХ У БЕЛАРУСІ Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

**Успомніце.** 1. Якая частка польскіх зямель была перададзена Расіі рашэннем Венскага кангрэса? 2. Якую палітыку праводзіў царскі ўрад у дачыненні да розных слаёў насельніцтва беларускіх зямель у пачатку XIX ст.?

**Польскія і расійскія дваранскія рэвалюцыянеры ў Беларусі.** Пасля знішчэння імперыі Напалеона і ўсталявання новага міжнароднага парадку, які атрымаў назву «венская сістэма», у манархічных краінах Еўропы надышоў перыяд сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў. Новыя палітычныя тэндэнцыі не абмінулі і Расію. У 1815 г. была ўведзена канстытуцыя ў Царстве (Каралеў-

стве) Польскім. Але найбольш радыкальная частка шляхты былой Рэчы Паспалітай не магла змірыцца з існаваннем залежнага дзяржаўнага ўтварэння. На яе тэрыторыі, а таксама ў Беларусі ўзнікалі канспіратыўныя рэвалюцыйныя суполкі.

Пашырэнне тайных арганізацый было звязана з адраджэннем у Царстве Польскім легальнай дзейнасці масонаў. У 1819 г. было заснавана тайнае таварыства Нацыянальнае масонства, якое паставіла сабе за мэту аднавіць незалежную Польшчу ў як мага больш шырокіх межах. Для рэалізацыі гэтай задачы меркавалася стварыць аддзяленні таварыства на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. У маі 1821 г. на аснове Нацыянальнага масонства была створана тайная арганізацыя з назвай *Патрыятычнае таварыства*.

У канцы **1817 г.** студэнты Віленскага універсітэта Ю. Яжоўскі, А. Міцкевіч і іншыя заснавалі тайнае патрыятычнае *таварыства філаматаў* («прыхільнікаў ведаў»), члены якога спачатку ставілі асветніцка-культурныя мэты. Паступова філаматы прыйшлі да ідэі карэнных сацыяльна-эканамічных рэформаў: ліквідацыі прыгоннага права, увядзення канстытуцыйнага кіравання. У 1819—1820 гг. філаматы арганізавалі «Саюз прамяністых» і «Саюз літаратараў». У 1820 г. у Свіслацкай гімназіі ўзнікла *Таварыства аматараў навук*.

У канцы 1820 г. філаматы заснавалі новую тайную арганізацыю *філарэтаў* («аматараў дабрачыннасці»). Гэта таварыства аб'ядноўвала больш шырокія колы моладзі далёка за межамі Вільні. Галоўнымі мэтамі філарэтаў былі аднаўленне Рэчы Паспалітай і адмена прыгону. Члены таварыства імкнуліся да вывучэння беларуска-літоўскага краю, яго гісторыі, фальклору, побыту насельніцтва. У асяроддзі віленскай моладзі ўзнікалі і планы ўзброенага выступлення. На працягу 1817—1823 гг. у Каралеўстве Польскім і беларускіх губернях існавала каля 50 тайных згуртаванняў студэнцкай моладзі.

Даведаўшыся аб існаванні тайных студэнцкіх арганізацый, улады ў **1823 г.** арыштавалі многіх філарэтаў і філаматаў (у тым ліку А. Міцкевіча, Т. Зана, І. Дамейку). Ад працы ў Віленскім універсітэце былі адхілены І. Лялевель, І. М. Даніловіч, М. К. Баброўскі. Сваіх пасад пазбавіліся рэктар універсітэта Ю. Твардоўскі і куратар Віленскай навучальнай акругі А. Е. Чартарыйскі.

У 1824—1825 гг. урад, улічваючы тое, што цэнтрамі большасці тайных таварystваў былі навучальныя ўстановы, прыняў меры па наглядзе за навучэнцамі. Згодна з указам Аляксандра І жыхарам Беларусі і Літвы забаранялася адпраўляць дзяцей на вучобу ў Гейдэльбергскі, Іенскі, Гесенскі і Вюртэмбергскі універсітэты.



*К. Г. Ігельстром*

Пасля выступлення Сямёнаўскага палка ў Пецярбургу ў 1820 г. у Беларусь былі пераведзены гвардзейскія часці, у якіх служылі будучыя дзекабрысты. У розны час з Беларуссю былі звязаны А. А. Бястужаў, М. С. Лунін, А. І. Адоеўскі, К. Ф. Рылееў і інш. Падчас знаходжання ў Мінску кіраўнік Паўночнага таварыства М. М. Мураўёў напісаў свой першы варыянт расійскай канстытуцыі. У Віцебску жыў і вучыўся будучы дзекабрыст, сябра Таварыства з'яднаных славян І. І. Гарбачэўскі. Распрацоўваўся план паўстання ў Бабруйскай крэпасці, якое павінна было даць штуршок дзяржаўнаму перавароту ў Расіі.

У 1820-я гг. у Магілёве існавала ўправа Паўночнага таварыства. У Гродзенскай губерні дзейнічала тайная арганізацыя Таварыства ваенных сяброў (1825—1826). Апошняе па ініцыятыве К. Г. Ігельстрома і А. І. Вягеліна 24 снежня 1825 г. падняло паўстанне Літоўскага піянернага (сапёрнага) батальёна. У пачатку 1826 г. С. Трусаў спрабаваў падняць паўстанне ў Бабруйскай крэпасці.

Пасля разгрому руху дзекабрыстаў 15 чалавек прайшлі праз ваенна-судовую камісію, якая працавала ў Магілёве. Другім цэнтрам следства і суда над дзекабрыстамі быў Беласток. Бабруйская крэпасць стала «турмой на Бярэзіне» для многіх дзекабрыстаў, у тым ліку І. Р. Бурцова, В. С. Норава, С. Трусава і інш.

**Польскае паўстанне 1830—1831 гг. на беларускіх землях.** У лістападзе **1830 г.** у Варшаве шляхецкія рэвалюцыянеры паўсталі супраць расійскага самадзяржаўя. Прычынамі паўстання былі незадаволенасць шляхты падзеламі Рэчы Паспалітай і парушэнні царскім урадам канстытуцыі 1815 г. Рэвалюцыйна-дэмакратычныя сілы Польшчы адстойвалі лозунгі буржуазна-дэмакратычных пераўтварэнняў, але паўстаннем кіравалі польскія

арыстакраты. Абапіраючыся на армію Царства Польскага і дапамогу заходнееўрапейскіх краін, яны дамагаліся незалежнасці Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Пры гэтым, на іх думку, Беларусь павінна была ўліцца ў склад незалежнай Польшчы.

Царскі ўрад імкнуўся не дапусціць пашырэння паўстання. У Беларусі, Літве і Украіне было ўведзена ваеннае становішча. Аднак у сакавіку — красавіку 1831 г. паўстанне дасягнула Літвы і Беларусі (Ашмянскі, Браслаўскі, Дзісенскі і Вілейскі паветы). Ядро паўстанцаў складала шляхта, навучэнцы, афіцэры-палякі, каталіцкае і уніяцкае духавенства. У паўстанні ў Беларусі і Літве ўдзельнічалі каля 10 тыс. чалавек. Падзеі развіваліся пераважна стыхійна, хоць і быў створаны *Віленскі цэнтральны паўстанцкі камітэт.*

Сяляне і мяшчане мабілізоўваліся ў атрады найчасцей пад прымусам і не былі зацікаўлены ваяваць, таму што паўстанне не вырашала іх сацыяльныя праблемы. У той жа час імперскія ўлады абяцалі ім вызваленне ад паноў-паўстанцаў. Вузкія палітычныя мэты кіраўнікоў паўстання абумовілі адсутнасць значнай падтрымкі яго з боку насельніцтва.

Тым не менш у Беларусі і Літве дзейнічала каля 30 паўстанцкіх атрадаў, якія налічвалі 12 тыс. чалавек. Найбольш буйнымі былі атрады пад кіраўніцтвам С. М. Радзішэўскага ў Вілейскім павеце (3,3 тыс. чалавек), В. Брахоцкага ў Дзісенскім павеце (3 тыс.), К. Д. Пшаздзецкага ў Ашмянскім павеце (2,5 тыс.), Ю. Кашыца і М. Мержаеўскага ў Навагрудскім павеце (1 тыс.). На дапамогу ім прыйшлі рэгулярныя польскія войскі на чале з генераламі Д. Хлапоўскім і А. Гелгудам.

Кульмінацыяй паўстання стала бітва за Вільню 19 чэрвеня 1831 г., у якой аб'яднаныя паўстанцкія сілы краю разам з прысланым на дапамогу польскім корпусам не змаглі перамагчы расійскае войска. У жніўні **1831 г.** паўстанне было задушана па ўсёй Беларусі і Літве, а потым і ў Польшчы. Многія яго ўдзельнікі арыштоўваліся і высылаліся ва ўсходнія губерні імперыі. У шляхціцаў канфіскоўваліся маёнткі, асоб недваранскага паходжання аддавалі ў салдаты ці ссылалі ў Сібір. Свае маёнткі страцілі таксама магнаты, якія валодалі тысячамі прыгонных (Агінскія, Плятэры, Радзівілы, Сапегі, Чартарыйскія і інш.). На тэрыторыі Беларусі ў 1837 г. было канфіскавана 115 маёнткаў з больш як 38 тыс. ся-

лян-мужчын. Але і пасля гэтых падзей хваляванні ў Беларусі і ў Літве не сціхлі.

**Дзейнасць тайных таварыстваў у Беларусі ў 1830—1840-я гг.** У **1836 г.** па ініцыятыве Ф. А. Савіча пры Віленскай медыцынскай акадэміі ўтварылася адна з найбольш радыкальных у Беларусі і Літве тайных суполак — *Дэмакратычнае таварыства.* У 1837 г. Савіч наладзіў сувязі з Пінскай і Слуцкай ячэйкамі тайнага таварыства «Садружнасць польскага народа», якое ўзначальваў польскі рэвалюцыянер-дэмакрат Ш. Канарскі. У «Прынцыпах дэмакратызму» (статуце Дэмакратычнага таварыства) абвяшчаліся ідэі сацыяльнай роўнасці, вызвалення сялян з зямлёй ад прыгоннай залежнасці, права кожнага народа на нацыянальную самастойнасць. У **1838 г.** Дэмакратычнае таварыства было выкрыта, а праз год Ф. А. Савіч высланы на Каўказ у дзеючую армію.

У **1846—1849 гг.** у Вільні, Ашмянах, Гродне, Лідзе, Мінску і іншых гарадах і мястэчках дзейнічалі суполкі тайнай арганізацыі Саюз свабодных братоў, якая мела на мэце сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, барацьбу за свабодную Польшчу і Расію.

Такім чынам, галоўнай арганізацыйнай формай рэвалюцыйнага грамадска-палітычнага руху на беларускіх землях у 1810—1840-я гг. былі тайныя гурткі, таварыствы і суполкі. Яны існавалі ў Віленскім універсітэце, Свіслацкай гімназіі, часцях Літоўскага асобнага корпуса і ставілі палітычнай мэтай адраджэнне Рэчы Паспалітай з аўтаномным Вялікім княствам Літоўскім у яе складзе.

**Змены ва ўрадавай палітыцы ў Беларусі ў 1830—1850 гг.** Шырокае распаўсюджванне рэвалюцыйнага руху прадвызначыла новы курс урадавай палітыкі на тэрыторыі Беларусі. Яго ідэалагічным абгрунтаваннем стала ідэалогія «заходнерусізму», накіраваная на адраджэнне «спрадвечна рускіх» пачаткаў у жыцці беларускага грамадства. Гэта палітыка абапіралася на светапогляд той часткі насельніцтва Беларусі, якая не аддзяляла сябе ад рускага народа і свой гістарычны лёс непарыўна звязвала з мінулым, сучасным і будучым Расіі.

У **1831 г.** у Магілёўскай і Віцебскай губернях было скасавана дзеянне Статута ВКЛ 1588 г. і ўведзена расійскае заканадаўства. 16 верасня 1831 г. створаны *«Асобы камітэт па справах заходніх губерняў»*, які распрацоўваў і ажыццяўляў мерапрыемствы па пашырэнні расійскага ўплыву на ўсе сферы жыцця Беларусі.

У **1840 г.** адменена дзеянне Літоўскага Статута ў Мінскай, Гродзенскай і Віленскай губернях.

Адначасова была праведзена адміністрацыйная рэформа. Яе вынікам стаў указ ад 18 ліпеня 1840 г., які прадпісаў замест агульнага наймення губерняў «беларускія» і «літоўскія» выкарыстоўваць іх назвы: Віцебская, Магілёўская, Віленская, Мінская і Гродзенская. Аднак назвы «Белоруссия» і «белорусский край» не выключаліся з афіцыйнага ўжытку, паколькі мелі агульны корань «рос», які, з пункту гледжання расійскага ўрада, сведчыў аб адзінстве паходжання «трох плямён рускага народа».

Пасля ўступлення на прастол імператара Мікалая I пачаліся змены ў сістэме асветы. У аснову народнай асветы быў пакладзены прынцып строгай саслоўнасці, што знайшло ажыццяўленне ў «Статуце гімназій і вучылішчаў павятовых і прыходскіх» (1828). Згодна з ім пачатковая і сярэдняя адукацыя мела тры катэгорыі: для дзяцей ніжэйшага саслоўя (сялян) прызначаліся аднакласныя прыходскія вучылішчы з элементарнай праграмай навучання; для сярэдняга саслоўя — трохкласныя вучылішчы з больш шырокай праграмай пачатковага навучання; для дзяцей дваран і чыноўнікаў уводзіліся сямікласныя гімназіі, заканчэнне якіх давала права на паступленне ва універсітэты.

У адпаведнасці з палажэннямі новага статута ў **1829 г.** была створана *Беларуская навучальная акруга*, якая дзейнічала да **1850 г.** Дадатковыя палажэнні статута 1828 г. тлумачылі мэту яе стварэння неабходнасцю «навучання юнакоў у адпаведнасці з асаблівасцямі Беларусі». Прадугледжвалася ўключэнне ў курс прыходскіх вучылішчаў навучання «мясцовай мове». У новую навучальную акругу ўвайшлі Віцебская, Магілёўская, а ў 1831 г. і Мінская губерні. Цэнтр навучальнай акругі знаходзіўся ў Віцебску. Яе папячыцелямі былі вядомы матэматык Р. І. Карташэўскі (1829—1835) і былы дырэктар вучылішчаў Закаўказскай вобласці і Тыфліскага шляхецкага пансіёна Е. А. Грубер (1835—1850).

У сувязі з падзеямі 1830—1831 гг. папячыцелю акругі рэкамендавалася ў свецкіх вучылішчах перайсці да выкладання ўсіх прадметаў на рускай мове. Каб зблізіць тутэйшых жыхароў з «прыроднымі рускімі», у 1832 г. быў закрыты Віленскі універсітэт, ліквідавана Віленская навучальная акруга. Навучальныя ўстановы Віленскай, Гродзенскай губерняў і Беластоцкай вобласці

ўвайшлі ў склад Беларускай навучальнай акругі. Каб кампенсаваць закрыццё Віленскага універсітэта, меркавалася стварыць у Оршы вышэйшае вучылішча для дзяцей дваран, а пазней пераўтварыць яго ў вышэйшую навучальную ўстанову. Але пачатая справа была спынена.

Польская мова, між іншым, была выключана з праграм адукацыі. Толькі ў заходніх губернях навучальнай акругі яна вывучалася як асобны прадмет па скарочанай праграме. Выпускнікам Віленскага універсітэта забаранялася выкладаць у мясцовых школах. Рыхтавала выкладчыкаў для Беларусі настаўніцкая семінарыя, створаная ў 1834 г. у Віцебску.

Важнай падзеяй у галіне асветы было адкрыццё ў 1840 г. Горы-Горацкай земляробчай школы, пераўтворанай у **1848 г.** у земляробчы інстытут. Адметнай рысай мясцовай сістэмы асветы стала пашырэнне ваенна-навучальных устаноў. Калі ў эпоху Аляксандра I былі юнкерскія вучылішчы ў Бабруйску, Дынабургу і Магілёве, то пры Мікалаю I адкрыліся яшчэ і кадэцкія карпусы ў Полацку (1835) і Брэсце (1842). Яны разглядаліся расійскім урадам як сродак выхавання дваранства ў духу вернасці самадзяржаўю, таму напалову камплектаваліся з дваранства беларускіх губерняў.

У 1827—1830 гг. праводзіліся мерапрыемствы, скіраваныя на рэфармаванне уніяцкай царквы і збліжэнне яе з праваслаўнай. Была створана асобная грэка-уніяцкая калегія, чатыры уніяцкія епархіі рэарганізаваны ў дзве: Беларускую і Літоўскую. У прапаведніцкай практыцы прадпісвалася выкарыстоўваць «мясцовы дыялект». У аснову адукацыі дзяцей уніятаў была пакладзена праваслаўная сістэма навучання. У Віленскую каталіцкую семінарыю прымаць уніятаў забаранялася. Для іх у 1828 г. была створана асобная семінарыя ў Жыровічах (каля Слоніма). Ініцыятара гэтых пераўтварэнняў мітрапаліта Іосіфа Сямашку падтрымлівала значная частка уніяцкага духавенства.

Паўстанне 1830—1831 гг. вызначыла лёс уніяцкай царквы. У студзені 1837 г. кіраванне ёю перайшло да Свяцейшага Сінода. 12 лютага **1839 г.** у Полацку быў падпісаны «Саборны акт» аб уз'яднанні праваслаўнай і уніяцкай цэркваў. Гэты акт зацвердзіў імператар Мікалай I. Уніятам пакідаліся тыя абрады і звычаі, што не супярэчылі сутнасці праваслаўя. Усяго ў 1839 г. да праваслаўнай царквы было далучана 1,5 млн вернікаў.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Якія змены адбыліся ў становішчы польскіх зямель у 1815 г.?
2. Ахарактарызуйце дзейнасць тайных арганізацый на тэрыторыі Беларусі ў першай палове XIX ст. Запоўніце наступную табліцу. Зрабіце высновы.

ТАЙНЫЯ ТАВАРЫСТВЫ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

| Назва таварыства | Гады дзейнасці | Мэты | Сацыяльная база |
|---|---|---|---|
| | | | |

3. Калі пачалося шляхецкае паўстанне на тэрыторыі Польшчы, Літвы і Беларусі? Якімі былі яго прычыны і вынікі?
4. Чым былі выкліканы змены ва ўрадавай палітыцы ў заходніх губернях Расіі ў 1830—1850-я гг.?
5. Калі адбылося аб'яднанне уніяцкай і праваслаўнай цэркваў?
6. Якія мерапрыемствы царскага ўрада ў 1830—1840-я гг. спрыялі пашырэнню рускага ўплыву на беларускіх землях?

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Прааналізуйце паўстанне 1830—1831 гг. паводле плана: прычыны, мэты, сацыяльная база, асноўныя падзеі, вынікі.
2. Закончыце запаўненне табліцы «Палітыка царскага ўрада на тэрыторыі Беларусі ў першай палове XIX ст.». Зрабіце выснову.

## § 8. АСАБЛІВАСЦІ БУРЖУАЗНЫХ РЭФОРМАЎ У БЕЛАРУСІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX ст.

**Успомніце.** 1. Што такое прыгоннае права? 2. Якімі былі прычыны адмены прыгоннага права ў Расійскай імперыі? 3. Назавіце буржуазныя рэформы, якія праводзіліся ў Расійскай імперыі ў 1860—1870-я гг. 4. Што такое «прускі» і «амерыканскі» шляхі развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы?

**Асаблівасці адмены прыгоннага права ў беларускіх губернях.** Першай рэформай на шляху да буржуазнага грамадства ў Расіі стала адмена прыгоннага права. **19 лютага 1861 г.** Аляксандр II падпісаў «Маніфест» і зацвердзіў усе заканадаўчыя акты, якія тычыліся




*Медаль у гонар 19 лютага 1861 г.*

адмены прыгонніцтва. Усе гэтыя дакументы можна падзяліць на тры групы: агульныя палажэнні, мясцовыя палажэнні, дадатковыя правілы. Непасрэдна тэрыторыі Беларусі тычыліся два дакументы: «Мясцовае палажэнне аб пазямельным уладкаванні сялян, якія паселены на памешчыцкіх землях у губернях: Вялікарасійскіх, Наварасійскіх і Беларускіх» (пад гэта палажэнне траплялі Магілёўская губерня і большая частка Віцебскай) і «Мясцовае палажэнне аб пазямельным уладкаванні сялян, якія паселены на памешчыцкіх землях у губернях: Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай і частцы Віцебскай» (ахоплівала астатнюю тэрыторыю Беларусі).

У Віцебскай і Магілёўскай губернях, дзе захавалася абшчыннае землекарыстанне, вызначаліся ніжэйшы (ад 1 да 2 дзесяцін) і вышэйшы (ад 4 да 5,5 дзесяціны) памеры надзелаў зямлі на адну мужчынскую душу. Калі да рэформы ў карыстанні селяніна зямлі было больш за вышэйшую норму, то памешчык меў права адрэзаць лішак на сваю карысць. У Гродзенскай, Віленскай і Мінскай губернях існавала падворнае землекарыстанне. Тут сялянам пакідаўся іх дарэформенны надзел. Адрэзкі дазваляласа рабіць, калі ў памешчыка заставалася менш за $^1/_3$ усёй зямлі, але сялянскі надзел не мог быць скарочаны больш як на $^1/_6$.

Уся зямля ў маёнтку прызнавалася ўласнасцю памешчыка, у тым ліку і тая, якая знаходзілася ў карыстанні сялян. За карыстанне сваімі надзеламі асабіста свабодныя сяляне на працягу не менш як 9 гадоў (да правядзення выкупной аперацыі) павінны былі адбываць паншчыну або плаціць памешчыку аброк. Асабіста свабодныя сяляне, якія працягвалі выконваць павіннасці на карысць памешчыка, называліся *часоваабавязанымі*.

Да правядзення выкупной аперацыі ў Магілёўскай і Віцебскай губернях паншчына за найвышэйшы надзел складала 40 муж-

чынскіх і 30 жаночых дзён у год (ці 8 рублёў аброку). У заходняй частцы Беларусі павіннасці вызначаліся наступным чынам: для паншчыны — не больш за 23 дні, для аброку — не больш як 3 рублі з дзесяціны ў год.

Свой палявы надзел зямлі сяляне выкупалі ва ўласнасць. Правілы *выкупной аперацыі* былі аднолькавыя для ўсёй Расіі. *Выкупная сума* за сялянскі надзел вылічвалася такім чынам, каб, паклаўшы яе ў банк пад 6 % гадавых, памешчык мог штогод атрымліваць даход, роўны гадавому аброку з гэтага надзелу. Ад 20 да 25 % выкупной сумы (у залежнасці ад велічыні надзелу) сяляне плацілі непасрэдна памешчыку. Астатнюю частку памешчыкі атрымлівалі ад дзяржавы каштоўнымі паперамі, якія можна было прадаваць ці закладваць. У выніку такой аперацыі сяляне станавіліся даўжнікамі дзяржавы. На працягу 49 гадоў трэба было вярнуць доўг у выглядзе *выкупных плацяжоў*, куды ўключаліся яшчэ і працэнты за пазыку. За гэты час сялянам даводзілася выплаціць да 300 % пазычанай ім сумы. Такім чынам, агульная сума, якую сяляне вымушаны былі заплаціць за атрыманыя надзелы, у 3—4 разы перавышала рыначны кошт гэтай зямлі. Вынікала, што сяляне не толькі выкуплялі зямлю, але і кампенсавалі памешчыкам страту іх уласнасці ў асобе селяніна.

Істотныя змены ў ажыццяўленне сялянскай рэформы ў Беларусі ўнесла паўстанне 1863—1864 гг. Каб эканамічна пакараць памешчыкаў за ўдзел у паўстанні і яго падтрымку, былі праведзены наступныя мерапрыемствы. Указ ад 1 сакавіка **1863 г.** уводзіў абавязковы выкуп сялянскіх надзелаў у Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай губернях і ў інфлянцкіх паветах Віцебскай губерні. Сяляне пераставалі быць часоваабавязанымі і станавіліся ўласнікамі зямлі, выкупныя плацяжы зніжаліся на 20 %. З 2 лістапада 1863 г. гэты ўказ распаўсюджваўся на ўсю Віцебскую і Магілёўскую губерні. 9 красавіка 1863 г. у Беларусі былі створаны павятовыя камісіі для праверкі і выпраўлення ўстаўных грамат. Згодна з цыркулярам ад 18 кастрычніка 1863 г. абеззямеленым у 1846—1856 гг. сялянам выдаваўся трохдзесяцінны сямейны надзел і ў поўным аб'ёме вярталася зямля, адабраная ў іх з 1857 г.

Паўстанне 1863—1864 гг. паўплывала і на становішча дзяржаўных сялян у Беларусі. Паводле закона **1867 г.** яны пераводзілі-

ся з аброку на выкуп і станавіліся ўласнікамі сваіх надзелаў. Зробленыя ўрадам уступкі палепшылі становішча сялян заходніх губерняў у параўнанні з іншымі рэгіёнамі Расіі і стварылі больш спрыяльныя ўмовы для развіцця капіталізму ў Літве і Беларусі.

**Буржуазныя рэформы 1860—1870-х гг. і іх вынікі.** У 1860—1870-я гг. урад Аляксандра II прыняў шэраг пастаноў аб правядзенні земскай, судовай, гарадской, ваеннай, школьнай і цэнзурнай рэформаў.

*Земская рэформа*, аб'яўленая 1 студзеня 1864 г., прадугледжвала стварэнне ў паветах і губернях выбарных устаноў для кіраўніцтва мясцовай гаспадаркай, народнай асветай, медыцынскім абслугоўваннем насельніцтва і іншымі непалітычнымі справамі. Аднак у Беларусі ў сувязі з падзеямі 1863—1864 гг. уводзіць выбарныя ўстановы ўрад не адважыўся.

*Судовая рэформа*, прынятая ў Расійскай імперыі 20 лістапада 1864 г., у Беларусі пачалася толькі ў **1872 г.** з увядзення міравых судоў. Паколькі ў Беларусі адсутнічалі земствы, то міравыя суддзі, у адрозненне ад цэнтральных губерняў Расіі, тут не выбіраліся, а прызначаліся міністрам юстыцыі па рэкамендацыі мясцовай адміністрацыі. Акруговыя суды, судовыя палаты, прысяжныя засядацелі і прысяжныя павераныя з'явіліся ў заходніх губернях толькі ў 1882 г. Спіс прысяжных засядацеляў таксама зацвярджаўся ўладамі.

У **1875 г.** у Беларусі была праведзена *гарадская рэформа*, прынятая ў Расіі ў 1870 г. Яна абвяшчала прынцып усесаслоўнасці пры выбарах органаў гарадскога самакіравання — *гарадской думы* і *гарадской управы* на чале з гарадскім галавой. Пры выбарах членаў думы (*гласных*) права голасу атрымлівалі гараджане з 25-гадовага ўзросту. Аднак гэтым правам маглі карыстацца не ўсе жыхары горада, а толькі тыя, хто плаціў гарадскія падаткі. Рабочыя, служачыя, інтэлігенцыя, якія складалі асноўную масу насельніцтва гарадоў, не мелі магчымасці ўдзельнічаць у гарадскім самакіраванні, бо не плацілі падаткі ў гарадскую казну.

*Рэфармаванне арміі* ў Расіі пачалося ў **1862 г.**, калі былі ўтвораны 15 ваенных акруг (у тым ліку і *Віленская*, у якую ўвайшлі ўсе беларускія губерні) і ўведзены скарочаны тэрмін службы (у сухапутным войску — да 7, на флоце — да 8 гадоў). У 1867 г. быў прыняты новы ваенна-судовы статут, які зыходзіў з прынцы-

паў судовай рэформы 1864 г. Закон **1874 г.** увёў замест рэкруцкіх набораў усесаслоўную воінскую павіннасць. Усе мужчыны з 21-гадовага ўзросту павінны былі служыць у войску (акрамя карэннага насельніцтва Сярэдняй Азіі, Казахстана, Сібіры і Поўначы). У сухапутных войсках тэрмін службы скарачаўся да 6 гадоў абавязковай і 9 гадоў у запасе, на флоце — адпаведна да 7 і 3 гадоў. Таксама ўводзіліся льготы для людзей, якія мелі адукацыю. Тыя, хто скончыў вышэйшыя навучальныя ўстановы, служылі 6 месяцаў, гімназіі — 1,5 года, гарадскія вучылішчы — 3, пачатковыя школы — 4 гады.

*Рэфармаванне школьнай сістэмы* **1864 г.** таксама мела буржуазны характар. Школа абвяшчалася ўсесаслоўнай, павялічвалася колькасць пачатковых школ, уводзілася пераемнасць розных ступеняў навучання. У адрозненне ад цэнтральных губерняў Расіі ў Беларусі не існавала земскіх школ і грамадскасць не дапускалася да кіравання народнай адукацыяй. Для Беларусі і Літвы былі выпрацаваны спецыяльныя «Часовыя правілы для народных школ». У адпаведнасці з імі ў кожнай губерні ствараліся дырэкцыі народных вучылішчаў з ліку чыноўнікаў, якія ажыццяўлялі нагляд за работай школ, прымалі на працу і звальнялі настаўнікаў, давалі дазвол на адкрыццё новых школ.

Новы цэнзурны статут, прыняты ў **1865 г.**, значна пашыраў магчымасці друку. Аднак змены ў цэнзурнай палітыцы тычыліся перш за ўсё цэнтральных выданняў і выдавецтваў. У Беларусі да сярэдзіны 1880-х гг. усе перыядычныя выданні залежалі ад урадавых устаноў і праваслаўнай царквы.

Такім чынам, рэформы 1860—1870-х гг., пачынаючы з адмены прыгоннага права, прывялі да значных змен у палітычным жыцці Расійскай імперыі. Быў зроблены крок наперад па шляху ператварэння феадальнай манархіі ў буржуазную. Разам з тым рэформы неслі ў сабе перажыткі феадалізму, былі непаслядоўныя і абмежаваныя. Вялікія адрозненні і адтэрміноўкі ў правядзенні рэформаў у Беларусі надавалі ім яшчэ больш абмежаваны і непаслядоўны характар у параўнанні з іншымі рэгіёнамі Расіі, рабілі сацыяльна-эканамічную сітуацыю ў беларускіх губернях складанай і супярэчлівай.

**Станаўленне прадпрымальніцкай гаспадаркі. Фарміраванне аграрнай буржуазіі.** Рэформа 1861 г., праведзеная ў інтарэсах па-

мешчыкаў, абумовіла *«прускі» варыянт развіцця капіталізму* ў сельскай гаспадарцы. У Беларусі яго рысы былі яшчэ больш выразныя. Тут пераважала памешчыцкае землеўладанне, якое мела *латыфундыяльны характар.* На долю латыфундый (больш за 500 дзесяцін на аднаго ўладальніка) у 1877 г. прыпадала 88,6 % памешчыцкай зямлі. У той жа час больш за 60 % сялянскіх сем'яў Беларусі атрымалі зямельныя надзелы менш за 15 дзесяцін, 32 % — ад 15 да 20 і толькі 8 % — звыш 20 дзесяцін.

З прычыны малазямелля сялян таварная вытворчасць іх гаспадарак была вельмі нізкай, таму асноўнымі пастаўшчыкамі таварнай прадукцыі ў Беларусі былі памешчыкі. Шмат памешчыцкіх гаспадарак, асабліва на захадзе і ў цэнтры Беларусі, перайшлі на капіталістычны шлях развіцця, у іх адкрываліся вінакурныя, цагельныя, смалакурныя заводы, млыны, лесапільні.

**Спецыялізацыя сельскай гаспадаркі Беларусі.** Аб развіцці капіталізму ў сельскай гаспадарцы Беларусі ў другой палове XIX ст. сведчыць паступовая *спецыялізацыя сельскагаспадарчай вытворчасці.* У першыя два дзесяцігоддзі пасля рэформы найважнейшай галіной земляробства заставалася вытворчасць збожжа. Аднак у выніку сусветнага аграрнага крызісу 1880—1890-х гг. цэны на яго рэзка панізіліся (толькі за 1880-я гг. больш як у 2 разы). Гэта прымусіла беларускіх памешчыкаў пераходзіць на вытворчасць прадуктаў, што давалі большы прыбытак.

У 1890-я гг. галоўнай галіной у сельскай гаспадарцы Беларусі стала малочная жывёлагадоўля. У краі з'явіліся высокапрадукцыйныя пароды кароў (галандская, сіментальская, цірольская і інш.) і спецыяльныя фермы для іх гадоўлі. Многія памешчыкі адкрывалі ў сваіх маёнтках сыраварні і масларобчыя заводы. У канцы XIX ст. у Беларусі ўжо налічвалася не менш за 200 масларобчых і сыраварных заводаў, на якіх штогод выраблялася ад 500 да 650 тыс. пудоў масла і сыру.

Другім важным кірункам спецыялізацыі памешчыцкіх гаспадарак Беларусі было вінакурэнне, якое мела гандлёвы характар. Ад продажу спірту памешчыкі атрымлівалі буйныя даходы. У 1905 г. у пяці беларускіх губернях дзейнічалі 536 вінакурных заводаў. Асноўнай сыравінай для вырабу спірту з'яўлялася бульба. Адходы ад вінакурэння — брага — выкарыстоўваліся на корм жывёле.

З сярэдзіны 1860-х гг. у памешчыцкіх гаспадарках інтэнсіўна развівалася свінагадоўля. У Мінскай і Гродзенскай губернях даволі высокага ўзроўню дасягнула танкарунная авечкагадоўля. Але пазней у сувязі з канкурэнцыяй больш таннай воўны з паўднёвых раёнаў Расіі і з Аўстраліі авечкагадоўля ў Беларусі пачала прыходзіць у заняпад.

Яшчэ адным кірункам спецыялізацыі памешчыцкай гаспадаркі з'яўлялася вытворчасць тэхнічных культур. Сярод іх першае месца займала бульба. Плошча пад яе пасевамі за 1881—1899 гг. узрасла ў 2,5 раза. Другое месца пасля бульбы ў памешчыцкіх гаспадарках Беларусі належала лёну. За апошнія два дзесяцігоддзі XIX ст. плошча пад пасевы гэтай культуры павялічылася на 48,5 %. Вытворчасць ільну, асабліва ў Віцебскай губерні, мела пераважна гандлёвы характар. Значнае месца ў беларускіх губернях у канцы XIX ст. займала прамысловае садоўніцтва і агародніцтва.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Назавіце дакументы, на падставе якіх праводзілася сялянская рэформа на тэрыторыі Беларусі.
2. Якія змены адбыліся ў прававым і маёмасным становішчы памешчыцкіх сялян пасля 19 лютага 1861 г.?
3. Якімі былі правілы выкупной аперацыі?
4. Якія змены ў правядзенне сялянскай рэформы на тэрыторыі Беларусі ўнесла паўстанне 1863—1864 гг.?
5. Назавіце асаблівасці ў правядзенні буржуазных рэформаў 1860—1870-х гг. на тэрыторыі Беларусі. Чым яны былі выкліканы?
6. Ахарактарызуйце змены, якія адбыліся ў сельскай гаспадарцы Беларусі пасля адмены прыгоннага права. Якія перажыткі феадалізму захаваліся ў сельскай гаспадарцы Беларусі ў другой палове XIX ст.?
7. Дайце азначэнні паняццяў: *выкупныя плацяжы, часоваабавязаныя сяляне*.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Прааналізуйце сялянскую рэформу 1861 г. паводле плана: прычыны, умовы, вынікі. Запоўніце наступную табліцу. Зрабіце выснову аб значэнні рэформы.

ВЫНІКІ СЯЛЯНСКАЙ РЭФОРМЫ 1861 г. У БЕЛАРУСІ

| Станоўчыя вынікі | Адмоўныя вынікі |
|---|---|
| | |

2. Дакажыце, што рэформы 1860—1870-х гг. мелі буржуазны характар. Вызначце, якія буржуазныя прынцыпы былі рэалізаваны пры іх правядзенні.

## § 9. ПРАМЫСЛОВАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ Ў БЕЛАРУСІ. ШЛЯХ ДА ІНДУСТРЫЯЛЬНАГА ГРАМАДСТВА

**Успомніце.** 1. Што такое прамысловая рэвалюцыя? 2. Калі яна пачалася ў краінах Заходняй Еўропы? 3. Якімі былі яе эканамічныя і сацыяльныя наступствы? 4. Што такое дробнатаварная вытворчасць, мануфактура, фабрыка?

**Асаблівасці пераходу ад мануфактурнай да машыннай вытворчасці.** Прамысловасць Беларусі пасля рэформы 1861 г. развівалася ў цеснай сувязі з агульнарасійскай, але мела і свае асаблівасці. Характэрнай рысай прамысловага развіцця Беларусі ў другой палове XIX ст. разам з адносна хуткім ростам фабрычнай індустрыі было пашырэнне дробнатаварнай вытворчасці і мануфактур, пераважна невялікіх фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў.

У 1860-я гг. у прамысловасці Беларусі пераважалі дробныя прадпрыемствы рамесна-саматужнага тыпу і мануфактуры. Большасць дробнатаварных прадпрыемстваў займаліся перапрацоўкай мясцовай сыравіны: дрэва, гліны, скуры, воўны і лёну. Яны канцэнтраваліся ў гарадах і шматлікіх мястэчках. Да канца стагоддзя назіраўся колькасны рост дробных прадпрыемстваў і павялічваўся аб'ём іх прадукцыі, які ў канцы 1890-х гг. складаў 37,8 % ад усёй прамысловасці Беларусі.

Пасля 1861 г. развівалася мануфактурная вытворчасць. У канцы XIX ст. мануфактуры пераважалі ў гарбарнай, ганчарнай, цагельнай, суконнай, шкляной і тытунёвай вытворчасці і давалі 15,4 % валавой прамысловай прадукцыі Беларусі.

Нягледзячы на вялікую долю дробнатаварнай і мануфактурнай вытворчасці, на працягу другой паловы XIX ст. у прамыслова-

сці Беларусі ішоў *працэс пераходу ад ручной працы да машыннай*. Саматужныя прадпрыемствы і мануфактуры паступова выцясняліся *капіталістычнымі фабрыкамі*. Калі ў 1860 г. у Беларусі дзейнічала толькі 76 фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў, то ў 1900 г. іх было ўжо 1137. У канцы XIX ст. фабрычна-заводская прамысловасць давала 46,8 % валавога прадукту.

Беларусь значна адставала ад агульнарасійскіх паказчыкаў па *ўзроўні канцэнтрацыі вытворчасці*. Дробныя прадпрыемствы (да 50 рабочых) складалі тут 85,5 % ад усёй колькасці фабрык і заводаў. Калі прадпрыемствы, якія мелі больш за 500 рабочых, у расійскай прамысловасці складалі 3,5 %, то ў беларускай — толькі 1,2 %. Сярэдні памер прадпрыемстваў Беларусі быў у 2,3 раза меншы, чым увогуле па Расіі. Прамысловасць Беларусі пасля рэформы 1861 г. развівалася нераўнамерна. Калі ў першыя два дзесяцігоддзі ўдзельная вага ўсіх прадпрыемстваў Беларусі, якія ўзніклі ў гэты час, складала 18,5 %, а ў Расіі — 23,4 %, то ў 1880—1890-я гг. на тэрыторыі Беларусі было ўведзена ў дзеянне фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў у 4 разы больш, чым за папярэднія 20 гадоў (у Расіі — толькі ў 2,6 раза).

**Спецыялізацыя прамысловасці.** У сувязі з адсутнасцю неабходнай сыравіны ў Беларусі марудна развівалася цяжкая прамысловасць. Пераважнае значэнне тут атрымалі галіны вытворчасці, звязаныя з перапрацоўкай мясцовай сыравіны. Сярод іх вядучая роля належала вінакурэнню і лясной прамысловасці.

Беларусь была адным з галоўных раёнаў вінакурэння ў Расіі: у 1890 г. тут дзейнічала 18 % ад усёй колькасці вінакурных заводаў імперыі. У 1900 г. на вінакурных заводах Беларусі працавала 470 паравых рухавікоў, валавая прадукцыя складала 23,5 % ад усёй прадукцыі беларускай прамысловасці.

Адно з важных месцаў у прамысловасці Беларусі займалі прадпрыемствы па перапрацоўцы драўніны — асноўнага багацця краю. Асаблівае значэнне мелі лесапільныя заводы. Лесапільная прамысловасць стаяла на другім месцы пасля вінакурэння, аднак у ёй пераважалі дробныя прадпрыемствы, на якіх працавала да 20 чалавек. Фабрычна-заводскія прадпрыемствы сталі дамінаваць у гэтай галіне прамысловасці толькі ў 1890-я гг.

Значнае развіццё ў беларускіх губернях атрымала запалкавая і папярова-кардонная вытворчасць. Напрыклад, у Мінскай гу-



*Добрушская папяровая фабрыка. Канец XIX — пачатак XX ст.*

берні ў 1900 г. дзейнічалі чатыры запалкавыя фабрыкі: Барысаўская (759 рабочых), Мазырская (616), Пінская (590) і Койданаўская (208 чалавек). Па колькасці рабочых гэтыя фабрыкі былі найбуйнейшыя ў губерні.

Папярова-кардонная прамысловасць была сканцэнтравана галоўным чынам у Магілёўскай і Віцебскай губернях.

Сярод папяровых фабрык найбуйнейшай з'яўлялася Добрушская (900 рабочых, гадавая сума вытворчасці 1,6 млн рублёў). У Гродзенскай губерні пераважалі гільзавыя і пераплётныя прадпрыемствы. Найбольш буйныя гільзавыя фабрыкі дзейнічалі ў Брэсце.

На тэрыторыі Беларусі было вельмі шмат прадпрыемстваў, звязаных з перапрацоўкай сельскагаспадарчай сыравіны: мукамольна-крупяных, крухмальна-патачных, маслабойных, піваварных, тэкстыльных, ільно- і пенькаапрацоўчых, гарбарных. Асноўная колькасць крухмальна-патачных і маслабойных прадпрыемстваў краю ў канцы XIX ст. заставалася на стадыі дробнатаварнай вытворчасці і мануфактуры. Але ў мукамольна-крупяной прамысловасці ў 1900 г. 93,1 % ад усёй колькасці прадпрыемстваў складалі фабрыкі.

Колькасць тэкстыльных фабрык у канцы XIX ст. дасягнула 24, на іх было занята звыш 1800 рабочых. Найбольш значнымі ў гэтай галіне прамысловасці з'яўляліся льнопрадзільная фабрыка «Дзвіна» ў Віцебску, суконная фабрыка ў маёнтку Парэчча Пінскага павета.

У гарбарнай вытворчасці пераважалі дробныя прадпрыемствы, дзе выкарыстоўвалася ручная праца. Адносна буйныя прадпрыемствы ў гэтай галіне пачалі ўзнікаць у 1880-я гг. Найбуйнейшым цэнтрам гарбарнай вытворчасці з'яўлялася Смаргонь. У 1900 г. тут працавалі некалькі буйных заводаў і да 50 мануфактур. Сыравіна сюды прывозілася з Растова.

На прывазной сыравіне працавала і тытунёвая прамысловасць Беларусі. Тытунёвае лісце завозілася галоўным чынам з поўдня Расіі, часткова з-за мяжы, а прадукцыя збывалася па ўсёй Расіі і ў Польшчы. Найбуйнейшай была Гродзенская тытунёвая фабрыка, заснаваная ў 1862 г. У 1900 г. на ёй працавалі 1445 рабочых, а аб'ём прадукцыі складаў 2,4 млн рублёў.

Хуткі рост гарадоў і прамысловае будаўніцтва выклікалі патрэбу ў вялікай колькасці будаўнічых матэрыялаў. У першую чаргу ў Беларусі атрымала развіццё вытворчасць цэглы. Даволі буйнымі памерамі вызначаліся цагельныя заводы ў маёнтку Івацэвічы Слонімскага павета, у Бабруйску і Мінску. Існавалі таксама прадпрыемствы па вытворчасці кафлі і шклозаводы.

Адсутнасць дастатковай колькасці мясцовай сыравіны стрымлівала развіццё металаапрацоўчай прамысловасці ў Беларусі. У канцы 1870-х гг. зачыніліся заводы, якія выкарыстоўвалі мясцовую балотную руду. У 1880-я гг. сярэднія па велічыні металаапрацоўчыя прадпрыемствы дзейнічалі ў Ракаве (выраб малатарняў, веялак, барон, плугоў, запашнікаў) і Мінску (вытворчасць сельскагаспадарчых прылад, абсталявання для вінакурных, лесапільных, гарбарных, шкляных заводаў). У 1897 г. у Мінску былі заснаваны яшчэ два прадпрыемствы гэтай галіны, якія выпускалі паравыя катлы, турбіны, маслабойкі і інш.

З правядзеннем чыгункі на тэрыторыі Беларусі пачалі працаваць майстэрні па рамонце рухомага саставу. У 1900 г. дзейнічала ўжо 19 такіх майстэрняў. Аднак удзельная вага металаапрацоўчых прадпрыемстваў ва ўсёй прамысловасці Беларусі ў 1890-я гг. не перавышала 3 %.




*Развіццё сеткі чыгунак у Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст.*

**Будаўніцтва чыгунак. Водны транспарт.** Значнаму паскарэнню тэмпаў прамысловага развіцця Беларусі спрыяла стварэнне шчыльнай сеткі чыгуначных дарог. Першай праз тэрыторыю Беларусі прайшла ў 1862 г. *Пецярбургска-Варшаўская чыгунка* (праз Гродна). У 1866 г. пачала дзейнічаць *Рыга-Арлоўская чыгунка* (на тэрыторыі Беларусі ўключала ўчастак Дзвінск — Полацк — Віцебск), у 1871 г. — *Маскоўска-Брэсцкая* (Смаленск — Орша — Баранавічы — Брэст), у 1871—1874 гг. — *Лібава-Роменская* (Вільня — Маладзечна — Мінск — Асіповічы — Бабруйск — Жлобін). У 1880-я гг. былі пабудаваны *Палескія чыгункі* (Вільня — Баранавічы — Лунінец, Гомель — Лунінец — Пінск — Жабінка, Баранавічы — Слонім — Ваўкавыск — Беласток). У 1902 г. адкрыўся чыгуначны ўчастак Віцебск — Орша — Магілёў —

Жлобін. Увогуле даўжыня чыгуначнай сеткі ў Беларусі з 1867 да 1904 г. вырасла ў 12 разоў. Чыгункі звязалі Беларусь з галоўнымі індустрыяльнымі цэнтрамі Расійскай імперыі: Пецярбургам, Масквой, Кіевам, Варшавай, прыбалтыйскімі партамі.

Важную ролю ў эканоміцы Беларусі адыгрываў рачны транспарт. Водныя шляхі праходзілі па Прыпяці, Бярэзіне, Сажы. Водны транспарт у 1900 г. налічваў 310 непаравых і 23 паравыя судны.

**Гандаль.** Будаўніцтва чыгунак паскорыла развіццё ўнутранага і знешняга гандлю. Хутка павялічваўся экспарт на рускі і замежны рынак прадукцыі сельскагаспадарчай вытворчасці: масла, хлеба, яек, сыру, мяса птушкі, садавіны. Прычым значна паменшыўся экспарт жывой жывёлы і рэзка павялічыўся вываз прадуктаў жывёлагадоўлі. Спірт вывозіўся ў Пецярбург, Маскву, Цвер, Кіеў, Растоў-на-Доне, Адэсу, Крамянчуг, а таксама за мяжу.

За мяжу пастаўляліся і тавары лесаперапрацоўчай, шкляной, керамічнай і іншых галін прамысловасці. Галоўнымі экспартнымі таварамі ў Беларусі былі лес і лён. На долю Беларусі прыходзілася 54,1 % ад усяго аб'ёму агульнарасійскага экспарту лесу ў Германію. Прадукцыя запалкавых фабрык вывозілася ў Ромны, Харкаў, Баку, Кішынёў, Уладзікаўказ, Варшаву; папера і кардон — у Кіеў, Екацярынаслаў, Харкаў, Вязьму, Беласток, Рыгу. Вырабы шкляной і керамічнай прамысловасці збываліся ў Маскву, Кіеў, Адэсу.

З развіццём транспарту ў Беларусі хутка памяншалася роля кірмашовага гандлю, усё большае значэнне набываў крамны і магазінны гандаль. Гэта сведчыла аб тым, што рынačныя сувязі беларускіх гарадоў і вёсак, а таксама Беларусі з іншымі часткамі імперыі станавіліся ўсё больш трывалымі.

**Урбанізацыя.** Развіццё прамысловасці і чыгуначнай сеткі садзейнічала росту гарадоў Беларусі. У 1897 г. у іх пражывала 648 тыс. чалавек, або 9,8 % ад усяго насельніцтва беларускіх губерняў. Па тэмпах росту гарадскога насельніцтва беларускія гарады адставалі ад гарадоў еўрапейскай часткі Расіі. Прычынамі былі адносна слабае развіццё прамысловасці і штучная канцэнтрацыя ў гарадах Беларусі яўрэйскага насельніцтва, якое стварала значны рэзерв рабочай сілы. Перанаселенасць беларускіх гарадоў стрымлівала прыток у іх пралетарызаванага і буржуазнага сельскага насельніцтва. Тым не менш насельніцтва гарадоў Беларусі павя-

лічвалася. У канцы XIX ст. найбольш буйнымі гарадамі краю былі Мінск (90,9 тыс. жыхароў) і Віцебск (65,9 тыс. жыхароў). Насельніцтва астатніх гарадоў складала менш за 50 тыс. чалавек.

У гарадах Беларусі выраблялася толькі каля 31 % прамысловай прадукцыі. Пераважная колькасць прадпрыемстваў размяшчалася ў мястэчках і маёнтках. Некаторыя мястэчкі ператварыліся ў прыкметныя прамысловыя цэнтры рэгіянальнага значэння (Смаргонь, Дуброўна і інш.). У канцы XIX ст. у мястэчках Беларусі налічвалася 679 тыс. жыхароў.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Назавіце асаблівасці прамысловага развіцця Беларусі ў другой палове XIX ст.
2. Ахарактарызуйце галіновую структуру прамысловасці Беларусі ў другой палове XIX ст.
3. Якія змены адбыліся ва ўнутраным і знешнім гандлі Беларусі ў другой палове XIX ст.?
4. Назавіце асаблівасці працэсу урбанізацыі ў Беларусі. З якімі з'явамі ў эканоміцы быў звязаны рост гарадоў?

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Складзіце тэзісны план адказу па тэме «Асаблівасці прамысловай рэвалюцыі ў беларускіх губернях у другой палове XIX ст.».
2. Падрыхтуйце паведамленне аб прамысловым развіцці вашага краю ў другой палове XIX ст.

## § 10. РАЗВІЦЦЁ КАПІТАЛІЗМУ І ФАРМІРАВАННЕ КЛАСАЎ ІНДУСТРЫЯЛЬНАГА ГРАМАДСТВА Ў БЕЛАРУСІ Ў ПАЧАТКУ XX ст.

**Успомніце.** 1. Што такое рэформа? 2. Якія буржуазныя рэформы былі праведзены ў беларускіх губернях у 1860—1870-я гг.? 3. У чым заключаліся асаблівасці правядзення буржуазных рэформаў 1860—1870-х гг. у Беларусі? Чым яны былі абумоўлены?

**Сталыпінская аграрная рэформа.** Рэвалюцыя 1905—1907 гг. паказала асаблівую вастрыню ў Расіі аграрнага пытання і як вынік — адсутнасць дастатковай сацыяльнай падтрымкі самадзяр-



*П. А. Сталыпін*

жаўя з боку сялянства. Вырашыць гэтыя праблемы павінна была *сталыпінская аграрная рэформа*, названая па прозвішчы П. А. Сталыпіна — старшыні Савета Міністраў і ініцыятара пераўтварэнняў у сельскай гаспадарцы. Рэформа мела на мэце разбурэнне сельскай абшчыны і стварэнне ў вёсцы шырокай праслойкі эканамічна самастойных заможных сялян.

У адпаведнасці з указам ад **9 лістапада 1906 г.** кожны селянін мог выйсці з абшчыны і атрымаць зямлю, якой карыстаўся, у асабістую ўласнасць, прычым на асобным участку — *хутары* ці *водрубе*. Так знішчалася сялянская абшчына і абшчыннае землеўладанне, разбураліся населеныя пункты, а разам з імі — традыцыйны лад жыцця сельскіх жыхароў і калектывісцкая традыцыя ўсходнеславянскай вёскі. Селяніну патрэбна было разабраць і перавезці на хутар хату, гумно, хлеў, свіран і іншыя гаспадарчыя пабудовы, скласці іх на новым месцы. Многія пабудовы былі настолькі спарахнелымі, што проста рассыпаліся, а на новыя не было грошай. На хутары трэба было выкапаць студню, падвесці дарогу, выканаць іншыя гаспадарчыя работы. Сродкаў для гэтага ў большасці сялян не было. Узяць грошы ў банку яны таксама не маглі, бо не мелі чым потым разлічвацца за крэдыт.

Зямля на палях вакол вёскі адрознівалася па якасці, і кожны хацеў атрымаць хутар на тым полі, дзе зямля была больш ураджайнай. Таму селяніну даводзілася дагаджаць мясцовым чыноўнікам, землеўпарадчыкам і землямерам, даючы ім хабар. На гэта таксама ў большасці не было грошай.

Замацаваўшы былую абшчынную зямлю ў прыватную ўласнасць, селянін мог атрымаць яе і ў выглядзе водруба. У гэтым выпадку сядзібныя і гаспадарчыя пабудовы было неабавязкова пераносіць у поле, на месца знаходжання водруба. Можна было працягваць жыць у вёсцы. Але тут узнікалі цяжкасці, звязаныя з якасцю зямлі водруба, яго аддаленасцю ад вёскі, адсутнасцю дарогі для пад'езду і інш.

Матэрыяльнай і фінансавай падтрымкі з боку дзяржавы пры перасяленні на хутары і пры карыстанні зямлёй у выглядзе адру-

боў сялянства не атрымлівала. Нязначныя сродкі, выдзеленыя на гэтыя мэты, былі раскрадзены чыноўніцтвам. Хутарызацыя ажыццяўлялася за кошт саміх збяднелых сялян.

У сувязі з гэтым вялікай актыўнасці ў перасяленні на хутары сялянства ў Беларусі не назіралася. У 1907—1914 гг. у пяці заходніх губернях толькі 12 % ад усіх сялянскіх двароў стварылі хутарскія і водрубныя гаспадаркі. Астатнія сялянскія двары праігнаравалі сталыпінскую хутарызацыю.

Ахвотна выходзілі з абшчыны сяляне-беднякі, якія праз немагчымасць весці гаспадарку прадавалі свой надзел і пераходзілі ў стан батракоў ці перасяляліся ў гарады. З 1907 да 1914 г. у беларускіх губернях прадалі зямлю гаспадары 35,8 % усіх хутарскіх і водрубных двароў. Сяляне-беднякі ператвараліся ў сельскагаспадарчых рабочых, пралетарыяў.

Актыўна высяляліся на хутары заможныя сяляне. Яны куплялі за бясцэнак зямлю беднякоў, а таксама землі памешчыкаў, чыноўнікаў і афіцэраў, павялічвалі памеры сваіх гаспадарак і ператвараліся ў сельскую буржуазію. Калі да рэформы сяляне, у валоданні якіх было ад 15 да 25 дзесяцін зямлі, складалі толькі 8,1 %, то ў выніку рэформы іх колькасць павялічылася да 37,3 %.

Сталыпінская аграрная рэформа ўключала ў сябе таксама *перасяленне сялян з еўрапейскай часткі Расіі*, дзе зямлі не хапала, у Сібір і на Далёкі Усход, на Паўночны Каўказ і ў Сярэднюю Азію. З 1907 па 1914 г. з Беларусі перасяліліся 335 тыс. бедных сялян. Але дапамога ўрада перасяленцам была нязначнай, і многія з іх (каля 11 %) вярнуліся канчаткова збяднелымі.

Адначасова ў заходніх губернях стымуляваліся рускія пасяленцы. За кошт казённых зямель для іх быў створаны спецыяльны фонд. Важным сродкам ажыццяўлення новай аграрнай палітыкі па стварэнні хутароў і адрубоў стала дзейнасць Сялянскага пазямельнага банка, які выдаваў крэдыты для куплі зямлі.

Такім чынам, сталыпінская аграрная рэформа садзейнічала *капіталізацыі аграрнага сектара расійскай эканомікі*, колькаснаму росту сельскай буржуазіі і сельскага пралетарыяту, канцэнтрацыі вялікіх зямельных масіваў у руках заможнага сялянства, якое станавілася галоўнай сацыяльнай апорай самадзяржаўя ў вёсцы. У 1914 г. заможных сялян у Беларусі стала 12 %, а беднякоў — 68 %.

Разам з тым спробы разбурыць абшчыну і выселіць сялян на хутары, знішчыць традыцыйны лад жыцця і калектывісцкую традыцыю ўсходнеславянскай вёскі пры захаванні памешчыцкага землеўладання поспеху не мелі. У лістападзе 1915 г. расійскі ўрад прыняў закон аб спыненні на час вайны звязаных з хутарызацыяй землеўпарадкавальных работ, якія заўсёды выклікалі супраціўленне з боку сялян.

**Земская рэформа ў Беларусі.** У дадатак да аграрных пераўтварэнняў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях з **27 сакавіка 1911 г.** ствараліся *земскія ўстановы*. Уводзячы земствы, П. А. Сталыпін імкнуўся прыцягнуць заможнае сялянства да правядзення зямельнай рэформы, абаперціся на сельскую буржуазію і павялічыць яе палітычную ролю ў сістэме мясцовага кіравання. Выбары ў земскія ўстановы ажыццяўляліся па «рускай» і «польскай» курыях з дастаткова невысокім маёмасным цэнзам, прычым праваслаўных сялян залічвалі ў «рускую» курыю, а каталікаў — у «польскую». Адначасова гэта павінна было аслабіць у краі палітычны ўплыў памешчыкаў каталіцкага веравызнання, якія эканамічна былі значна мацнейшыя за рускіх памешчыкаў.

Увядзенне земскіх устаноў садзейнічала развіццю мясцовай гаспадаркі, стварэнню кааператыўных таварыстваў, сельскагаспадарчых гурткоў, дзейнасць якіх скіроўвалася на павышэнне культуры земляробства і жывёлагадоўлі. Земствы шмат зрабілі для развіцця адукацыі і аховы здароўя насельніцтва. Аднак у Беларусі яны не адыгралі настолькі значнай ролі, як у цэнтральных губернях Расіі.

**Асаблівасці індустрыяльнага развіцця.** На мяжы XIX—XX стст. расійскі капіталізм уступіў у новую стадыю свайго развіцця — *імперыялістычную.*

Характэрнай асаблівасцю прамысловага развіцця Беларусі з'явілася стварэнне манапалістычных аб'яднанняў, акцыянерных таварыстваў з удзелам мясцовага, расійскага і замежнага капіталу, якія паступова выцяснялі дробную вытворчасць. Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Беларусі існавала 34 акцыянерныя таварыствы. Ім належалі такія буйныя прадпрыемствы Беларусі, як Віцебская льнопрадзільная фабрыка «Дзвіна» (Руска-бельгійскае акцыянернае таварыства), трамвайная лінія і электрычная станцыя ў Віцебску (Бельгійскае акцыянернае таварыства),

Шклоўская папяровая фабрыка (Рускае акцыянернае таварыства карданажна-папяровай вытворчасці). У гэты час былі створаны і мясцовыя манапалістычныя аб'яднанні: акцыянерныя таварыствы тытунёвай фабрыкі «Нёман» у Гродне, запалкавых фабрык «Прагрэс-Вулкан» у Пінску і «Маланка» ў Мазыры. Аднак у Беларусі ў адрозненне ад іншых рэгіёнаў Расійскай імперыі па-ранейшаму працягвалі адыгрываць вялікую ролю дробныя таварныя прадпрыемствы, якія ў 1913 г. давалі 50 % валавой прадукцыі прамысловасці.

Узрастанне ролі банкаў, зліццё банкаўскага капіталу з прамысловым — яшчэ адна з асаблівасцей эканамічнага развіцця Беларусі на манапалістычнай стадыі капіталізму. Акрамя губернскіх аддзяленняў цэнтральных расійскіх банкаў (Дзяржаўнага, Сялянскага і Дваранскага) у краі дзейнічала шмат камерцыйных банкаў: Мінскі, Магілёўскі, а таксама губернскія і павятовыя аддзяленні Руска-Азіяцкага, Азова-Данскога, Руска-Французскага, Віленскага і Беластоцкага банкаў. У рознічным тавараабароце пераважаў прыватнакапіталістычны гандаль, які ў 1913 г. складаў 78,9 %.

У выніку развіцця прамысловасці, транспарту, гандлю ў Беларусі паскорыўся рост гарадоў, якія ператвараліся ў фабрычна-заводскія і гандлёвыя цэнтры. За паўстагоддзя (1863—1913) колькасць гарадскіх жыхароў Беларусі павялічылася ў 2,8 раза (з 350,8 да 983,3 тыс. чалавек). У 1913 г. самым вялікім горадам быў Мінск, другім па значэнні — Віцебск, трэцім — Гродна. Буйнымі гарадамі з'яўляліся Пінск, Гомель, Магілёў, Бабруйск, Барысаў, Рэчыца.

Уваходжанне тэрыторыі Беларусі ў «мяжу яўрэйскай аселасці» прывяло да таго, што па сваім нацыянальным складзе гарады Беларусі не былі беларускімі. Паводле даных перапісу 1897 г., большую частку гараджан Беларусі складалі яўрэі — 53,5 %, каля 18 % — рускія, а ўдзельная вага беларусаў не перавышала 17 %.

Развіццё капіталізму ў Беларусі прывяло да змен у сацыяльным складзе насельніцтва. Адбываўся паступовы пераход ад падзелу грамадства на шматлікія саслоўі, што было характэрна для эпохі феадалізму, да класавай структуры буржуазнага грамадства, у якім вядучая роля належала *пралетарыяту* і *буржуазіі*. Гандлёва-прамысловая буржуазія фарміравалася з асяроддзя па-

мешчыкаў, купцоў, мяшчан, заможных рамеснікаў. У яе нацыянальным складзе пераважалі яўрэі — 84,5 %, рускіх было 10,7 %, а беларусаў — толькі 1,7 %. Беларусы складалі аснову аграрнай буржуазіі. Клас наёмных рабочых уключаў збяднелых сялян, рамеснікаў, мяшчан, дробных гандляроў. Беларусаў тут было 17 %, рускіх — 10 %, палякаў — 10,2 % і яўрэяў — 60 %. Рускія пераважалі на чыгуначным транспарце і ў чыгуначных майстэрнях, беларусы — на рамонце чыгуначных і шашэйных дарог, на прамысловых прадпрыемствах у сельскай мясцовасці. Яўрэі складалі асноўную масу рабочых у дробнай і рамеснай вытворчасці.

Паступовая капіталізацыя аграрных адносін у вёсцы з'яўлялася яшчэ адной асаблівасцю сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на манапалістычнай стадыі капіталізму. У першае дзесяцігоддзе XX ст. Беларусь па-ранейшаму заставалася адным з аграрных рэгіёнаў Расіі. У 1913 г. яе сельская гаспадарка давала 56,9 % нацыянальнага даходу, а прамысловасць — толькі 15 %. Пад уплывам попыту рынку сельская гаспадарка Беларусі ўсё больш уцягвалася ў гандлёва-эканамічныя адносіны, больш выразна выяўлялася яе спецыялізацыя на вытворчасці малака, малочнай прадукцыі і мяса. Хутка пашыраліся плошчы пад тэхнічныя і кармавыя культуры, асабліва бульбу і травы. Адбываўся пераход ад трохпольнай да шматпольнай сістэмы земляробства. Да 1913 г. істотна пашырылася выкарыстанне сельскагаспадарчай тэхнікі (малатарняў, веялак, сеялак, жняярак, сенакасілак) у памешчыцкіх гаспадарках і ў заможных сялян. У Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губернях значную ролю ў павышэнні культуры земляробства і жывёлагадоўлі адыгрывалі земствы. Яны арганізоўвалі агранамічныя, заатэхнічныя і ветэрынарныя службы, садзейнічалі продажу і пракату сельскагаспадарчай тэхнікі.

У пачатку XX ст. паскорыўся працэс распаду феадальнай і фарміравання буржуазнай зямельнай уласнасці. Да 1914 г. дваранскае землеўладанне ў беларускіх губернях зменшылася на 12,7 %, пры гэтым $^2/_3$ памешчыцкіх зямель былі закладзены ў банках. Дваране, чыноўнікі, афіцэры часта прадавалі зямлю заможным сялянам, купцам, мяшчанам. На паскарэнне працэсаў куплі-продажу зямлі была скіравана і сталыпінская аграрная рэформа.

Працэс капіталізацыі аграрных адносін у беларускай вёсцы працягваўся.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Назавіце мэты сталыпінскай аграрнай рэформы. З якіх мерапрыемстваў яна складалася?
2. Калі і з якімі мэтамі была праведзена земская рэформа ў Беларусі?
3. Якія манапалістычныя аб'яднанні былі створаны на тэрыторыі Беларусі ў пачатку XX ст.?
4. Якія змены адбываліся ў сацыяльным складзе насельніцтва Беларусі ў пачатку XX ст.?
5. Ахарактарызуйце шляхі фарміравання і нацыянальны склад класаў пралетарыяту і буржуазіі ў Беларусі.
6. Дайце азначэнні паняццяў: *хутар, водруб, земства*.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Прааналізуйце наступныя гістарычныя падзеі паводле плана (прычыны, сутнасць, наступствы):
   а) сталыпінская аграрная рэформа;
   б) земская рэформа ў Беларусі.
2. Растлумачце тэзіс: «Сталыпінская аграрная рэформа садзейнічала капіталізацыі аграрнага сектара расійскай эканомікі».
3. Вызначце асаблівасці манапалістычнай стадыі капіталізму ў эканоміцы Беларусі. Складзіце тэзісны план адказу.
4. Ахарактарызуйце прыкметы капіталізму ў сельскай гаспадарцы Беларусі ў першым дзесяцігоддзі XX ст.

## § 11—12. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ РУХ У БЕЛАРУСІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

**Успомніце.** 1. Якімі былі мэты, формы і вынікі грамадска-палітычнага руху ў Беларусі ў першай палове XIX ст.? 2. Хто такія народнікі? Якімі былі іх мэты? 3. Што такое марксізм, сацыял-дэмакратыя?

**Паўстанне 1863—1864 гг.** У шматнацыянальных заходніх губернях Расійскай імперыі заставалася вострым польскае пытанне. Польскі патрыятычны лагер складаўся з дэмакратаў, ці *«чырвоных»*, якія выступалі за паўстанне, і лібералаў, ці *«белых»*, — прыхільнікаў мірных сродкаў барацьбы. Сярод «чырвоных» не было адзінства ў поглядах на метады дасягнення сваіх мэт. Яны

падзяляліся на *правых* (памяркоўнае крыло) і *левых* (прадстаўнікі рэвалюцыйна-дэмакратычных колаў).

Першыя рабілі стаўку на шляхту і асцерагаліся шырокага сялянскага руху. Яны прызнавалі роўнасць нацыянальных правоў беларусаў, літоўцаў, украінцаў з палякамі, але выступалі за адзіную незалежную Польшчу ў межах 1772 г. Правыя прадугледжвалі надзяленне сялян зямлёй за кошт яе частковай канфіскацыі ў памешчыкаў пры абавязковай грашовай кампенсацыі.

Левыя разлічвалі на сялянскую рэвалюцыю. Поспех паўстання, на іх думку, быў гарантаваны толькі ў саюзе і адзінстве дзеянняў з расійскімі рэвалюцыянерамі. Аграрнае пытанне планавалася вырашыць шляхам ліквідацыі памешчыцкага землеўладання.

Праціўнікаў паўстання называлі *«белымі»*. Гэта былі пераважна памешчыкі, сярэдняя буржуазія, частка інтэлігенцыі. «Белыя» не жадалі ніякіх сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў, катэгарычна адмаўлялі права на нацыянальна-палітычнае самавызначэнне літоўцаў, украінцаў і беларусаў. Яны хацелі дабіцца аднаўлення Польшчы ў межах 1772 г., выкарыстоўваючы націск заходнееўрапейскіх краін на расійскія ўлады.

Паўстанне рыхтавалася пад кіраўніцтвам варшаўскага *Цэнтральнага нацыянальнага камітэта (ЦНК)*. З мэтай падрыхтоўкі паўстання ў Беларусі і Літве ўлетку 1862 г. у Вільні быў створаны *Літоўскі правінцыяльны камітэт (ЛПК)*, які падначальваўся ЦНК.

Левых у Беларусі ўзначальваў *К. Каліноўскі* (1838—1864). У 1861 г. разам з В. Врублеўскім ён стварыў у Гродне нелегальную рэвалюцыйную арганізацыю, якая аб'ядноўвала прадстаўнікоў інтэлігенцыі і мела сувязі з арганізацыямі Вільні, Масквы, Пецярбурга. У **1862—1863 гг.** К. Каліноўскі разам з паплечнікамі выдаў сем нумароў падпольнай рэвалюцыйнай пракламацыі на беларускай мове пад агульнай назвай «Мужыцкая праўда» (друкавалася лацінкай). У гістарычнай літаратуры гэтыя пракламацыі атрымалі назву «газеты», але на самай справе «Мужыцкая праўда» не мела ніякіх прыкмет газеты і нічым не адрознівалася ад іншых пракламацый, якія распаўсюджваліся ў гэты час у Расійскай імперыі. «Мужыцкая праўда» прапагандавала рэвалюцыйна-дэмакратычныя ідэі, выкрывала прыгонніцкі характар рэформы 1861 г., заклікала беларускі народ да ўзброенай барацьбы супраць самадзяр-

N 2.

MUŻYCKAJA PRAUDA.

Dzieciuki!

Kali Boh stworyu usich ludziej wolnymi i usim dan adzinakuju duszu, tak skul że heto uziało sia szto adzin marnuje da i nad ludźmi zbytkuje, a druhi biedny pańszczynu służyć, albo abroki u kaznu płacić?

Kożny pa swojemu tałkuje, na swaju storonu ciahnie. Car każe szto jon dobre nam dumaje, a pany każuć szto jony dobre dumajuć nam zrabici, a mużyk biedny ad ich dabrości jak prapadau tak i prapadaje.

Kab raztałkawać ludziam u czom prauda ja piszu pismo, a pisaci budu jak Boh i sumlenie każe — wy adno mienie, takoho samaho mużyka jak i wy, pasłuchajcie dobre.

*Фрагмент «Мужыцкай праўды»*

жаўя і паноў, ідэалізавала мінулае беларускага народа, паказвала агульнае ў жыцці і марах беларускага і польскага сялянства, заклікала беларускіх сялян падтрымаць польскі нацыянальна-вызваленчы рух. К. Каліноўскі лічыў нацыянальнай рэлігіяй беларускага народа уніяцтва, якое проціпастаўляў «рускай веры» — праваслаўю. Таму «Мужыцкая праўда» брала пад абарону уніяцкую царкву і заклікала беларусаў да процістаяння праваслаўю.

У **студзені 1863 г.** ЦНК абвясціў сябе *Часовым нацыянальным урадам* і заклікаў паўстанцкія атрады да нападу на рускія войскі ў правінцыяльных гарнізонах. У маніфесце і двух аграрных дэкрэтах Часовага нацыянальнага ўрада была выкладзена праграма паўстання. Польшча абвяшчалася незалежнай краінай з роўнымі правамі перад законам усіх яе грамадзян. Планавалася аднавіць уніяцкую царкву. Сялянам абяцалі перадаць іх зямельныя надзелы ў поўнае ўладанне, а памешчыкам — выплаціць кампенсацыю з дзяржаўнай казны. Пасля перамогі планавалася надзяліць зямлёй беззямельных удзельнікаў паўстання. Спецыяльны зварот да насельніцтва Беларусі і Літвы заклікаў падтрымаць паўстанне ў Польшчы, але не ўздымаў пытання аб нацыянальна-палітычным самавызначэнні гэтых тэрыторый.

ЛПК быў абвешчаны *Часовым правінцыяльным урадам Літвы і Беларусі*. Яго ўзначальваў К. Каліноўскі. 1 лютага 1863 г. Часовы ўрад звярнуўся да насельніцтва Беларусі і Літвы з маніфестам, у якім заклікаў далучыцца да паўстання. Каб не парушаць адзінства дзеянняў, ЛПК вымушаны быў ухваліць у сваім маніфесце і праграму паўстання, прынятую ў Варшаве.



*К. Каліноўскі сярод паўстанцаў 1863 г. Мастак П. Сергіевіч*

У студзені — лютым 1863 г. у Беларусі з'явіліся першыя паўстанцкія атрады, якія прыйшлі з Польшчы. Мясцовыя атрады пачалі фарміравацца ў сакавіку — красавіку. Яны складаліся з дробнай шляхты, афіцэраў, рамеснікаў, студэнтаў, гімназістаў старэйшых класаў, сялян. Адзінага плана баявых дзеянняў у паўстанцаў не было. Ім не ўдалося авалодаць якімі-небудзь значнымі стратэгічнымі пунктамі. Толькі атрад Л. Звяждоўскага пры падтрымцы студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута ў красавіку 1863 г. на кароткі тэрмін здолеў захапіць павятовы горад Горкі (Магілёўская губерня).

Паўстанне 1863—1864 гг. адбывалася ва ўмовах правядзення аграрнай рэформы ў Расіі, таму К. Каліноўскі і яго паплечнікі імкнуліся прыцягнуць да ўдзелу ў паўстанні як мага больш сялян. Але планы рэвалюцыянераў не ажыццявіліся. Сярод паўстанцаў было няшмат сялян, асабліва ва ўсходніх губернях Беларусі: у Віцебскай — 7 %, Магілёўскай — 13 %, Мінскай — 20 %. Толькі ў Віленскай і Гродзенскай губернях сяляне складалі больш за чвэрць паўстанцаў — адпаведна 27 % і 33 %. Для сялян Беларусі лозунгі Варшаўскага ЦНК аб адраджэнні Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. былі непрывабныя. Не магла іх задаволіць і вельмі абмежаваная аграрная праграма паўстанцаў.

Значнай перашкодай пашырэнню паўстання з'явілася далучэнне да паўстанцаў «белых», якія паступова нават узначалілі яго. «Белыя» жадалі толькі пратрымацца некаторы час і ўсяляк перашкаджалі ператварэнню баявых дзеянняў асобных паўстанцкіх атрадаў у народную сялянскую вайну. Але спадзяванні «белых» на падтрымку Англіі і Францыі не спраўдзіліся. Гэтыя дзяржавы не жадалі і не мелі неабходных сіл, каб ваяваць з Расіяй, а іх дыпламатычныя захады Пецярбург рашуча адхіліў. Ужо ў маі 1863 г. паўстанне ў Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях было задушана, а летам рускае камандаванне накіравала буйныя вайсковыя сілы ў Польшчу.


*М. М. Мураўёў*

Расійскія ўлады дасягнулі поспеху ў барацьбе з паўстанцамі не толькі дзякуючы вайсковай сіле. У маі 1863 г. віленскім генерал-губернатарам быў прызначаны М. М. Мураўёў. Генерал-губернатар паставіў мэту знайсці тыя мясцовыя слаі грамадства, на якія рускія ўлады маглі б абаперціся. Перш за ўсё гэта было беларускае сялянства. Мураўёў дамогся правядзення сялянскай рэформы 1861 г. на больш спрыяльных умовах, чым у іншых рэгіёнах Расійскай імперыі. Было ліквідавана часоваабавязанае становішча сялян і ўведзены абавязковы выкуп сялянскіх надзелаў. Цалкам вярталася зямля, адабраная з 1857 г. («адрэзкі»), на 20 % былі зменшаны выкупныя плацяжы. Беззямельныя сяляне надзяляліся трыма дзесяцінамі зямлі. Да таго ж сялянам перадавалася зямля ўдзельнікаў паўстання. Мураўёў абавязаў сельскія таварыствы наглядаць за мясцовай шляхтай, арганізаваў спецыяльныя сялянскія каравулы, якія павінны былі весці барацьбу з паўстанцамі, разгарнуў шырокую антыпаўстанцкую і антыпольскую агітацыю.

Новы віленскі генерал-губернатар зрабіў захады для замены польскіх чыноўнікаў рускімі (праваслаўнымі), зачыняў каталіцкія кляштары і касцёлы, спрабаваў узмацніць значэнне праваслаўнага духавенства і палепшыць яго матэрыяльнае становішча. У навучальных і грамадскіх установах была ўведзена руская мова як абавязковая, забаронена выкладанне польскай мовы ў сельскіх школах, зачыняліся польскія бібліятэкі.

28 жніўня 1863 г. польскі Нацыянальны ўрад загадаў спыніць ваенныя дзеянні. У верасні 1863 г. узброеныя паўстанцкія атрады ў заходніх губернях Беларусі і Літве былі разбіты, а летам 1864 г. ліквідавана апошняя рэвалюцыйная арганізацыя ў Навагрудскім павеце. У Польшчы некаторыя паўстанцкія атрады дзейнічалі аж да **восені 1864 г.**

К. Каліноўскі быў арыштаваны ў лютым 1864 г. і 22 сакавіка таго ж года павешаны ў Вільні. За ўдзел у паўстанні былі пакараны смерцю 128 чалавек, сасланы на катаргу 853, выселены каля 12,5 тыс., у тым ліку 504 — у Сібір.

Паўстанне 1863—1864 гг. насіла *нацыянальна-вызваленчы характар*. Яго галоўнай мэтай было нацыянальна-дзяржаўнае адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Арыентацыя шляхецкага кіраўніцтва паўстання на рэалізацыю *пераважна польскіх дзяржаўных і сацыяльна-культурных інтарэсаў* не спрыяла далучэнню да паўстання шырокіх колаў беларускага і літоўскага насельніцтва. Аднак пад ціскам паўстання расійскія ўлады былі вымушаны пайсці на значнае змякчэнне ўмоў сялянскай рэформы 1861 г. у беларускіх і літоўскіх губернях. Сяляне Беларусі апынуліся ў больш выгадным эканамічным і прававым становішчы, чым сяляне іншых губерняў Расіі. Паўстанне дало штуршок развіццю беларускага нацыянальнага руху.

Разам з тым паўстанне мела і адмоўныя вынікі. Так, у 1860—1870-х гг. у Беларусі не была праведзена земская рэформа. Са значным спазненнем і істотнымі адступленнямі ад агульнарасійскіх прынцыпаў ажыццяўляліся судовая і гарадская рэформы. Да канца 1860-х гг. у краі захоўвалася ваеннае становішча.

**Сялянскі рух і народніцкія арганізацыі ў Беларусі.** Пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. у Беларусі адзначаўся рэзкі спад сялянскіх выступленняў. На працягу наступных 40 гадоў сялянскі рух не дасягаў узроўню, які назіраўся ў час падрыхтоўкі і правядзення рэформы 1861 г. Калі ў 1861 г. адбылося 379 сялянскіх хваляванняў, то ў 1864—1880 гг. іх рэгістравалася ў сярэднім толькі 8—10 штогод. Выступленні сялян былі лакальныя і неарганізаваныя.

Арганізаваны рэвалюцыйны рух у Беларусі пачаў адраджацца толькі ў сярэдзіне 1870-х гг. У той час самым радыкальным кірункам апазіцыйнай грамадскай думкі ў Расійскай імперыі стала *на-*

*родніцтва.* Ідэалагічна яно грунтавалася на тэорыі *аграрнага сацыялізму*, якую заснавалі А. І. Герцэн і М. Г. Чарнышэўскі. Народніцтва знайшло падтрымку перш за ўсё сярод прадстаўнікоў разначыннай інтэлігенцыі.

Народніцкі рух у Беларусі быў ідэйна і арганізацыйна звязаны з агульнарасійскім. Сярод вядомых расійскіх народнікаў 1870-х гг. паходзілі з Беларусі *М. К. Судзілоўскі, С. П. Кавалік, І. Я. Грынявіцкі, Р. П. Ісаеў, К. К. Брэшка-Брашкоўская, А. В. Бонч-Асмалоўскі.* У другой палове 1870-х — пачатку 1880-х гг. у многіх гарадах Беларусі дзейнічалі народніцкія гурткі. Іх наведвалі ў першую чаргу навучэнцы, якія пад выглядам самаадукацыі вывучалі забароненую літаратуру. Часам яны спрабавалі весці агітацыю сярод сялян. Магчымасці гэтых гурткоў былі вельмі абмежаваныя. Іх удзельнікі не бачылі асаблівасцей гістарычнага, сацыяльна-эканамічнага і нацыянальнага развіцця краю.

Летам 1879 г. пецярбургская арганізацыя «Зямля і воля» раскалолася на дзве новыя арганізацыі: «Народную волю» і «Чорны перадзел». Большасць народнікаў у Беларусі падтрымала «Чорны перадзел». Яго лідэр Г. В. Пляханаў двойчы прыязджаў у Беларусь (у 1879 і 1880 гг.). У Мінску была арганізавана падпольная друкарня, якая ў 1881 г. выпусціла тры нумары друкаванага органа арганізацыі — газеты «Черный передел», столькі ж нумароў газеты для рабочых «Зерно» і дзве пракламацыі. У 1882 г. «Чорны перадзел» распаўся. Былыя яго прыхільнікі пачалі пераходзіць у «Народную волю». Прадстаўнікі гэтай арганізацыі рабілі стаўку на палітычны тэрор супраць прадстаўнікоў улады. **1 сакавіка 1881 г.**, пасля некалькіх няўдалых спроб, нарадавольцы забілі Аляксандра ІІ. Бомбу ў цара кінуў ураджэнец Мінскай губерні І. Я. Грынявіцкі. Кіраўнікі «Народнай волі» спадзяваліся, што забойства цара з'явіцца сігналам да народнага паўстання ў Расіі. Аднак паўстанне не адбылося, а рэпрэсіі супраць рэвалюцыянераў у хуткім часе прывялі да знішчэння цэнтральных і многіх правінцыяльных арганізацый «Народнай волі».

Нарадавольцы Беларусі спрабавалі аб'яднацца ў адзіную арганізацыю. У пачатку 1882 г. у Вільні была створана *Паўночна-Заходняя арганізацыя «Народнай волі».* Але ў канцы года паліцыі ўдалося раскрыць і арыштаваць членаў яе цэнтральнай групы. У Беларусі працягвалі дзейнічаць толькі асобныя гурткі.

У першай палове 1880-х гг. у Пецярбургу існавалі студэнцкія гурткі нарадавольніцкага і ліберальна-асветніцкага кірункаў, удзельнікамі якіх былі выхадцы з Беларусі. Члены групы *«Гоман»* (А. І. Марчанка, Х. А. Ратнер і інш.) выступілі з ініцыятывай аб'яднання ўсіх народніцкіх гурткоў Беларусі. У **1884 г.** яны выдалі два нумары гектаграфічнага часопіса «Гомон» (на рускай мове). Гоманаўцы аб'явілі сябе Беларускай сацыяльна-рэвалюцыйнай групай. Іх ідэалам была вольная ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту Расія, пабудаваная на аснове федэрацыі раўнапраўных аўтаномных абласцей. Яны мелі сувязі з народніцкімі гурткамі Мінска, Віцебска, Магілёва, але аб'яднаць усіх рэвалюцыйных народнікаў Беларусі ў той час не здолелі.

У другой палове 1880-х — 1890-я гг. асноўным кірункам у народніцтве стаў ліберальны. Ліберальныя народнікі адмовіліся ад рэвалюцыйных метадаў барацьбы і галоўную ўвагу звярнулі на рэфармаванне зямельнага заканадаўства з мэтай павялічыць сялянскае землеўладанне і захаваць абшчыну ў вёсцы. Разам з тым беларускія ліберальныя народнікі цікавіліся гісторыяй і культурай свайго краю, спрыялі развіццю нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

**Рабочы рух і стварэнне сацыял-дэмакратычных арганізацый у Беларусі.** У першыя два дзесяцігоддзі пасля адмены прыгонніцтва выступленняў рабочых у Беларусі было няшмат. У 1870-я гг. іх было зарэгістравана 7, у 1880-я — 10. Толькі ў 1890-я гг. пачаўся ўздым стачачнай барацьбы (адбылося 59 выступленняў, прычым 53 з іх — у другой палове дзесяцігоддзя). Паступова рабочы рух стаў больш арганізаваным і ў канцы XIX ст. вылучыўся ў самастойную плынь.

У гэты ж час ідэалогія народніцтва пачала саступаць месца марксізму. Марксісцкая літаратура карысталася папулярнасцю яшчэ ў гуртках народнікаў. Узнікненне самастойнага *сацыял-дэмакратычнага руху* ў Беларусі звязана з дзейнасцю польскай партыі *«Пралетарыят»* (утварылася ў 1882 г.) і групы *«Вызваленне працы»* (заснавана Г. В. Пляханавым у 1883 г. у Швейцарыі). У другой палове 1880-х — пачатку 1890-х гг. у некаторых гарадах Беларусі з'явіліся гурткі, у якіх вывучалі працы К. Маркса, Ф. Энгельса і іх паслядоўнікаў. Першыя марксісцкія гурткі ў Беларусі былі нешматлікія і амаль не звязаныя з масавым рабочым рухам.

Аднак ужо з сярэдзіны 1890-х гг. пачаўся пераход ад вузкай гуртковай прапаганды марксізму да масавай эканамічнай і палітычнай агітацыі. Так, у Беларусі распаўсюджвалася рукапісная брашура А. І. Крэмера «Аб агітацыі» (1893). Прыблізна з сярэдзіны 1890-х гг. сацыял-дэмакраты пачалі наладжваць прапаганду ідэй сацыялізму ў рабочым асяроддзі.

У другой палове 1890-х гг. сацыял-дэмакраты шматнацыянальных заходніх губерняў стваралі нацыянальныя рабочыя арганізацыі. *Літоўская сацыял-дэмакратычная партыя (ЛСДП)* і *Польская сацыялістычная партыя (ППС)* адмаўлялі ўзаемадзеянне з расійскім пралетарыятам. У **верасні 1897 г.** на з'ездзе яўрэйскіх сацыял-дэмакратычных арганізацый у Вільні ўтварыўся *Бунд — Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз у Расіі і Польшчы* (з 1901 г. — у Літве, Польшчы і Расіі). Яго лідэрамі былі Р. А. Абрамовіч, І. Л. Айзенштат, А. І. Крэмер і інш. Бунд лічыў, што абараніць інтарэсы яўрэйскіх рабочых можа толькі іх нацыянальная арганізацыя. Але з гэтай пазіцыяй пагадзіліся не ўсе рабочыя яўрэйскія арганізацыі. Праціўнікі Бунда стварылі ў Мінску *Рабочую партыю палітычнага вызвалення Расіі (РППВР)*. Яе кіраўнікамі сталі Л. М. Радзівонава-Клячко, Р. А. Гершуні, К. К. Брэшка-Брашкоўская, А. В. Бонч-Асмалоўскі. Гэтая група стаяла на інтэрнацыянальных пазіцыях і схілялася да тэрарыстычных метадаў барацьбы з самадзяржаўем.

**1—3 сакавіка 1898 г.** у Мінску прайшоў з'езд прадстаўнікоў Пецярбургскага, Маскоўскага, Кіеўскага і Екацярынаслаўскага «Саюзаў барацьбы за вызваленне рабочага класа», кіеўскай «Рабочай газеты» і Бунда. З'езд прыняў рашэнне аб аб'яднанні прадстаўленых на ім арганізацый у *Расійскую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю (РСДРП)* і выбраў ЦК партыі. Бунд увайшоў у РСДРП на правах аўтаноміі ў вырашэнні мясцовых спраў.

На тэрыторыі Беларусі ў пачатку XX ст. дзейнічалі невялікія групы *Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы (СДКПіЛ)*. Яе кіраўнікамі былі Ф. Э. Дзяржынскі, С. С. Трусевіч і інш. СДКПіЛ падзяляла ідэі рэвалюцыйнай палітычнай барацьбы пралетарыяту і імкнулася да аб'яднання з РСДРП. У 1902 г. была ўтворана ППС у Літве. Яна склалася з груп ППС, якія дзейнічалі на тэрыторыі Літвы і Заходняй Беларусі. Гэтая партыя

грунтавалася на леванародніцкіх ідэалах сацыялізму, выступала за незалежнасць Беларусі і Літвы.

У **канцы 1901 — пачатку 1902 г.** прыхільнікі ідэй народніцтва стварылі *партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў)*. Эсэры выступалі за пабудову сацыялізму на аснове сацыялізацыі зямлі, ураўняльнага землекарыстання і кааперацыі. Яны мелі на мэце звяржэнне самадзяржаўя, знішчэнне памешчыцкага землеўладання і ўстанаўленне ў Расіі федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі. Галоўным сродкам барацьбы эсэры лічылі палітычны тэрор.

На мяжы XIX—XX стст. з агульнадэмакратычнага руху вылучылася беларуская нацыянальная плынь. У **канцы 1902 — пачатку 1903 г.** з нацыянальна-культурных гурткоў Мінска, Вільні і Пецярбурга аформілася *Беларуская рэвалюцыйная грамада (БРГ)*. Сярод яе стваральнікаў і кіраўнікоў былі браты І. І. і А. І. Луцкевічы, А. Пашкевіч (Цётка), К. К. Каstравіцкі (Карусь Каганец), А. Бурбіс, В. Л. Іваноўскі, Ф. І. Умястоўскі. Усе яны паходзілі з дробнамаянтковай беларускай шляхты.

На І з'ездзе БРГ у 1903 г. была прынята праграма, у якой Грамада называла сябе сацыяльна-палітычнай арганізацыяй «беларускага працавітага народа». Партыя выступала за звяржэнне самадзяржаўя, знішчэнне капіталізму і ўсталяванне дэмакратычнага ладу, прызнавала правы народаў Расіі на аўтаномію. Аграрная праграма БРГ прадугледжвала знішчэнне прыватнай зямельнай уласнасці і ўвядзенне ўраўняльнага землекарыстання без эксплуатацыі чужой працы. Шлях да сацыялізму яна бачыла праз усебаковую кааперацыю працоўных. Пазней БРГ была перайменавана ў *Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ)*. Сваю агітацыю БСГ праводзіла ў асноўным сярод сялянства, у рабочым асяроддзі яе ўплыў быў нязначны.

**Беларусь у гады буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1905—1907 гг.** **9 студзеня 1905 г.** у Пецярбургу было расстраляна мірнае шэсце рабочых, якія накіроўваліся да цара з просьбай палепшыць становішча народа. Гэта падзея («Крывавая нядзеля») выклікала магутную хвалю пратэсту. Стачкі, дэманстрацыі і мітынгі рабочых пракаціліся па ўсёй краіне. Іх размах сведчыў аб тым, што ў Расіі пачалася буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя.

У студзеньскія дні 1905 г. у 30 гарадах і мястэчках Беларусі адбыліся забастоўкі салідарнасці, у якіх удзельнічала 34 тыс. чалавек.

Ініцыятарамі і кіраўнікамі рэвалюцыйных выступленняў рабочых былі найперш Бунд і РСДРП, у некаторых месцах — эсэры і БСГ. У студзені забастоўкі рабочых мелі выразна палітычны характар.

У красавіку — чэрвені 1905 г. палітычныя выступленні ахапілі 56 гарадоў і мястэчак Беларусі, у іх прынялі ўдзел каля 100 тыс. чалавек. У гэты ж час узмацнілася і эканамічная барацьба рабочых.

Вясной 1905 г. пад уздзеяннем рабочага руху ў Беларусі разгарнуліся масавыя выступленні сялянства. У студзені — сакавіку іх адбылося 53, а ўжо ў красавіку — чэрвені — 237. Галоўным патрабаваннем сялян было знішчэнне памешчыцкага землеўладання. Найбольшы ўплыў сярод сялян мелі эсэры.

**Восенню 1905 г.** рэвалюцыйны рух ахапіў усю краіну. Шматлікія агульнагарадскія выступленні перараслі ў *Кастрычніцкую ўсерасійскую палітычную стачку*. Ва ўсёй Расіі баставала звыш 2 млн чалавек. У Беларусі палітычная стачка ахапіла 32 населеныя пункты, а колькасць стачачнікаў толькі ў галіне прамысловасці дасягнула 66 тыс. чалавек. У ходзе ўсерасійскай палітычнай стачкі ў многіх гарадах Расіі ўзнікалі агульнагарадскія выбарныя стачачныя камітэты і камісіі, якія атрымалі назву *Саветаў рабочых дэпутатаў*.

У снежні 1905 г. палітычная барацьба пралетарыяту Расійскай імперыі працягвалася. У Маскве яна перарасла ва ўзброенае паўстанне. У снежаньскія дні палітычныя забастоўкі ахапілі Мінск, Гомель, Мазыр, Пінск і іншыя гарады, а таксама большасць чыгуначных вузлоў Беларусі. У апошнія месяцы 1905 г. зноў адбыўся ўздым сялянскага руху. У Беларусі ў кастрычніку было 54 выступленні сялян, у лістападзе — 154, а ў снежні — 286. Пад уплывам усерасійскай палітычнай стачкі ўзмацніліся і выступленні ў арміі. У лістападзе хваляванні салдат адбыліся ў Гродне, у Бабруйскай і Брэсцкай крэпасцях. Іх удзельнікі патрабавалі вызваліць матросаў Кранштата і Севастопаля.

Аднак самадзяржаўе здолела задушыць рэвалюцыйны рух. Гэтаму спрыяў царскі Маніфест **17 кастрычніка 1905 г.**, які абвясціў скліканне заканадаўчай Дзяржаўнай думы, іншыя дэмакратычныя правы і свабоды.

**3 чэрвеня 1907 г.** цар Мікалай II выдаў загад аб роспуску II Дзяржаўнай думы і змяненні выбарчага закону. Паколькі паводле Маніфеста 17 кастрычніка 1905 г. новы закон не мог дзей-

нічаць без ухвалення яго Дзяржаўнай думай, гэты крок урада з'яўляўся, па сутнасці, дзяржаўным пераваротам. Падзеі 3 чэрвеня 1907 г. сведчылі аб заканчэнні першай расійскай рэвалюцыі.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Ахарактарызуйце палітычныя плыні ў паўстанні 1863—1864 гг. Якімі былі іх мэты?
2. Якімі былі вынікі паўстання 1863—1864 гг. для Беларусі?
3. Назавіце народніцкія і сацыял-дэмакратычныя арганізацыі, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. Якімі былі іх мэты?
4. Назавіце асноўныя падзеі, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі ў час буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1905—1907 гг.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Ахарактарызуйце паўстанне 1863—1864 гг. паводле плана: прычыны, мэты, сацыяльная база, характар, вынікі, значэнне.
2. Прааналізуйце ход паўстання 1863—1864 гг., вызначце прычыны яго паражэння. Складзіце тэзісны план адказу па тэме «Прычыны паражэння паўстання 1863—1864 гг. у Польшчы, Літве і Беларусі».
3. Дакажыце або абвергніце тэзіс: «Паўстанне 1863—1864 гг. было польскай нацыянальнай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыяй».
4. Ахарактарызуйце народніцкі рух у Беларусі паводле плана: мэты, сацыяльная база, сродкі барацьбы, вынікі.
5. Складзіце табліцу «Сацыяльна-дэмакратычны рух у Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX ст.». Запішыце ў ёй назвы сацыяльна-дэмакратычных арганізацый, іх сацыяльную базу і мэты.

## § 13. КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ Ў XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

**Успомніце.** 1. Калі пачалася эпоха Асветніцтва ў Заходняй Еўропе? 2. Што такое ідэалогія Асветніцтва? Назавіце яе асноўныя тэорыі.

**Змены ў сістэме адукацыі Беларусі.** Пад уплывам асветніцкіх ідэй адукацыя паступова пазбаўлялася царкоўнага ўплыву, пераходзіла ў падпарадкаванне да дзяржавы і набывала свецкі характар. У 1802 г. было ўтворана *Міністэрства народнай асветы.*



*Вялікі двор Віленскага універсітэта. Гравюра 1850 г.*

Еўрапейская частка Расіі дзялілася на 6 навучальных акруг, кожную з іх узначальваў прызначаны царом папячыцель (апякун). Віцебская, Гродзенская, Мінская, Магілёўская губерні ўвайшлі ў склад утворанай у **1803 г.** *Віленскай навучальнай акругі*, якую ўзначаліў магнат А. Е. Чартарыйскі. Навуковым і адміністрацыйным цэнтрам акругі быў *Віленскі універсітэт*.

Важную ролю ў сістэме школьнай адукацыі адыгрывалі *каталіцкія навучальныя ўстановы*, якія належалі розным каталіцкім ордэнам. У 1812—1820 гг. дзейнічала *Полацкая езуіцкая акадэмія*, што мела правы універсітэта. Каталіцкія навучальныя ўстановы імкнуліся выхаваць у навучэнцаў прапольскія настроі. Мовай навучання ў іх была польская.

Прапольскай арыентацыі прытрымлівалася і кіраўніцтва Віленскага універсітэта. Усё гэта вяло да паланізацыі пераважнай часткі адукаванага насельніцтва Беларусі. Пасля паўстання 1830—1831 гг. расійскія ўлады, каб пашырыць рускі ўплыў у краі, закрылі ў 1832 г. Віленскі універсітэт і часова ліквідавалі Віленскую навучальную акругу (да 1850 г.). У школах уводзілася абавязковае навучанне на рускай мове, закрываліся каталіцкія кляштары і навучальныя ўстановы.

У другой палове XIX — пачатку XX ст. у Расійскай імперыі ў цэлым, а таксама і на тэрыторыі Беларусі адбываўся рост колькасці пачатковых (народных вучылішчаў і царкоўнапрыходскіх школ) і сярэдніх (гімназій і рэальных вучылішчаў) агульнаадукацыйных школ. Пры гэтым разам з дзяржаўнымі навучальнымі ўстановамі адкрываліся прыватныя школы і вучылішчы.

Сярэднюю адукацыю атрымлівалі пераважна прадстаўнікі прывілеяваных саслоўяў. Навучанне ў сярэдніх навучальных установах з'яўлялася платным. *Класічныя мужчынскія гімназіі* давалі грунтоўную гуманітарную падрыхтоўку, асаблівая ўвага надавалася выкладанню грэчаскай і лацінскай моў. Толькі выпускнікі гімназій мелі выключнае права паступлення ва універсітэты. У *рэальных вучылішчах* галоўнае месца адводзілася дысцыплінам прыродазнаўча-матэматычнага цыкла. Выпускнікі рэальных вучылішчаў маглі паступаць у тэхнічныя і гандлёвыя вышэйшыя навучальныя ўстановы. Выхаванкі *жаночых гімназій* атрымлівалі атэстат на званне настаўніцы пачатковай школы. Выпускніцам восьмага педагагічнага класа жаночых гімназій давалася права працаваць у якасці хатніх настаўніц.

У XIX — пачатку XX ст. адбывалася станаўленне і развіццё сістэмы прафесійнай адукацыі ў Беларусі. У 1848—1864 гг. дзейнічаў *Горы-Горацкі земляробчы інстытут* — першая ў Расіі і адна з першых у Еўропе вышэйшых сельскагаспадарчых навучальных устаноў. Падрыхтоўка спецыялістаў у галінах народнай гаспадаркі і культуры ажыццяўлялася ў сярэдніх і ніжэйшых *рамесных, сельскагаспадарчых, камерцыйных, педагагічных, медыцынскіх, музычных* і *мастацкіх* навучальных установах. Расійскія ўлады неаднаразова адхілялі хадайніцтвы грамадскасці Беларусі аб адкрыцці вышэйшай навучальнай установы.

Пачатак XX ст. звязаны з пашырэннем грамадска-педагагічнага руху за стварэнне беларускай нацыянальнай школы. Прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі засноўвалі тайныя школы, дзе навучанне вялося на беларускай мове. Там выкарыстоўваліся падручнікі К. Каганца «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання», Цёткі «Першае чытанне для дзетак беларусаў» (1906), Я. Коласа «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» (1909).

**Развіццё навуковых ведаў пра Беларусь і беларускі народ.** З другой паловы XIX ст. пачалося грунтоўнае вывучэнне Беларусі.


*Я. Ф. Карскі*

На даследаванні ў гэтым кірунку расійскі ўрад пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. выдзеліў значныя сродкі. Гэта рабілася з мэтай не дапусціць у далейшым праяў польскага руху на Беларусі і абгрунтаваць непарыўную гістарычную сувязь дадзенай тэрыторыі з Расіяй.

У галіне этнаграфіі плённа працавалі П. В. Шэйн, І. І. Насовіч, Е. Р. Раманаў, М. Я. Нікіфароўскі, М. В. Доўнар-Запольскі, А. Я. Багдановіч, А. К. Сержпутоўскі і іншыя даследчыкі. Навуковы аналіз назапашаных этнаграфічнай навукай матэрыялаў зрабіў магчымым стварэнне грунтоўных абагульняльных даследаванняў, сярод якіх вылучалася праца *Я. Ф. Карскага* «Беларусы» (т. 1—3, 1903—1922). У ёй пераканаўча даказана, што беларусы з'яўляюцца асобным этнасам са сваёй мовай і культурай.

Былі створаны і грунтоўныя даследаванні, прысвечаныя беларускай гісторыі. Вялікі ўклад у вывучэнне гістарычнага мінулага Беларусі ўнеслі навуковыя працы М. В. Доўнар-Запольскага. Дзеяч беларускага нацыянальнага руху В. Ю. Ластоўскі ў 1910 г. выдаў на беларускай мове «Кароткую гісторыю Беларусі», дзе імкнуўся паказаць адметнасць гістарычнага лёсу беларускага народа.

**Станаўленне і развіццё беларускай літаратуры.** Беларуская літаратура першай паловы XIX ст. развівалася пад уплывам эстэтыкі рамантызму. З асяроддзя апалячанай беларускай шляхты выйшлі прадстаўнікі рамантызму, паэты і празаікі Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, У. Сыракомля. Яны займаліся збіраннем і вывучэннем беларускага фальклору і на яго аснове стваралі беларускамоўныя творы. Вялікі ўклад у развіццё беларускай літаратуры і асабліва драматургіі зрабіў *В. Дунін-Марцінкевіч*.

Новым этапам развіцця беларускай літаратуры другой паловы XIX ст. стала творчасць *Ф. Багушэвіча* (1840—1900). Да сваіх зборнікаў «Дудка беларуская» (1891), «Смык беларускі» (1894) ён складаў прадмовы, праз якія імкнуўся абудзіць нацыянальную свядомасць беларускага народа.

На лепшых дасягненнях літаратуры другой паловы XIX ст. будавалася беларуская літаратура пачатку XX ст. Новыя тэмы, маты-

вы і вобразы прыўнесла ў беларускую літаратуру *Цётка (А. Пашкевіч)*. Яе кнігі «Скрыпка беларуская» і «Хрэст на свабоду» (абедзве выйшлі ў 1906 г.) — першыя выдадзеныя ў XX ст. беларускія паэтычныя зборнікі. Як таленавіты паэт-наватар, адзін з пачынальнікаў беларускай драматургіі і заснавальнікаў нацыянальнай школы перакладу ўвайшоў у гісторыю беларускай літаратуры *Я. Купала (І. Луцэвіч)*. Ён узняў беларускую літаратуру на якасна новы ўзровень, садзейнічаў фарміраванню і развіццю беларускай літаратурнай мовы. Разам з Я. Купалам заснавальнікам новай беларускай літаратуры і літаратурнай мовы стаў *Я. Колас (К. Міцкевіч)*. *М. Багдановіч* стварыў адзіны паэтычны зборнік «Вянок» (1913), але ён дазволіў паэту заняць пачэснае месца сярод класікаў беларускай літаратуры. У пачатку XX ст. раскрыліся літаратурныя таленты *М. Гарэцкага, З. Бядулі, Ц. Гартнага, К. Каганца* і інш.

**Тэатр.** У фарміраванні беларускага прафесійнага нацыянальнага тэатра вялікую ролю адыграла тэатральная культура рускага, украінскага і польскага народаў. У беларускіх гарадах дзейнічалі мясцовыя рускія драматычныя трупы, арганізоўваліся шматлікія музычна-драматычныя гурткі і так званыя беларускія вечарынкі. Там звычайна выступалі хары, чыталіся беларускія літаратурныя творы, ставіліся п'есы.

На аснове беларускіх вечарынак у 1907 г. узнікла *Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага* — сапраўдны тэатр прафесійнага тыпу. Энтузіязм *І. Буйніцкага*, удалы падбор акцёраў і рэпертуару склалі трывалы падмурак поспеху гэтага калектыву. Аднак у 1913 г. тэатр спыніў сваё існаванне.

Пераемнікам традыцый трупы І. Буйніцкага ў працэсе фарміравання нацыянальнага тэатра стала *Першае беларускае таварыства драмы і камедыі* пад кіраўніцтвам Ф. Ждановіча, якое ўзнікла ў Мінску ў 1917 г.

**Выяўленчае мастацтва.** У выяўленчым мастацтве Беларусі канца XVIII — першай паловы XIX ст. назіралася ўзаемадзеянне дзвюх плыняў: класіцызму і рамантызму. Класіцызм быў афіцыйным стылем, якога прытрымлівалася Пецярбургская Акадэмія мастацтваў. Аднак у выяўленчае мастацтва пранікалі і элементы рамантызму.

Яркім прадстаўніком рамантызму ў беларускім жывапісе быў *В. Ваньковіч*. Яго палатно «Міцкевіч на скале Аюдаг» — тыповы



*І. Буйніцкі (у цэнтры) з акцёрамі сваёй трупы*

прыклад рамантычнага партрэта. Перапляценне рыс класіцызму і рамантызму характэрна для творчасці беларускага мастака *І. Аляшкевіча*. Мастак *Я. Дамель* пакінуў значны след амаль ва ўсіх жанрах выяўленчага мастацтва, асабліва ў гістарычным. *В. Дмахоўскі* вядомы як стваральнік рамантычных пейзажаў (карціны «Возера Свіцязь», «Дом Міцкевіча ў Навагрудку» і інш.). *І. Хруцкі* ўвайшоў у гісторыю беларускага мастацтва як аўтар шматлікіх нацюрмортаў і пейзажаў. У 1839 г. за нацюрморт «Кветкі і садавіна» ён атрымаў званне акадэміка Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў.

У выяўленчым мастацтве з другой паловы XIX ст. паступова ўсталёўваўся *рэалізм*, які прыйшоў на змену класіцызму з яго біблейскай і міфалагічнай тэматыкай. Вядомай постаццю ў беларускім *пейзажным жывапісе* з'явілася фігура *А. Гараўскага*. У творчасці таленавітага беларускага мастака *В. Бялыніцкага-Бірулі* развіваліся традыцыі рускага лірычнага пейзажа. Краявіды беларускай прыроды натхнялі ўраджэнца Ашмянскага павета *Ф. Рушчыца*. У яго лепшых творах «Зямля», «Стары млын», «Эмігранты» спалучаліся пейзажны і побытавы жанры. У працах *С. Жукоўскага* пейзажны жывапіс цесна звязаны з інтэр'ерам і нацюрмортам.



*Партрэт невядомай з кветкамі і садавінай. Мастак І. Хруцкі. 1838 г.*

Адным з вядомых прадстаўнікоў *гістарычнага жанру* ў беларускім жывапісе другой паловы XIX ст. быў *К. Альхімовіч*. Беларуская гісторыя натхняла таленавітага мастака *Я. Драздовіча*. Ён стварыў вялікія серыі графічных твораў і скульптурныя партрэты дзеячаў гісторыі Беларусі.

Майстрам *бытавога жывапісу* і адным з першых у Беларусі мазаістаў быў *Н. Сілівановіч*. У 1876 г. яму прысвоілі ганаровае званне акадэміка Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў. Партрэтны і бытавы жанры прадстаўлены ў творчасці *Ю. Пэна* (1854—1937). Яго палотны «Гадзіншчык», «Стары кравец» выкананы ў рэалістычнай манеры і адлюстроўваюць яўрэйскі побыт і традыцыі. Самым вядомым вучнем Ю. Пэна быў *М. Шагал* (1887—1985). Вялікае месца ў творчасці Шагала займаў родны Віцебск з яго яўрэйскім мястэчковым побытам, які мастак выяўляў у сімвалічна-містычным духу.

**Архітэктура.** З эпохай Асветніцтва звязана ўсталяванне стылю класіцызму ў архітэктуры. Яскравае адлюстраванне класіцызм знайшоў у палацава-сядзібнай архітэктуры. Дыяпазон палацава-сядзібнага будаўніцтва быў вельмі шырокі — ад невялікіх



*Петрапаўлаўскі сабор у Гомелі. Пачатак XX ст.*

сядзіб дробнай шляхты да манументальных пабудоў буйных магнатаў. Сярод выдатных помнікаў беларускага класіцызму вылучаліся *Гомельскі, Жыліцкі* (Кіраўскі раён), *Снуўскі* (Нясвіжскі раён) *палацы*. Пры гэтых збудаваннях звычайна ствараліся паркі, аздобленыя штучнымі гротамі, каскадамі, руінамі. Найбольш значная з культавых пабудоў эпохі класіцызму ў Беларусі — *Петрапаўлаўскі сабор у Гомелі.* Класіцызм панаваў у архітэктуры Беларусі да сярэдзіны XIX ст. Альтэрнатывай класіцызму выступаў рамантызм, які выявіўся пераважна ў пейзажна-паркавым мастацтве.

З сярэдзіны XIX ст. узмацніўся працэс паступовага заняпаду класічнай архітэктуры. Адбывалася стылявая пераарыентацыя дойлідства Беларусі. Класіцызм змяніла *эклектыка* (змяшэнне стыляў), якая атрымала яшчэ адну назву — *архітэктура гістарызму.* Яна характарызавалася выкарыстаннем формаў розных стыляў (готыкі, барока, ракако, класіцызму, раманскага і інш.). Пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. пашырыўся *рэтраспектыўна-рускі стыль* у праваслаўным культавым дойлідстве. У другой палове XIX ст. развіваліся таксама *рэтраспектыўна-*

*гатычны стыль, неакласіцызм, неабарока, неарэнесанс* і іншыя кірункі эклектычнай архітэктуры. У каталіцкай культавай архітэктуры назіраўся росквіт *неагатычнага стылю*. Побач з архітэктурай гістарызму з канца XIX ст. адбывалася станаўленне новага стылю — *мадэрну*.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Якія тыпы навучальных устаноў дзейнічалі ў Беларусі ў XIX — пачатку XX ст.?
2. Чым тлумачыцца тагачасная ўвага расійскага ўрада да навуковых даследаванняў беларускай гісторыі, этнаграфіі, фальклору?
3. Пералічыце найбольш грунтоўныя даследаванні па гісторыі і этнаграфіі Беларусі XIX — пачатку XX ст. і прозвішчы іх аўтараў.
4. Назавіце беларускіх пісьменнікаў XIX — пачатку XX ст. і іх асноўныя творы.
5. Якія жанры развіваліся ў выяўленчым мастацтве Беларусі ў XIX — пачатку XX ст.? Назавіце вядомых беларускіх мастакоў гэтага перыяду і іх творы.
6. Назавіце дасягненні ў развіцці беларускага тэатра ў XIX — пачатку XX ст.
7. Якія стылі існавалі ў архітэктуры Беларусі ў XIX — пачатку XX ст.? Прывядзіце прыклады помнікаў, створаных у гэтых стылях.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Якія змены адбыліся ў сістэме адукацыі Беларусі ў XIX — пачатку XX ст.? Чым яны былі абумоўлены?
2. Падрыхтуйце паведамленні пра вядомых дзеячаў культуры Беларусі XIX — пачатку XX ст.
3. Складзіце тэзісны план адказу па тэме «Дасягненні беларускай культуры ў XIX — пачатку XX ст.».
4. Які ўплыў аказвала беларуская культура XIX — пачатку XX ст. на фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў? Абгрунтуйце сваю думку.

## УРОК АБАГУЛЬНЕННЯ
## БЕЛАРУСЬ У XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

**1.** З прапанаванага спіса паняццяў вылучыце тыя, якія характарызуюць развіццё беларускіх зямель у XIX — пачатку XX ст. Сістэматызуйце іх па сферах грамадскага жыцця. Запоўніце табліцу. Дайце азначэнні паняццяў, якія характарызуюць развіццё беларускіх зямель у XIX — пачатку XX ст.

| Эканамічная сфера | Палітычная сфера | Сацыяльная сфера | Духоўная сфера |
|---|---|---|---|
| | | | |

*Аграрная рэформа, беларусізацыя, буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя, буржуазная рэформа, заходнерусізм, індустрыялізацыя, калектывізацыя сельскай гаспадаркі, крызіс феадальна-прыгонніцкай сістэмы, «культурная рэвалюцыя», люстрацыя, мадэрнізацыя, нацыя, навукова-тэхнічная рэвалюцыя, нацыяналізацыя, прамысловая рэвалюцыя, сельская абшчына.*

**2.** Ахарактарызуйце мерапрыемствы расійскага ўрада ў заходніх губернях па пераадоленні крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы. Запоўніце табліцу.

| План для характарыстыкі | Рэформы П. Дз. Кісялёва | Рэформы 1860—1870-х гг. |
|---|---|---|
| Мэты рэформаў | | |
| Сутнасць рэформаў (мерапрыемствы) | | |
| Вынікі | | |
| Наступствы | | |

**3.** Ахарактарызуйце асаблівасці буржуазных рэформаў 1860—1870-х гг. у Беларусі. Вызначце фактары, якія іх абумовілі.

**4.** Прааналізуйце развіццё грамадска-палітычнага руху ў Беларусі ў XIX — пачатку XX ст. Запоўніце табліцу.

ГРАМАДСКІ РУХ У БЕЛАРУСІ Ў XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

| **План для аналізу** | **1810—1850-я гг.** | **1860-я гг.** | **1870—1880-я гг.** | **1890-я гг. — пачатак XX ст.** |
|---|---|---|---|---|
| Сацыяльная база | | | | |
| Арганізацыі | | | | |
| Мэты | | | | |
| Вынікі | | | | |

**5.** Складзіце тэзісны план адказу па тэме «Асноўныя тэндэнцыі развіцця культуры Беларусі ў XIX — пачатку XX ст.».

# РАЗДЗЕЛ II
# БЕЛАРУСЬ У XX — ПАЧАТКУ XXI ст.

## § 14. СТАНОВІШЧА БЕЛАРУСІ Ў ГАДЫ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

**Успомніце.** 1. Якія ваенна-палітычныя блокі супрацьстаялі адзін аднаму ў Першай сусветнай вайне? Назавіце краіны, што ў іх уваходзілі. 2. Як разгортваліся баявыя дзеянні ў жніўні 1914 — студзені 1915 г.? Ахарактарызуйце вынікі гэтага перыяду Першай сусветнай вайны.

**Акупацыя германскімі войскамі Заходняй Беларусі.** Першая сусветная вайна працягвалася 4 гады і 4 месяцы. У вайне ўдзельнічалі 33 краіны з насельніцтвам звыш 1,5 млрд чалавек — 75 % усіх жыхароў Зямлі. У ёй, паводле няпоўных звестак, было забіта, паранена і скалечана каля 30 млн чалавек.

Галоўнай прычынай Першай сусветнай вайны стала барацьба паміж найбуйнейшымі імперыялістычнымі краінамі за перадзел свету і сфер уплыву, крыніц сыравіны і рынкаў збыту прадукцыі. **1 жніўня 1914 г.** (паводле новага стылю) Германія аб'явіла вайну Расіі, а 3 жніўня — Францыі, захапіла Бельгію і Люксембург. 4 жніўня Англія абвясціла аб стане вайны з Германіяй. Разам з Англіяй у вайну ўступілі яе дамініёны Аўстралія, Канада, Новая Зеландыя, Паўднёва-Афрыканскі Саюз і калонія Індыя. На баку Антанты выступіла Японія, на баку Германіі — Турцыя. Пачалася Першая сусветная вайна.

У самым пачатку вайны ў Мінску, Магілёве, Віцебску і іншых гарадах Беларусі мясцовыя органы ўлады правялі «патрыятычныя» сходы, на якіх выказвалася перакананне, што вайна вядзецца ў мэтах абароны Айчыны. Асаблівы патрыятычны ўздым назіраўся ў Магілёве. Летам 1914 г. тут адбыліся сходы прадвадзіцеляў




*Беларусь у гады Першай сусветнай вайны. Ваенныя дзеянні ў 1915—1916 гг.*

дваранства, членаў земства, ганаровых грамадзян, духавенства і настаўнікаў, удзельнікі якіх запэўнівалі, што насельніцтва губерні аднадушна ўхваляе палітыку ўрада і гатовае на любыя ахвяры дзеля Айчыны.

З пачатку 1915 г. асноўныя сілы Германіі знаходзіліся на Усходнім фронце. Нямецкія войскі ў чэрвені 1915 г. занялі Галіцыю, потым Германія сканцэнтравала галоўныя сілы на польскім тэатры ваенных дзеянняў. Расійскія войскі, якія цярпелі паражэнні ў Польшчы, у пачатку жніўня 1915 г. здалі Варшаву.

Фронт імкліва набліжаўся да Беларусі. У **жніўні 1915 г.** пачалося германскае наступленне ў напрамку Коўна — Вільня —



*Вярхоўны галоўнакамандуючы рускай арміяй цар Мікалай II (у цэнтры) з прадстаўнікамі Антанты ў Стаўцы. 1915 г.*

Мінск. Пасля няўдалай спробы ўзяць Вільню нямецкія войскі пачалі новае наступленне і 9 верасня 1915 г. прарвалі фронт у ваколіцах Свянцян. Яны праніклі ў тыл расійскіх войскаў, захапілі Вілейку і наблізіліся да Маладзечна. Асобныя нямецкія злучэнні дайшлі аж да Смалявіч і Барысава. Стаўка расійскага Вярхоўнага галоўнакамандуючага была пераведзена з Баранавіч у Магілёў.

У сярэдзіне верасня 1915 г. наступленне нямецкіх войскаў было спынена. У ваколіцах Маладзечна, Вілейкі і Смаргоні вораг быў разбіты. Немцы адступілі ў раён азёраў Нарач і Свір. Горад Смаргонь быў цалкам разбураны і ўвайшоў у гісторыю як «мёртвы горад» і «месца жорсткіх газавых атак немцаў».

У **кастрычніку 1915 г.** фронт стабілізаваўся па лініі *Дзвінск — Паставы — Смаргонь — Баранавічы — Пінск*. Чацвёртая частка тэрыторыі Беларусі з насельніцтвам звыш 2 млн чалавек апынулася пад германскай акупацыяй.

**Уплыў ваенных падзей на палітычнае і сацыяльна-эканамічнае становішча ў Беларусі.** Напярэдадні і ў першыя дні вайны заходнія, у тым ліку беларускія, губерні былі аб'яўлены на ваенным

становішчы. Забараняліся забастоўкі, сходы, шэсці, маніфестацыі, уводзілася ваенная цэнзура. У сувязі з наступленнем германскіх войскаў рушыў на ўсход вялікі паток бежанцаў з Польшчы, Літвы і заходніх паветаў Беларусі (каля 1,5 млн чалавек).

На абарончыя работы (капанне акопаў, будаўніцтва мастоў, рамонт дарог, ахову вайсковых аб'ектаў і інш.) прыцягвалася ўсё насельніцтва прыфрантавой паласы. Пачаліся масавыя *рэквізіцыі* жывёлы, прадуктаў харчавання і фуражу. Рэквізіцыі і прымусовыя работы на патрэбы фронту праводзілі і германскія ўлады. Акупанты сілаю забіралі ў сялян коней, кароў, іншую жывёлу, прадукты, фураж, адзенне, абутак, прымушалі выконваць розныя павіннасці.

Асабліва цяжка адбівалася вайна на гаспадарцы. На неакупіраванай тэрыторыі Беларусі ў 1914—1917 гг. праз адсутнасць сыравіны і паліва колькасць буйных прадпрыемстваў скарацілася з 829 да 297, а рабочых — з 37,7 тыс. да 25,1 тыс. Разам з тым асобныя галіны (швейная, абутковая, металаапрацоўчая і інш.), што выконвалі ваенныя заказы, значна павялічылі выпуск прадукцыі. Былі перабудаваны многія фабрыкі і заводы, а таксама створана шмат часовых прадпрыемстваў і майстэрняў, якія абслугоўвалі армію. На вытворчасць боепрыпасаў, транспартных сродкаў і іншага вайсковага рыштунку былі пераключаны ўсе прадпрыемствы металаапрацоўчай прамысловасці. Снарады і гранаты выраблялі 5 заводаў у Мінску і 3 у Гомелі. Бомбы выпускалі Рэчыцкі і Аршанскі дротава-цвіковыя заводы. У Гомелі, Оршы, Віцебску, Мінску і іншых гарадах былі створаны майстэрні для вырабу і рамонту зброі і транспартных сродкаў.

У некалькі разоў павялічылі аб'ём вытворчасці прадпрыемствы хлебапякарна-сухарнай прамысловасці. Вялікія заказы ваеннага ведамства па забеспячэнні арміі вопраткай і абуткам выконваліся на Віцебскай ільнопрадзільнай фабрыцы «Дзвіна», Дубровенскай бавоўнапрадзільнай фабрыцы, Магілёўскай панчошнай фабрыцы, іншых прадпрыемствах, а таксама ў дробных майстэрнях і асобнымі рамеснікамі.

У выключна цяжкім становішчы апынулася сельская гаспадарка Беларусі. Больш як палова ўсіх працаздольных мужчын беларускай вёскі была мабілізавана і адпраўлена на фронт. Толькі з Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губерняў было прызвана ў армію 634 400 чалавек. За гады вайны скараціліся пасяўныя




*Санітарныя павозкі на вуліцах Мінска ў гады Першай сусветнай вайны*

плошчы Беларусі: жыта — на 18,7 %, пшаніцы — на 22,1 %, бульбы — на 34,2 %.

З-за моцнага заняпаду сельскай гаспадаркі амаль перасталі паступаць на рынак прадметы першай неабходнасці, што выклікала рост цэн, зніжэнне жыццёвага ўзроўню народа. Цэны на прадукты харчавання і адзенне ў Беларусі да 1917 г. павялічыліся ў 5—8 разоў у параўнанні з 1913 г. Ва ўмовах надзвычайнай галечы, вялікай скучанасці насельніцтва і голаду ў прыфрантавых губернях распаўсюдзіліся розныя эпідэмічныя хваробы — тыф, халера і інш.

Пачынаючы з 1915 г. у Беларусі нарастаў рабочы рух. У красавіку 1915 г. адбылося выступленне рабочых і служачых Гомельскага чыгуначнага вузла. Летам таго ж года баставалі рабочыя дэпо Лібава-Роменскай чыгункі ў Гомелі. У 1916 г. стачачны рух з удзелам 1800 чалавек ахапіў 11 населеных пунктаў Беларусі. Асноўным патрабаваннем стачачнікаў з'яўлялася павышэнне заработнай платы.

Аднак стачкі ў Беларусі былі разрозненымі, у іх удзельнічала толькі частка рабочых. Масавага рабочага руху не назіралася. Гэта было абумоўлена прыфрантавым становішчам Беларусі, перанасычанасцю яе тэрыторыі войскамі, паліцыяй, жандармерыяй. Арганізатараў стачак арыштоўвалі і накіроўвалі на фронт.

Сялянскі рух у Беларусі ў гады вайны набыў своеасаблівую форму — ён выяўляўся ў разгроме памешчыцкіх маёнткаў, харчовых складоў і лавак. У пачатку вайны падобныя выпадкі адбыліся ў 20 з 35 паветаў Беларусі. Па сутнасці, гэта былі стыхійныя пагромы, якія суправаджаліся рабаваннем маёмасці памешчыкаў і гандляроў. Значна пашырыліся сялянскія хваляванні ў 1915 г. у сувязі з перанясеннем баявых дзеянняў на тэрыторыю Беларусі і ростам рэквізіцый. На працягу 1915 г. адбылося 99 сялянскіх выступленняў. У 1916 г. іх колькасць зменшылася да 60, у студзені — лютым 1917 г. — да 7.

Ваенныя паражэнні расійскай арміі, велізарныя людскія страты выклікалі незадаволенасць салдат. У войсках успыхнулі хваляванні, звязаныя з дрэнным забеспячэннем харчамі і абмундзіраваннем, недахопам зброі і боепрыпасаў. Усяго ў Беларусі ў перыяд вайны адбыліся 62 значныя хваляванні салдат. Павялічвалася дэзерцірства. Цэлыя вайсковыя часці і злучэнні адмаўляліся ісці ў наступленне. Узмацнілася антыўрадавая агітацыя сярод салдат. Спыніць працэс разлажэння арміі было немагчыма, яна паступова страчвала баяздольнасць.

**Беларускі нацыянальны рух.** У гады вайны адбыліся значныя змены ў беларускім нацыянальным руху. Усе даваенныя беларускія нацыянальна-культурныя арганізацыі распаліся. Была закрыта газета «Наша ніва». Ва ўсходняй, неакупіраванай, частцы Беларусі нацыянальны рух быў спынены.

На захопленай Германіяй тэрыторыі вядомыя беларускія дзеячы, браты І. І. і А. І. Луцкевічы, В. Ю. Ластоўскі і інш., выступілі з ідэяй стварэння канфедэрацыі Літвы і Заходняй Беларусі ў форме Вялікага княства Літоўскага з сеймам у Вільні. Аднак утварыць канфедэрацыю не ўдалося. Германскі ўрад не быў зацікаўлены ў такой дзяржаве.

Германія, якая намагалася ўмацаваць сваю ўладу на акупіраванай тэрыторыі, ажыццявіла адпаведныя захады, каб, з аднаго боку, не даць магчымасці стварыць тут самастойную дзяржаву, а з другога — прадухіліць польскае дамінаванне на гэтых землях. У пачатку 1916 г. у германскім загадзе аб школах акупіраванага краю беларуская мова абвяшчалася раўнапраўнай з польскай, літоўскай і яўрэйскай мовамі. Беларускі нацыянальны рух значна ажывіўся.

На акупіраванай тэрыторыі былі адчынены беларускія школы, створаны выдавецтвы. Пачалося выданне на беларускай мове газет, часопісаў. У Вільні выходзіла газета *«Гоман»*, дзейнічалі *Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны*, *«Беларускі клуб»*, згуртаванне *«Золак»*, *«Беларускае навуковае таварыства»*, *Беларускія настаўніцкія курсы* і інш. Кіраваў усёй гэтай працай арганізаваны ў 1915 г. у Вільні *Беларускі народны камітэт*, які ўзначальваў А. І. Луцкевіч. Прадстаўнікі камітэта прынялі ўдзел у рабоце канферэнцый прыгнечаных народаў Расіі, якія былі арганізаваны немцамі ў Стакгольме і Лазане ў 1916 г. Там яны прасілі дапамогі ў народаў Еўропы ў вызваленні беларускага народа «з-пад расійскай акупацыі».

У канцы 1916 г. Беларускі народны камітэт спрабаваў дамовіцца з Літоўскім нацыянальным камітэтам аб утварэнні агульнай літоўска-беларускай дзяржавы. Аднак Літоўскі нацыянальны камітэт адмовіўся ад перагавораў, канчаткова разарваў сувязь не толькі з Беларускім народным камітэтам, але і з польскім і яўрэйскім нацыянальнымі камітэтамі і ўтварыў у Вільні Літоўскую дзяржаўную раду (Тарыбу) як вярхоўны дзяржаўны орган Літвы. У склад гэтай літоўскай дзяржавы былі ўключаны і акупіраваныя Германіяй беларускія землі. Беларусь атрымала ў Тарыбе 2 месцы.

Гэта прымусіла прадстаўнікоў беларускага нацыянальнага руху перагледзець свае погляды на саюз Літвы і Беларусі. Летам 1917 г. група беларускіх дзеячаў на чале з В. Ю. Ластоўскім заснавала тайную арганізацыю *«Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі»*, якая ставіла за мэту ўтварэнне незалежнай Беларусі ў яе этнаграфічных межах.

Галоўнымі цэнтрамі беларускага нацыянальнага руху па-за межамі краю былі Петраград, Масква і іншыя расійскія гарады, дзе бежанцы-беларусы ўтварылі свае суполкі. З лістапада 1916 г. у Петраградзе пачалося выданне беларускіх газет *«Дзянніца»* і *«Светач»*.

Газету «Дзянніца» выдаваў на свае сродкі З. Х. Жылуновіч (Ц. Гартны). Яна ўздымала вострыя сацыяльныя праблемы, пытанні развіцця беларускай культуры, асуджала палітыку германскіх акупацыйных улад. У газеце друкаваліся творы Ц. Гартнага, К. Буйло, Ф. Шантыра і іншых дзеячаў, якія стаялі на рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцыях. Рэвалюцыйна-нацыянальны кірунак газеты выклікаў падазронасць у цэнзуры. Цэнзары выкідалі з га-

зеты матэрыялы аб цяжкім становішчы ў Беларусі, абвінавачвалі газету ў тым, што яна нібыта служыла Германіі. У студзені 1917 г. «Дзянніца» перастала выходзіць.

Газета «Светач» прапагандавала ідэі адзінства беларусаў незалежна ад іх класавай прыналежнасці, заклікала ўсе грамадскія сілы да ажыццяўлення «беларускага нацыянальнага ідэалу». Аднак яна не мела вялікага ўплыву на развіццё беларускага нацыянальнага руху. У пачатку 1917 г. выданне газеты таксама спынілася.

Далейшай актывізацыі беларускага нацыянальнага руху спрыяла Лютаўская рэвалюцыя 1917 г.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Якія баявыя дзеянні адбываліся на тэрыторыі Беларусі ў жніўні — кастрычніку 1915 г.?
2. Ахарактарызуйце становішча прамысловасці і сельскай гаспадаркі Беларусі ў гады Першай сусветнай вайны.
3. Вызначце асаблівасці рабочага і сялянскага руху ў Беларусі ў гады Першай сусветнай вайны. Чым яны былі абумоўлены?
4. Ахарактарызуйце асаблівасці беларускага нацыянальнага руху ў гады Першай сусветнай вайны.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

Складзіце тэзісны план адказу па тэме «Беларусь у гады Першай сусветнай вайны».

## § 15. БЕЛАРУСЬ У ЧАС ЛЮТАЎСКАЙ БУРЖУАЗНА-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

**Успомніце.** 1. Што такое буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя? 2. Якія буржуазна-дэмакратычныя рэвалюцыі вядомы вам з курса сусветнай гісторыі? Ахарактарызуйце іх вынікі. Якімі былі вынікі першай расійскай рэвалюцыі 1905—1907 гг.? 3. Што такое двоеўладдзе, бальшавізацыя Саветаў?

**Рэвалюцыйныя падзеі ў Беларусі і ўтварэнне новых органаў улады.** Пачатак Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі паклалі масавыя забастоўкі, мітынгі і дэманстрацыі ў Петрагра-

дзе 23 лютага (8 сакавіка) 1917 г., выкліканыя харчовым крызісам. 25 лютага забастоўка перарасла ва ўсеагульную. На бок рабочых сталі пераходзіць вайскоўцы. **27 лютага (12 сакавіка) 1917 г.** рабочыя і салдаты захапілі Галоўны арсенал, тэлеграф, вакзалы, вызвалілі з турмаў палітычных зняволеных. Рэвалюцыя ў тагачаснай сталіцы Расіі перамагла.

Аб перамозе рэвалюцыі ў Петраградзе ў Беларусі даведаліся ў пачатку сакавіка 1917 г. Рабочыя, сяляне, вайскоўцы віталі пралетарыят Петраграда і выказалі намер падтрымаць рэвалюцыю. На ўзор Петраграда ў гарадах і мястэчках Беларусі пачалі ствараюцца ўзброеныя атрады. Баявыя дружыны мінскіх рабочых 2 сакавіка 1917 г. вызвалілі з турмы 400 палітычных зняволеных. Былі арыштаваны камандуючы Мінскай ваеннай акругі, начальнік штаба, камендант горада. Створаная 4 сакавіка 1917 г. міліцыя, якую ўзначаліў *М. В. Фрунзе*, узяла пад кантроль адміністрацыйныя ўстановы, пошту і тэлеграф.

У гарадах Беларусі ствараліся Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У Мінску ўжо **4 (17) сакавіка 1917 г.** адбылося першае пасяджэнне выбраных дэпутатаў, на якім быў створаны *Мінскі Савет рабочых дэпутатаў* і яго выканаўчы камітэт. Каб аб'яднаць сілы пралетарыяту і салдат, 10 сакавіка 1917 г. быў створаны адзіны *Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў* і адзіны выканаўчы камітэт.

На працягу сакавіка — красавіка 1917 г. арганізацыйна аформілася 37 Саветаў. Сваю асноўную задачу яны бачылі ў абароне эканамічных інтарэсаў і палітычных правоў рабочых і салдат. Саветы актыўна ўдзельнічалі ў стварэнні народнай міліцыі, фабрычна-заводскіх камітэтаў і прафсаюзаў, салдацкіх камітэтаў у войску, сялянскіх у вёсцы.

У Беларусі Саветы адначасова прызнавалі кіруючую ролю Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў і Часовы ўрад. Саветы нават дапамагалі Часоваму ўраду ствараць яго мясцовыя органы ўлады. Амаль ва ўсіх гарадах Беларусі былі ўтвораны буржуазныя *грамадскія камітэты парадку*. Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў не толькі прызналі іх, але і накіравалі сваіх прадстаўнікоў у гэтыя камітэты, чым фактычна падпарадкаваліся ім. Праваднікамі такой палітыкі ў Саветах былі эсэры, меншавікі і бундаўцы, якія складалі пераважную большасць дэпутатаў.




*Мітынг у Гомелі. Сакавік 1917 г.*

6 (19) сакавіка 1917 г. Часовы ўрад перадаў уладу ў губернях і паветах сваім *камісарам*, якія выконвалі функцыі губернатараў. Ім падначальваліся ўсе мясцовыя органы ўлады.

**Дэмакратызацыя грамадства. Погляды на далейшае развіццё краіны.** У першыя дні рэвалюцыі пачалі стварацца прафсаюзы, якія павялі барацьбу за паляпшэнне эканамічнага становішча працоўных, скарачэнне рабочага дня, павелічэнне зарплаты і інш. Выбарныя салдацкія камітэты стараліся забяспечыць для салдат магчымасць удзельнічаць у палітычным жыцці краіны, садзейнічаць росту іх культурнага ўзроўню і палітычнай свядомасці.

**7—17 (20—30) красавіка 1917 г.** у Мінску адбыўся *І з'езд ваенных і рабочых дэпутатаў армій і тылу Заходняга фронту.* Адным з галоўных арганізатараў з'езда быў Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. З'езд прыняў рэзалюцыю за працяг вайны з мэтай абароны рэвалюцыі.

**20—23 красавіка (3—6 мая) 1917 г.** у Мінску праходзіў *І з'езд сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў.* Старшынёй з'езда быў абраны М. В. Фрунзе. У вырашэнні аграрнага пытання з'езд стаяў на эсэраўскіх пазіцыях *сацыялізацыі зямлі*: адмена прыватнай уласнасці на зямлю, забарона яе куплі-продажу, пераход усёй зямлі ў агульнанародную ўласнасць і ўраўняльнае

землекарыстанне. Канчатковае заканадаўчае вырашэнне аграрнага пытання з'езд адкладваў да *Устаноўчага сходу.* Падобныя рэзалюцыі прынялі таксама сялянскія з'езды Магілёўскай і Віцебскай губерняў.

Лютаўская рэвалюцыя палітызавала ўсё грамадства. Розныя класы, палітычныя плыні і партыі па-рознаму ўяўлялі далейшае развіццё краіны.

Часовы ўрад намагаўся ўмацаваць уладу буржуазіі. Але ён не змог вырашыць вострыя супярэчнасці, якія ляжалі ў аснове крызісу расійскага грамадства. Працягвалася вайна, не вырашаліся аграрнае і нацыянальнае пытанні, захоўвалася эксплуатацыя рабочых.

Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў, у якіх пераважалі эсэры і меншавікі, зыходзілі з таго, што Лютаўская рэвалюцыя была буржуазна-дэмакратычнай, таму ўлада павінна знаходзіцца ў руках буржуазіі. Яны падтрымлівалі Часовы ўрад, узяўшы на сябе абавязак ажыццяўляць кантроль за дзейнасцю гэтага ўрада.

Партыі буйной буржуазіі (акцябрысты і кадэты) таксама падтрымлівалі Часовы ўрад. Яны абаранялі ідэю прававой пераемнасці старой і новай улады, патрабавалі ўстанаўлення ў Расіі канстытуцыйнай манархіі.

Дробнабуржуазныя партыі (меншавікі, эсэры і інш.) выступалі за больш радыкальную перабудову грамадства. Меншавікі, напрыклад, лічылі, што буржуазны лад, які пачаў складвацца пасля Лютаўскай рэвалюцыі, праіснуе доўга, пакуль не наспеюць аб'ектыўныя ўмовы для пераходу ад капіталізму да сацыялізму.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі востра стаяла пытанне нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва Расіі. Буржуазныя партыі падтрымлівалі ідэю адзінай і непадзельнай Расіі. Бальшавікі выступалі за поўнае раўнапраўе ўсіх нацый і народнасцей, права нацый на самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойных дзяржаў, права на абласную (тэрытарыяльную) аўтаномію, барацьбу за інтэрнацыянальнае адзінства працоўных супраць праяў шавінізму і нацыяналізму.

**Палярызацыя палітычных сіл у Беларусі. Уздым беларускага нацыянальнага руху.** Пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў Беларусі ажывілася дзейнасць агульнарасійскіх партый. У маі 1917 г. аднавіла дзейнасць кадэцкая арганізацыя ў Мінску. Былі створаны

камітэты кадэтаў у Гомелі, Віцебску, Магілёве і іншых гарадах. Пачалося фарміраванне кадэцкай арганізацыі і на Заходнім фронце. Іншымі ўплывовымі партыямі былі эсэры і меншавікі. Менавіта эсэры і меншавікі разам з бундаўцамі складалі большасць у Саветах Беларусі.

Значная частка беларускага сялянства ішла за эсэрамі. Гэтаму спрыяла эсэраўская аграрная праграма. Моцныя пазіцыі мелі эсэры і ў арміі. Эсэраўскія арганізацыі аб'ядноўвалі звыш 30 тыс. салдат, у асноўным выхадцаў з сялянства.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі актывізавалі сваю дзейнасць і яўрэйскія арганізацыі — Бунд, Яўрэйская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя (ЯСДРП) і інш. Яны выступалі адзіным фронтам з меншавікамі і эсэрамі ў падтрымку Часовага ўрада.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі аднавіла сваю дзейнасць *Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ)*. На сваёй канферэнцыі БСГ прыняла рэзалюцыю аб падтрымцы Часовага ўрада. У аграрным пытанні БСГ заклікала сялян не захопліваць памешчыцкія землі, а чакаць, пакуль зямельнае пытанне вырашыць краёвы сейм аўтаномнай Беларусі. Акрамя Беларусі арганізацыі БСГ дзейнічалі ў Петраградзе, Маскве, Адэсе і іншых расійскіх гарадах.

Вясной 1917 г. аформілася *Беларуская народная партыя сацыялістаў (БНПС)*. Да яе далучылася група буйных памешчыкаў на чале з Р. А. Скірмунтам. Галоўнымі праграмнымі патрабаваннямі гэтай партыі былі наданне аўтаноміі Беларусі ў межах Расіі, канфіскацыя толькі той зямлі, якая належала царскай сям'і і буйным польскім памешчыкам. Праграмныя мэты БНПС падзяляла і *Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД)*, арганізаваная ў маі 1917 г.

**25—27 сакавіка (7—9 красавіка) 1917 г.** у Мінску быў скліканы першы з'езд беларускіх нацыянальных арганізацый, мэтай якога было аб'яднанне сіл і скіраванне іх у рэчышча барацьбы за нацыянальны ідэал. На з'ездзе быў абраны *Беларускі нацыянальны камітэт (БНК)*, старшынёй якога стаў Р. А. Скірмунт. З'езд выказаўся за аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай Федэрацыі, прызнаў неабходным стварэнне краёвай Рады. Была прынята дэкларацыя ў падтрымку Часовага ўрада.

**8—10 (21—23) ліпеня 1917 г.** у Мінску прайшоў II з'езд беларускіх нацыянальных партый і арганізацый. На з'ездзе замест

скасаванага БНК была створана *Цэнтральная рада беларускіх арганізацый*, якая з кастрычніка 1917 г. называлася *Вялікай беларускай радай*. Яна стала адзіным кіруючым органам беларускага нацыянальнага руху. Асноўнымі праграмнымі патрабаваннямі Рады былі дасягненне аўтаноміі Беларусі, развіццё нацыянальнай культуры і мовы, арганізацыя беларускага войска. У склад выканкома Рады былі абраны толькі члены БСГ.

Восенню 1917 г. ад Грамады адкалолася частка рэвалюцыйна настроеных рабочых-беларусаў Петраграда і маракоў Балтыйскага флоту. Яны стварылі арганізацыю бальшавіцкага кірунку — *Беларускую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю (БСДРП)*.

На крайнім левым флангу палітычнага жыцця Беларусі знаходзіліся *бальшавікі*. У. І. Ленін у сваіх «красавіцкіх тэзісах» 1917 г. заклікаў не аказваць падтрымкі Часоваму ўраду, усю ўладу перадаць Саветам. Адзіную перадумову для выхаду з вайны і заключэння дэмакратычнага міру Ленін бачыў у перамозе сацыялістычнай рэвалюцыі. У. І. Ленін прапанаваў аб'яднаць усе банкі ў адзін і ўстанавіць дзяржаўны кантроль над ім, а таксама наладзіць кантроль з боку Саветаў за грамадскай вытворчасцю і размеркаваннем прадуктаў, канфіскаваць і нацыяналізаваць усе памешчыцкія землі.

У красавіку — верасні 1917 г. аднавілі дзейнасць *Палескі* (у Гомелі) і *Мінскі камітэты РСДРП(б)*, партыйныя арганізацыі ў Слуцку, Віцебску, Оршы, Рэчыцы і іншых гарадах. За гэты час былі створаны бальшавіцкія арганізацыі ў значнай частцы палкоў, дывізій і карпусоў Заходняга фронту. Бальшавікі Беларусі і Заходняга фронту прынялі актыўны ўдзел у барацьбе супраць карнілаўскага мяцяжу ў жніўні 1917 г., які меў на мэце ўстанаўленне ваеннай дыктатуры ў Расіі.

Пасля ліквідацыі мяцяжу ўплыў бальшавікоў Беларусі і Заходняга фронту на масы значна ўзрос. У верасні 1917 г. услед за *«бальшавізацыяй»* Петраградскага і Маскоўскага Саветаў быў «бальшавізаваны» і Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Узрос уплыў бальшавікоў у Саветах іншых гарадоў Беларусі. Кіруючыся рашэннямі VI з'езда РСДРП(б) (ліпень — жнівень 1917 г.), бальшавікі Беларусі і Заходняга фронту лічылі найбліжэйшай задачай здзяйсненне сацыялістычнай рэвалюцыі і пераход усёй улады да Саветаў.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Назавіце асноўныя падзеі Лютаўскай рэвалюцыі ў Беларусі.
2. Якія палітычныя партыі (арганізацыі) дзейнічалі ў Беларусі ў сакавіку — верасні 1917 г.? Якімі былі іх мэты?
3. Вызначце фактары, што абумовілі рост уплыву бальшавікоў Беларусі на народныя масы ў жніўні — верасні 1917 г.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Пабудуйце схему, якая адлюстроўвае структуру органаў улады ў Беларусі пасля Лютаўскай рэвалюцыі.
2. Сістэматызуйце свае веды аб палітычнай сітуацыі ў Беларусі пасля Лютаўскай рэвалюцыі і запоўніце табліцу.

ПАЛІТЫЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСІ
ПАСЛЯ ЛЮТАЎСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

| Палітычныя сілы (арганізацыі, партыі, з'езды) | Адносіны да вайны і міру | Пазіцыя па аграрным пытанні | Пазіцыя па нацыянальным пытанні | Пазіцыя па пытанні аб далейшым развіцці краіны |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

## § 16. БЕЛАРУСЬ У ЧАС КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

**Успомніце.** 1. Калі і як была ўстаноўлена Савецкая ўлада ў Мінску і іншых гарадах Беларусі? 2. Якімі былі мэты і палітычны склад Камітэта выратавання рэвалюцыі? 3. Калі і як была ліквідавана Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага ў Магілёве?

**Асаблівасці ўстанаўлення Савецкай улады ў Беларусі.** 24 кастрычніка 1917 г. у Петраградзе пад кіраўніцтвам бальшавікоў пачалося ўзброенае паўстанне. У ноч на **25 кастрычніка (7 лістапада) 1917 г.** атрады чырвонагвардзейцаў, салдат і матросаў занялі найважнейшыя аб'екты сталіцы (вакзалы, тэлефон, тэлеграф, банк, масты), а ўвечары 25 кастрычніка 1917 г. — Зімні палац. Часовы ўрад быў арыштаваны, а яго міністры адпраўлены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Уся ўлада перайшла да *Ваенна-рэ-*

*валюцыйнага камітэта (ВРК)* — органа Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

У кастрычніку 1917 г. тэрыторыя Беларусі па-ранейшаму падзялялася на дзве часткі лініяй фронту, якая праходзіла праз Дзвінск — Паставы — Смаргонь — Баранавічы — Пінск. На захад ад лініі фронту гаспадарылі германскія акупанты. Цэнтральная і Усходняя Беларусь была прыфрантавой тэрыторыяй рускіх войскаў.

Савецкая ўлада, па-першае, устанаўлівалася толькі на не акупіраванай германскімі войскамі частцы тэрыторыі Беларусі.

Па-другое, вялікую ролю ва ўстанаўленні Савецкай улады ў Беларусі адыгралі салдаты Заходняга фронту. Іх партыйныя і грамадскія арганізацыі цесна ўзаемадзейнічалі з мясцовымі бальшавіцкімі арганізацыямі і Саветамі рабочых і салдацкіх дэпутатаў, з вайскоўцаў Заходняга фронту перш за ўсё фарміраваліся цэнтральныя і мясцовыя органы ўлады і кіравання.

Па-трэцяе, барацьба за ўстанаўленне Савецкай улады ў Беларусі ўскладнялася дзеяннямі Стаўкі Вярхоўнага галоўнакамандуючага, якая знаходзілася ў Магілёве.

Па-чацвёртае, на ўладу ў краі прэтэндавалі таксама беларускія нацыянальныя арганізацыі. Яны аб’ядналіся вакол Вялікай беларускай рады. Кіруючай палітычнай сілай беларускага нацыянальнага руху з’яўлялася Беларуская сацыялістычная грамада. Беларускія нацыянальныя партыі і арганізацыі прызнавалі Савецкую ўладу ў Расіі, але выступалі за стварэнне незалежнай дэмакратычнай краёвай улады на тэрыторыі Беларусі.

У лістападзе 1917 г. з дэлегатаў ад беларускіх губерняў на І Усерасійскім з’ездзе сялянскіх дэпутатаў быў створаны *Беларускі абласны камітэт (БАК)*. Ён выступаў за аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай Федэрацыі. І хаця пазіцыя БАК, які арыентаваўся на Расію, была процілеглай пазіцыі Вялікай беларускай рады, іх аб’ядноўвала агульная мэта — атрымаць палітычнае кіраўніцтва ў Беларусі.

На працягу **кастрычніка — лістапада 1917 г.** Савецкая ўлада была ўстаноўлена на ўсёй неакупіраванай тэрыторыі Беларусі. У **лістападзе (снежні) 1917 г.** у Мінску быў створаны *Абласны выканаўчы камітэт Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту (Аблвыкамзах)* як

вышэйшы орган Савецкай улады на чале з бальшавіком М. У. Рагазінскім. Выканаўчым органам улады стаў *Савет Народных Камісараў (СНК) Заходняй вобласці і фронту*, які ўзначаліў К. І. Ландар. Бальшавіцкімі арганізацыямі, што дзейнічалі як арганізаваная сіла, кіраваў *Паўночна-Заходні абласны камітэт РСДРП(б)*, старшынёй якога быў А. Ф. Мяснікоў.

Пад кіраўніцтвам савецкіх і партыйных арганізацый ажыццяўляліся рэвалюцыйныя пераўтварэнні: праводзілася нацыяналізацыя банкаў і прамысловасці, устанаўліваўся рабочы кантроль над вытворчасцю і размеркаваннем прадуктаў, уводзіўся 8-гадзінны рабочы дзень, канфіскоўваліся памешчыцкія землі і ствараліся першыя калектыўныя гаспадаркі сялян, пашыралася сетка школьных устаноў, уводзілася бясплатная адукацыя, разгортвалася праца па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослага насельніцтва.

Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г. у савецкай навуковай і вучэбнай літаратуры называлася *Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй*. Вялікай — таму што гэтак жа, як Вялікая французская буржуазная рэвалюцыя канца XVIII ст. паклала пачатак пераходу ад феадалізму да капіталізму ў сусветным маштабе, так Кастрычніцкая рэвалюцыя паклала пачатак пераходу ад капіталізму да сацыялізму ў свеце. Сацыялістычнай — бо па сваіх мэтах і задачах яна мела сацыялістычны характар, імкнучыся да пабудовы сацыялістычнага грамадства. Аднак з пачатку 1990-х гг. словы «вялікая» і «сацыялістычная» без навуковых абмеркаванняў па палітыка-ідэалагічных матывах з назвы рэвалюцыі былі выключаны. Цяпер дадзеная гістарычная падзея называецца Кастрычніцкай рэвалюцыяй 1917 г.

**I Усебеларускі з'езд і яго вынікі.** Кіраўніцтва найбольш уплывовых беларускіх нацыянальных партый і арганізацый не падтрымала Кастрычніцкую рэвалюцыю, лічыла яе анархіяй, стратай свабод, заваяваных у лютым 1917 г. Калі да рэвалюцыі беларускія нацыянальныя дзеячы дамагаліся для Беларусі краёвай аўтаноміі ў складзе Расіі, то цяпер яны патрабавалі стварэння незалежнай беларускай дзяржавы на буржуазнай аснове.

У гэтым кірунку вялікія надзеі ўскладваліся імі на *I Усебеларускі з'езд*, адкрыццё якога намячалася на **5 (18) снежня 1917 г.** у Мінску. Аднак у гэты дзень на з'езд прыехала толькі 300 дэле-



*Будынак Мінскага гарадскога тэатра (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы), у якім працаваў I Усебеларускі з'езд*

гатаў. Таму была праведзена прыватная нарада дэлегатаў, якія ўжо прыбылі на з'езд. Пасля бурных дэбатаў 7 снежня 1917 г. у Мінскім гарадскім тэатры з'езд быў аб'яўлены афіцыйна адкрытым. 9 снежня дэлегаты выбралі прэзідыум з'езда, а пачынаючы з 10 снежня разгарнулася работа ў секцыях і фракцыях. Прыбыццё дэлегатаў на з'езд працягвалася. Усяго з 5 па 15 снежня 1917 г. на з'езд прыехалі 1872 дэлегаты з правам рашаючага і дарадчага голасу. 14 снежня 1917 г. з'езд выбраў новы склад прэзідыума і сфарміраваў савет з'езда. Толькі 15—18 снежня 1917 г. з'езд у поўным складзе дэлегатаў змог прыступіць да абмеркавання галоўнага пытання — арганізацыі краёвай улады і праблемы самавызначэння беларускага народа.

Дэлегаты з'езда прынялі рашэнне стварыць са свайго складу *Усебеларускі Савет сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў* і перадаць яму ўсю ўладу ў краі. Тым самым не прызнаваліся органы Савецкай улады на тэрыторыі Беларусі.

СНК Заходняй вобласці і фронту ноччу **18 (31) снежня 1917 г.** распусціў з'езд, а члены прэзідыума і шэраг дэлегатаў былі арыштаваны і праз некалькі дзён адпушчаны на волю. Частка дэлегатаў, што не была арыштавана, на нелегальным пасяджэнні 18 (31) снеж-

ня 1917 г. перадала краёвую ўладу Радзе Усебеларускага з'езда. 21 снежня 1917 г. са складу Рады быў абраны Выканаўчы камітэт з 10 чалавек як цэнтр кансалідацыі антыбальшавіцкіх сіл у Беларусі.

Чаму так жорстка аднесліся органы Савецкай улады да I Усебеларускага з'езда? Ці была забарона далейшай працы з'езда памылкай бальшавікоў, як сцвярджаюць некаторыя гісторыкі?

Па-першае, Усебеларускі з'езд быў распушчаны не за спробу рэалізаваць права беларускага народа на самавызначэнне, як пішуць некаторыя гісторыкі, а за спробу ліквідаваць Савецкую ўладу і адхіліць бальшавікоў ад кіраўніцтва краем. Кожная ўлада павінна ўмець сябе абараняць. У снежні 1917 г. у бальшавікоў Беларусі былі сілы і магчымасці, каб абараніць Савецкую ўладу ад контррэвалюцыйных спроб яе ліквідацыі.

Па-другое, прысутныя на з'ездзе 1872 дэлегаты не прадстаўлялі ўвесь беларускі народ. Ён не толькі іх не выбіраў, але і мала ведаў пра гэты з'езд. На з'ездзе былі прадстаўнікі палітычных партый і арганізацый, прафсаюзаў, органаў улады і кіравання. Таму нельга сцвярджаць пра «небывала прадстаўнічы Усебеларускі з'езд», што сустракаецца на старонках некаторых публікацый.

Па-трэцяе, улада бальшавікоў у Расіі і ўрад У. І. Леніна ў Петраградзе ўдзельнікамі Усебеларускага з'езда прызнаваліся, а на тэрыторыі Беларусі павінна была існаваць буржуазная ўлада, незалежная ад СНК РСФСР і ад Савецкай Расіі. З гэтым не маглі пагадзіцца бальшавікі Беларусі.

Па-чацвёртае, падзеі на з'ездзе і пасля яго сведчаць пра тое, што магчымасцей для супрацоўніцтва розных партый і арганізацый на савецкай аснове не існавала. Ішла барацьба паміж прыхільнікамі буржуазна-рэфармісцкага і рэвалюцыйна-сацыялістычнага кірункаў развіцця Беларусі. У такой сітуацыі ў розных палітычных плыняў не было іншага выбару ў барацьбе за ўладу, акрамя канфрантацыі.

**Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР).** Ва ўмовах новага германскага наступлення, якое пачалося **18 лютага 1918 г.**, Выканком Рады Усебеларускага з'езда выдаў загад № 1, у якім заявіў аб пераходзе да яго ўсёй улады ў краі. У дзень захопу Мінска немцамі, **21 лютага 1918 г.**, Выканком Рады Усебеларускага з'езда звярнуўся да народа Беларусі з *1-й Устаўнай грама-*



*Першы ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі — Народны сакратарыят*

*тай*, у якой аб'явіў сябе ўладай у краі. Выканаўчым органам, урадам стаў Народны сакратарыят на чале з І. Я. Варонкам.

**9 сакавіка 1918 г.** Выканком Рады прыняў *2-ю Устаўную грамату*, у якой Беларусь аб'яўлялася *Народнай Рэспублікай*, вызначаліся асноўныя прынцыпы дзяржаўнага ладу і тэрыторыя, правы і свабоды грамадзян, формы ўласнасці і інш. 18 сакавіка 1918 г. Выканком Рады Усебеларускага з'езда быў рэарганізаваны ў *Раду БНР* як вышэйшы заканадаўчы орган. Прэзідыум Рады ўзначаліў І. М. Серада.

**25 сакавіка 1918 г.** Рада БНР прыняла *3-ю Устаўную грамату*, якой абвяшчалася незалежнасць БНР у этнаграфічных межах пражывання беларусаў. Нацыянальнымі дзеячамі ў якасці дзяржаўнага сцяга быў прыняты бела-чырвона-белы сцяг. Разам з гербам «Пагоня» — гербам Вялікага княства Літоўскага — ён стаў дзяржаўным сімвалам БНР. Як лічаць некаторыя даследчыкі, напісаны У. Тэраўскім на словы М. Краўцова марш «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» пазней стаў гімнам самаабвешчанай дзяржавы.

Рада БНР спрабавала рэалізаваць незалежнасць дзяржавы пры дапамозе знешніх сіл, што было яе памылкай. 25 красавіка 1918 г. яна накіравала тэлеграму германскаму кайзеру Вільгель-

му II, у якой выказвалася падзяка «за вызваленне Беларусі нямецкімі войскамі з цяжкага ўціску чужога пануючага здзеку і анархіі». «Толькі пад абаронай Германскай імперыі бачыць край сваю добрую долю ў будучыні», — адзначалася ў тэлеграме. Але кіраўніцтва Германіі афіцыйна БНР не прызнала.

Перамога ў Радзе БНР кансерватыўных элементаў, іх прагерманская арыентацыя, партыйныя рознагалоссі прывялі да вострага палітычнага крызісу. Раду пакінулі эсэры, меншавікі, яўрэйскія сацыялісты. Беларуская сацыялістычная грамада як палітычнае ядро Рады БНР раскалолася. На яе базе ўтварыліся тры новыя партыі — *Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р)*, *Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (БСДП)* і *Беларуская партыя сацыялістаў-федэралістаў (БПС-Ф)*. Неўзабаве быў сфарміраваны новы склад Народнага сакратарыята, які выказаўся за супрацоўніцтва з акупантамі. Былі прызнаны несапраўднымі дэкрэты Савецкай улады.

Такія дзеянні ўсё больш адштурхоўвалі кіраўніцтва БНР ад беларускага народа, пазбаўлялі Раду і ўрад самаабвешчанай дзяржавы яго падтрымкі. Тым не менш яны лічылі сябе прадстаўнікамі гэтага народа, дамагаючыся права на ўдзел у Парыжскай мірнай канферэнцыі 1919—1920 гг.

Краіны Антанты не выказвалі выразна сваіх адносін да беларускага нацыянальнага руху і не стрымлівалі намераў польскага ўрада аднавіць Польшчу ў межах 1772 г. Для краін Антанты тады было больш важным выкарыстаць ваенныя сілы гэтай дзяржавы супраць Савецкай Расіі. Таму намаганні Рады і ўрада БНР удзельнічаць у Парыжскай мірнай канферэнцыі не мелі поспеху, а краіны Антанты афіцыйна не прызналі БНР.

У поўным сэнсе слова Беларуская Народная Рэспубліка дзяржавай не з'яўлялася. Утварэнне самастойнай дзяржавы прадугледжвае не толькі яе абвяшчэнне, але і функцыянаванне рэальнай сістэмы органаў улады на пэўнай тэрыторыі, прыняцце законаў, ажыццяўленне канкрэтных знешніх і ўнутрыпалітычных функцый. На акупіраванай тэрыторыі Беларусі асноўныя пытанні дзяржаўнага ўзроўню фактычна вырашаліся не Радай і Народным сакратарыятам БНР, а германскай ваеннай адміністрацыяй. БНР не здзяйсняла сваіх паўнамоцтваў на ўсёй тэрыторыі пражывання беларусаў, не мела ўласнай арміі, органаў улады на месцах,

фінансавай і судовай сістэм. Яна не атрымала належнага міжнароднага прызнання. Функцыі ўрада БНР абмяжоўваліся палавінчатымі паўнамоцтвамі нацыянальнага прадстаўніцтва пры германскай акупацыйнай адміністрацыі і рашэннем пад кантролем немцаў задач у галіне культуры і адукацыі.

Такім чынам, аб БНР можна гаварыць як аб спробе стварэння беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці на несавецкай аснове. Не варта ні перабольшваць значэнне абвяшчэння БНР, як гэта робіцца ў некаторых сучасных публікацыях, ні замоўчваць факт абвяшчэння БНР, як гэта рабілася ў савецкай навуковай і вучэбнай літаратуры.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Ахарактарызуйце асаблівасці ўстанаўлення Савецкай улады ў Беларусі.
2. Калі адбыўся І Усебеларускі з'езд? Чаму СНК Заходняй вобласці і фронту распусцілі яго?
3. Назавіце даты прыняцця 1-й і 2-й Устаўных грамат Выканкома Рады Усебеларускага з'езда і 3-й Устаўнай граматы Рады БНР. Вызначце іх асноўныя ідэі.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. На думку гісторыкаў, пасля Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1917 г. перад Расіяй адкрываліся тры магчымыя шляхі развіцця: а) контррэвалюцыйны пераварот і аднаўленне манархіі; б) буржуазна-рэфармісцкі шлях да капіталізму; в) рэвалюцыйна-пралетарскі шлях да сацыялізму. Чым, на ваш погляд, быў абумоўлены выбар сацыялістычнага шляху развіцця? Ці можна лічыць Кастрычніцкую рэвалюцыю 1917 г. непазбежнай, заканамернай з'явай сусветна-гістарычнага значэння?
2. З дапамогай дадатковай літаратуры, краязнаўчых матэрыялаў падрыхтуйце паведамленне пра ўстанаўленне Савецкай улады ў вашым раёне.
3. Якія іншыя ацэнкі І Усебеларускага з'езда вы сустракалі ў вучэбнай гістарычнай літаратуры? Якая ацэнка ўяўляецца вам больш пераканаўчай? Чаму?
4. Ці згодны вы з тым, што спроба кіраўніцтва БНР рэалізаваць незалежнасць беларускай дзяржавы з дапамогай знешніх сіл была памылкай? Сваю думку абгрунтуйце.

## § 17. АФАРМЛЕННЕ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

**Успомніце.** 1. Якія пазіцыі па пытанні аб утварэнні беларускай дзяржаўнасці займалі беларускія нацыянальныя арганізацыі ў пачатку XX ст.? 2. Што такое Рэч Паспалітая? Якія тэрыторыі яна ўключала? 3. Калі адбыліся падзелы Рэчы Паспалітай? Назавіце дзяржавы, што ўдзельнічалі ў гэтых падзелах.

**Вызваленне Беларусі ад германскай акупацыі. Пазіцыя бальшавікоў па беларускім пытанні.** Паражэнне аўстра-германскага блока ў Першай сусветнай вайне і Лістападаўская рэвалюцыя 1918 г. у Германіі дазволілі ўраду У. І. Леніна ануляваць **13 лістапада 1918 г.** Брэсцкі мірны дагавор. Пачалося вызваленне Беларусі ад нямецкай акупацыі. Да сярэдзіны лютага 1919 г. амаль уся яе тэрыторыя была ачышчана ад ворага.

Рэальнае і дзейснае нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва ў Беларусі пачалося пасля вызвалення яе тэрыторыі ад германскіх акупантаў. Яно было звязана з утварэннем *Беларускай ССР*. Працэс нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва праходзіў у даволі складаных умовах.

З аднаго боку, кіраўнікі *Беларускага нацыянальнага камісарыята (Белнацкома)* (утвораны **31 студзеня (13 лютага) 1918 г.** пры Народным камісарыяце РСФСР па справах нацыянальнасцей у Маскве) і *Цэнтральнага бюро беларускіх секцый РКП(б)* (арганізавана з бежанцаў-беларусаў у розных гарадах Расіі) А. Р. Чарвякоў, З. Х. Жылуновіч і іншыя лічылі неабходным стварэнне Беларускай савецкай рэспублікі і ўстанаўленне яе цесных сувязей з РСФСР.

З другога боку, кіраўнікі Заходняй вобласці выступалі супраць абвяшчэння Беларускай ССР. Закінутыя вайной на тэрыторыю Беларусі, небеларусы па нацыянальнасці А. Ф. Мяснікоў (Мяснікян), В. Г. Кнорын і іншыя няправільна разумелі сутнасць беларускага нацыянальнага пытання і праблемы развіцця сусветнай цывілізацыі. Яны не прызнавалі існавання самастойнай беларускай нацыі і беларускай нацыянальнай культуры, а беларусаў лічылі крыху сапсаванымі рускімі, якім патрэбна дапамагчы не ў стварэнні дзяржаўнасці, а ў «ліквідацыі некаторых этнаграфічных асаблівасцей», пасля чаго беларусы сталі б сапраўднымі

ВЕСТКІ

Часоваго Работніча-Селянскаго Радаваго (Советского) Ураду Беларусі.

№ 1.

МАНІХВЭСТ

Часоваго Работніча-Селянскаго Савецкаго Правіцельства Беларусі.

Таварышы і браты рабочыя, бедныя селяне і чырвонеармейцы Беларусі,

*Газета «Весткі» з тэкстам Маніфеста аб абвяшчэнні БССР*

рускімі. Рускі народ яны разглядалі як адзінства трох народнасцей: велікаросаў, маларосаў (украінцаў) і беларусаў. На іх думку, эпоха нацыянальных дзяржаў адышла ў мінулае, а абарона нацыянальнай дзяржаўнасці перашкаджае сусветнай рэвалюцыі. Такая памылковая пазіцыя мясцовых кіраўнікоў супадала з пазіцыяй вышэйшага савецкага кіраўніцтва.

Аднак, улічваючы імкненне беларускага народа да стварэння сваёй дзяржаўнасці, патрабаванні некаторых палітычных партый і арганізацый вырашыць беларускае пытанне, наяўнасць самаабвешчанай БНР, а таксама ў мэтах умацавання і пашырэння заваёў сацыялістычнай рэвалюцыі ў сусветным маштабе 24 снежня 1918 г. ЦК РКП(б) прыняў рашэнне аб стварэнні БССР.

**Утварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР).** Прыняцце канчатковага рашэння аб утварэнні Беларускай ССР, яе абвяшчэнне адбывалася ў Смаленску, які з'яўляўся тады адміністрацыйным цэнтрам *Заходняй камуны* (былая Заходняя вобласць) *РСФСР*. У склад гэтай адміністрацыйнай адзінкі ў канцы 1918 г. уваходзіла тэрыторыя Беларусі і Смаленшчыны.

**30 снежня 1918 г.** у Смаленску адкрылася VI Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б). Яна прыняла рэзалюцыю аб абвяшчэнні Заходняй камуны «самастойнай Савецкай Рэспублікай Беларусі». Канферэнцыя абвясціла сябе *І з'ездам Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі (КП(б)Б)* і выбрала кіруючы орган — Цэнтральнае бюро (ЦБ) КП(б)Б. Старшынёй Прэзідыума ЦБ КП(б)Б стаў А. Ф. Мяснікоў. **31 снежня 1918 г.**




*Утварэнне БССР і Літоўска-Беларускай ССР*

ЦБ КП(б)Б зацвердзіла склад *Часовага рабоча-сялянскага Савецкага ўрада Беларусі* на чале з З. Х. Жылуновічам.

**1 студзеня 1919 г.** Часовы ўрад Беларусі апублікаваў Маніфест, які абвясціў стварэнне БССР у межах этнічнага пражывання беларусаў. Аблвыкамзах склаў свае паўнамоцтвы, Заходняя вобласць РСФСР (Заходняя камуна) была скасавана. 5 студзеня 1919 г. урад БССР і ЦБ КП(б)Б пераехалі са Смаленска ў Мінск, які з гэтага часу стаў сталіцай БССР.



*Дэлегаты I Усебеларускага з'езда Саветаў. Мінск. 2—3 лютага 1919 г.*

**Аб'яднанне Беларускай ССР і Літоўскай ССР і стварэнне Літоўска-Беларускай ССР.** Пагроза інтэрвенцыі з боку Польшчы прымусіла савецкае кіраўніцтва аб'яднаць БССР з Літоўскай ССР. 16 студзеня 1919 г. ЦК РКП(б) прыняў рашэнне ўключыць Віцебскую, Магілёўскую і Смаленскую губерні ў склад РСФСР, а на аснове Мінскай, Гродзенскай, Віленскай і Ковенскай губерняў абвясціць *Літоўска-Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (Літбел)*. Меркавалася, што ўключаныя ў склад РСФСР Віцебская і Магілёўская губерні, калі іншыя тэрыторыі Беларусі будуць захоплены Польшчай, у будучым змогуць стаць асновай для аднаўлення беларускай дзяржаўнасці.

**2—3 лютага 1919 г.** адбыўся *I Усебеларускі з'езд Саветаў*. Ён прыняў *Канстытуцыю БССР*, згодна з якой вышэйшая ўлада ў рэспубліцы належала з'езду Саветаў. У перыяд паміж з'ездамі яе здзяйсняў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт (ЦВК). Першая Канстытуцыя БССР вызначыла асноўныя задачы дзяржавы, абвясціла дэмакратычныя правы і свабоды грамадзян, адмяніла прыватную ўласнасць на зямлю, аб'явіла лясы, нетры і воды дзяржаўнай уласнасцю.

З'езд прыняў рашэнне аб аб'яднанні ў адну дзяржаву Беларускай ССР і Літоўскай ССР. Такое ж рашэнне прыняў і І з'езд Саветаў Літвы ў лютым 1919 г. 27 лютага 1919 г. былі створаны ЦВК і СНК Літбел. У склад гэтай дзяржавы ўвайшлі Мінская, Гродзенская, Віленская, Ковенская і частка Сувалкаўскай губерняў з больш як 4-мільённым насельніцтвам. Сталіцай Літоўска-Беларускай ССР стаў горад Вільня. Аднак ужо ў верасні 1919 г. тэрыторыя аб'яднанай дзяржавы была захоплена Польшчай. Літоўска-Беларуская ССР фактычна перастала існаваць.

**Польская інтэрвенцыя ў Беларусі ў 1919—1920 гг.** У лістападзе 1918 г., у сувязі з паражэннем у Першай сусветнай вайне Германіі і Аўстра-Венгрыі, а таксама перамогай Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі і абвяшчэннем Савецкай уладай несапраўднымі ўсіх дагавораў царскага ўрада наконт лёсу трэціх краін, аднавілася Польская дзяржава. Пры дапамозе краін Антанты за кароткі тэрмін яна стварыла моцную армію. Польскае кіраўніцтва паставіла задачу адрадзіць Рэч Паспалітую ў межах 1772 г., уключыць у склад Польшчы Літву, значныя тэрыторыі Украіны і Беларусі.

У канцы лютага 1919 г. войскі Польшчы пачалі наступленне і занялі Гродзеншчыну, дзе знаходзілася Рада БНР. Рада зрабіла спробу арганізаваць супраціўленне палякам, стварыўшы для гэтага Савет Дзяржаўнай абароны на чале з В. Ю. Ластоўскім і генералам К. А. Кандратовічам. Але гэта акцыя поспеху не мела. Да сярэдзіны красавіка 1919 г. палякі захапілі Брэст, Пінск, Ваўкавыск, Слонім, Ліду, а 21 красавіка — Вільню. Асноўныя сілы Чырвонай Арміі ў гэты час былі заняты на Усходнім фронце.

**8 жніўня 1919 г.** польскія войскі захапілі Мінск. Фронт стабілізаваўся толькі ў канцы 1919 г. на лініі ракі Бярэзіны. Пачаліся мірныя перагаворы.

На захопленай тэрыторыі быў устаноўлены жорсткі акупацыйны рэжым, адноўлена ўлада памешчыкаў і капіталістаў. Праводзіліся масавыя арышты працаўнікоў польскага рэжыму і дзеячаў беларускага нацыянальнага руху. Багацці Беларусі раскрадаліся і перапраўляліся ў Польшчу. Дзяржаўнай мовай была аб'яўлена польская. Зачыняліся беларускія школы і ўстановы культуры. З дзяржаўных устаноў звальняліся асобы беларускага паходжання і праваслаўнага веравызнання.

Некаторыя кіраўнікі беларускага нацыянальнага руху паверылі прапагандзе Ю. Пілсудскага. Рада БНР на чале з Я. Ю. Лёсікам звярнулася да Пілсудскага з лістом, у якім змяшчалася просьба аб перадачы ёй улады ў Беларусі. Старшыня ўрада БНР А. І. Луцкевіч пачаў перагаворы з прэм'ер-міністрам Польшчы аб прызнанні БНР. У верасні 1919 г. Луцкевіч у Варшаве пагадзіўся заключыць унію Беларусі і Польшчы пры ўмове прызнання польскім сеймам незалежнасці БНР. Але Ю. Пілсудскі не прыняў гэтай прапановы і загадаў інтэрніраваць (прымусова затрымаць) А. І. Луцкевіча.

Польскае кіраўніцтва лавіравала. Ю. Пілсудскі дазволіў правесці сесію Рады БНР, спадзеючыся, што яна прыме рашэнне аб уніі Польшчы і Беларусі без ніякіх умоў. Быў падпісаны дэкрэт аб стварэнні двух батальёнаў беларускага войска і арганізавана *Беларуская вайсковая камісія*. Але галоўнакамандуючым беларускага войска быў прызначаны польскі афіцэр.

Антыбеларуская пазіцыя польскіх улад і размах антыпольскай барацьбы выклікалі раскол у кіраўніцтве БНР. На сесіі Рады БНР у снежні 1919 г. прыхільнікам польскай арыентацыі — старшыні Рады Я. Ю. Лёсіку і старшыні ўрада А. І. Луцкевічу — выказалі недавер. Быў абраны новы склад Рады — *Народная рада* на чале з П. А. Крачэўскім і новы ўрад БНР на чале з В. Ю. Ластоўскім. Прыхільнікі уніі з Польшчай склалі *Найвышэйшую раду*. У адказ польскія ўлады арыштавалі кіраўніцтва партыі беларускіх эсэраў, у тым ліку і новага кіраўніка ўрада Народнай рады В. Ю. Ластоўскага, а таксама афіцыйна заявілі, што не збіраюцца прызнаваць БНР.

Беларускі народ не скарыўся акупантам. Яго барацьбу ўзначалілі камуністы і эсэры. У канцы жніўня 1919 г. ЦК КП(б)ЛіБ утварыў спецыяльны палітычны орган — *Бюро па нелегальнай рабоце*, якое займалася фарміраваннем партызанскіх атрадаў. У кастрычніку 1919 г. ЦК БПСР заклікаў усе палітычныя партыі стварыць агульны фронт змагання за вызваленне Беларусі. Барацьбой беларускага народа кіравалі *Беларуская камуністычная арганізацыя* і *Беларускі паўстанцкі камітэт*.

Беларускія партызаны разбуралі камунікацыі, узрывалі польскія вайсковыя эшалоны, праводзілі разведвальную работу ў тыле ворага. У студзені 1920 г. у вёсцы Гатава каля Мінска адбыўся

Пролетарии всех стран, соединяйтесь!

Советская БЕЛОРУСЬ

Орган Минского Губернского Революционного Комитета.

№ 14 Минск, Суббота 31 июля 1920 г. № 14

ДЕКЛАРАЦИЯ

о провозглашении независимости Советской Социалистической Республики Белоруссии.

От Военно-Революционного комитета соц. Советской Республики Белоруссии.

*Газета «Советская Белорусь» з тэкстам Дэкларацыі аб абвяшчэнні незалежнасці ССРБ*

першы, а ў красавіку ў вёсцы Міханавічы — другі з'езд партызанаў. На гэтых з'ездах была распрацавана тактыка барацьбы супраць польскіх акупантаў.

Вясной 1920 г., павялічыўшы сваю армію з дапамогай краін Антанты да 740 тыс. чалавек, Польшча зноў разгарнула наступленне і захапіла Мазыр, Калінкавічы і Рэчыцу. Чырвоная Армія атрымала папаўненне з Усходняга фронту і пачала контрнаступленне. Але яно было няўдалым. Чырвоная Армія адышла на зыходныя пазіцыі.

Новае наступленне войскаў Заходняга фронту пад камандаваннем М. М. Тухачэўскага пачалося 4 ліпеня 1920 г. **11 ліпеня 1920 г.** быў вызвалены Мінск, 1 жніўня — Брэст. Чырвоная Армія рушыла на Варшаву.

**Другое абвяшчэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.** 6 ліпеня 1920 г. ЦК КП(б) Літвы і Беларусі прызнаў неабходным аднавіць Беларускую ССР. Гэтае рашэнне падтрымаў ЦК РКП(б).

**31 ліпеня 1920 г.** у Мінску адбылося сумеснае пасяджэнне прадстаўнікоў партый і грамадскіх арганізацый, на якім была прынята *«Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь»*. Савецкая Беларусь аднаўлялася ў межах шасці паветаў Мінскай губерні (Мінскі, Барысаўскі, Бабруйскі, Ігуменскі, Слуцкі і Мазырскі).

У жніўні 1920 г. наступленне Чырвонай Арміі ў Польшчы было спынена. Спадзяванні на развіццё сусветнай рэвалюцыі не здзейсніліся. Магутны нацыянальна-патрыятычны ўздым польскага




*Тэрыторыя Беларусі пасля заключэння Рыжскага мірнага дагавора. Узбуйненне БССР у 1924 і 1926 гг.*

народа ў абарону сваёй радзімы не спраўдзіў разлікаў савецкага ўрада на падтрымку Чырвонай Арміі польскім пралетарыятам. Чырвоная Армія пацярпела паражэнне. Заходняя Беларусь была зноў акупіравана Польшчай. Знясіленая бесперапыннымі войнамі, Савецкая Расія 12 кастрычніка 1920 г. заключыла з Польшчай прэлімінарны (папярэдні) дагавор.

**Рыжскі мірны дагавор. 18 сакавіка 1921 г.** у Рызе быў падпісаны мірны дагавор паміж Савецкай Расіяй, Украінай і Польшчай. Прадстаўнікоў Рады БНР у Рыгу не дапусцілі, а Рэўком

БССР даручыў прадстаўляць інтарэсы Беларусі дэлегацыі РСФСР. Згодна з Рыжскім мірным дагаворам да Польшчы адышла тэрыторыя Заходняй Беларусі з плошчай 113 тыс. км$^2$ і насельніцтвам каля 4 млн чалавек.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Назавіце гістарычныя падзеі, якія адбыліся 30—31 снежня 1918 г., 1 студзеня 1919 г., 5 студзеня 1919 г., 16 студзеня 1919 г., 2—3 лютага 1919 г., 27 лютага 1919 г., 31 ліпеня 1920 г., 18 сакавіка 1921 г.
2. Якія фактары абумовілі ўтварэнне БССР?
3. Чым было выклікана ўключэнне Віцебскай і Магілёўскай губерняў у склад РСФСР?
4. Назавіце прычыну ўтварэння Літоўска-Беларускай ССР.
5. Якімі былі мэты польскага наступлення на тэрыторыю Беларусі ў канцы лютага 1919 г.? Ахарактарызуйце яго вынікі.
6. Дайце характарыстыку польскаму акупацыйнаму рэжыму на тэрыторыі Беларусі.
7. Калі была адноўлена незалежнасць Беларускай ССР і ў якіх межах? Чаму гэту падзею называюць другім абвяшчэннем БССР?
8. Ахарактарызуйце пазіцыю Рады БНР у адносінах да польскіх інтэрвентаў. Якімі былі вынікі яе дзейнасці?
9. Калі быў заключаны Рыжскі мірны дагавор? Якімі былі яго ўмовы для Беларусі?

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Параўнайце пазіцыі розных палітычных дзеячаў па пытанні ўтварэння беларускай дзяржавы. Якая з пазіцый, на ваш погляд, правільная? Сваю думку абгрунтуйце.
2. Ахарактарызуйце змены тэрыторыі Беларускай ССР у 1919—1921 гг. Вызначце гістарычныя ўмовы гэтых змен. Пачніце запаўненне табліцы.

ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ЗМЕНЫ БССР У ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XX ст.

| Перыяд | Тэрыторыя БССР |
|---|---|
| **1919 г.**<br>1 студзеня<br>16 студзеня<br>2—3 лютага | |

| | |
|---|---|
| **1920 г.**, 31 ліпеня | |
| **1921 г.**, 18 сакавіка | |

3. Вызначце прычыны няўдалага наступлення Чырвонай Арміі ў Польшчы ў 1920 г.

## § 18. ПЕРАХОД ДА НОВАЙ ЭКАНАМІЧНАЙ ПАЛІТЫКІ

**Успомніце.** Што такое капіталізм? Што такое сацыялізм? Назавіце істотныя прыкметы гэтых грамадскіх ладоў.

**Тэрыторыя і насельніцтва БССР у пачатку 1920-х гг. Пераход да нэпа.** У пачатку 1920-х гг. у склад Беларускай ССР уваходзілі 6 паветаў былой Мінскай губерні з насельніцтвам крыху больш за 1,5 млн чалавек.

Першая сусветная і грамадзянская войны паставілі Савецкую Расію і Беларусь на мяжу эканамічнай катастрофы. Прамысловая вытворчасць у Беларусі скарацілася ў некалькі разоў. Прадукцыя сельскай гаспадаркі складала менш за палову ад даваеннай. Значна зменшылася насельніцтва Беларусі. Шмат жыхароў краю загінула на франтах, эмігравала, памерла ад голаду, хвароб, эпідэмій і інш. Адбывалася люмпенізацыя грамадства. Злачынныя групоўкі тэрарызавалі насельніцтва, нягледзячы на жорсткія меры з боку ЧК і міліцыі.

Сацыяльна-эканамічны крызіс дапаўняўся палітычным. Палітыка «ваеннага камунізму», заснаваная на прымусовых, ваенна-камуністычных метадах работы, не адпавядала новым умовам мірнага будаўніцтва. Яна выклікала незадаволенасць народа, што неўзабаве вылілася ў шматлікія мітынгі, забастоўкі і нават узброеныя выступленні супраць Савецкай улады. Кульмінацыяй незадаволенасці стаў Кранштацкі мяцеж у лютым — сакавіку 1921 г.

Палітычнае становішча ў БССР ускладнялася неўладкаванасцю адносін з прыгранічнымі дзяржавамі, пашырэннем нелегальнага (кантрабанднага) гандлю з замежжам, пастаяннымі нападамі ўзброеных бандаў з тэрыторыі Польшчы, ліквідацыяй якіх займаліся часці асобага прызначэння.

Становішча, што склалася ў краіне, патрабавала кардынальных перамен. Выйсце, на думку У. І. Леніна, было ў замене палітыкі «ваеннага камунізму» *новай эканамічнай палітыкай (нэпам)*. Яна была прынята на X з'ездзе РКП(б) у **сакавіку 1921 г.**

**Сутнасць і змест новай эканамічнай палітыкі.** Мэтай нэпа з'яўлялася ўмацаванне на эканамічнай аснове палітычнага саюзу рабочага класа і сялянства дзеля захавання Савецкай улады. Гэта была спроба дзяржавы спалучыць у адзінай палітыка-эканамічнай сістэме прынцыпы сацыялістычнага і капіталістычнага гаспадарання. Для ліквідацыі таварнага голаду дапускалася ў пэўных межах пад кантролем дзяржавы развіццё капіталізму. Ставілася задача выкарыстаць прыватныя сродкі і вопыт капіталістычных элементаў у інтарэсах аднаўлення гаспадаркі і стварэння ўмоў для будаўніцтва сацыялістычнага грамадства.

Нэп — гэта ў першую чаргу *пераход ад харчразвёрсткі да харчпадатку*, памер якога быў на 30—50 % ніжэйшы. Памер харчпадатку вылічваўся з плошчы пасеваў і даводзіўся да сялян яшчэ да пачатку сельскагаспадарчых работ. Акрамя збожжа натуральным падаткам абкладалася прадукцыя жывёлагадоўлі: мяса, масла, воўна і інш. Усіх падаткаў у 1921 г. было ўстаноўлена 13. Пазней іх замянілі адзіным грашовым падаткам.

Увядзенне нэпа дало сялянам права свабодна распараджацца той прадукцыяй, якая заставалася ў іх пасля выплаты падатку, прадаваць яе на рынку. У такіх умовах у сялян з'яўлялася зацікаўленасць у развіцці сваёй гаспадаркі. Сялянам дазволілі свабодна выбіраць формы землекарыстання. Аднолькава законнымі былі прызнаны сялянская арцель, абшчына, індывідуальнае карыстанне зямлёй у выглядзе хутароў і адрубоў. Дазвалялася арэнда зямлі і выкарыстанне наёмнай рабочай сілы пры ўмове, што сам наймальнік таксама працуе.

Новая эканамічная палітыка ў прамысловасці прадугледжвала *пераход прадпрыемстваў на гаспадарчы разлік, самафінансаванне*. Дзяржаўныя прадпрыемствы працавалі на поўным гаспадарчым разліку, пакрываючы выдаткі за кошт свайго прыбытку. Стратныя прадпрыемствы закрываліся ці часова кансерваваліся, а прадпрыемствы, якія не мелі для дзяржавы асаблівага значэння, аддаваліся ў арэнду кааператыўным арганізацыям або прыватным асобам. Гэта павінна было ў кароткі тэрмін ліквi-



*Новая механічная майстэрня на заводзе «Энергія» ў Мінску. 1920-я гг.*

даваць таварны голад і пашырыць тавараабарот паміж горадам і вёскай.

Нэп — гэта *развіццё дзяржаўнага, кааператыўнага і прыватнага гандлю* як асноўных формаў эканамічных сувязей паміж горадам і вёскай. Прамы прадуктаабмен спыняўся, адбываўся пераход да таварна-грашовых адносін. Гэтаму садзейнічала праведзеная ў 1922—1924 гг. грашовая рэформа, вынікам якой стала ўвядзенне ў абарачэнне забяспечанага золатам чырвонца.

З дазволам прыватнага гандлю ўся Беларусь спачатку ператварылася ў вялікі базар. Гандлявалі сяляне, рабочыя, хатнія гаспадыні, дэмабілізаваныя салдаты і інш. Упарадкаванне гандлю адбылося ў выніку стварэння дзяржаўнай падатковай службы, выкупу гандлярамі патэнта (ліцэнзіі) і выплаты імі прагрэсіўнага падатку. Да сярэдзіны 1920-х гг. была створана шырокая сетка магазінаў і магазінчыкаў — рознічны гандаль, дзе галоўнай фігурай стаў прыватнік. У аптовым гандлі вядучую ролю адыгрывалі дзяржаўныя і кааператыўныя прадпрыемствы.

Нэп — гэта *карэнная перабудова сацыяльнай сферы, адмова ад ваенна-камуністычных прынцыпаў размеркавання.* Адмяняліся ўсеагульная працоўная павіннасць, працоўныя мабілізацыі, працоўныя арміі і ўраўняльная аплата працы. Камплектаванне прадпрыемстваў рабочай сілай рабілася праз біржы працы, а за-



*Адзін з карпусоў Мінскага гарбарнага завода. 1920-я гг.*

работная плата вызначалася ў залежнасці ад зробленай работы. Аднаўлялася плата за транспарт, камунальныя і іншыя паслугі.

Асаблівасцю перыяду новай эканамічнай палітыкі ў Беларусі было тое, што тут у свой час праходзіла «мяжа яўрэйскай аселасці», і таму нэпманамі з'яўляліся пераважна яўрэі. Гэта служыла асновай для ўзмацнення, з аднаго боку, шавіністычнай ідэалогіі яўрэйскай буржуазіі — сіянізму, а з другога боку, зняважлівых і нават варожых адносін да яўрэяў, іх заняткаў, побыту і культуры — антысемітызму.

Нэп быў часовым адступленнем бальшавікоў у эканамічнай сферы. Яны выкарыстапі капітал буржуазіі і вопыт прыватнікаў, каб стварыць умовы для сацыялістычнага будаўніцтва. Гэта быў тактычны манеўр, а не змена стратэгічнага курсу бальшавікоў на пабудову сацыялізму.

**Удзел БССР ва ўтварэнні СССР. Узбуйненне тэрыторыі БССР. Канстытуцыя БССР 1927 г.** Ажыццяўленню новай эканамічнай палітыкі садзейнічала ўмацаванне і пашырэнне сувязей паміж савецкімі рэспублікамі. 16 студзеня 1921 г. быў заключаны дагавор аб ваенным і гаспадарчым саюзе паміж РСФСР і БССР.

У выніку развіцця ўсебаковага супрацоўніцтва ўсе савецкія рэспублікі прыйшлі да ідэі дзяржаўнага саюзу паміж імі. 14—18 снежня 1922 г. адбыўся *IV Усебеларускі з'езд Саветаў*. Ён адобрыў ідэю ўтварэння Саюза ССР і далучэння да яго БССР.

*I з'езд Саветаў СССР* адкрыўся ў Маскве **30 снежня 1922 г.** Ён прыняў Дэкларацыю і Дагавор аб утварэнні *Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік*. Дагавор аб утварэнні СССР заключылі суверэнныя савецкія рэспублікі: БССР, РСФСР, УССР і ЗСФСР (Закаўказская Савецкая Федэратыўная Сацыялістычная Рэспубліка). СССР утвараўся як добраахвотнае аб'яднанне раўнапраўных рэспублік, як адзіная саюзная дзяржава.

Для развіцця эканомікі і культуры Беларусі, аб'яднання беларускай нацыі ў яе этнаграфічных межах, умацавання нацыянальнай дзяржаўнасці патрабавалася далучэнне да БССР, якая ўключала толькі 6 паветаў, усіх беларускіх зямель. Улічваліся таксама знешнепалітычныя абставіны, асабліва становішча ў Заходняй Беларусі. У сакавіку **1924 г.** Прэзідыумам ЦВК СССР і Усерасійскім ЦВК былі прыняты пастановы аб перадачы Беларускай ССР 15 паветаў і асобных валасцей Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў, дзе большасць насельніцтва складалі беларусы.

VI Надзвычайны Усебеларускі з'езд Саветаў у сакавіку 1924 г. заканадаўча аформіў далучэнне да БССР усходнебеларускіх зямель. Пасля аб'яднання быў праведзены новы адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел: утвораны акругі, якія падзяляліся на раёны, а раёны — на сельскія саветы.

У **1926 г.** да БССР былі далучаны Гомельскі і Рэчыцкі паветы, у якіх таксама пераважала беларускае насельніцтва. У выніку ўзбуйнення тэрыторыя БССР павялічылася да 126 тыс. км$^2$, а насельніцтва дасягнула амаль 5 млн чалавек.

Такім чынам, усходнебеларускія землі (Віцебшчына, Гомельшчына і Магілёўшчына) былі далучаны да Савецкай Беларусі. Заходнебеларускія землі да 1939 г. заставаліся ў складзе Польшчы. Працэс фарміравання тэрыторыі БССР у межах пражывання беларускага этнасу яшчэ не скончыўся.

**11 красавіка 1927 г.** VIII Усебеларускім з'ездам Саветаў была прынята другая Канстытуцыя Беларускай ССР. У ёй замацоўваліся змены ў адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле рэспублікі, дасягненні беларускага народа ў дзяржаўным, гаспадарчым і культурным будаўніцтве, адлюстроўваўся факт аб'яднання БССР і іншых саюзных рэспублік у адзіную саюзную дзяржаву — Савецкі Саюз, вызначаліся суверэнныя правы БССР у складзе СССР.

**Пытанні для самаправеркі**

1. Калі быў зацверджаны пераход да новай эканамічнай палітыкі?
2. Назавіце сацыяльна-эканамічныя і палітычныя перадумовы пераходу да нэпа.
3. Пералічыце мерапрыемствы новай эканамічнай палітыкі.
4. Якімі былі эканамічныя і палітычныя мэты новай эканамічнай палітыкі?
5. Назавіце гістарычныя падзеі, якія адбыліся 16 студзеня 1921 г., 14—18 снежня 1922 г., 30 снежня 1922 г., у 1924 г., у 1926 г., 11 красавіка 1927 г.
6. Якія змены ў жыцці рэспублікі былі замацаваны ў другой Канстытуцыі БССР?

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Прааналізуйце гістарычныя падзеі паводле плана (прычыны, сутнасць, гістарычнае значэнне):
   а) новая эканамічная палітыка;
   б) уваходжанне БССР у склад СССР.
2. Вызначце капіталістычныя і сацыялістычныя рысы ў новай эканамічнай палітыцы. Афарміце свой адказ у выглядзе табліцы.
3. Прадоўжыце запаўненне табліцы.

ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ЗМЕНЫ БССР У ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XX ст.

| Перыяд | Тэрыторыя БССР |
|---|---|
| 1924 г. | |
| 1926 г. | |

## § 19. ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЯ Ў БЕЛАРУСКАЙ ССР. КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

**Успомніце.** 1. Што такое прамысловая рэвалюцыя? Што такое індустрыялізацыя? Назавіце іх эканамічныя і сацыяльныя наступствы. 2. Што такое калектывізацыя?

**Курс на сацыялістычную індустрыялізацыю і асаблівасці яе правядзення ў Беларусі.** Даволі нізкі ўзровень развіцця прадукцыйных сіл у сярэдзіне 1920-х гг. патрабаваў стварэння буйной

машыннай вытворчасці і перабудовы ўсёй народнай гаспадаркі на аснове высокапрадукцыйнай тэхнікі. Гэты працэс у СССР і БССР атрымаў назву *сацыялістычнай індустрыялізацыі*. У краінах Захаду ён вядомы як *індустрыяльная (прамысловая) рэвалюцыя*.

Курс на правядзенне сацыялістычнай індустрыялізацыі ў СССР прыняў у **снежні 1925 г.** XIV з’езд ВКП(б). Сацыялістычная індустрыялізацыя ў СССР адрознівалася ад прамысловай рэвалюцыі ў капіталістычных краінах. На Захадзе прамысловая рэвалюцыя працягвалася стагоддзі. Яна пачыналася з развіцця лёгкай прамысловасці, якая патрабавала менш фінансавых выдаткаў і забяспечвала атрыманне ў кароткі тэрмін высокага прыбытку. Зароблены капітал накіроўвалі потым у цяжкую прамысловасць. У СССР і БССР індустрыялізацыю патрэбна было ажыццявіць за 10—15 гадоў, і пачыналася яна з цяжкай прамысловасці, што патрабавала вялікіх капіталаўкладанняў.

Паколькі краіны Захаду адмовіліся даваць СССР займы і крэдыты, фінансавыя сродкі для індустрыялізацыі прыходзілася шукаць унутры краіны. Гэта быў прыбытак ад нацыяналізаваных фабрык, заводаў, прадпрыемстваў сувязі, іншых галін гаспадаркі; ад продажу за мяжу зерня, лесу і нафтапрадуктаў, а таксама карцін, скульптур і іншых мастацкіх каштоўнасцей; ад скарачэння сродкаў на ўтрыманне кіруючага апарата і ўсталявання жорсткага рэжыму эканоміі. Былі выкарыстаны запасы золата і серабра, прададзены за мяжу званы, іконы і іншыя царкоўныя каштоўнасці. Уведзена дзяржаўная манаполія на гарэлку, а таксама валютная манаполія, у выніку якой чырвонец стаў унутранай валютай.

Формамі перапампоўвання сродкаў насельніцтва на патрэбы індустрыялізацыі былі недаплата за работу служачым і рабочым, звышпадатак для сялян у выглядзе пераплат за прамысловыя тавары і недаатрымання па лініі цэн на сельскагаспадарчыя прадукты, прамыя і ўскосныя падаткі (падатак са звароту), эмісія грошай, подпіс на дзяржаўныя пазыкі, канфіскацыя маёмасці і зберажэнняў у заможных сялян, кампаніі ў гарадах па забіранні ў насельніцтва золата і каштоўнасцей.

Індустрыялізацыя ў БССР з’яўлялася часткай адзінага працэсу індустрыялізацыі ў СССР. Разам з тым яна мела і свае асаблівасці правядзення.



*Панчошна-трыкатажная фабрыка імя КІМ у Віцебску*

Па-першае, з улікам дастатковых запасаў мясцовай сыравіны, патрэбы ў таварах народнага спажывання, зручных шляхоў зносін і вытворчых традыцый асноўная ўвага ў БССР аддавалася паліўнай, дрэваапрацоўчай, папяровай, гарбарнай, швейнай, абутковай і харчовай прамысловасці. У рэспубліцы былі пабудаваны торфапрадпрыемства «Асінторф» каля Оршы, Бабруйскі і Гомельскі дрэваапрацоўчыя камбінаты, Аршанскі льнокамбінат, фабрыка штучнага валакна ў Магілёве, швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі» і панчошна-трыкатажная фабрыка імя КІМ у Віцебску.

Па-другое, прыгранічнае становішча БССР, неразведанасць яе прыродных багаццяў, недахоп сыравіны, інжынерна-тэхнічных і рабочых кадраў не дазвалялі разгарнуць буйнамаштабнае будаўніцтва аб'ектаў цяжкай прамысловасці, як гэта рабілася ў іншых рэгіёнах СССР. Тым не менш частка капіталаўкладанняў накіроўвалася на развіццё энергетыкі, машынабудавання і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў. У гады першай (1928—1932), другой (1933—1937) і трэцяй (1938 — чэрвень 1941) пяцігодак уступілі ў строй Беларуская дзяржаўная раённая электрастанцыя (БелДРЭС), Гомельскі завод сельскагаспадарчага машынабудавання («Гомсельмаш»), Мінскі радыёзавод, магілёўскія трубаліцейны і аўтарамонтны заводы, Гомельскі шкляны і Крычаўскі цэментны заводы. Былі створаны таксама станкабудаўнічыя заводы імя К. Я. Варашылава і імя С. М. Кірава ў Мінску і станкабудаўнічыя заводы ў Віцебску і Гомелі.

Па-трэцяе, з-за недахопу ў рэспубліцы ўласных фінансавых рэсурсаў частку сродкаў на патрэбы індустрыялізацыі выдзяляў урад СССР. З 338 млн рублёў, укладзеных у прамысловасць БССР за гады першай пяцігодкі, каля $^{1}/_{3}$ паступіла з саюзнага бюджэту. З рэспублік Савецкага Саюза ў Беларусь завозілася прамысловае абсталяванне, чорныя і каляровыя металы, каменны вугаль, нафтапрадукты. На новабудоўлях рэспублікі працавалі спецыялісты і рабочыя з Масквы, Ленінграда, Кіева, Харкава, прамысловых цэнтраў Урала. У той жа час тэхнічнае абсталяванне, станкі, зробленыя ў БССР, паступалі на фабрыкі і заводы Масквы, Украіны, Урала.

Па-чацвёртае, у БССР былі створаны новыя галіны прамысловасці — паліўная, машынабудаўнічая, радыётэхнічная, хімічная, наладзілася вытворчасць штучнага валакна і трыкатажу. Сфарміраваліся інжынерна-тэхнічныя кадры, выраслі кадры рабочага класа. Мноства спецыялістаў і кваліфікаваных рабочых было падрыхтавана ў прафесійна-тэхнічных навучальных установах, а таксама на фабрыках і заводах.

**Вынікі ажыццяўлення палітыкі індустрыялізацыі.** У выніку ажыццяўлення індустрыялізацыі СССР стаў адной з трох-чатырох краін свету, якія былі здольны вырабляць любы від прамысловай прадукцыі, даступнай тады чалавецтву.

Беларуская ССР з аграрнай ускраіны былой Расійскай імперыі ператварылася ў рэспубліку з развітой прамысловасцю. З'явіліся новыя галіны прамысловасці. БССР стала індустрыяльна-аграрнай рэспублікай Савецкага Саюза. Было ліквідавана беспрацоўе, адменена картачная сістэма на прамысловыя і харчовыя тавары.

**Пераход да суцэльнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі і фарсіраванне яе тэмпаў.** Курс на правядзенне палітыкі калектывізацыі сельскай гаспадаркі распрацаваў XV з'езд ВКП(б) у **снежні 1927 г.**

Без патрэбных матэрыяльна-тэхнічных і маральна-псіхалагічных умоў у другой палове 1929 — пачатку 1930 г. пачалася *суцэльная калектывізацыя* і фарсіраванне яе тэмпаў. На гэта арыентавала пастанова ЦК ВКП(б) ад 5 студзеня 1930 г. «Аб тэмпе калектывізацыі і мерах дапамогі дзяржавы калгаснаму будаўніцтву». Яна абумовіла выкарыстанне адміністрацыйна-сілавых метадаў у правядзенні калектывізацыі.

Сялян часта прымушалі запісвацца ў калгасы, што прывяло да нарошчвання колькасных паказчыкаў. Да 1 сакавіка 1930 г. у калгасы было аб'яднана 58 % ад агульнай колькасці сялянскіх гаспадарак Беларусі. Гэта быў самы высокі паказчык калектывізацыі ў першай пяцігодцы.

Рэакцыяй сялянства на фарсіраванне тэмпаў калектывізацыі і абагуленне рабочай, а нярэдка свойскай жывёлы і птушкі сталі масавы зарэз і продаж жывёлы. Да мая 1930 г. пагалоўе коней і буйной рагатай жывёлы скарацілася больш як на чвэрць. Растлумачальная работа сярод насельніцтва поспеху не мела. Сельская гаспадарка панесла вялікія страты.

**Палітыка дзяржавы ў адносінах да кулакоў.** Пры стварэнні калгасаў Савецкая ўлада праводзіла дыферэнцыраваную палітыку ў адносінах да розных пластоў сялянства. Апорай Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы ў вёсцы была бедната і частка сераднякоў.

Гэтую частку насельніцтва сёння некаторыя гісторыкі па палітыка-ідэалагічных матывах зневажаюць, называюць гультаямі, басотай, люмпенамі. Большую частку сераднякоў, якія праяўлялі палітычную няўстойлівасць і хістанні, партыйныя і савецкія органы стараліся пераканаць у перавагах калектыўнай формы гаспадарання і прыцягнуць на бок Савецкай улады.

Рэпрэсіўныя меры прымяняліся да заможных сялян, частка якіх вяла забароненую законам антысавецкую і антыкалгасную прапаганду, здзяйсняла тэрарыстычныя акты (забівалі камуністаў, камсамольцаў і сельскіх актывістаў), займалася шкодніцкай дзейнасцю (знішчалі калгасную маёмасць).

Але многія з іх нічога шкоднага не рабілі і пацярпелі толькі таму, што іх аднеслі да катэгорыі кулакоў. Разам з тым нельга агульна называць усіх багатых сялян людзьмі, якіх Савецкая ўлада незаслужана карала, крыўдзіла. Толькі са студзеня па красавік 1930 г. у БССР было зафіксавана 519 антысавецкіх кулацкіх выступленняў.

Улічваючы палітычную пазіцыю і шкодніцкую дзейнасць кулацтва, а таксама факт суцэльнай калектывізацыі, была распрацавана новая палітыка ў адносінах да заможнай часткі сялянства. Гэта была *палітыка ліквідацыі кулацтва як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі.*

Сэнс дадзенай палітыкі заключаўся ў тым, каб пазбавіць кулакоў сродкаў вытворчасці і магчымасці эксплуатаваць сялян, а таксама перавыхаваць іх шляхам далучэння да прадукцыйнай працы. Але раскулачванне праводзілася ў жорсткай форме. У многіх месцах яно набыло характар прамога рабавання і здзеку над асобай селяніна, распальвання нізкіх страсцей бядняцкіх пластоў вёскі, якім даставалася частка маёмасці раскулачаных. Кулакоў дзяржаўная прапаганда падавала як ворагаў, якіх трэба знішчаць. Кулак быў фактычна пастаўлены па-за законам. Гэта, безумоўна, трагічная старонка нашай гісторыі.

**Перагібы і памылкі ў калгасным руху.** Непазбежным вынікам паспешлівасці, фарсіравання тэмпаў калектывізацыі сталі перагібы і памылкі ў калгасным руху. 14 сакавіка 1930 г. з'явілася пастанова ЦК ВКП(б) «Аб барацьбе са скрыўленнямі партлініі ў калгасным руху». Пачаўся развал штучна створаных калгасаў. Да жніўня 1930 г. большасць сялянскіх гаспадарак выйшла з іх.

Сярод памылак былі адзначаны парушэнні прынцыпу добраахвотнасці пры ўступленні сялян у калгасы; празмернае падаткаабкладанне індывідуальных сялянскіх гаспадарак, з-за чаго іх вядзенне губляла ўсялякі сэнс; забарона самастойнага перасялення ў іншыя месцы і продажу сялянскай маёмасці пад пагрозай яе поўнай канфіскацыі. У шэрагу выпадкаў раскулачванне праводзілася не на аснове суцэльнай калектывізацыі і закранала серадняка. Замест сельскагаспадарчых арцеляў як асноўнай формы калгаснага будаўніцтва нярэдка ствараліся камуны, абагульваліся каровы і дробная жывёла калгаснікаў. Закрываліся таксама мясцовыя рынкі, разбураліся ўстановы рэлігійнага культу.

**Вынікі калектывізацыі сялянскіх гаспадарак.** Масіраваная палітыка-ідэалагічная і арганізацыйная работа, жорсткая падатковая палітыка і іншыя меры спрыялі пашырэнню калектывізацыі. У 1935 г. у калгасы было аб'яднана 85,6 % сялянскіх гаспадарак, у 1939 г. — больш за 90 %. На калгасных палях працавала больш за 9 тыс. трактароў, сотні камбайнаў і шмат іншай сельскагаспадарчай тэхнікі. Ішоў працэс арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, стварэння вытворчых брыгад і звенняў, ссяленне хутарскіх гаспадарак у калгасныя цэнтры.



*Трактарная калона «Інтэрнацыянал»*

Разам з тым у 1920—1930-я гг. большую частку фінансавых і матэрыяльных рэсурсаў, лепшыя кадры дзяржава выкарыстоўвала для правядзення палітыкі сацыялістычнай індустрыялізацыі і ўмацавання абараназдольнасці СССР. Сельская гаспадарка фінансавалася па астаткавым прынцыпе, развівалася галоўным чынам за кошт мізэрных уласных сродкаў.

Стварэнне буйных высокапрадукцыйных і высокатаварных сельскагаспадарчых кааператываў, фермерскіх гаспадарак, агракамбінатаў, аграфірмаў і г. д., здольных забяспечыць прамысловасць сыравінай, а насельніцтва — прадуктамі харчавання, стала магістральным шляхам развіцця сельскай гаспадаркі ва ўсім свеце. У гэтым сэнсе калектывізацыя сельскай гаспадаркі ў СССР і БССР адлюстроўвала тэндэнцыі сусветнага развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці.

**Канстытуцыя БССР 1937 г.** **19 лютага 1937 г.** Надзвычайным XII Усебеларускім з'ездам Саветаў была прынята трэцяя Канстытуцыя Беларускай ССР.

У ёй было запісана, што БССР — сацыялістычная дзяржава рабочых і сялян, палітычную аснову якой складаюць Саветы дэпутатаў працоўных, а эканамічную аснову — сацыялістычная сістэма гаспадаркі і сацыялістычная ўласнасць у дзвюх формах: дзяржаўнай і кааператыўна-калгаснай.

Вышэйшым органам дзяржаўнай улады і адзіным заканадаўчым органам быў прызнаны Вярхоўны Савет Беларускай ССР, а вышэйшым выканаўчым і распарадчым органам — Савет Народных Камісараў Беларускай ССР.

Мясцовымі органамі дзяржаўнай улады з'яўляліся абласныя, раённыя, гарадскія, раённыя ў гарадах, пасялковыя і сельскія Саветы дэпутатаў працоўных.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Калі ў СССР быў прыняты курс на сацыялістычную індустрыялізацыю?
2. Назавіце мэты і сродкі правядзення індустрыялізацыі ў СССР.
3. У чым заключаліся асаблівасці правядзення індустрыялізацыі ў Беларускай ССР? Назавіце прадпрыемствы, пабудаваныя ў БССР у гады першых пяцігодак.
4. Калі ў СССР быў прыняты курс на калектывізацыю сельскай гаспадаркі?
5. Калі пачалася суцэльная калектывізацыя сельскай гаспадаркі? Чым яна была абумоўлена?
6. Што такое палітыка ліквідацыі кулацтва як класа? Растлумачце яе сэнс.
7. Якія перагібы і памылкі былі дапушчаны ў калгасным будаўніцтве? Чым яны былі выкліканы?
8. Назавіце вынікі калектывізацыі ў БССР.
9. Назавіце асноўныя палажэнні Канстытуцыі БССР 1937 г.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Растлумачце:
   а) чым было абумоўлена развіццё ў БССР у гады індустрыялізацыі традыцыйных галін прамысловасці;
   б) як уплывала прыгранічнае становішча БССР на правядзенне індустрыялізацыі;
   в) чым было абумоўлена развіццё новых галін прамысловасці ў БССР у гады першых пяцігодак.
2. Прааналізуйце працэс індустрыялізацыі ў БССР паводле плана: прычыны, сутнасць, вынікі, наступствы.
3. Якія ацэнкі калектывізацыі сельскай гаспадаркі вы сустракалі ў гістарычнай літаратуры? Дайце ўласную абгрунтаваную ацэнку палітыкі калектывізацыі сельскай гаспадаркі.
4. З дапамогай краязнаўчага матэрыялу і дадатковай літаратуры падрыхтуйце паведамленне аб тым, як праходзілі індустрыялізацыя і калектывізацыя ў вашым раёне.

## § 20. СТАНОВІШЧА Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў 1921—1939 гг.

**Успомніце.** Якімі былі вынікі савецка-польскай вайны 1919—1920 гг.?

**Заходняя Беларусь у складзе Польшчы. Сацыяльна-эканамічнае развіццё заходнебеларускіх зямель.** Паводле Рыжскага дагавора ад 18 сакавіка 1921 г. заходнебеларускія землі агульнай плошчай 113 тыс. км$^2$ і з насельніцтвам каля 4 млн чалавек увайшлі ў склад Польшчы. На тэрыторыі Заходняй Беларусі былі створаны *Палескае, Навагрудскае, Віленскае* і *Беластоцкае ваяводствы*. Ваяводствы падзяляліся на паветы і гміны. На заходнебеларускіх землях была разгорнута сетка паліцэйскіх устаноў — *пастарункаў*. Заходнюю Беларусь сталі называць «крэсамі ўсходнімі» Польшчы.

Прамысловасць Заходняй Беларусі, разбураная вайной, не толькі не аднаўлялася, але прыходзіла ў заняпад. Сярод прамысловых прадпрыемстваў пераважалі харчовыя і дрэваапрацоўчыя. У 1938 г. прамысловасць краю давала ў 9 разоў менш прадукцыі, чым прамысловасць БССР, хоць да падзелу абедзве часткі мелі аднолькавы ўзровень развіцця і былі амаль роўныя па тэрыторыі і колькасці насельніцтва.

Заходняя Беларусь ператваралася ў аграрны прыдатак прамысловых раёнаў Польшчы, у рынак збыту прадукцыі, крыніцу таннай сыравіны і рабочай сілы. На яе тэрыторыі ўладарыў іншаземны капітал. У 1922 г. польскі ўрад прадаў англійскім і французскім прадпрымальнікам права на спілоўку дрэў Белавежскай пушчы і іншых лясных масіваў. Тытунёвая вытворчасць была перададзена ў арэнду італьянскім, а запалкавая — шведскім прадпрымальнікам.

Вельмі цяжка жылося ў вёсцы. Каля паловы зямельнага фонду належала памешчыкам ці іншым буйным уладальнікам, якія складалі менш за 1% ад колькасці жыхароў. Шмат зямлі знаходзілася ва ўласнасці каталіцкай царквы. Акрамя таго, за заслугі ў савецка-польскай вайне 1919—1920 гг. польскія ўлады раздавалі буйныя ўчасткі заходнебеларускіх зямель былым афіцэрам і чыноўнікам. Новых каланістаў называлі *асаднікамі*. Апошнія былі добра арганізаваны, узброены і выконвалі паліцэйскія функцыі

ў дачыненні да мясцовага насельніцтва. На тэрыторыі Заходняй Беларусі было расселена на хутарах каля 10 тыс. асаднікаў.

Пад маркай ліквідацыі цераспалосіцы і далёказямелля польскі ўрад праводзіў так званую *камасацыю* (землеўпарадкаванне). Сялян прымушалі высяляцца на хутары. Але каб наладзіць хутарскую гаспадарку, патрэбны былі вялікія сродкі, якіх беднякі і серадзнякі не мелі. Таму пры камасацыі іх землі пераходзілі да кулакоў і асаднікаў. Праводзілася таксама *ліквідацыя сервітутаў* (зямель сумеснага карыстання — выганаў, выпасаў, сенажацей і іншых угоддзяў).

Сяляне Заходняй Беларусі пакутавалі ад малазямелля і беззямелля. У пачатку 1930-х гг. сярод сельскага насельніцтва Заходняй Беларусі сяляне-беднякі складалі каля 70 %, серадзнякі — 23 %, заможныя сяляне, асаднікі, шляхта — больш чым 6 %.

Цяжкае сацыяльнае і эканамічнае становішча дапаўнялася паліцэйскім тэрорам. Па ўсёй тэрыторыі «крэсаў усходніх» лютавалі карныя экспедыцыі, якія называліся *пацыфікацыяй* («уціхамірваннем»). У час пацыфікацый паліцэйскія разбуралі хаты сялян, знішчалі іх маёмасць, учынялі масавае збіванне насельніцтва. Пасля такога разбою жыхарам вёсак забаранялася запальваць святло вечарам, збірацца групамі, хадзіць у іншыя вёскі.

Вядучая роля ў правядзенні тэрору належала тайнай палітычнай паліцыі — *дэфензіве*. Яна шырока карысталася метадамі правакацый, паклёпу, запалохвання і фізічных катаванняў.

**Нацыянальна-культурны прыгнёт. Міграцыя беларусаў у замежныя краіны.** Польскія ўлады не прызнавалі беларускай нацыі і ставілі за мэту выкараніць нацыянальную свядомасць беларусаў і апалячыць іх. Статыстычныя звесткі аб нацыянальным складзе насельніцтва Заходняй Беларусі фальсіфікаваліся, да палякаў адносілі амаль усіх беларусаў-католікаў і шмат праваслаўных. На самай жа справе ў Навагрудскім, Палескім і Віленскім ваяводствах беларусаў было 67 %, а не 22,5 %, як сцвярджала афіцыйная польская статыстыка, палякаў — адпаведна 12—13 %, а не 42 %.

Да захопу Польшчай Заходняй Беларусі тут працавала 359 беларускіх школ, настаўніцкія семінарыі ў Свіслачы і Барунах, беларускія гімназіі ў Навагрудку, Нясвіжы, Клецку, Радашковічах

і Вільні. У 1938/39 навучальным годзе ў Заходняй Беларусі не засталося ніводнай беларускай навучальнай установы.

Але і польскіх школ было недастаткова. Каля 13 % дзяцей школьнага ўзросту нідзе не вучыліся, 43 % насельніцтва ва ўзросце звыш 10 гадоў было непісьменным. Інтэлігенцыі з карэнных беларусаў налічвалася зусім мала.

У дзяржаўных установах не дазвалялася карыстацца беларускай мовай. Беларусаў не бралі на дзяржаўную службу. Не было беларускіх тэатраў. Закрываліся нешматлікія клубы, бібліятэкі, хаты-чытальні, створаныя ў папярэднія гады беларускай грамадскасцю. Прагрэсіўныя газеты і часопісы канфіскоўваліся і зачыняліся, іх рэдактараў садзілі ў турму.

Цяжкае матэрыяльнае становішча, а таксама нацыянальна-культурны прыгнёт прымушалі беларусаў пакідаць гістарычную радзіму і мігрыраваць у краіны Заходняй Еўропы, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі. З 1925 па 1938 г. з трох ваяводстваў Заходняй Беларусі на пастаяннае жыхарства ў іншыя краіны выехала больш за 78 тыс. чалавек.

**Нацыянальна-вызваленчы, сялянскі і рабочы рух. Палітычныя партыі і арганізацыі.** Цяжкае становішча працоўных штурхала іх на барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. У **1921—1925 гг.** гэтая барацьба набыла характар партызанскай вайны. Партызаны спальвалі маёнткі памешчыкаў, сядзібы асаднікаў і чыноўнікаў, рабілі напады на паліцэйскія ўчасткі. Колькасць партызанаў даходзіла да 6 тыс. чалавек. У 1924—1925 гг. яны правялі каля 280 баявых аперацый.

Найбольш вядомымі арганізатарамі партызанскай барацьбы на тэрыторыі Заходняй Беларусі былі камуністы К. П. Арлоўскі, С. А. Ваўпшасаў, В. З. Корж, А. М. Рабцэвіч.

Урад Польшчы вымушаны быў увесці надзвычайнае становішча ў краі. Усюды дзейнічалі ваенна-палявыя суды, праводзіліся карныя экспедыцыі. Рэпрэсіямі і тэрорам польскім уладам удалося задушыць партызанскі рух на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Кіраўнікамі нацыянальна-вызваленчай барацьбы з'яўляліся *Камуністычная партыя Заходняй Беларусі (КПЗБ)*, створаная ў **1923 г.**, іншыя партыі і арганізацыі. КПЗБ змагалася супраць падпарадкавання краю іншаземнаму капіталу, за самавызначэнне Заходняй Беларусі і яе ўз'яднанне з БССР, за дэмакратычныя



*Цэнтральны сакратарыят Беларускай сялянска-рабочай грамады. 1926 г.*

правы і 8-гадзінны рабочы дзень, канфіскацыю памешчыцкіх зямель і падзел іх без выкупу паміж сялянамі, скасаванне асадніцтва, за школу на роднай мове, устанаўленне рабоча-сялянскай улады, супраць нацыянальнага прыгнёту.

У **1925 г.** была ўтворана *Беларуская сялянска-рабочая грамада (БСРГ)* — масавая легальная рэвалюцыйна-дэмакратычная арганізацыя. Да пачатку 1927 г. колькасць яе членаў дасягнула 120 тыс. чалавек. Праграма Грамады ўключала патрабаванні самавызначэння Заходняй Беларусі, утварэння сялянска-рабочага ўрада, перадачы зямлі сялянам без выкупу, ліквідацыі асадніцтва, аддзялення царквы ад дзяржавы, арганізацыі школ на роднай мове.

У маі 1926 г. у Польшчы адбыўся дзяржаўны пераварот, у выніку якога была ўстаноўлена дыктатура на чале з маршалам Ю. Пілсудскім.

Напалоханы размахам нацыянальна-вызваленчай барацьбы урад Польшчы ў студзені **1927 г.** разграміў Беларускую сялянска-рабочую грамаду. Чатырыста дзевяноста яе кіраўнікоў і актывістаў былі прыцягнуты да судовай адказнасці і пасаджаны ў турмы.

Сярод асуджаных былі кіраўнікі Грамады — Б. А. Тарашкевіч, С. А. Рак-Міхайлоўскі, П. П. Валошын і П. В. Мятла.

У гады сусветнага эканамічнага крызісу 1929—1933 гг. становішча працоўных Заходняй Беларусі яшчэ болей пагоршылася. Шэраг забастовак рабочых мелі палітычны характар. Найбольш масавымі былі выступленні рабочых дрэваапрацоўчай прамысловасці, лесарубаў і возчыкаў у Белавежскай пушчы, а таксама ў Слонімскім павеце. Здараліся выпадкі захопу прадпрыемстваў рабочымі.

Яркай старонкай вызваленчай барацьбы ў вёсцы з'явілася ўзброенае выступленне сялян Кобрынскага павета ў жніўні 1933 г. Супраць аграрнай і падатковай палітыкі польскіх улад мужна змагаліся сяляне вёсак Заполле Карэліцкай гміны, Асташына Навагрудскага, Баранава Гродзенскага, Ляплёўка Брэсцкага паветаў. Усяго за 1931—1933 гг. адбылося больш як 460 выступленняў сялян, у якіх удзельнічала 140—150 тыс. чалавек.

У 1930-я гг. вядучая роля ў арганізацыі барацьбы працоўных Заходняй Беларусі па-ранейшаму належала КПЗБ. У 1934 г. партыя налічвала 4 тыс. камуністаў, пры гэтым каля 3 тыс. членаў партыі пастаянна знаходзіліся ў турмах. У шэрагах КПЗБ былі выхаваны буйныя арганізатары рэвалюцыйнага руху — І. К. Лагіновіч, А. С. Славінскі, В. З. Харужая, М. С. Арэхва, С. В. Прытыцкі, У. З. Царук і інш.

Прыход да ўлады ў Германіі А. Гітлера, прыняцце ў Польшчы ў 1935 г. новай канстытуцыі, ліквідацыя рэшткаў дэмакратычных свабод, зняволенне ў турмах і канцэнтрацыйным лагеры Бяроза-Картузская тысяч камуністаў і іншых апазіцыянераў карэнным чынам змянілі палітычную сітуацыю. Многія палітычныя партыі і арганізацыі краін Еўропы, у тым ліку Заходняй Беларусі і Польшчы, сталі на шлях стварэння *адзінага народнага антыфашысцкага фронту* — фронту барацьбы супраць пагрозы фашызму і вайны.

Пра салідарнасць працоўных Заходняй Беларусі з рабочымі і сялянамі іншых краін у барацьбе супраць адзінага ворага — фашызму — яскрава сведчыць той факт, што 137 яе ўраджэнцаў змагаліся ў складзе інтэрнацыянальных брыгад у Іспаніі. Салідарнасць працоўных Заходняй Беларусі і Польшчы праявілася ў масавай кампаніі за выратаванне жыцця С. В. Прытыцкага.



*Дзеячы культуры — удзельнікі вечара беларускай паэзіі і песні ў Віленскім універсітэце. Вільня. 15 сакавіка 1936 г.*

Развіваўся сялянскі рух. Найбольш значнай яго праявай стала *забастоўка нарачанскіх рыбакоў.* Для тысяч сялян-беднякоў, якія жылі на берагах Нарачы, лоўля рыбы з'яўлялася адзіным сродкам існавання. Але польскі ўрад, прызначыўшы высокую арэндную плату, перадаў возера дырэкцыі дзяржаўных лясоў, якая забараніла рыбакам свабодную лоўлю рыбы. Забастоўка пачалася вясной 1935 г. У ёй удзельнічала каля 5 тыс. сялян з больш як 40 навакольных вёсак. Сяляне выбралі забастовачны камітэт, стварылі дружыны самаабароны, праганялі варту і не дапускалі на возера штрэйкбрэхераў, якія пагадзіліся з польскімі правіламі лоўлі рыбы. Дзякуючы настойлівасці забастоўшчыкаў улады вымушаны былі пайсці на ўступкі. Калі сяляне пачалі лавіць рыбу, польскі ўрад не адважыўся ўжыць рэпрэсіўныя меры.

Разам з тым на развіццё нацыянальна-вызваленчага і рэвалюцыйнага руху адмоўна паўплывалі неабгрунтаваны роспуск у жніўні **1938 г.** Камінтэрнам Камуністычнай партыі Польшчы і яе складовай часткі — Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, а таксама пакаранне смерцю савецкімі ўладамі многіх кіраўнікоў Кампартыі Заходняй Беларусі як «агентаў польскай

дэфензівы». Абвінавачанне супраць іх было лжывым. Добрае імя КПЗБ, яе кіраўнікоў і дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху было адноўлена ў 1956 г.

**Стан культуры ў Заходняй Беларусі.** Важную ролю ў жыцці Заходняй Беларусі ў 1920—1930-я гг. адыгрывала *Таварыства беларускай школы (ТБШ)* — масавая культурна-асветная арганізацыя, створаная ў **1921 г.** У пачатку 1930-х гг. ТБШ налічвала каля 500 гурткоў і 30 тыс. актывістаў. Таварыства змагалася за пісьменнасць насельніцтва, за адкрыццё новых і захаванне існуючых беларускіх школ, стварала клубы, бібліятэкі, хаты-чытальні, арганізоўвала мастацкую самадзейнасць, народныя хары, выдавала падручнікі, спеўнікі. Актыўна працавалі сярод насельніцтва драматычныя гурткі, створаныя мясцовымі аддзеламі ТБШ.

У цяжкіх умовах нацыянальнага прыгнёту жылі і працавалі прадстаўнікі беларускай творчай інтэлігенцыі. Гэта навукоўцы Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, І. Дварчанін, дзеячы музычнай культуры Р. Шырма, Г. Цітовіч, М. Забэйда-Суміцкі, паэты У. Жылка, М. Танк, В. Таўлай, М. Машара, П. Пестрак і інш. У **1936 г.** дзейнасць Таварыства беларускай школы была забаронена.

### Пытанні і заданні для самаправеркі

1. Ахарактарызуйце палітычнае, сацыяльна-эканамічнае і культурнае становішча Заходняй Беларусі ў 1921—1939 гг.
2. Назавіце партыі і арганізацыі, якія ўзначалілі нацыянальна-вызваленчую барацьбу насельніцтва Заходняй Беларусі ў 1921—1939 гг.
3. Якія формы нацыянальна-вызваленчай барацьбы выкарыстоўваліся ў Заходняй Беларусі ў 1921—1939 гг.? Якімі былі яе вынікі?
4. Дайце азначэнні паняццяў: *камасацыя, асаднікі, сервітуты, дэфензіва, пацыфікацыя*.

### Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку

1. Параўнайце паводле самастойна вызначаных крытэрыяў:
   а) праграмныя патрабаванні КПЗБ і БСРГ;
   б) развіццё Заходняй Беларусі і БССР у 1920—1930-я гг.
   Зрабіце вывады.
2. Абапіраючыся на краязнаўчы матэрыял, падрыхтуйце паведамленне пра развіццё вашага раёна ў 1920—1930-я гг.

## § 21. ДАСЯГНЕННІ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ Ў 1920—1930-я гг.

**Успомніце.** 1. Што такое культурная рэвалюцыя? Якімі былі яе задачы? З якіх мерапрыемстваў яна складалася? 2. Што такое метад сацыялістычнага рэалізму? Якім чынам ён праяўляецца ў розных галінах культуры?

**Палітыка беларусізацыі.** Пачатак дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі паклала пастанова сесіі ЦВК БССР, якая адбылася летам **1924 г.** Была створана спецыяльная камісія для ажыццяўлення гэтай палітыкі. Такія ж камісіі былі арганізаваны пры акруговых выканаўчых камітэтах.

Змест палітыкі беларусізацыі складала:

развіццё беларускай мовы, садзейнічанне таму, каб яна стала афіцыйнай мовай у рабоце партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый, а таксама часцей Чырвонай Арміі, якія знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі. У БССР былі прызнаны раўнапраўнымі разам з беларускай руская, польская і яўрэйская мовы, законы Беларускай ССР друкаваліся на гэтых чатырох мовах;

стварэнне беларускамоўных навучальных і выхаваўчых устаноў, вывучэнне гісторыі, геаграфіі і культуры Беларусі;

павышэнне ролі асоб карэннай нацыянальнасці, у першую чаргу беларусаў, у грамадска-палітычным жыцці рэспублікі, больш актыўнае вылучэнне іх на кіруючыя пасады ў партыйным і дзяржаўным апараце, а таксама ў грамадскіх арганізацыях;

усебаковае развіццё беларускай нацыянальнай культуры — літаратуры, музыкі, тэатра, жывапісу, кнігадрукавання;

стварэнне ў складзе Беларускай ваеннай акругі нацыянальных тэрытарыяльных воінскіх часцей і злучэнняў, перавод іх работы па навучанні і выхаванні салдат і афіцэраў на беларускую мову.

У **канцы 1920-х гг.** правядзенне палітыкі беларусізацыі было спынена, а многія палітычныя і грамадскія дзеячы БССР памылкова абвінавачаны ў распальванні нацыяналізму і рэпрэсіраваны.

Правядзенне палітыкі беларусізацыі дало станоўчыя вынікі. У канцы 1920-х гг. каля 80 % школ працавалі на беларускай мове, доля беларусаў у кіруючых органах складала больш за 50 %, паспяхова развіваліся літаратура і мастацтва. Былі ство-

раны 2-я Беларуская стралковая дывізія і 16-ы Беларускі корпус (да трох дывізій), а таксама Аб'яднаная беларуская вайсковая школа імя ЦВК БССР.

**Ліквідацыя непісьменнасці дарослага насельніцтва і ўвядзенне ўсеагульнага абавязковага навучання дзяцей.** Задачы гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, падрыхтоўкі кваліфікаваных кадраў патрабавалі ўсеагульнай пісьменнасці. У Беларусі была створана *Рэспубліканская надзвычайная камісія па ліквідацыі непісьменнасці.* У гарадах і вёсках арганізоўваліся і працавалі школы і пункты па ліквідацыі непісьменнасці, школы рабочай моладзі, групы індывідуальнага навучання дарослых.

У гэтай рабоце прымалі ўдзел калектывы фабрык і заводаў, калгасаў і саўгасаў, арганізацый і ўстаноў, настаўнікі, студэнты, школьнікі, усе пісьменныя людзі. У выніку пісьменнасць насельніцтва БССР ва ўзросце дзевяці гадоў і старэй (без уліку заходніх абласцей) павысілася з 53 % у 1926 г. да амаль 79 % у 1939 г. Такім чынам, масавая непісьменнасць у БССР была ліквідавана.

Але поўнасцю пераадолець непісьменнасць да канца 1930-х гг. не ўдалося. Значная частка дарослага насельніцтва (асабліва жыхароў вёскі, пераважна жанчын) не вучылася. У 1939 г. Саўнарком БССР прыняў спецыяльную пастанову, у якой была пастаўлена задача завяршэння ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці ў рэспубліцы.

Адной з цэнтральных праблем культурнага будаўніцтва стала арганізацыя ўсеагульнага абавязковага навучання дзяцей. У **1926 г.** ЦВК і СНК БССР прынялі пастанову «Аб увядзенні ўсеагульнага абавязковага навучання дзяцей ад 8 да 11 гадоў».

У 1931/32 навучальным годзе ў БССР амаль 98 % усіх дзяцей ва ўзросце 8—11 гадоў навучаліся ў 1—4-х групах (класах) адзінай працоўнай школы. У гарадах, прамысловых цэнтрах і 17 раёнах рэспублікі ў 5-й групе (класе) навучалася 96 % дзяцей адпаведнага ўзросту. У канцы першай пяцігодкі быў завершаны пераход да ўсеагульнага абавязковага пачатковага навучання і працягвалася работа па паступовым увядзенні ўсеагульнага навучання на базе сямігадовай школы.

У гады другой пяцігодкі (1933—1937) Беларуская ССР зрабіла вялікі крок наперад у ажыццяўленні ўсеагульнага сямігадовага навучання і ў развіцці сярэдняй адукацыі. У канцы пя-



*Галоўны корпус БДУ. Пачатак 1930-х гг.*

цігодкі ўсяго працавала 7 тыс. школ, у якіх вучылася больш за 1 млн чалавек.

XVIII з'езд ВКП(б) у 1939 г. паставіў задачу ажыццяўлення ўсеагульнага сярэдняга навучання ў горадзе і завяршэння пераходу да ўсеагульнага сямігадовага навучання ў вёсцы і ва ўсіх нацыянальных рэспубліках. Гэта была задача, разлічаная на перспектыву.

**Прафесійная адукацыя. Станаўленне і развіццё вышэйшай школы.** Падрыхтоўка спецыялістаў ажыццяўлялася ў вышэйшых навучальных установах. **30 кастрычніка 1921 г.** адбылося адкрыццё *Беларускага дзяржаўнага універсітэта.* Яго першым рэктарам быў прызначаны вядомы вучоны-гісторык, прафесар *У. І. Пічэта.*

У 1925 г. у выніку зліцця Горацкага сельскагаспадарчага інстытута і Беларускага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі ў Горках была створана *Беларуская дзяржаўная акадэмія сельскай гаспадаркі імя Кастрычніцкай рэвалюцыі.* Усяго ў канцы другой пяцігодкі ў 23 вышэйшых навучальных установах БССР вучылася каля 15 тыс. студэнтаў.

У міжваенны перыяд у БССР было падрыхтавана больш за 40 тыс. спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі. Сярод іх — на-

стаўнікі, урачы, інжынеры, эканамісты, аграномы, юрысты, прадстаўнікі іншых прафесій.

Значнае развіццё атрымала сярэдняя спецыяльная адукацыя. Былі створаны новыя сельскагаспадарчыя, індустрыяльныя, педагагічныя, медыцынскія і іншыя навучальныя ўстановы. У 1939/40 навучальным годзе ў БССР працавалі 102 тэхнікумы, у якіх налічвалася каля 34 тыс. навучэнцаў.

Кадры кваліфікаваных рабочых рыхтавалі прафесійныя школы і школы фабрычна-заводскага вучнёўства. Ажыццяўлялася таксама вытворча-тэхнічнае навучанне на фабрыках і заводах без адрыву ад вытворчасці.

**Беларуская навука.** У 1920-я гг. адбывалася станаўленне беларускай навукі. У **1922 г.** быў створаны *Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт)*. У **1929 г.** ён быў рэарганізаваны ў *Беларускую Акадэмію навук*, якая стала цэнтрам навуковага жыцця рэспублікі. Вучоныя займаліся пошукам карысных выкапняў, гідраэнергетычных рэсурсаў, даследаваннем праблем арганічнай і неарганічнай хіміі, павышэння ўраджайнасці. Яны выводзілі новыя гатункі збожжавых і бабовых культур, а таксама бульбы. Распрацоўваліся важныя пытанні гісторыі, беларускай мовы і літаратуры, філасофіі і эканомікі.

Разам з тым палітычныя рэпрэсіі 1920—1930-х гг. выліліся ў расправу над прадстаўнікамі беларускай навукі, літаратуры і мастацтва. Практычна поўнасцю былі разгромлены навуковыя кадры Беларускай Акадэміі навук. У 1930-я гг. былі рэпрэсіраваны 26 акадэмікаў і 6 членаў-карэспандэнтаў акадэміі. Больш за палову свайго складу страціў у выніку рэпрэсій Саюз пісьменнікаў Беларусі. Вяршыняй расправы над нацыянальнай інтэлігенцыяй стала сфабрыкаваная ў 1930 г. справа аб «Саюзе вызвалення Беларусі», па якой было арыштавана 108 лепшых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі.

**Літаратура і тэатр.** Бурнае развіццё беларускай савецкай літаратуры пачалося ў 1920-я гг. У гэты час узніклі літаратурныя аб'яднанні *«Маладняк»*, *«Узвышша»*, *«Полымя»*. Плённа працавалі беларускія пісьменнікі Я. Купала, Я. Колас, Ц. Гартны, З. Бядуля. У іх творах адлюстроўваліся жыццё, праца і духоўны свет простых людзей дарэвалюцыйнай Беларусі, будаўніцтва сацыялістычнага грамадства, імкненне народа да новага жыцця.

У 1920—1930-я гг. тварылі такія беларускія пісьменнікі і паэты, як У. Дубоўка, М. Чарот, К. Крапіва, К. Чорны, М. Лынькоў, П. Трус, П. Глебка, П. Броўка, П. Галавач, А. Куляшоў, Э. Самуйлёнак.

Важную ролю ў станаўленні беларускага тэатральнага мастацтва адыграў *Беларускі першы дзяржаўны тэатр*, які адкрыўся ў Мінску ў верасні 1920 г. Яго рэжысёрам стаў *Е. Міровіч*. Адначасова ў Мінску працавала *Трупа беларускіх артыстаў пад загадам У. Галубка.* У 1926 г. яна пераўтворана ў *Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр*, які ў 1932 г. быў рэарганізаваны ў *Беларускі трэці дзяржаўны тэатр* з базай у Гомелі. Выдатнаму дзеячу беларускага мастацтва, драматургу і рэжысёру гэтага тэатра У. І. Галубку першаму ў рэспубліцы было прысвоена званне народнага артыста БССР. У 1926 г. у Віцебску адкрыўся *Беларускі другі дзяржаўны тэатр,* аснову якога склалі выпускнікі Беларускай драматычнай студыі, што працавала ў Маскве.

У 1930-я гг. былі створаны *Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР* у Бабруйску (з 1947 г. — у Мінску) і *Беларускі тэатр юнага гледача імя Н. К. Крупскай* у Мінску, тэатры рабочай моладзі ў Мінску, Віцебску і Гомелі, калгасна-саўгасныя тэатры ў шэрагу гарадоў рэспублікі. Усяго ў БССР у гэты перыяд працавала 14 тэатраў.

Таленавітыя майстры сцэны — У. Крыловіч, Б. Платонаў, Г. Глебаў, У. Уладамірскі, Ф. Ждановіч, П. Малчанаў, А. Ільінскі, Л. Ржэцкая — унеслі неацэнны ўклад у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва.

**Музыка і кіно.** Заснавальнікамі беларускай савецкай оперы, сімфоніі, камернай музыкі з'яўляюцца *М. Чуркін, М. Аладаў, Я. Цікоцкі*. Усе яны былі вучнямі рускіх кампазітараў.

У 1932 г. у Мінску адкрылася *Беларуская дзяржаўная кансерваторыя.* На педагагічную працу ў яе былі запрошаны выкладчыкі з Масквы і Ленінграда.

У 1933 г. быў створаны *Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР.* У яго рэпертуары разам з рускай і заходнееўрапейскай класікай значнае месца занялі творы нацыянальнага мастацтва. Сярод іх — оперы «Міхась Падгорны» Я. Цікоцкага, «У пушчах Палесся» А. Багатырова (паводле аповесці Я. Коласа «Дрыгва»), першы нацыянальны балет «Салавей» М. Крошнера (паводле ад-



*Дом Чырвонай Арміі. 1940 г.*

найменнай аповесці З. Бядулі). Вядучымі артыстамі тэатра оперы і балета сталі Л. Александроўская, М. Дзянісаў, І. Балоцін.

У 1937 г. была створана *Беларуская дзяржаўная філармонія*. Яна адыгрывала важную ролю ў музычным жыцці рэспублікі.

У 1920—1930-я гг. адбывалася станаўленне беларускага мастацкага кіно. Першымі нацыянальнымі карцінамі былі «Лясная быль» (1926) рэжысёра Ю. Тарыча па аповесці М. Чарота «Свінапас» і «Кастусь Каліноўскі» (1927) рэжысёра У. Гардзіна.

Асноўныя тэмы творчасці беларускіх кінематаграфістаў таго часу — рэвалюцыйная барацьба беларускага народа і будаўніцтва сацыялістычнага грамадства. Да ліку лепшых фільмаў належаць «Першы ўзвод», «Залатыя агні» У. Корш-Сабліна, а таксама фільмы для дзяцей «Палескія рабінзоны» і «Канцэрт Бетховена».

**Жывапіс, архітэктура, скульптура.** Пра поспехі беларускага жывапісу сведчаць творы, якія з'явіліся яшчэ ў 1920-я гг. Сярод іх — карціны В. Волкава «Малатабоец», «Плытагоны», «Партызаны», М. Філіповіча «Бітва на Нямізе», «Ноч на Івана Купалу», «Паўстанне К. Каліноўскага», пейзажы У. Кудрэвіча «Раніца вясны», «Над Свіслаччу», «На Сажы».

У канцы 1920-х — 1930-я гг. беларускія мастакі стварылі шмат твораў, прысвечаных барацьбе за ўладу Саветаў, героіцы грамадзянскай вайны і сацыялістычнага будаўніцтва. Найбольш вядомымі з іх з'яўляюцца карціны І. Ахрэмчыка «Падпісанне маніфеста аб утварэнні БССР» і «Уступленне Чырвонай Арміі ў Мінск», М. Манасзона «Сустрэча савецкіх танкістаў у Заходняй Беларусі».

Выдатнымі архітэктурнымі збудаваннямі 1920—1930-х гг. сталі Дом урада, Дом Чырвонай Арміі, будынкі Акадэміі навук, Дзяржаўнага тэатра оперы і балета (архітэктар І. Лангбард), Беларускага тэатра юнага гледача, Палаца піянераў і школьнікаў, гасцініцы «Беларусь» (архітэктары А. Воінаў, У. Вараксін) у Мінску, а таксама новыя будынкі ў Магілёве, Віцебску, Гомелі і іншых гарадах. У 1939 г. пачалося ўзвядзенне будынка Цэнтральнага Камітэта Кампартыі (бальшавікоў) Беларусі (цяпер рэзідэнцыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь).

Беларускія скульптары стварылі шэраг манументальных кампазіцый, якія ўпрыгожылі Дом урада, Дом Чырвонай Арміі, Палац піянераў і школьнікаў.



*Дом урада. 1934 г.*

Дасягненні ў галіне культурнага будаўніцтва ў 1930-я гг. — гэта агульнацывілізацыйныя каштоўнасці, сапраўдная культурная рэвалюцыя, якая забяспечыла якасна новы ўзровень інтэлектуальнага патэнцыялу Савецкай Беларусі.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Што такое палітыка беларусізацыі? Калі яна праводзілася? Якімі былі яе вынікі?
2. Назавіце асноўныя дасягненні беларускага грамадства ў 1920—1930-я гг. у галіне:
   а) адукацыі і навукі;
   б) літаратуры і тэатра;
   в) мастацтва (музыка, кіно, архітэктура, жывапіс).
3. Пералічыце асноўныя тэмы творчасці беларускіх пісьменнікаў, кампазітараў, кінематаграфістаў, мастакоў у 1920—1930-я гг.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Суаднясіце дасягненні беларускай культуры ў 1920—1930-х гг. з задачамі культурнай рэвалюцыі ў СССР. Афарміце адказ у выглядзе табліцы. Зрабіце вывад.

| Задачы культурнай рэвалюцыі ў СССР | Вырашэнне задач у БССР |
|---|---|
| | |

2. Дайце ацэнку развіццю культуры ў БССР у 1920—1930-я гг. Чым, на ваш погляд, былі абумоўлены дасягненні і страты ў развіцці беларускай культуры ў гэты перыяд?
3. Выкарыстоўваючы краязнаўчы матэрыял, падрыхтуйце паведамленне пра культурныя пераўтварэнні ў 1920—1930-я гг. у вашым раёне.
4. З дапамогай дадатковай літаратуры падрыхтуйце паведамленні пра жыццёвы шлях і творчасць дзеячаў беларускай культуры 1920—1930-х гг.
5. Прааналізуйце які-небудзь твор беларускай літаратуры 1920—1930-х гг. Якія гістарычныя падзеі, з’явы, працэсы знайшлі ў ім адлюстраванне? Ці адчуваецца ў гэтым творы «подых» таго часу, калі ён быў створаны? У чым ён праяўляецца?

## § 22. ПАЧАТАК ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ. УЗ'ЯДНАННЕ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ З БССР

**Успомніце.** 1. Што ўяўляла сабой тэрыторыя БССР у 1921—1939 гг.? Якія змены адбываліся ў гэты перыяд на палітычнай карце рэспублікі? 2. Якія пераўтварэнні былі праведзены ў сацыяльна-эканамічнай і культурнай сферах беларускага савецкага грамадства ў 1920—1930-я гг.?

**Савецка-германскія адносіны ў канцы 1930-х гг. Пачатак Другой сусветнай вайны.** У другой палове 1930-х гг. абвастрыліся супярэчнасці паміж найбуйнейшымі дзяржавамі Еўропы, якія імкнуліся да перадзелу свету, зон уплыву, што склаліся пасля Першай сусветнай вайны. Германія ставіла сваёй мэтай ліквідацыю Версальска-Вашынгтонскай сістэмы дагавораў 1919—1922 гг., нарошчванне ваеннай сілы і ўстанаўленне сусветнага панавання. У той жа час Англія і Францыя імкнуліся цаной уступак аслабіць германскі націск на Захад і скіраваць яго на Усход, супраць Савецкага Саюза.

У ваенна-палітычнай сітуацыі, калі Англія і Францыя праводзілі палітыку «прымірэння» ў адносінах да фашысцкай Германіі, Савецкі Саюз прапанаваў палітыку стварэння сістэмы калектыўнай бяспекі ў Еўропе. Ён выказаў гатоўнасць супрацоўнічаць з усімі еўрапейскімі краінамі для барацьбы супраць германскай агрэсіі. Але перагаворы паміж СССР, Англіяй і Францыяй, якія праходзілі летам 1939 г. у Маскве, зайшлі ў тупік і станоўчых вынікаў не далі.

Фактычна адмовіўшыся ад стварэння ў Еўропе антыфашысцкай кааліцыі дзяржаў, Англія і Францыя свядома штурхалі фашыстаў на Усход. Яны не пакінулі Савецкаму Саюзу выбару. У такой сітуацыі, каб пазбегнуць магчымай палітычнай ізаляцыі і вайны на два фронты, СССР быў вымушаны прыняць прапанову Германіі наладзіць міждзяржаўныя адносіны. 20 жніўня 1939 г. быў падпісаны савецка-германскі гандлёвы дагавор, паводле якога СССР атрымаў крэдыт для закупкі ў Германіі машын, абсталявання, бранявой сталі, аптычных прыбораў і інш. Савецкі Саюз, згодна з дагаворам, пастаўляў у Германію збожжа, лес, нафту, каляровыя металы. Ён выконваў дагаворныя абавязацельствы, у той час як Германія яшчэ ў пачатку 1941 г. спыніла свае пастаўкі, спасылаючыся на ўнутраныя цяжкасці.

**23 жніўня 1939 г.** у Маскве паміж СССР і Германіяй быў падпісаны *Дагавор аб ненападзе* тэрмінам на 10 гадоў *(пакт Молатава — Рыбентропа)*. Падпісваючы дагавор, Савецкі Саюз імкнуўся выйграць час для завяршэння мерапрыемстваў па ўмацаванні абараназдольнасці краіны, адвесці пагрозу стварэння адзінага антысавецкага фронту. У сваю чаргу Германія атрымала свабоду дзеянняў для пашырэння агрэсіі супраць краін Еўропы.

Разам з Дагаворам аб ненападзе быў падпісаны *сакрэтны дадатковы пратакол*, паводле якога вызначаліся сферы ўплыву дзвюх дзяржаў. У сферу інтарэсаў СССР уваходзілі Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна, што было актам гістарычнай справядлівасці, а таксама Усходняя Польшча аж да Варшавы, Латвія і Эстонія. Другі з'езд народных дэпутатаў СССР у снежні 1989 г. прызнаў сакрэтны дадатковы пратакол і іншыя сакрэтныя дамоўленасці з Германіяй юрыдычна неправадзейнымі і несапраўднымі з моманту іх падпісання.

**1 верасня 1939 г.** Германія напала на Польшчу. 3 верасня 1939 г. Англія і Францыя, падтрымліваючы ахвяру агрэсіі — Польшчу, аб'явілі вайну Германіі. Пачалася Другая сусветная вайна.

Нягледзячы на мужнасць польскіх салдат і афіцэраў, нямецкія войскі імкліва рухаліся ўглыб польскай тэрыторыі. Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна апынуліся пад пагрозай фашысцкага заняволення. Кіраўніцтва Германіі, пачынаючы ваенную кампанію, падштурхоўвала Савецкі Саюз хутчэй выступіць супраць Польшчы, каб ён заняў тыя тэрыторыі, якія ўваходзілі ў сферу інтарэсаў СССР, у тым ліку частку тэрыторыі карэннай Польшчы аж да Варшавы, каб потым ускласці адказнасць за развязванне вайны і на Савецкі Саюз. Аднак савецкае кіраўніцтва не паддалося на гэтую правакацыю.

**Вызваленчы паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. Уз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР. 17 верасня 1939 г.,** калі амаль уся тэрыторыя карэннай Польшчы была занята нямецкімі войскамі, савецкі ўрад аддаў загад Чырвонай Арміі ўзяць пад абарону насельніцтва Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. У гэты час нямецкія войскі ўжо захапілі Брэст і Беласток, якія пазней увайшлі ў склад БССР.

Да 25 верасня 1939 г. Чырвоная Армія вызваліла Заходнюю Беларусь. Большасць польскіх вайскоўцаў здавалася без бою. Толькі асобныя часці аказалі моцнае супраціўленне.



*Чырвонаармейцы раздаюць савецкія газеты насельніцтву Заходняй Беларусі. Верасень 1939 г.*

У час паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну былі ўзяты ў палон польскія афіцэры (дакладная іх колькасць не ўстаноўлена). Яны знаходзіліся ў савецкіх лагерах для ваеннапалонных. У гады Другой сусветнай вайны былі выяўлены масавыя пахаванні расстраляных польскіх афіцэраў у *Катынскім лесе* каля Смаленска. Праводзіліся шматлікія расследаванні, але і цяпер з прычыны адсутнасці патрэбных дакументальных матэрыялаў і жывых сведкаў гэтай трагедыі дакладна не ўстаноўлена, якая краіна вінаватая ў расстрэле польскіх афіцэраў.

У некаторых гістарычных даследаваннях сцвярджаецца, што «гэтае злачынства было здзейснена органамі НКУС па рашэнні Палітбюро ЦК ВКП(б)». На сённяшні дзень згаданая версія не мае дакументальнага пацвярджэння. Другая версія — ваеннапалонных польскіх афіцэраў расстралялі фашысцкія карныя войскі пасля акупацыі Смаленшчыны Германіяй у 1941 г. Незалежна ад таго, хто здзейсніў гэты акт варварства, расстрэл ваеннапалонных польскіх афіцэраў у Катынскім лесе каля Смаленска, як і знішчэнне пілсудчыкамі савецкіх салдат і афіцэраў, што трапілі ў палон да палякаў у час правядзення Варшаўскай аперацыі 1920 г., — цяжкія злачынствы супраць чалавечнасці. Ва ўзаемаадносінах паміж цывілізаванымі краінамі такое ніколі не павінна паўтарацца.

Большасць насельніцтва Заходняй Беларусі сустракала савецкіх салдат з радасцю, кветкамі, хлебам-соллю. З удзелам былых членаў Кампартыі і камсамола Заходняй Беларусі ствараліся органы новай улады: *часовыя ўправы* — у ваяводскіх і павятовых цэнтрах, *сялянскія камітэты* — у мястэчках і вёсках.




*Уз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР (17 верасня — 14 лістапада 1939 г.)*

**28 верасня 1939 г.** СССР і Германія падпісалі новы *Дагавор аб граніцы і дружбе*. Паводле яго граніца прыкладна супадала з так званай *«лініяй Керзана»*, вызначанай яшчэ ў 1919 г. Вярхоўным саветам Антанты як усходняя граніца Польшчы. Гэта была этнічная мяжа паміж беларусамі і палякамі. Прыкладна па гэтай лініі праходзіць і сёння беларуска-польская граніца. Да дагавора былі прыкладзены два сакрэтныя пратаколы, згодна з якімі ў сферу ўплыву СССР дадаткова ўключаліся Літва і Фінляндыя. Дагавор аб граніцы і дружбе ў цэлым і асабліва ў той частцы, якая тычылася «дружбы» Савецкага Саюза з фашысцкай Германіяй, нанёс вялікі ўрон міжнароднаму аўтарытэту СССР, дэзарыента-

ваў антыфашысцкія сілы ў многіх краінах у пачатку Другой сусветнай вайны.

**28—30 кастрычніка 1939 г.** у Беластоку адбыўся *Народны сход Заходняй Беларусі*. Паводле дакладаў дэпутатаў С. В. Прытыцкага і Ф. Д. Манцэвіча Народны сход прыняў *Дэкларацыю аб дзяржаўнай уладзе* і *Дэкларацыю аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў склад БССР*. Былі прыняты таксама рэзалюцыі аб канфіскацыі памешчыцкіх зямель, аб нацыяналізацыі банкаў і буйной прамысловасці.

ДЭКЛАРАЦЫЯ
НАРОДНАГА САБРАННЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ
АБ УВАХОДЖАННІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў САСТАЎ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

*Дэкларацыя Народнага сходу Заходняй Беларусі аб уваходжанні яе ў склад БССР*

2 лістапада 1939 г. нечарговая 5-я сесія Вярхоўнага Савета СССР прыняла Закон аб уключэнні ў склад СССР Заходняй Беларусі і яе ўз'яднанні з БССР, а **14 лістапада 1939 г.** 3-я (нечарговая) сесія Вярхоўнага Савета БССР пастанавіла прыняць Заходнюю Беларусь у склад БССР.

У выніку ўваходжання Заходняй Беларусі ў склад БССР тэрыторыя апошняй павялічылася са 125,6 да 225,6 тыс. км$^2$, а насельніцтва — з 5,6 да 10,3 млн чалавек. На далучанай тэрыторыі было ўтворана 5 абласцей — Баранавіцкая, Брэсцкая, Беластоцкая, Вілейская і Пінская, якія ў сваю чаргу падзяляліся на раёны і сельсаветы.

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у межах рэспублікі апынуліся 3 епархіі, якія раней уваходзілі ў склад праваслаўнай аўтакефальнай царквы ў Польшчы: Віленская, Гродзенская і Палеская. Там дзейнічала каля 800 храмаў і 5 манастыроў. Савецкая ўлада не стала на шлях закрыцця храмаў і правядзення масавых рэпрэсій у адносінах да духавенства, як гэта рабілася ў свой час у Беларускай ССР. Аднак было аб'яўлена аб нацыяналізацыі царкоўнай маёмасці, забароне выкладання ў школах Закона божага і згортванні кнігавыдавецкай дзейнасці царквы. У сродках масавай інфармацыі разгарнулася шырокая антырэлігійная кампанія.

Уз'яднанне Заходняй Беларусі з СССР і БССР мела гістарычнае значэнне. Быў пакладзены канец падзелу беларускага этнасу і беларускай этнічнай тэрыторыі. Збылася адвечная мара бела-

рускага народа жыць у адзінай беларускай нацыянальнай дзяржаве. Уключэнне заходнебеларускіх зямель у склад СССР і БССР садзейнічала паскарэнню іх сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця.

**Беларуская ССР напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны.** Гітлераўская Германія разам са сваімі саюзнікамі пашырала агрэсію супраць краін Еўропы. Вясной 1940 г. яна захапіла Данію, Нарвегію, Бельгію, Нідэрланды, Люксембург. 22 чэрвеня 1940 г. капітулявала Францыя. У жніўні 1940 г. германская авіяцыя пачала масіраваныя бамбардзіроўкі Англіі. У верасні 1940 г. Германія ўвяла свае войскі ў Румынію, а вясной 1941 г. акупіравала Балгарыю, Грэцыю і частку Югаславіі. Баявыя дзеянні вяліся таксама ў Афрыцы.

Адначасова Германія пачала падрыхтоўку да вайны з СССР. 22 чэрвеня 1940 г. Гітлер аддаў загад аб распрацоўцы плана нападу на СССР. Гэты план — план «маланкавай вайны» пад кодавай назвай *«Барбароса»* — быў зацверджаны ў снежні 1940 г. У маі 1941 г. быў прыняты яшчэ адзін план — *план «Ост»*, які ўяўляў сабой праграму знішчэння і каланізацыі народаў Савецкага Саюза.

Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны БССР была адной з індустрыяльна-аграрных рэспублік СССР. У яе склад уваходзіла 10 абласцей і 188 раёнаў. У 1940 г. валавая прадукцыя прамысловасці рэспублікі ўзрасла ў параўнанні з 1913 г. у 8,1 раза, а валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі — у 1,7 раза.

**Мерапрыемствы па ўмацаванні абараназдольнасці краіны.** У сувязі з нарастаннем ваеннай пагрозы савецкае кіраўніцтва прымала меры па ўмацаванні абараназдольнасці краіны. Быў завершаны пераход ад тэрытарыяльна-кадравай да адзінай кадравай сістэмы пабудовы ўзброеных сіл. У адпаведнасці з Законам СССР «Аб усеагульнай воінскай павіннасці» (верасень 1939 г.) узброеныя сілы краіны павялічыліся з 1,9 млн чалавек у 1939 г. да 5 млн чалавек у пачатку 1941 г. Абаронныя заводы пераводзіліся на серыйны выпуск новых відаў узбраенняў.

На тэрыторыі БССР уздоўж заходняй граніцы краіны былі пабудаваны 193 баявыя ўмацаванні (*«лінія Молатава»*). Павялічвалася прапускная здольнасць магістральных чыгунак, якія ішлі да граніцы, войскі забяспечваліся новай баявой тэхнікай і сродкамі сувязі. Шмат увагі надавалася будаўніцтву авіяцыйных за-

водаў у Мінску і Магілёве, танкарамонтных заводаў у Віцебску і Баранавічах. Дзейнічалі шматлікія абаронныя і спартыўныя таварыствы. Праводзілася вялікая работа па выхаванні ў савецкіх людзей пачуцця патрыятызму, гатоўнасці абараняць Айчыну.

Аднак многія меры па ўмацаванні абараназдольнасці краіны былі частковымі і запозненымі. Сістэма ўмацаванняў на заходніх рубяжах да пачатку вайны цалкам не была пабудавана, марудна ішло пераўзбраенне войскаў новай тэхнікай, некаторыя воінскія часці не былі поўнасцю ўкамплектаваныя асабовым складам.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Калі былі падпісаны савецка-германскія Дагавор аб ненападзе і Дагавор аб граніцы і дружбе? Якім чынам яны вызначылі лёс заходнебеларускіх зямель?
2. Якімі знешнепалітычнымі і ўнутранымі абставінамі было абумоўлена ўступленне Чырвонай Арміі 17 верасня 1939 г. у Заходнюю Беларусь? Назавіце вынікі гэтага паходу.
3. Дзе і калі было прынята рашэнне аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў склад БССР? Якія сацыяльна-эканамічныя і культурныя пераўтварэнні былі праведзены ў Заходняй Беларусі пасля 1939 г.?
4. Ахарактарызуйце БССР напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны. Якія мерапрыемствы былі праведзены на тэрыторыі БССР для ўмацавання абараназдольнасці краіны?

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Якія ацэнкі ўваходжання Заходняй Беларусі ў склад БССР вы сустракалі ў гістарычнай літаратуры і перыядычным друку? Якія з іх уяўляюцца вам найбольш пераканаўчымі? Чаму?
2. Дайце ўласную абгрунтаваную ацэнку ўз'яднанню Заходняй Беларусі з БССР.
3. Падрыхтуйце паведамленне аб пераўтварэннях на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1939—1941 гг.
4. Закончыце запаўненне табліцы.

ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ЗМЕНЫ БССР
У ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XX ст.

| **Перыяд** | **Тэрыторыя БССР** |
|---|---|
| 1939 г. | |

## § 23. ПАЧАТАК ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ. АБАРОНЧЫЯ БАІ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ

**Успомніце.** 1. Калі пачалася Другая сусветная вайна? Якімі былі вынікі яе першага перыяду? 2. Што такое «маланкавая вайна»? 3. У чым сутнасць расавай тэорыі гітлераўцаў? 4. Што такое «новы парадак» нацыстаў?

**Напад Германіі на СССР.** Парушыўшы савецка-германскі Дагавор аб ненападзе ад 23 жніўня 1939 г., фашысцкая Германія **22 чэрвеня 1941 г.** вераломна напала на СССР. Мэтай гэтага нападу з'яўлялася ліквідацыя савецкага дзяржаўнага і грамадскага ладу, авалоданне нацыянальнымі багаццямі народаў СССР і выкарыстанне іх у інтарэсах рэйха, каланізацыя тэрыторыі СССР, знішчэнне большай часткі насельніцтва краіны і ператварэнне астатніх у рабоў нямецкіх гаспадароў.

22 чэрвеня 1941 г. у 12 гадзін дня з заявай савецкага ўрада па радыё выступіў нарком замежных спраў В. М. Молатаў, які выказаў упэўненасць у перамозе над агрэсарам. Вайна з першых дзён атрымала назву Вялікай Айчыннай. Па ўсёй краіне, у тым ліку ў Беларусі, праводзілася *мабілізацыя* ў дзеючую Чырвоную Армію ваеннаабавязаных запасу.

**Абарончыя баі супраць германскіх акупантаў на тэрыторыі БССР і адступленне Чырвонай Арміі.** Напад на СССР гітлераўцы пачалі моцным артылерыйскім абстрэлам прыгранічных раёнаў



*Гараць фашысцкія танкі, падбітыя каля вёскі Паперня Мінскага раёна. Чэрвень 1941 г.*

і авіяналётамі на месцы размяшчэння савецкіх войскаў, аэрадромы, казармы, чыгуначныя вузлы, гарады. На Мінск, Смаленск і Маскву наступала група армій *«Цэнтр»* на чале з генерал-фельдмаршалам Ф. фон Бокам. Ёй супрацьстаяў *Заходні фронт*, якім камандаваў генерал арміі Дз. Р. Паўлаў.

Гераічна змагаліся з ворагам пагранічнікі, лётчыкі, прадстаўнікі ўсіх родаў савецкіх войскаў. Гінулі, але не пакідалі баявыя пазіцыі воіны пагранічных застаў, якімі камандавалі М. К. Ішкоў, А. М. Кіжаватаў, І. Р. Ціханаў, В. М. Усаў. У першы дзень вайны таранілі варожыя самалёты лётчыкі П. С. Рабцаў, А. С. Данілаў, С. М. Гудзімаў, Дз. В. Кокараў. Экіпажы бамбардзіроўшчыкаў М. Ф. Гастэлы, А. С. Маслава здзейснілі наземныя тараны. На працягу першага дня вайны ў паветраных баях было збіта больш за 100 нямецкіх самалётаў.

Усяму свету вядома гераічная *абарона Брэсцкай крэпасці.* За бессмяротны подзвіг, які здзейснілі яе абаронцы, у **1965 г.** Брэсцкай крэпасці было прысвоена ганаровае званне «Крэпасць-герой».

Толькі за першыя тры дні абароны Мінска воіны 100-й савецкай дывізіі знішчылі каля 100 танкаў праціўніка. Аднак **28 чэрвеня 1941 г.** нямецка-фашысцкія войскі здолелі захапіць Мінск. У гіганцкім «катле» на захад ад беларускай сталіцы ў акружэнні апынуліся звыш 300 тыс. байцоў і камандзіраў 3, 4, 10 і 13-й савецкіх армій, большасць якіх трапіла ў нямецкі палон. Толькі частка воінаў змагла прабіцца з акружэння, іншыя засталіся ў лясах і потым перайшлі да партызанскай барацьбы.

У складанай ваенна-стратэгічнай сітуацыі ў ліпені 1941 г. часці Заходняга фронту ажыццявілі шэраг контрудараў. 6 ліпеня войскі 20-й арміі пад камандаваннем генерал-лейтэнанта *П. А. Курачкіна* нанеслі контрудар у напрамку *Сянно — Лепель* і адкінулі ворага на 30—40 км. Адбылася адна з найбуйнейшых у пачатковым перыядзе вайны танкавых бітваў, у якой з абодвух бакоў было задзейнічана больш за 1500 машын. 13 ліпеня войскі 63-га стралковага корпуса на чале з генерал-лейтэнантам *Л. Р. Пятроўскім* фарсіравалі Дняпро, вызвалілі Жлобін, Рагачоў і разгарнулі наступленне на Бабруйск. 22 ліпеня пачаўся 12-дзённы рэйд па тылах ворага зводнай кавалерыйскай групы генерал-палкоўніка *А. І. Гарадавікова.* Былі вызвалены Глуск, Старыя Дарогі, нанесены раптоўны ўдар па Асіповічах. 30 ліпеня быў вызвалены Крычаў.

Але, не падтрыманыя агульным наступленнем, контрудары асобных вайсковых злучэнняў мелі толькі часовы тактычны поспех.

Выключна напружанымі былі баі на рубяжах Бярэзіны і Дняпра. Пад Барысавам, паводле прызнання нямецкага генерала Г. Гудэрыяна, гітлераўскія войскі адчулі моц танкаў Т-34. 14 ліпеня 1941 г. пад Оршай упершыню быў нанесены магутны раптоўны ўдар па ворагу батарэяй рэактыўных установак («Кацюш») пад камандаваннем капітана *І. А. Флёрава*.

На працягу 23 дзён савецкія войскі стрымлівалі націск ворага пад Магілёвам. Больш за месяц ішлі баі за Гомель.

Абарончыя кровапралітныя баі на тэрыторыі Беларусі працягваліся **з чэрвеня па жнівень 1941 г.** Да пачатку верасня 1941 г. уся тэрыторыя Беларусі была акупіравана нямецка-фашысцкімі войскамі.

**Устанаўленне акупацыйнага рэжыму. План «Ост» — праграма каланізацыі і знішчэння народаў Савецкага Саюза.** На тэрыторыі Беларусі гітлераўцы праводзілі палітыку *генацыду* — знішчэння груп насельніцтва па расавых, нацыянальных, палітычных і іншых матывах. Згодна з *планам «Ост»*, распрацаваным напярэдадні нападу на СССР, гітлераўцы меркавалі знішчыць ці прымусова выселіць 75 % беларусаў, рускіх і ўкраінцаў. Астатніх 25 % жыхароў Беларусі прадугледжвалася анямечыць і выкарыстаць у якасці рабочай сілы. Яўрэяў і цыганоў, якія таксама жылі ў Беларусі, чакала поўнае знішчэнне.

Гітлераўцы ліквідавалі дзяржаўнасць беларускага народа і тэрытарыяльную цэласнасць рэспублікі, падзяліўшы Беларусь на 5 частак: 1) тэрыторыя Віцебскай, Магілёўскай, амаль усёй Гомельскай, усходнія раёны Мінскай і некалькі раёнаў Палескай абласцей былі аднесены да вобласці армейскага *тылу групы армій «Цэнтр»*, дзе ўлада знаходзілася ў руках камандавання ваенных і паліцэйскіх органаў; 2) паўднёвыя раёны Палескай, Пінскай і Брэсцкай абласцей з перадваеннымі абласнымі цэнтрамі Мазыр, Пінск, Брэст былі далучаны да *рэйхскамісарыята «Украіна»*, граніца якога праходзіла прыкладна за 20 км на поўнач ад чыгункі Брэст — Гомель; 3) Беластоцкая, паўночныя раёны Брэсцкай, частка раёнаў Баранавіцкай абласцей былі ўключаны ў склад *Усходняй Прусіі*; 4) паўночна-заходнія раёны Вілейскай вобласці былі далучаны да *Генеральнай акругі Літва*; 5) *Гене-*

*ральная акруга Беларусь* з цэнтрам у Мінску была ўключана ў склад рэйхскамісарыята «Остланд» з рэзідэнцыяй у Рызе.

Генеральная акруга Беларусь падзялялася на 10 акруг (гебітаў). Вышэйшым выканаўчым органам тут з'яўляўся Генеральны камісарыят Беларусі, які ўзначальваў В. Кубэ, а з верасня 1943 г. — К. фон Готберг. Генеральнаму камісарыяту падпарадкоўваліся гебітскамісарыяты (у акругах), штатскамісарыяты (у гарадах), ортскамісарыяты (у раёнах).

**Арганізацыі беларускіх калабарацыяністаў, іх дзейнасць.** З дазволу нацыстаў і пад іх кіраўніцтвам былі створаны прафашысцкія арганізацыі *калабарацыяністаў* (ад франц. collaboration — супрацоўніцтва) — *Беларуская народная самапомач, Беларускі корпус самаахововы, Саюз беларускай моладзі*. У народзе калабарацыяністаў называлі здраднікамі, гітлераўскімі памагатымі. Галоўнай іх мэтай было стварэнне з дапамогай немцаў «самастойнай Беларусі» пад эгідай гітлераўскай Германіі. У якасці сімвалаў беларускія калабарацыяністы выкарыстоўвалі гістарычны герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг, віталі адзін аднаго клічам «Жыве Беларусь!» з выкідваннем па-фашысцку рукі наперад.

З удзелам памагатых гітлераўцы рабавалі насельніцтва, забіраючы сыравіну, прамысловую прадукцыю, культурныя каштоўнасці. Сілай зброі, за нізкую плату яны прымушалі людзей працаваць да 12—14 гадзін у суткі, плаціць падаткі, здаваць сельскагаспадарчыя прадукты.

Эканамічны прыгнёт суправаджаўся духоўным. У сістэме школьнай адукацыі, якая дзейнічала на акупіраванай тэрыторыі, вучэбны працэс меў прагерманскую і прафашысцкую скіраванасць. У класе мусіў быць вывешаны партрэт А. Гітлера. Настаўніку, уваходзячы ў клас, належала вітаць вучняў узнятай правай рукой з воклічам «Хайль Гітлер!» або «Жыве Беларусь!». Вучні павінны былі гэтак жа адказваць настаўніку. Перад пачаткам урокаў праводзіліся гутаркі пра біяграфіі Гітлера і яго паплечнікаў, аб жыцці народа ў Новай Еўропе, перамогах вермахта.

На ўроках прыроды вучні мусілі засвойваць тэмы «Паняцце аб расах», «Характарыстыка рас», «Арыйская раса як найвышэйшая культурная і цывілізаваная раса чалавецтва», на ўроках гісторыі — тэмы «Беларусь і Германія», «Беларусь у будаўніцтве Новай Еўропы», «Жыццё Адольфа Гітлера» і інш. В. Кубэ папя-

рэджваў: «Кожны бальшавіцкі ўплыў, што будзе выходзіць са школы, будзе карацца смерцю». З канца 1941/42 навучальнага года пачаў выкарыстоўвацца лацінскі алфавіт.

На тэрыторыі акупіраванай Беларусі выходзілі газеты і часопісы. Вяліся радыёперадачы, дэманстраваліся кінафільмы. Дзейнічалі асобныя тэатры і гурткі мастацкай самадзейнасці. Немцы нават выдалі загад, каб артысты Мінскага драматычнага тэатра здалі экзамен па беларускай мове, а таксама вывучылі нямецкі гімн, маршы, вершы, прысвечаныя А. Гітлеру.

**Знішчэнне фашысцкімі акупантамі і іх прыспешнікамі насельніцтва Беларусі.** Для падтрымкі акупацыйнага рэжыму былі створаны і накіраваны на тэрыторыю Беларусі ўкраінскія, літоўскія і латышскія паліцэйскія батальёны. Яны ахоўвалі камунікацыі, змагаліся з партызанамі, удзельнічалі ў масавым знішчэнні яўрэйскага насельніцтва, пры гэтым вызначаліся не меншай лютасцю ў адносінах да мясцовых жыхароў, чым гітлераўцы.

Тэрыторыя Беларусі пакрылася сеткай канцэнтрацыйных лагераў і турмаў (больш як 260 лагераў смерці, іх філіялаў і аддзяленняў), дзе людзей спальвалі, цкавалі сабакамі, закопвалі жывымі ў зямлю, атручвалі ў душагубках. Самым буйным у Беларусі і СССР з'яўляўся Трасцянецкі лагер смерці каля Мінска, у якім было знішчана больш за 200 тыс. чалавек. Па колькасці знішчаных людзей Трасцянецкі лагер саступаў толькі польскім Асвенціму, Майданаку і Трэблінцы.

Адным з найбуйнейшых гарадскіх лагераў смерці было Мінскае гета, створанае гітлераўцамі 19 ліпеня 1941 г. Гета было абнесена высокай агароджай з калючым дротам. Выходзіць з яго яўрэі маглі толькі на работу ці па спецыяльным дазволе. На спіне і грудзях яны павінны былі насіць жоўтыя знакі. За парушэнне правілаў пагражаў расстрэл. На насельніцтва гета гітлераўцы накладвалі кантрыбуцыі, зборам якіх займаўся яўрэйскі камітэт і яўрэйская паліцыя. У гады акупацыі ў Мінскім гета сістэматычна паўтараліся пагромы. У выніку тут было знішчана каля 100 тыс. чалавек. Усяго ў Беларусі існавала больш за 100 яўрэйскіх гета, у якія немцы сагналі сотні тысяч яўрэяў — жыхароў Беларусі, краін Еўропы.

Нацысты правялі больш за 140 карных аперацый, у час якіх знішчылі 5295 населеных пунктаў разам з усімі ці часткай жыхароў. У правядзенні карных акцый удзельнічалі не толькі ахоўныя



*Усталяванне «новага парадку»*

дывізіі і паліцэйскія сілы, але і кадравыя вайскоўцы, узброеныя танкамі, самалётамі, артылерыяй. Пасля гэтых аперацый цэлыя раёны ператвараліся ў «зоны пустыні».

22 сакавіка 1943 г. карнікі спалілі жывымі ўсіх жыхароў вёскі Хатынь каля Лагойска. На месцы спаленай Хатыні ў **1969 г.** быў адкрыты мемарыяльны архітэктурна-скульптурны комплекс на ўшанаванне памяці ўсіх ахвяр фашысцкага генацыду ў Беларусі. Трагічны лёс Хатыні падзялілі 628 беларускіх вёсак, 186 з якіх не былі адноўлены, паколькі былі знішчаны разам з іх жыхарамі.

Адной з праяў акупацыйнай палітыкі быў вываз насельніцтва на прымусовыя работы ў Германію. У рэйху такіх людзей называлі «остарбайтэрамі» («усходнімі рабочымі»). Гітлераўцы насільна вывезлі з Беларусі ў Германію каля 400 тыс. чалавек, у тым ліку больш як 24 тыс. дзяцей. Вярнулася дамоў пасля вайны толькі 160 тыс. чалавек. Усяго за гады акупацыі фашысты загубілі ў Беларусі больш за 2,2 млн чалавек.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Калі і з якімі мэтамі Германія пачала вайну супраць СССР?
2. Назавіце асноўныя абарончыя баі ў чэрвені — жніўні 1941 г. на тэрыторыі Беларусі. Якое значэнне яны мелі?

3. Што такое план «Ост»? Якія былі яго мэты?
4. Ахарактарызуйце нацысцкі акупацыйны рэжым, устаноўлены на тэрыторыі Беларусі. Якімі былі яго вынікі?
5. Назавіце арганізацыі беларускіх калабарацыяністаў. Якія мэты яны ставілі?
6. Дайце азначэнні паняццяў: *план «Ост», генацыд, гета, калабарацыянізм.*

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. У першыя дні вайны савецкае кіраўніцтва паставіла задачу ператварыць краіну ў «ваенны лагер». Як вы разумееце гэту задачу? Знайдзіце ў гістарычнай літаратуры інфармацыю аб мерапрыемствах па яе вырашэнні на тэрыторыі БССР.
2. З апорай на краязнаўчы матэрыял падрыхтуйце паведамленні на тэмы:
   а) «Наш раён летам 1941 г.»;
   б) «Нямецка-фашысцкі акупацыйны рэжым у нашым раёне».
3. У пачатку 1943 г. В. Кубэ казаў пра захаваную на працягу тысячагадовай гісторыі так званую «нардычную кроў» у беларусаў. Як вы лічыце, з чым звязаны такія выказванні гаўляйтэра?

## § 24. БАРАЦЬБА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА З ГЕРМАНСКІМІ АКУПАНТАМІ

**Успомніце.** 1. Што такое рух Супраціўлення? У якіх краінах Еўропы ён быў найбольш актыўны? 2. Якія формы барацьбы супраць акупантаў выкарыстоўвалі еўрапейскія антыфашысты? 3. Хто з нашых суайчыннікаў удзельнічаў у еўрапейскім руху Супраціўлення?

**Арганізацыя народнага супраціўлення германскім акупантам. Савецкі партызанскі рух.** Барацьба беларускага народа супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў ажыццяўлялася ў трох асноўных формах: а) узброеныя дзеянні партызан; б) дзейнасць падпольных груп і арганізацый; в) масавы зрыў насельніцтвам, якое не ўваходзіла ў склад партызанскіх фарміраванняў і падпольных арганізацый, эканамічных, палітычных і ваенных планаў акупантаў.

Арганізатарам барацьбы беларускага народа супраць акупантаў стала Камуністычная партыя. Для нелегальнай работы ў Беларусі летам 1941 г. было пакінута каля 9 тыс. камуністаў і больш за 5 тыс. камсамольцаў. У час акупацыі ў рэспубліцы дзейнічалі 203 падпольныя партыйныя органы (райкомы, гаркомы, абкомы і інш.). Сакратары абкомаў КП(б)Б узначальвалі партызанскія злучэнні.

У ліку першых партызанскіх атрадаў, што ўзніклі самастойна ў самым пачатку Вялікай Айчыннай вайны, былі: атрад, які дзейнічаў у Пінскім раёне пад камандаваннем В. З. Каржа (узнік на пяты дзень вайны), атрад «Чырвоны Кастрычнік» пад камандаваннем Ц. П. Бумажкова і Ф. І. Паўлоўскага, атрад пад камандаваннем М. П. Шмырова (Бацькі Міная).

За ліпень — верасень 1941 г. у цэнтралізаваным парадку ў Беларусі было сфарміравана звыш 430 партызанскіх атрадаў і груп, у якіх налічвалася больш за 8 тыс. чалавек. У склад першых атрадаў і груп уваходзілі камуністы і камсамольцы, савецкія і гаспадарчыя кіраўнікі, актывісты, беларускія патрыёты, а таксама вайскоўцы, што трапілі ў акружэнне ці вырваліся з варожага палону.

У 1942 г. пачаўся новы ўздым партызанскай барацьбы. Разгром немцаў пад Масквой узняў маральны настрой патрыётаў. Расла колькасць атрадаў і груп, якія аб'ядноўваліся ў брыгады. Значна палепшылася ўзбраенне «лясных байцоў». Удасканальвалася структура партызанскіх сіл. Яны ўсё больш набывалі вайсковую будову. Брыгады ў асноўным складаліся з атрадаў, якія падзяляліся на ўзводы і аддзяленні. Узрастала майстэрства камандных кадраў і штабоў усіх узроўняў, умацоўваліся сувязі з мясцовым насельніцтвам.

Вялікае значэнне для развіцця партызанскага руху на тэрыторыі Віцебскай вобласці мела існаванне з лютага па верасень 1942 г. так званых *Віцебскіх* (*Суражскіх*) *«варот»* — 40-кіламетровага пралому ў лініі фронту паміж Веліжам і Усвятамі на стыку нямецкіх армій «Поўнач» і «Цэнтр». Праз «вароты» з Вялікай зямлі ў тыл ворага накіроўваліся арганізатарскія і дыверсійныя групы, зброя, боепрыпасы, медыкаменты і інш. Многія партызанскія атрады падтрымлівалі сувязь з Віцебскім абкомам і ЦК КП(б)Б, што дзейнічалі за лініяй фронту, а таксама з камандаваннем 4-й ударнай арміі.



*Віцебскія «вароты». Мастак М. Савіцкі. 1967 г.*

Самай буйной групоўкай партызанскіх сіл у Магілёўскай вобласці было *Клічаўскае партызанскае злучэнне*. У пачатку верасня 1942 г. у ім знаходзілася 16 партызанскіх атрадаў (каля 3 тыс. чалавек). Шляхам аб'яднання партызанскіх атрадаў ствараліся партызанскія злучэнні і ў іншых месцах Беларусі. Пры гэтым атрады, якія ўваходзілі ў партызанскія аб'яднанні, не трацілі сваёй самастойнасці.

Характэрнай асаблівасцю партызанскага руху ў 1942 г. стала вызваленне ад акупантаў значных тэрыторый і ўтварэнне там *партызанскіх зон*. Першая такая зона ўзнікла ўвосень 1941 г. у Акцябрскім раёне Палескай вобласці. На яе тэрыторыі размяшчаўся партызанскі гарнізон з 13 атрадаў, які налічваў больш за 1300 чалавек. Усяго на тэрыторыі Беларусі ў розны час дзейнічала некалькі дзесяткаў партызанскіх зон — *Клічаўская, Полацка-Лепельская, Барысаўска-Бягомльская, Расонска-Асвейская* і інш. Партызанскія зоны ўваходзілі ў больш буйное аб'яднанне — *партызанскі край*. На тэрыторыі партызанскіх зон і краёў аднаўлялася Савецкая ўлада.

Асаблівасцю партызанскага руху ў 1942 г. было і тое, што ён стаў больш арганізаваным і эфектыўным. Гэтаму спрыяла стварэнне ў **маі 1942 г.** *Цэнтральнага штаба партызанскага руху (ЦШПР)* пры Стаўцы Вярхоўнага Галоўнакамандавання на чале з П. К. Панамарэнкам і ў **верасні 1942 г.** *Беларускага штаба партызанскага руху (БШПР)* на чале з П. З. Калініным.




*Партызанскі рух на тэрыторыі Беларусі (1942—1944)*

Пачалося разгортванне масавага партызанскага руху, ствараліся занальныя і абласныя партызанскія злучэнні. Партызаны ўсё часцей праводзілі буйныя наступальныя аперацыі, наносілі ўдары па камунікацыях, гарнізонах, апорных пунктах, іншых аб'ектах праціўніка. У студзені 1942 г. партызанскія атрады разграмілі нямецкі гарнізон у райцэнтры Капаткевічы, у лютым — у вёсцы Азарычы Даманавіцкага раёна і на чыгуначнай станцыі Муляраўка на лініі Жыткавічы — Калінкавічы.

У сакавіку 1942 г. быў арганізаваны першы *партызанскі баявы рэйд* па тэрыторыі Любанскага, Старобінскага, Ганцавіцкага, Чырвонаслабодскага, Ленінскага, Жыткавіцкага раёнаў. У ім удзельнічалі партызаны Мінскай, Пінскай і Палескай абласцей



*Варожы эшалон, які партызаны пусцілі пад адхон у час «рэйкавай вайны»*

(больш за 400 чалавек). У час рэйду знішчаліся гарнізоны, сельскія і валасныя ўправы, узрываліся масты, праводзілася агітацыйная работа сярод насельніцтва.

У 1943—1944 гг. з удзелам усіх партызанскіх злучэнняў былі праведзены аперацыі, якія ўвайшлі ў гісторыю пад назвай *«рэйкавая вайна»*. Яе задачай быў зрыў ваенных перавозак праціўніка і садзейнічанне наступленню Чырвонай Арміі. «Рэйкавая вайна» ажыццяўлялася ў тры этапы: а) першы этап пачаўся ў ноч на 3 жніўня 1943 г. і працягваўся да сярэдзіны верасня 1943 г.; б) другі этап — з 19 верасня 1943 г. да пачатку лістапада 1943 г. (атрымаў назву «Канцэрт»); в) трэці этап пачаўся ноччу 20 чэрвеня 1944 г. і працягваўся да поўнага вызвалення рэспублікі.

Асаблівасцю партызанскай антыфашысцкай барацьбы ў заходніх раёнах Беларусі з'яўлялася знаходжанне тут адначасова з савецкімі партызанамі ваенных фарміраванняў польскай *Арміі Краёвай (акаўцаў)* і *Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў (аўнаўцаў)*. Акаўцы, якіх у народзе называлі «белымі», ці польскімі, партызанамі, змагаліся за аднаўленне Польшчы ў межах да верасня 1939 г., калі ў Польскую дзяржаву ўваходзілі Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна. Яны вялі барацьбу на два фронты: супраць гітлераўцаў і супраць бальшавікоў, бо, на іх думку, мена-

віта Германія і СССР знішчылі Польшчу як дзяржаву. Аўнаўцы, якіх у народзе называлі бандэраўцамі, змагаліся супраць гітлераўцаў і бальшавікоў за самастойную Украіну. У 1943—1944 гг. акаўцы і аўнаўцы вялі баявыя дзеянні супраць партызанаў і падпольшчыкаў, часцей Чырвонай Арміі.

Вынікам баявой дзейнасці партызан з'яўлялася тое, што пад іх кантролем знаходзілася да 60 % акупіраванай тэрыторыі Беларусі, значная частка якой была цалкам вызвалена ад захопнікаў.

У абсалютнай большасці выпадкаў узаемаадносіны партызан і мясцовага насельніцтва былі добрымі. Шмат людзей жылі ў партызанскіх зонах пад аховай партызан. Апошнія дапамагалі сялянам сеяць і збіраць ураджай. Партызанскія медыцынскія работнікі лячылі хворых, змагаліся з эпідэміямі. У партызанскіх зонах адкрываліся школы, дзейнічала вялікая колькасць гаспадарчых прадпрыемстваў, якія забяспечвалі патрэбы партызан і мясцовага насельніцтва, выпускалася 170 падпольных газет, працавала 168 радыёстанцый, праводзіліся гутаркі і лекцыі, дэманстраваліся кінафільмы, урачыста адзначаліся святы.

Усяго ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў Беларусі дзейнічала 374 тыс. партызан і 400 тыс. чалавек скрытага партызанскага рэзерву. У партызанскіх атрадах змагалася каля 4 тыс. замежных антыфашыстаў.

**Савецкі падпольны рух.** Адначасова з партызанскай барацьбой разгортвалася падпольная антыфашысцкая дзейнасць у гарадах і іншых населеных пунктах. Як і партызанскія фарміраванні, падпольшчыкі здзяйснялі дыверсіі, баявыя аперацыі (знішчэнне жывой сілы і баявой тэхнікі акупантаў), учынялі сабатаж, праводзілі агітацыйную работу сярод насельніцтва, вялі разведку.

Мінскае падполле, нягледзячы на вялікія страты, якія яно панесла восенню 1941 г., у сакавіку — маі і верасні — кастрычніку 1942 г., працягвала дзейнічаць. У яго складзе змагалася звыш 9 тыс. чалавек, сярод іх больш за 1 тыс. камуністаў і 2 тыс. камсамольцаў, антыфашысты замежных краін. За час акупацыі ў Мінску было праведзена звыш 1500 дыверсій, у тым ліку забіты генеральны камісар Беларусі В. Кубэ. За мужнасць і гераізм у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў **1974 г.** Мінску было прысвоена ганаровае званне «Горад-герой».

У ноч на 30 ліпеня 1943 г. падпольшчыкі горада Асіповічы здзейснілі на чыгуначным вузле адну з самых буйных дыверсій Другой сусветнай вайны. Камсамолец Ф. Крыловіч узарваў дзвюма магнітнымі мінамі эшалон з палівам. Пажар працягваўся 10 гадзін. У выніку аперацыі былі поўнасцю знішчаны 4 эшалоны, у тым ліку адзін з танкамі «Тыгр», 31 цыстэрна з палівам, 63 вагоны са снарадамі, авіябомбамі, мінамі.

У Віцебску ў 1941—1942 гг. дзейнічала 66 падпольных груп. Адну з іх узначальвала В. З. Харужая. Яна была накіравана сюды ў верасні 1942 г. Беларускім штабам партызанскага руху. 13 лістапада 1942 г. фашысты схапілі і пасля доўгіх допытаў закатавалі яе і іншых падпольшчыкаў. В. З. Харужай было пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У Гомелі актыўную барацьбу з ворагам вялі падпольныя групы на чыгуначным вузле, паравозавагонарамонтным заводзе, лесакамбінаце, гарадской электрастанцыі, іншых прадпрыемствах горада. Звыш 550 патрыётаў былі аб’яднаны ў 56 арганізацый.

У акупіраваным Магілёве вясной 1942 г. каля 40 груп (больш за 400 чалавек) аб’ядналіся ў падпольную арганізацыю «Камітэт садзейнічання Чырвонай Арміі», якую ўзначальваў мясцовы настаўнік К. Ю. Мэтэ. Камітэт каардынаваў дзейнасць групы чыгуначнікаў, настаўнікаў, рабочых хлебазавода, аўтарамонтнага завода, фабрыкі штучнага шоўку, работнікаў абласной бальніцы, былых ваеннаслужачых і інш. Дзякуючы пільнасці, канспірацыі і ўдалай структуры арганізацыі магілёўскаму падполлю доўгі час удавалася пазбягаць масавых правалаў і арыштаў.

У заходніх абласцях Беларусі таксама дзейнічалі антыфашысцкія арганізацыі. Яны ствараліся па ініцыятыве камуністаў, былых актывістаў КПЗБ, камсамольцаў, іншых патрыётаў. У маі 1942 г. быў створаны Акруговы беларускі антыфашысцкі камітэт Баранавіцкай вобласці. Восенню 1942 г. пад кіраўніцтвам гэтага камітэта барацьбу з акупантамі вялі больш за 260 падпольшчыкаў.

Шырокую вядомасць набылі баявыя подзвігі *обальскіх падпольшчыкаў*. Падпольная камсамольская арганізацыя «Юныя мсціўцы» на чыгуначнай станцыі Обаль Віцебскай вобласці была створана вясной 1942 г. У яе склад уваходзіла каля 40 чалавек. Узначальвала гэту арганізацыю былая работніца віцебскай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» камсамолка Е. Зянькова. Усяго маладыя падполь-

шчыкі здзейснілі 21 дыверсію: спалілі льнозавод, пілараму, электрастанцыю, некалькі мастоў, здабывалі і перадавалі партызанам зброю, медыкаменты, карысныя разведданыя, распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро і інш. Пасля вайны З. Партновай (пасмяротна) і Е. Зяньковай прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

На акупіраванай тэрыторыі Беларусі змагалася звыш 70 тыс. падпольшчыкаў. Сярод беларускіх патрыётаў пераважала моладзь. Юнакі і дзяўчаты да 26-гадовага ўзросту складалі звыш 54 % беларускіх партызан. У партызанскім руху ўдзельнічала больш за 7 тыс. настаўнікаў і 34 тыс. навучэнцаў, з якіх каля 5 тыс. з’яўляліся піянерамі.

У барацьбе з ворагам загінула каля 45 тыс. партызан і нямала падпольшчыкаў. Напрыклад, з 1500 падпольшчыкаў Віцебска загінуў кожны трэці.

Разам з партызанамі і падпольшчыкамі супраць ворага змагалася большасць мірнага насельніцтва. Барацьба на акупіраванай тэрыторыі Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў была ўсенароднай.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Назавіце формы барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.
2. Якія партызанскія атрады і падпольныя арганізацыі дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі? Назавіце іх кіраўнікоў, асноўныя баявыя аперацыі.
3. Што такое Віцебскія (Суражскія) «вароты»? Якое значэнне яны мелі для Беларусі ў гады вайны?
4. Назавіце асаблівасці партызанскага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі? Хто такія акаўцы і аўнаўцы?
5. Растлумачце значэнні паняццяў: *партызанскі рух, падпольная барацьба, партызанская зона, партызанскі край, «рэйкавая вайна», партызанскі баявы рэйд.*

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Ахарактарызуйце партызанскі рух і падпольную барацьбу беларускага народа супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў паводле плана: мэты, сацыяльная база, формы барацьбы, вынікі.
2. Падрыхтуйце паведамленне пра антыфашысцкую барацьбу ў гады Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі вашага горада, раёна.

## § 25. ВЫЗВАЛЕННЕ БЕЛАРУСІ АД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ АКУПАНТАЎ

**Успомніце.** Чаму план Беларускай наступальнай аперацыі Чырвонай Арміі ў чэрвені — ліпені 1944 г. атрымаў назву «Баграціён»?

**Пачатак вызвалення Беларусі.** Разгром нямецка-фашысцкіх войскаў на Курскай дузе і паспяховае наступленне Чырвонай Арміі летам — восенню 1943 г. стварылі ўмовы для выгнання акупантаў з Беларусі.

**23 верасня 1943 г.** быў вызвалены першы раённы цэнтр рэспублікі Камарын, а **26 лістапада** — першы абласны цэнтр Гомель, куды адразу ж пераехалі ЦК КП(б)Б, урад рэспублікі і Беларускі штаб партызанскага руху. У студзені 1944 г. войскі Беларускага фронту правялі Калінкавіцка-Мазырскую аперацыю і з дапамогай партызан вызвалілі абласны цэнтр Мазыр і чыгуначны вузел Калінкавічы. У раёне Азарычаў войскі Чырвонай Арміі выратавалі вязняў трох канцлагераў (больш за 33 тыс. савецкіх грамадзян).

Усяго ў выніку наступлення Чырвонай Арміі восенню — зімой 1943—1944 гг. поўнасцю ці часткова былі вызвалены 36 раёнаў Беларусі, 36 раённых і 2 абласныя цэнтры — Гомель і Мазыр.

**Агонія фашысцкага акупацыйнага рэжыму. Спробы стварэння беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці і войска.** Поспехі савецкіх войскаў на франтах вайны, гераічнае супраціўленне насельніцтва ў тыле прымушалі гітлераўскае кіраўніцтва ўсё часцей звяртацца да палітычных манеўраў з тым, каб увесці ў зман народ і шырэй прыцягнуць яго да барацьбы супраць бальшавізму. Менавіта такім манеўрам стала стварэнне ў **снежні 1943 г.** *Беларускай цэнтральнай рады (БЦР)*, якую ўзначаліў Р. К. Астроўскі.

БЦР з'яўлялася марыянетачным урадам, таму што поўнасцю кантралявалася гітлераўцамі. Рада дапамагала акупантам весці барацьбу супраць партызан, выконваць пастаўкі для фашысцкай арміі.

У сакавіку 1944 г. па загадзе Р. К. Астроўскага пачалася прымусовая мабілізацыя ў *Беларускую краёвую абарону (БКА)*. За няяўку ў вызначаны тэрмін на зборны пункт прадугледжвалася пакаранне смерцю. Галоўнае камандаванне БКА ўзначаліў маёр Ф. В. Кушаль. Для афіцэраў і падафіцэраў былі арганізаваны 3-тыднёвыя курсы перападрыхтоўкі.

Да сярэдзіны красавіка БЦР удалося стварыць 36 пяхотных і 6 сапёрных батальёнаў БКА. Аднак гэтае войска не апраўдала надзей акупантаў і выкарыстоўвалася ў асноўным на гаспадарчых работах ці ў ахове розных збудаванняў і складоў. Многія члены БКА са зброяй перайшлі да партызан, а частка іх пасля вызвалення Беларусі апынулася ў Германіі.

27 чэрвеня 1944 г. у гарадскім тэатры Мінска адбыўся *II Усебеларускі кангрэс*, на які з'ехаліся бургамістры, начальнікі паліцыі, члены БЦР і іншыя «дэлегаты» — здраднікі Айчыны. Кангрэс абвясціў сябе «паўнапраўным і найвышэйшым прадстаўніком беларускага народа», выбраў Р. К. Астроўскага прэзідэнтам БЦР, выказаў непрызнанне БССР як формы беларускай дзяржаўнасці. Але праз некалькі дзён гэтыя «кангрэсмены» пад гукі артылерыйскай кананады савецкіх войскаў ужо ўцякалі ў Берлін і Кёнігсберг.

**Аперацыя «Баграціён». Поўнае вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.** У 1944 г. Чырвоная Армія правяла шэраг наступальных аперацый, у выніку якіх дзяржаўная граніца СССР была адноўлена на ўсёй адлегласці ад Баранцава да Чорнага мора. Гітлераўцы былі выгнаны з Румыніі і Балгарыі, з большасці раёнаў Польшчы і Венгрыі. Чырвоная Армія ўступіла на тэрыторыю Чэхаславакіі і Югаславіі.

У ліку гэтых аперацый быў і разгром нямецка-фашысцкіх войскаў на тэрыторыі Беларусі, якая ўвайшла ў гісторыю пад кодавай назвай *«Баграціён»*. Гэта адна з найбуйнейшых наступальных аперацый Чырвонай Арміі супраць групы армій «Цэнтр» у гады Вялікай Айчыннай вайны.

У правядзенні аперацыі «Баграціён» удзельнічалі арміі чатырох франтоў: 1-га Беларускага (камандуючы К. К. Ракасоўскі), 2-га Беларускага (камандуючы Г. Ф. Захараў), 3-га Беларускага (камандуючы І. Д. Чарняхоўскі), 1-га Прыбалтыйскага (камандуючы І. Х. Баграмян), сілы Дняпроўскай ваеннай флатыліі. Даўжыня фронту баявых дзеянняў дасягала 1100 км, глыбіня руху войскаў — 560—600 км. Агульная колькасць войскаў да пачатку аперацыі складала 2,4 млн чалавек.

Аперацыя «Баграціён» пачалася раніцай **23 чэрвеня 1944 г.** Пасля артылерыйскай і авіяцыйнай падрыхтоўкі на Віцебскім, Аршанскім і Магілёўскім напрамках перайшлі ў наступленне




*Беларуская наступальная аперацыя «Баграціён» (23 чэрвеня — 29 жніўня 1944 г.)*

войскі 1-га Прыбалтыйскага, 3-га і 2-га Беларускіх франтоў. На другі дзень на варожыя пазіцыі абрынулі ўдар войскі 1-га Беларускага фронту на Бабруйскім напрамку. Дзеянні франтоў каардынавалі прадстаўнікі Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання маршалы Савецкага Саюза Г. К. Жукаў і А. М. Васілеўскі.

Моцныя ўдары па камунікацыях і лініях сувязі акупантаў нанеслі беларускія партызаны. У ноч на 20 чэрвеня 1944 г. пачаўся трэці этап «рэйкавай вайны». За гэту ноч партызаны ўзарвалі больш за 40 тыс. рэек.



*Мінск. 3 ліпеня 1944 г. Мастак В. Волкаў. 1946—1953 гг.*

Да канца чэрвеня 1944 г. савецкія войскі акружылі і знішчылі віцебскую і бабруйскую групоўкі ворага. У раёне Оршы была ліквідавана групоўка, што прыкрывала Мінскі напрамак. Абарона ворага на прасторы паміж Заходняй Дзвіной і Прыпяццю была ўзламана. Першае баявое хрышчэнне каля вёскі Леніна Магілёўскай вобласці прыняла 1-я Польская дывізія імя Т. Касцюшкі. У баях за вызваленне Беларусі прымалі ўдзел французскія лётчыкі авіяцыйнага палка «Нармандыя — Нёман».

1 ліпеня 1944 г. быў вызвалены Барысаў, а **3 ліпеня 1944 г.** — Мінск. У раёне Мінска, Віцебска і Бабруйска было акружана і знішчана 30 гітлераўскіх дывізій.

Савецкія войскі працягвалі наступленне на захад. 16 ліпеня яны вызвалілі Гродна, а **28 ліпеня 1944 г.** — Брэст. Акупанты былі цалкам выгнаны з беларускай зямлі. У гонар Чырвонай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў на 21-м кіламетры Маскоўскай шашы насыпаны *Курган Славы*, чатыры штыкі якога сімвалізуюць чатыры савецкія фронты, воіны якіх удзельнічалі ў вызваленні рэспублікі.

**Уклад беларускага народа ў перамогу над фашысцкай Германіяй. Інтэрнацыянальны характар барацьбы супраць фашысцкіх захопнікаў.** Больш як 1,3 млн жыхароў Беларусі змагалася з ворагам на франтах Вялікай Айчыннай вайны. За гераізм і мужнасць, праяўленыя ў гады вайны, каля 400 тыс. воінаў-беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі былі ўзнагароджаны баявымі ордэнамі




*Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі*

і медалямі Савецкага Саюза, 446 воінам прысуджана званне Героя Савецкага Саюза, 67 чалавек сталі поўнымі кавалерамі ордэна Славы. Выхадцы з Магілёўскай вобласці танкісты-палкоўнікі *І. І. Гусакоўскі, С. Ф. Шутаў* і *І. І. Якубоўскі* былі двойчы ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза. Двойчы гэтую ўзнагароду атрымаў былы сталяр Гомельскага дрэваапрацоўчага камбіната лётчык *П. Я. Галавачоў.*

Больш за 140 тыс. партызан і падпольшчыкаў Беларусі былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза, а 88 з іх прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Сотні тысяч ураджэнцаў Беларусі працавалі ў савецкім тыле: у Паволжы, на Урале, у Заходняй Сібіры, іншых рэгіёнах СССР. Беларускія чыгуначнікі А. М. Чухнюк, А. В. Глебаў, М. А. Макараў, І. П. Першукевіч, А. А. Янкоўскі за высокія паказчыкі ў рабоце былі ўдастоены звання Героя Сацыялістычнай Працы. Значны ўклад у справу разгрому ворага зрабілі дзеячы беларускай навукі і культуры.

Нямала ўраджэнцаў Беларусі ўдзельнічала ў еўрапейскім руху Супраціўлення. У той жа час на беларускай зямлі змагаліся з гітлераўцамі славацкі партызанскі атрад Я. Налепкі, немцы

Ф. Шменкель і К. Лінке, балгарка Л. Карастаянава, іспанец Х. Лопес. Усё гэта сведчыць аб інтэрнацыянальным характары барацьбы супраць германскага фашызму.

Сусветнае супольніцтва аддае даніну павагі ўсім змагарам з фашызмам. Вырашальны ўклад у разгром германскага фашызму і японскага мілітарызму ўнеслі Савецкі Саюз, гераічны савецкі народ і яго Узброеныя Сілы. Значная роля ў дасягненні перамогі ў Другой сусветнай вайне належыць народам і арміям ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі, Кітая і іншых дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі.

**Вытокі перамогі над фашысцкай Германіяй.** **9 мая 1945 г.** скончылася Вялікая Айчынная вайна. **2 верасня 1945 г.** Японія падпісала Акт аб безагаворачнай капітуляцыі, што сведчыла аб заканчэнні Другой сусветнай вайны. Крыніцамі перамогі над фашысцкай Германіяй і мілітарысцкай Японіяй з'яўляліся савецкі дзяржаўны і грамадскі лад, кіруючая роля Камуністычнай партыі, дружба народаў СССР, патрыятызм савецкіх людзей. Жорсткая цэнтралізацыя кіравання і дысцыпліна разам з гераічнай працай савецкіх рабочых, калгаснікаў і служачых дазволілі вырабіць значна больш зброі і баявой тэхнікі, чым меў праціўнік. Гэтая перавага савецкага тылу над германскім стварыла матэрыяльную аснову ваенных перамог.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Калі пачалося вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкай акупацыі? Якімі былі вынікі наступлення Чырвонай Арміі восенню — зімой 1943—1944 гг.?
2. Ахарактарызуйце палітыку акупацыйных улад на тэрыторыі Беларусі ў снежні 1943 — чэрвені 1944 г. Для чаго стваралася Беларуская краёвая абарона?
3. Калі адбылася аперацыя «Баграціён»? Якімі былі яе вынікі?

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Карыстаючыся дадатковай літаратурай, канкрэтызуйце фактамі ўдзел ураджэнцаў Беларусі ў еўрапейскім руху Супраціўлення, вытокі перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй.
2. Падрыхтуйце паведамленне пра вызваленне вашага раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

## § 26. САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ 1940-х — ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ 1980-х гг.

**Успомніце**. 1. Якой была галіновая структура прамысловасці Беларусі ў даваенны перыяд? 2. Назавіце пераўтварэнні, што былі праведзены ў сельскай гаспадарцы, культуры БССР у 1930-я гг. 3. Якімі былі асноўныя тэндэнцыі эканамічнага развіцця краін Захаду пасля Другой сусветнай вайны?

**Шляхі і метады аднаўлення эканомікі ў пасляваенныя гады.** Аднаўленчыя работы пачаліся яшчэ з восені 1943 г., калі былі вызвалены ўсходнія раёны Беларусі, і працягваліся да пачатку 1950-х гг.

У **1946 г.** Вярхоўны Савет БССР прыняў *Закон аб пяцігадовым плане аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі на 1946—1950 гг.* Асаблівасцю чацвёртага пяцігадовага плана было не толькі аднаўленне разбуранай вайной гаспадаркі, але і стварэнне новых галін вытворчасці. Аб'ём капіталаўкладанняў на пяцігодку перавышаў іх памер за тры даваенныя пяцігодкі, разам узятыя.

Галоўным кірункам развіцця пасляваеннай Беларусі з'яўлялася стварэнне новых і паскораны рост галін прамысловасці, што ўжо існавалі раней, — машынабудавання, металаапрацоўкі, электраэнергетыкі, паліўнай прамысловасці, вытворчасці будаўнічых матэрыялаў. У **1947 г.** былі выпушчаны першыя аўтамабілі-самазвалы МАЗ-205 на Мінскім аўтамабільным заводзе. Аўтамабільны і трактарны заводы, а таксама мотавелазавод у Мінску сталі найбуйнейшымі новабудоўлямі рэспублікі.

Паступова змяншалася ўдзельная вага тых галін прамысловасці, якія дамінавалі да вайны (лёгкая, харчовая, дрэваапрацоўчая). У вядучыя галіны эканомікі ператвараліся машынабудаванне і металаапрацоўка. Ва ўсіх галінах праводзілася тэхнічная рэканструкцыя, электрыфікацыя і аўтаматызацыя вытворчых працэсаў.

Характэрнай асаблівасцю чацвёртай пяцігодкі ў БССР з'яўляліся апераджальныя ў параўнанні з адпаведнымі паказчыкамі па СССР тэмпы індустрыяльнага развіцця. І хаця асобныя паказчыкі пяцігадовага плана не былі выкананы, у 1950 г. выпуск прамы-




*Гамяльчане на аднаўленні горада*

словай прадукцыі ў Беларусі амаль у 2 разы перавысіў даваенны ўзровень.

Пасля вызвалення тэрыторыі Беларускай ССР ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў была адноўлена калгасна-саўгасная сістэма. У сувязі з катастрафічным становішчам сельскай гаспадаркі Беларусі Савет Міністраў СССР прыняў пастанову аб аказанні дапамогі БССР, згодна з якой рэспубліка атрымала збожжа, жывёлу, сельскагаспадарчую тэхніку.

Большасць калгасаў і саўгасаў былі нерэнтабельнымі і стратнымі, мелі вялікія выдаткі на вытворчыя патрэбы. Планавыя дзяржпастаўкі сельскагаспадарчай прадукцыі ажыццяўляліся па фіксаваных цэнах, таму калгасы былі вымушаны прадаваць прадукцыю ніжэй за сабекошт. Нізкая заработная плата калгаснікаў абумоўлівала слабую матэрыяльную зацікаўленасць сялян у выніках сваёй працы.

Асноўнай крыніцай існавання сялян заставалася асабістая гаспадарка, якая знаходзілася пад прэсам жорсткай падатковай сістэмы. Прадукцыя асабістых гаспадарак абкладалася падаткам у форме абавязковых паставак дзяржаве ці ў грашовай форме. Падаткам абкладаліся кожны кусцік, дрэўца ці галава жывёлы. Уціскаліся сацыяльныя правы сялян, якія не мелі пашпартоў і фактычна не маглі пакінуць сваёй вёскі.

Напружаная сітуацыя склалася ў заходніх абласцях Беларусі, дзе пасля заканчэння вайны пачалася калектывізацыя. Да 1949 г. яна ішла маруднымі тэмпамі, аднак у пачатку 1950-х гг. набыла масавы характар. Гэта прывяло да змены ранейшых формаў гаспадарання і ўзнікнення незадаволенасці сялян. Пры правядзенні калектывізацыі ігнараваўся прынцып добраахвотнасці, прымяняліся рэпрэсіўныя меры супраць так званых кулакоў, да якіх былі прылічаны некаторыя серадняцкія гаспадаркі. Разам з тым створаным калгасам прадастаўлялася сельскагаспадарчая тэхніка, мінеральныя ўгнаенні, будаўнічыя матэрыялы, выдаткоўваліся крэдыты.

У першыя пасляваенныя гады ў сельскай гаспадарцы Беларусі ўсё ж адбыліся некаторыя станоўчыя змены. Павялічыліся пасяўныя плошчы, узрасло пагалоўе жывёлы, умацавалася матэрыяльна-тэхнічная база. Аднак сітуацыя на вёсцы заставалася вельмі складанай. Такое становішча выклікалі не толькі вынікі вайны, але і метады гаспадарання. Паскораная індустрыялізацыя пасляваеннай Беларусі вялася ў значнай ступені за кошт сельскай гаспадаркі.

**Асаблівасці навукова-тэхнічнай рэвалюцыі (НТР) у БССР.** Поспехі першага пасляваеннага дзесяцігоддзя забяспечылі разгортванне з другой паловы 1950-х гг. *навукова-тэхнічнай рэвалюцыі*. Яе сутнасць заключаецца ў якасным змяненні вытворчых сіл на аснове ператварэння навукі ў вядучы фактар вытворчасці, непасрэдную вытворчую сілу, паступовым пераходзе ад машыннай да аўтаматызаванай вытворчасці.

Базай навукова-тэхнічнага прагрэсу ў СССР стаў высокі ўзровень навукі. У канцы 1950-х гг. савецкая навука атрымала важныя вынікі ў шэрагу фундаментальных і прыкладных даследаванняў, у тым ліку ў галіне паўправаднікоў, электронна-вылічальных машын. Гэта дазволіла ажыццявіць запуск першых штучных спадарожнікаў Зямлі, будаўніцтва першых у свеце атамнай электрастанцыі і атамнага ледакола, запуск касмічнага карабля з чалавекам на борце, што стала прадметам гонару савецкіх людзей.

Асаблівасцю навукова-тэхнічнай рэвалюцыі ў БССР з'яўляўся хуткі рост колькасці навукова-даследчых устаноў і агульнай колькасці занятых у сферы навукі. Высокія тэмпы развіцця ма-

шынабудаўнічай, металаапрацоўчай і радыётэхнічнай галін прамысловасці Беларусі выклікалі актывізацыю даследаванняў па фізіка-матэматычных і тэхнічных навуках. Пуск у 1962 г. атамнага рэактара ў Інстытуце цепла- і масаабмену АН БССР паклаў пачатак ядзерным даследаванням у рэспубліцы. Па шэрагу навуковых кірункаў узніклі навуковыя школы ў галіне мовазнаўства, тэарэтычнай фізікі, матэматыкі, хіміі, геалогіі, фізіялогіі, генетыкі і інш., якія атрымалі вядомасць не толькі ў СССР, але і за мяжой. Вынікі некаторых даследаванняў былі прызнаны навуковымі адкрыццямі.

Яшчэ адной асаблівасцю навукова-тэхнічнай рэвалюцыі ў БССР з'яўлялася аб'яднанне навукі з вытворчасцю. На прадпрыемствах рэспублікі выраблялася прадукцыя для касмічнай і іншых навукаёмістых галін прамысловасці СССР.

**Структура прамысловасці БССР, напрамкі і дынаміка яе развіцця ў 1950—1980-я гг.** На працягу 1950-х — першай паловы 1980-х гг. адбывалася фарміраванне сучаснай галіновай структуры беларускай прамысловасці. Пераважнае значэнне ў рэспубліцы набылі галіны, якія вызначалі тэхнічны прагрэс: прыборабудаванне, радыётэхнічная, хімічная, нафтахімічная, паліўна-энергетычная.

У 1950-я гг. паскорылася развіццё ў Беларусі радыётэхнічнай і электроннай прамысловасці. У 1950 г. у Мінску пачалося будаўніцтва радыёзавода, які асвоіў выпуск чорна-белых і каляровых тэлевізараў (цяпер вытворчае аб'яднанне «Гарызонт»). У **1960 г.** на Мінскім заводзе электронных вылічальных машын упершыню ў СССР была зроблена ЭВМ «Мінск-1». Найбуйнейшым прадпрыемствам па вытворчасці інтэгральных схем, паўправадніковых прыбораў і іншага электроннага абсталявання з'явілася навукова-вытворчае аб'яднанне «Інтэграл».

Характэрнай рысай эканомікі Беларусі ў **першай палове 1960-х гг.** было хуткае развіццё хімічнай прамысловасці, асабліва вытворчасці мінеральных угнаенняў. Так, у Салігорску былі пабудаваны некалькі калійных камбінатаў, пазней злучаных у вытворчае аб'яднанне *«Беларуськалій»*. Мінеральныя ўгнаенні выраблялі на Гродзенскім азотна-тукавым і Гомельскім суперфасфатным заводах. Штучныя валокны выпускалі на Светлагорскім заводзе, а таксама на найбуйнейшым у Еўропе Магілёўскім камбінаце па вытворчасці лаўсану.



*Мінскі аўтамабільны завод. Галоўны канвеер*

У гэты ж час зарадзілася і нафтаперапрацоўчая прамысловасць Беларусі. Полацкі і Мазырскі нафтаперапрацоўчыя заводы выпускалі больш за 50 відаў нафтапрадуктаў. Каля паловы гэтай прадукцыі вывозілася ў іншыя рэспублікі і за мяжу.

Высокімі тэмпамі развіваліся машынабудаванне і металаапрацоўка. Узрастала вытворчасць грузавых аўтамабіляў і трактароў, сельскагаспадарчых машын. У **1958 г.** пачаўся выпуск першых кар'ерных самазвалаў на Беларускім аўтамабільным заводзе (БелАЗ) у Жодзіне.

У народнай гаспадарцы Беларусі сталі выкарыстоўвацца больш эканомныя віды паліва — нафта і прыродны газ. Праз тэрыторыю рэспублікі прайшлі газа- і нафтаправоды. Адкрыццё Рэчыцкага радовішча нафты аказала станоўчы ўплыў на паліўна-энергетычную прамысловасць.

Укараненне дасягненняў НТР прывяло да таго, што ў 1985 г. агульны аб'ём прамысловай прадукцыі БССР перавысіў даваенны ўзровень у 38 разоў. У рэспубліцы ў 1986 г. налічвалася 1490 прамысловых прадпрыемстваў.

Эканоміка Беларусі развівалася як састаўная частка адзінага народнагаспадарчага комплексу СССР. Беларусь атрымлівала з іншых раёнаў СССР сыравіну (сталь, чыгун, каляровыя металы,

нафту, газ, вугаль), а таксама розныя віды машын, дэталей і вузлоў. Прамысловасць Беларусі мела выразную спецыялізацыю ў агульнасаюзным маштабе. БССР называлі зборачным цэхам Савецкага Саюза, і яе спецыялізацыя заключалася ў зборцы вырабаў сіламі высокакваліфікаванага персаналу прадпрыемстваў. Асаблівасцю беларускай прамысловасці з'яўлялася высокая доля арыентаваных на экспарт прадпрыемстваў. Якасць прадукцыі беларускіх вытворцаў была адной з самых высокіх у СССР.

**Развіццё сельскай гаспадаркі ў БССР.** Дасягненні навукова-тэхнічнага прагрэсу закранулі ў пэўнай ступені і сельскую гаспадарку. Павялічвалася матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне аграрнага сектара, энергаўзброенасць сельскай гаспадаркі.

З 1960-х гг. у рэспубліцы шырока праводзіліся *меліярацыйныя работы*. Землі, якія падвергліся меліярацыі, давалі амаль $^1/_3$ усёй прадукцыі раслінаводства і 40 % кармоў. Меліярацыя спрыяла нарошчванню валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі. Між тым яна праводзілася без дастатковай навуковай распрацоўкі і спарадзіла эканамічныя і экалагічныя праблемы. У выніку на Палессі не засталося рэк і вадаёмаў у натуральным стане.

Інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі павінна была садзейнічаць і *хімізацыя* — больш шырокае выкарыстанне мінеральных угнаенняў, вапнаванне кіслых глеб. Гэта садзейнічала павышэнню ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур, хаця ў пэўнай ступені выклікала і новыя экалагічныя праблемы, звязаныя з забруджваннем глеб, рэк і вадаёмаў.



*Механізатары на асваенні асушаных палескіх балот*

Для сельскай гаспадаркі Беларусі была характэрна выразная спецыялізацыя, якая выяўлялася ў пераважным развіцці мясной і малочнай жывёлагадоўлі, вытворчасці бульбы, ільну, цукровых буракоў.

Напружанай працай беларускага народа ў рэспубліцы быў створаны вялікі вытворча-эканамічны, навукова-тэхнічны і інтэлектуальны патэнцыял, што сведчыла аб ператварэнні Беларускай ССР у магутную індустрыяльную краіну.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Як змянілася галіновая структура прамысловасці Беларусі ў пасляваенныя гады?
2. Ахарактарызуйце эканамічнае развіццё БССР у 1946—1950 гг. Чым былі абумоўлены поспехі і цяжкасці ў развіцці эканомікі Беларусі ў першую пасляваенную пяцігодку?
3. Чым, на ваш погляд, тлумачыцца пераважнае развіццё ў БССР у другой палове 1950-х гг. фізіка-матэматычных і тэхнічных навук?
4. Назавіце прамысловыя прадпрыемствы Беларусі, пабудаваныя ў 1950-х — сярэдзіне 1980-х гг.
5. Якімі былі вынікі НТР у прамысловасці БССР?
6. Якой была спецыялізацыя сельскай гаспадаркі Беларусі ў агульнасаюзным маштабе?

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Замежныя эканамісты прагназавалі 25-гадовы тэрмін аднаўлення савецкай гаспадаркі пасля Вялікай Айчыннай вайны. У БССР даваенны ўзровень прамысловасці быў адноўлены да 1950 г. У чым вы бачыце прычыны гэтага? Ці можна гаварыць пра гераічны подзвіг савецкага, у тым ліку беларускага, народа ў гады пасляваеннага аднаўлення? Сваю думку абгрунтуйце.
2. Дайце характарыстыку асноўным кірункам інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі БССР у 1960—1980-я гг.
3. Падрыхтуйце паведамленне «Эканамічнае развіццё нашага раёна ў 1950-х — сярэдзіне 1980-х гг.».

## § 27. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ Ў БССР У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ 1940-х — ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ 1980-х гг.

**Успомніце.** Назавіце асноўныя рысы палітычнага жыцця савецкага грамадства ў 1920—1930-я гг.

**Удзел БССР у стварэнні і дзейнасці Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.** Адным з першых крокаў БССР на міжнароднай арэне стаў удзел у стварэнні Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Пытанне аб уключэнні ў ААН Беларусі і Украіны было пастаўлена на Крымскай канферэнцыі кіраўнікоў СССР, Англіі і ЗША. Улічваючы ўклад народаў Беларусі і Украіны ў перамогу над Германіяй, была прынята дамоўленасць запрасіць на ўстаноўчую канферэнцыю ААН у Сан-Францыска дэлегацыі БССР і УССР. Уключэнне БССР і УССР у склад членаў ААН было абумоўлена таксама жаданнем палітычнага кіраўніцтва СССР мець больш галасоў у гэтай міжнароднай арганізацыі. Рашэнне аб уключэнні БССР і УССР у лік першапачатковых членаў ААН было прынята аднагалосна.

8 мая 1945 г. паўнамоцная дэлегацыя БССР на чале з наркомам замежных спраў К. В. Кісялёвым уключылася ў работу канферэнцыі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. **26 чэрвеня 1945 г.** упаўнаважаныя 50 дзяржаў-заснавальніц, у тым ліку і БССР, падпісалі Статут ААН. Па ініцыятыве беларускай дэлегацыі 1-я сесія Генеральнай Асамблеі ААН (1946) прыняла рэзалюцыю аб выдачы і пакаранні ваенных злачынцаў. Асобае месца ў дыпламатычнай практыцы БССР займала заключэнне шматбаковых дагавораў з замежнымі дзяржавамі.



*Дэлегацыя БССР пры падпісанні Статута ААН. Статут падпісвае нарком замежных спраў К. В. Кісялёў*

**Грамадска-палітычнае жыццё ў БССР у другой палове 1940-х — пачатку 1950-х гг.** У пасляваенных умовах грамадска-палітычнае жыццё ў краіне было даволі супярэчлівым. З аднаго боку, існавалі выразныя прыкметы культу асобы Сталіна, з другога — пэўная частка грамадства імкнулася да перамен.

Першым сакратаром ЦК КП(б)Б да 1947 г. з'яўляўся П. К. Панамарэнка, а з 1947 па 1950 г. — М. І. Гусараў. Яны не былі беларусамі, на кіруючыя пасады прызначаліся цэнтральнымі органамі ўлады. Аўтарытэтам у народзе карыстаўся П. К. Панамарэнка — былы кіраўнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху, аднак хутка ён быў адазваны на іншую работу за межамі рэспублікі.

Прыкметай пасляваеннага часу стала ўзмацненне *рэпрэсій*, якія закранулі амаль усе пласты насельніцтва Беларусі. Палітыка рэпрэсій у Беларусі звязана з дзейнасцю міністра дзяржаўнай бяспекі БССР Л. Ф. Цанавы. Па яго асабістым указанні былі рэпрэсіраваны многія вядомыя партыйныя і дзяржаўныя дзеячы, прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. У нацыяналізме і контррэвалюцыйнай дзейнасці быў абвінавачаны міністр асветы БССР П. В. Саевіч, рыхтавалася расправа над вядомым дзяржаўным і партыйным дзеячам С. В. Прытыцкім. У рэспубліцы адбыліся арышты пісьменнікаў, прычым некаторых з іх арыштоўвалі неаднаразова. Так здарылася з У. Дубоўкам, С. Грахоўскім, А. Александровічам і інш.

Узмацненню рэпрэсій садзейнічала і складаная сітуацыя ў заходніх рэгіёнах Беларусі. Тут працягвалі ўзброеную барацьбу супраць Савецкай улады былыя калабарацыяністы і ўдзельнікі фарміраванняў Арміі Краёвай. Яны карысталіся падтрымкай у пэўнай часткі насельніцтва, незадаволенай правядзеннем калектывізацыі. Ахвярамі антысавецкіх бандыцкіх фарміраванняў станавіліся партыйныя і камсамольскія актывісты, інтэлігенцыя, ваеннаслужачыя. Сітуацыя ў Заходняй Беларусі нармалізавалася толькі да сярэдзіны 1950-х гг.

**Спробы дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця ў 1950-х — першай палове 1960-х гг.** У 1952 г. адбыўся XIX з'езд ВКП(б). Ён прыняў рашэнне змяніць назву партыі: Усесаюзная Камуністычная партыя (бальшавікоў) стала называцца Камуністычнай партыяй Савецкага Саюза (КПСС).

Змены ў грамадска-палітычным жыцці пачаліся пасля смерці І. В. Сталіна (сакавік 1953 г.). Адразу ж былі зроблены крокі па

пераадоленні культу асобы. Са сродкаў масавай інфармацыі здымаліся матэрыялы, якія ўслаўлялі Сталіна. Былі зроблены захады па ўмацаванні законнасці і правапарадку. Цяпер грамадзяне СССР маглі быць пазбаўлены волі толькі згодна з прыгаворам суда.

Пасля смерці І. В. Сталіна разгарэлася жорсткая барацьба за ўладу. У выніку ўнутрыпартыйнай барацьбы на кіруючыя пасады ў партыі і дзяржаве вылучыўся *М. С. Хрушчоў*, які выступіў ініцыятарам далейшай дэмакратызацыі савецкага грамадства. Найбольш адчувальныя змены ў грамадска-палітычным жыцці СССР і БССР пачаліся пасля *XX з'езда КПСС*, які адбыўся ў **лютым 1956 г.** На яго закрытым пасяджэнні Хрушчоў выступіў з дакладам *«Аб культе асобы і яго выніках»*. Даклад выклікаў неадназначную рэакцыю, але, пасля таго як ён прагучаў, перамены ў жыцці грамадства сталі непазбежнымі.

Найбольш значным наступствам новага палітычнага курсу стала *рэабілітацыя* ахвяр культу асобы Сталіна. За 1956—1961 гг. Вярхоўны суд БССР і Трыбунал Беларускай вайсковай акругі рэабілітавалі дзесяткі тысяч жыхароў рэспублікі, многіх пасмяротна. Сярод іх былі вядомыя дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, работнікі навукі і культуры (В. Кнорын, М. Гікала, М. Галадзед, В. Шаранговіч і інш.), рабочыя і сяляне.

Аднак не ўсе змены ў грамадска-палітычным і сацыяльна-эканамічным жыцці краіны вялі да станоўчых вынікаў. Унутраная палітыка, якую праводзіў кіраўнік дзяржавы М. С. Хрушчоў, адрознівалася супярэчлівасцю і *валюнтарызмам* (дзейнасцю, якая не ўлічвае аб'ектыўныя абставіны і характарызуецца адвольнымі рашэннямі асобы, што яе ажыццяўляе).

Распрацаваная ў 1961 г. на XXII з'ездзе КПСС *праграма пабудовы камунізму* прадугледжвала стварэнне яго матэрыяльна-тэхнічнай базы за 2 дзесяцігоддзі. Нерэальнасць пастаўленай мэты была відавочнай для спецыялістаў нават у тыя гады, асабліва ва ўмовах пагаршэння эканамічнай сітуацыі ў пачатку 1960-х гг. Не апраўдала сябе і рэарганізацыя структуры Кампартыі, згодна з якой партыйныя арганізацыі падзяляліся на прамысловыя і сельскія.

Перыяд сярэдзіны 1950-х — пачатку 1960-х гг. адзначаўся *ўзмацненнем дзяржаўнага ціску на царкву.* У 1959—1963 гг. улады зачынілі некалькі соцень праваслаўных храмаў Беларусі. Былі закрыты храмы іншых канфесій, створаны перашкоды для

паступлення ў духоўныя семінарыі, назначана занадта вялікая арэндная плата за карыстанне манастырскімі збудаваннямі. У сродках масавай інфармацыі зноў разгарнулася кампанія па дыскрэдытацыі рэлігіі і ролі царквы.

Шматлікія непрадуманыя рэформы і рэарганізацыі, праведзеныя па ініцыятыве М. С. Хрушчова, выклікалі незадавальненне амаль усяго савецкага грамадства. У 1964 г. ён быў адхілены ад улады.

З 1956 па 1965 г. партыйную арганізацыю Беларусі ўзначальваў *К. Т. Мазураў*. Гэты таленавіты кіраўнік у складаных умовах таго часу адстойваў інтарэсы беларускага народа, а таксама асабістыя погляды, якія не заўсёды супадалі з пазіцыяй вышэйшага кіраўніцтва партыі.

**Грамадска-палітычнае жыццё ў БССР у сярэдзіне 1960-х — сярэдзіне 1980-х гг. Палітычная сістэма ў БССР. Палітыка па нацыянальным пытанні.** З прыходам да ўлады *Л. І. Брэжнева* адбыўся паварот кіраўніцтва дзяржавы да больш жорсткага *кансерватыўнага курсу.* На шматлікіх партыйных з'ездах, пленумах ЦК КПСС прымаліся рэзалюцыі аб далейшай дэмакратызацыі грамадскага жыцця, абмежаванні ўплыву бюракратычнага апарату, умацаванні ролі Саветаў, але на практыцы ажыццявіць гэтыя мерапрыемствы так і не ўдалося.

Ядром палітычнай сістэмы СССР заставалася Камуністычная партыя Савецкага Саюза. Палажэнне аб яе кіруючай ролі было ўнесена ў тэкст новай Канстытуцыі. Асноўная функцыя рэспубліканскіх і мясцовых органаў зводзілася да рэалізацыі распрацаванай у Маскве палітыкі, аднак яны маглі ўносіць некаторыя карэктывы з улікам нацыянальнай і рэгіянальнай спецыфікі.

Камуністычнай партыі падпарадкоўваліся і пад яе кіраўніцтвам працавалі ўсе органы дзяржаўнай улады і кіравання (Вярхоўны Савет і мясцовыя Саветы БССР, Савет Міністраў БССР, міністэрствы і дзяржаўныя камітэты, абласныя, гарадскія, раённыя, сельскія і пасялковыя выканаўчыя камітэты Саветаў, органы суда і пракуратуры і інш.), а таксама грамадскія арганізацыі (прафсаюзы, камсамол, навуковыя, культурна-асветныя, абаронныя, спартыўныя і іншыя арганізацыі). Пэўную ролю ў грамадска-палітычным жыцці адыгрывалі прафсаюзы. Аднак іх дзейнасць была заарганізаванай і залішне цэнтралізаванай, пакідала

ўсё меней месца для асабістай ініцыятывы. Таксама супярэчлівай была і дзейнасць камсамольскіх арганізацый. З аднаго боку, камсамол праводзіў вялікую палітыка-выхаваўчую работу сярод моладзі, з другога — у яго дзейнасці было шмат фармалізму. Колькасць членаў Камуністычнай партыі імкліва расла. Уступленне ў яе шэрагі было спосабам павышэння сацыяльнага статусу асобы, лічылася неабходнай умовай для кар'ернага росту. Разам з тым радавыя камуністы былі фактычна адхілены ад рэальнага ўдзелу ў вызначэнні палітыкі партыі.

Усплёск грамадскай актыўнасці быў звязаны з абмеркаваннем і прыняццем *Канстытуцыі СССР* **1977 г.** У яе прэамбуле адзначалася, што ў СССР пабудаваны развіты сацыялізм і агульнанародная дзяржава. Галоўная каштоўнасць Канстытуцыі — арыентацыя на абарону сацыяльных правоў людзей. *Канстытуцыя БССР* **1978 г.** поўнасцю адпавядала палажэнням агульнасаюзнай Канстытуцыі.

У тэксце Канстытуцыі сказана аб узнікненні новай гістарычнай агульнасці — савецкага народа. Галоўным зместам палітыкі па нацыянальным пытанні з'яўлялася забеспячэнне росквіту нацый, усебаковага развіцця нацыянальнай эканомікі, сацыяльнай і духоўнай сфер кожнай нацыі, павышэння дабрабыту людзей з тым, каб развіваўся аб'ектыўны працэс збліжэння нацый і культур, а ў далёкай гістарычнай перспектыве адбылося іх поўнае зліццё.

У сувязі з гэтым заахвочвалася выкарыстанне рускай мовы ў рабоце партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый, у літаратуры і мастацтве, пры выкладанні ў навучальных установах, звужалася сфера ўжывання беларускай мовы. У сярэдзіне 1980-х гг. толькі 23,1 % школ і 19,3 % дашкольных устаноў працавалі на беларускай мове. Прапановы развіцця беларускай мовы, пашырэння яе ў партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацыях, пераводу выкладання ў школах і іншых навучальных установах на беларускую мову некаторыя партыйныя органы Беларусі разглядалі як праявы нацыяналізму, выключалі іх ініцыятараў з радоў КПСС і звальнялі з работы. Гэта была вялікая памылка ў працы партыйных органаў на мяжы 1980—1990-х гг., якую выкарыстала апазіцыя як палітычны фактар у барацьбе за ліквідацыю савецкага дзяржаўнага і грамадскага ладу.



*П. М. Машэраў*

З 1965 па 1980 г. Кампартыяй Беларусі кіраваў П. М. Машэраў (1918—1980). З яго імем звязаны многія дасягненні ў развіцці эканомікі, навукі і культуры рэспублікі. Вялікае ўражанне на грамадскасць Беларусі аказала яго трагічная смерць у выніку аўтамабільнай катастрофы.

У пачатку 1980-х гг. Камуністычную партыю Беларусі ўзначальваў Ц. Я. Кісялёў, які да гэтага амаль 20 гадоў працаваў на пасадзе старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР.

Некаторыя змены ў грамадска-палітычным жыцці СССР і БССР адбыліся пасля выбрання ў 1982 г. Генеральным сакратаром ЦК КПСС *Ю. У. Андропава*. Яго імкненне ўмацаваць дысцыпліну ў краіне, справіцца з карупцыяй адпавядала настроям і спадзяванням народа. Хутка ў краіне пачалася кампанія па навядзенні парадку.

Аднак пасля смерці Андропава і выбрання на пасаду Генеральнага сакратара ЦК КПСС *К. У. Чарненкі* ў 1984 г. сітуацыя ў краіне змянілася. Прыход Чарненкі да ўлады суправаджаўся адмовай ад палітыкі, якую праводзіў Андропаў. Барацьба за дысцыпліну была згорнута, справы аб карупцыі прыпынены. Наглядалася вяртанне да палітыкі, якая праводзілася раней.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Чым было абумоўлена ўключэнне БССР у склад членаў ААН? Якое значэнне мела гэта падзея для нашай рэспублікі?
2. Ахарактарызуйце асаблівасці грамадска-палітычнага жыцця ў БССР у другой палове 1940-х — пачатку 1950-х гг.
3. Вызначце асноўныя кірункі дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця БССР у 1953—1964 гг.
4. Ахарактарызуйце палітычную сістэму ў БССР у сярэдзіне 1960 — сярэдзіне 1980-х гг.
5. Раскрыйце змест палітыкі КПСС па нацыянальным пытанні. Якімі былі яе вынікі ў БССР?
6. Назавіце прозвішчы кіраўнікоў Камуністычнай партыі БССР у пасляваенныя гады.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Складзіце тэзісны план адказу па тэме «Асноўныя тэндэнцыі грамадска-палітычнага жыцця БССР у другой палове 1940-х — першай палове 1980-х гг.».
2. Падрыхтуйце паведамленні пра палітычную дзейнасць К. Т. Мазурава, П. М. Машэрава, Ц. Я. Кісялёва.
3. Ахарактарызуйце ролю грамадскіх арганізацый (прафсаюзы, камсамол) у БССР у 1960—1980-я гг. Пры падрыхтоўцы да адказу выкарыстоўвайце дадатковую літаратуру.

## § 28. ПАЛІТЫКА ПЕРАБУДОВЫ І ЯЕ АЖЫЦЦЯЎЛЕННЕ Ў БЕЛАРУСІ

**Успомніце.** Якімі былі асноўныя тэндэнцыі палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця беларускага грамадства ў першай палове 1980-х гг.?

**Нарастанне негатыўных з'яў у эканоміцы, палітыцы і сацыяльнай сферы.** У сярэдзіне 1980-х гг. Савецкі Саюз знаходзіўся ў складаным становішчы. Замарудзіліся тэмпы сацыяльна-эканамічнага развіцця, дасягненні навукі і тэхнікі не заўсёды ўкараняліся ў вытворчасць, нізкай была якасць многіх відаў прадукцыі, не хапала высакаякасных тавараў на спажывецкім рынку, запаволіўся рост жыццёвага ўзроўню народа.

Паступовы адыход ад эканамічных метадаў кіравання прывёў да цэнтралізацыі і бюракратызацыі кіруючага апарату. На ўтрыманне бюракратычных структур былі выдаткаваны вялікія сродкі, пашырана сістэма льгот і прывілей. Адасобілася вышэйшая група кіруючых работнікаў, якую сталі называць *наменклатурай*. Сустракаліся такія з'явы, як злоўжыванне службовым становішчам, карупцыя і інш.

Грамадскія настроі выяўлялі незадаволенасць становішчам у краіне розных сацыяльных пластоў насельніцтва. Сярод працоўных людзей нярэдкай з'явай было п'янства, прагулы, што садзейнічала зніжэнню прадукцыйнасці працы. Адной з формаў праяўлення незадаволенасці людзей сталі анекдоты, у тым ліку і палітычнай тэматыкі. Мелі месца крытычныя выступленні сярод інтэлігенцыі. Патрабавалася рэфармаванне палітыка-эка-

намічнай сістэмы, якая ў аснове сваёй склалася ў СССР у 1920—1930-я гг.

У сакавіку 1985 г. Генеральным сакратаром ЦК КПСС быў выбраны М. С. Гарбачоў. З яго палітычнай і дзяржаўнай дзейнасцю як кіраўніка краіны звязана правядзенне шматлікіх рэформаў, якія ўрэшце прывялі да змены сацыялістычнага дзяржаўнага і грамадскага ладу, да рэстаўрацыі капіталізму ў СССР.

**Палітыка перабудовы, яе змест і шляхі ажыццяўлення.** XXVII з'езд КПСС (1986) і XIX Усесаюзная канферэнцыя КПСС (1988) удакладнілі палітычны курс і вызначылі *палітыку перабудовы, абнаўлення ўсіх сфер жыцця савецкага грамадства*.

Перабудову прадугледжвалася праводзіць у рамках сацыялістычнага выбару, сацыялістычных ідэалаў і каштоўнасцей пад лозунгам: «Больш дэмакратыі, больш сацыялізму». Яе мэтамі сталі пераадоленне дэфармацый сацыялістычнага ладу, больш поўнае раскрыццё яго патэнцыяльных магчымасцей, дэмакратызацыя ўсіх бакоў жыцця савецкага грамадства, рэфармаванне палітычных інстытутаў дзяржавы. Прадугледжвалася правядзенне выбараў у Саветы ўсіх узроўняў з удзелам некалькіх кандыдатаў.

У ходзе ажыццяўлення палітыкі перабудовы значна пашырылася самастойнасць прадпрыемстваў і аб'яднанняў у выніку іх пераходу на поўны *гаспадарчы разлік* і *самафінансаванне*. Працоўныя калектывы атрымалі права выбіраць кіраўнікоў, рэгуляваць заработную плату і адлічэнні на сацыяльныя патрэбы. Укараняліся прагрэсіўныя формы арганізацыі працы — *арэндныя калектывы, гаспадарчыя разліковыя брыгады*.

Больш дэмакратычнай рабілася выбарчая сістэма, развіваліся галоснасць і плюралізм думкі, фарміравалася *шматпартыйная сістэма*. Больш магчымасцей стала для ажыццяўлення дэмакратычных правоў і свабод грамадзян, для творчай дзейнасці.

Разам з тым у грамадстве з'явіліся капіталістычныя тэндэнцыі, прапагандавалася ўзбагачэнне любымі сродкамі. Многія кіраўнікі прадпрыемстваў здавалі ў арэнду з правам выкупу частку дзяржаўнай маёмасці, а затым за сімвалічную плату пераводзілі яе ў прыватную ўласнасць. Становішча яшчэ больш ускладнілася, калі ў СССР у 1988 г. быў апублікаваны *Закон «Аб кааперацыі»*.

Пад назвай кааператываў былі ўзаконены тыповыя капіталістычныя прадпрыемствы з правам наймаць работнікаў, купляць

сыравіну і паўфабрыкаты па стабільных дзяржаўных цэнах, а прадаваць прадукцыю — па свабодных рынычных. Кааператывы ствараліся ўсюды, у тым ліку і на базе дзяржаўных прадпрыемстваў. З дзяржаўнай казны пачалі пераводзіцца грашовыя сродкі ў кішэні прыватнікаў. Вытворчая дзейнасць кааператараў амаль не цікавіла. Яны працавалі пераважна ў гандлёва-пасрэдніцкай сферы: танна куплялі тавары, а прадавалі вельмі дорага. Кааператыўная дзейнасць станавілася эфектыўным сродкам для «адмывання брудных грошай» і стварэння вялікіх капіталаў. Сацыяльнае напружанне ў грамадстве ўзмацнялася, маёмасная дыферэнцыяцыя павялічвалася.

З адменай дзяржаўнай манаполіі на знешні гандаль і з дазволам прадпрыемствам і прыватным асобам прадаваць за мяжу тавары сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў краіне ў 1988—1990 гг. значна пагоршылася. Пусцелі прылаўкі магазінаў, значна павялічыліся рознічныя цэны, прадукты харчавання пачалі адпускацца па «картачках спажыўцоў», якія выдаваліся па месцы жыхарства. Пачалася маштабная міжнародная спекуляцыя, якая прывяла да вывазу буйных капіталаў за граніцу і стварэння магутных крымінальных структур. Эканоміка СССР і яе грашова-фінансавая сістэма прыйшлі ў заняпад.

*Палітыка «галоснасці»*, абвешчаная М. С. Гарбачовым, пасеяла сумненні наконт сацыялізму як дасканалай сістэмы. Пачаўся працэс паступовай падмены сацыялістычных ідэалаў іншымі ідэаламі і каштоўнасцямі. Ідэя сацыяльнай справядлівасці абвяшчалася шкоднай і недасягальнай, эканоміка гандлёва-базарнага тыпу — вяршыняй эканамічнай практыкі. Пачалі прапагандавацца культ нажывы і асабістай выгады, а таксама насілле — тое, што ў савецкі час лічылася зняважлівым для чалавека і грамадства. Усё часцей і часцей у сродках масавай інфармацыі, на мітынгах і ў чыноўніцкіх кабінетах стала гучаць думка аб тым, што «заходнія краіны нам дапамогуць». Быў зроблены антынавуковы і шкодны вывад аб тым, што савецкая сістэма не падлягае рэфармаванню, а таму павінна быць разбурана, знішчана.

Як бачна, антысаветызм стаў ідэалагічнай зброяй курсу М. С. Гарбачова, а галоснасць фактычнаператварылася ў ідэалагічную вайну, накіраваную на змену дзяржаўнага і грамадскага ладу СССР.

**Грамадска-палітычнае жыццё ў БССР. Пачатак пераходу да шматпартыйнасці.** Пераход да шматпартыйнасці ў Беларусі пачынаўся з амаль непрыкметнай з'явы — значнага павелічэння ліку аматарскіх нефармальных аб'яднанняў і клубаў па інтарэсах. У 1986—1987 гг. у рэспубліцы ўзнікла 7 тыс. такіх аматарскіх аб'яднанняў і клубаў, якія налічвалі каля 1 млн чалавек. Спачатку палітычныя пытанні ў праграмы клубаў і аб'яднанняў не ўключаліся. Напрыклад, мінская «Талака» ў сваёй праграме заяўляла, што будзе займацца выключна праблемамі нацыянальнай самабытнасці, захаваннем помнікаў гісторыі і культуры.

Аднак прыкладна з другой паловы 1987 г. у дзейнасці клубаў і арганізацый усё больш і больш сталі праяўляцца цэнтралізацыя і палітызацыя. У выніку перагавораў з уладамі ў снежні 1987 г. было дазволена правесці пад Мінскам вальны сойм беларускіх суполак. Удзельнікі яго гаварылі аб дэфармацыях сацыялістычнага ладу, неабходнасці пабудовы сапраўднага сацыялізму, адраджэння беларускай нацыянальнай культуры. Спасылаючыся на У. І. Леніна, яны рабілі спробы крытыкаваць кіраўніцтва Беларусі. Гэта быў ужо, безумоўна, не культурна-асветны, а палітычны рух. Ішла самая звычайная палітычная барацьба пад прыкрыццём лозунга адраджэння нацыянальнай культуры. Пачыналася канфрантацыя маладзёжных суполак з ЦК КПБ, партыйнымі і камсамольскімі органамі.

У 1989 г. у БССР быў створаны штаб палітычнай апазіцыі — Беларускі народны фронт «Адраджэнне». Яго праграма, статут і іншыя дакументы мелі адкрыта антысавецкую і антыкамуністычную накіраванасць. На заклікі апазіцыі да знішчэння савецкага дзяржаўнага і грамадскага ладу адэкватнае прававое рэагаванне адсутнічала. Больш таго, узмацнілася канфрантацыя апазіцыі з праваахоўнымі органамі, партыйнымі і дзяржаўнымі структурамі. Не было і адпаведнага палітыка-арганізацыйнага рэагавання на дзеянні некаторых камуністаў і кіраўнікоў розных узроўняў, якія сталі на шлях неабгрунтаванай крытыкі савецкага дзяржаўнага і грамадскага ладу.

У 1988—1989 гг. у СССР была сфарміравана новая структура вышэйшых органаў улады — З'езд народных дэпутатаў СССР і Вярхоўны Савет СССР, які ў адрозненне ад ранейшага Вярхоўнага Савета СССР ствараўся на з'ездзе з ліку дэпутатаў і працаваў

пастаянна. У БССР, як і ў іншых саюзных рэспубліках, сур'ёзных змяненняў у структуры вышэйшых органаў улады не адбылося.

Вясной 1990 г. на альтэрнатыўнай аснове прайшлі выбары ў рэспубліканскія і мясцовыя органы ўлады. У дзейнасці партыі, органаў улады і кіравання, грамадскіх арганізацый замацоўваўся палітычны плюралізм, ідэя змешанай эканомікі і шматпартыйнасці.

Летам 1990 г. адбыўся апошні, XXVIII з'езд КПСС. На з'ездзе М. С. Гарбачоў выступіў з новай ідэяй перабудовы, гэтым разам перабудовы КПСС на ўзор заходняй сацыял-дэмакратыі. Дэлегаты з'езда адобрылі і прынялі прапанову Генеральнага сакратара ЦК КПСС у праграмнай заяве «Да гуманнага, дэмакратычнага сацыялізму» і тым самым падпісалі сваёй партыі смяротны прысуд. На з'ездзе з шэрагаў КПСС дэманстратыўна выйшаў Б. М. Ельцын. З восені 1990 г. пачаўся працэс выхаду з партыі радавых камуністаў і самароспуску партарганізацый на прадпрыемствах і ва ўстановах.

Сітуацыя яшчэ больш ускладнілася, калі ўрад СССР на чале з М. І. Рыжковым у сярэдзіне 1990 г. прадставіў *праграму выхаду эканомікі з крызісу і пераходу да рыначных адносін*. Аналагічная праграма была распрацавана і адобрана ў Беларусі. Глыбокі крызіс савецкай эканомікі кіраўніцтва СССР вырашыла пераадолець капіталістычнымі метадамі. Гэта была не заўважаная народам афіцыйная змена палітычнага курсу КПСС і Савецкай дзяржавы, бо рынак з усімі яго атрыбутамі — з'ява капіталістычнага, а не сацыялістычнага грамадства. Але тады лічылася, што рынак — гэта універсальны шлях выхаду з крызісу і квітнення любой эканомікі.

Апазіцыя з дапамогай Захаду ўзмацняла намаганні, скіраваныя на развал СССР, знішчэнне існуючага ладу. Каб пазбегнуць абвінавачання ва ўмяшанні ва ўнутраныя справы СССР, былі створаны шматлікія фонды, цэнтры, саветы, асацыяцыі, якія афіцыйна лічыліся прыватнымі, недзяржаўнымі арганізацыямі, а фактычна знаходзіліся пад кантролем заходніх спецслужбаў. Апазіцыйныя арганізацыі СССР атрымлівалі з-за мяжы матэрыяльную і фінансавую дапамогу: факсы, ксераксы, камп'ютэры, друкарскія станкі, тэлексы, відэакамеры і іншую тэхніку, грошы на фінансаванне навуковых тэм, падрыхтоўку вучэбных дапаможнікаў, слоўнікаў, энцыклапедый і інш.

17 сакавіка 1991 г. быў праведзены рэферэндум па пытанні захавання Саюза ССР. У Беларусі за захаванне СССР прагаласавала 82,7 % ад агульнай колькасці выбаршчыкаў. У жніўні 1991 г. быў надрукаваны тэкст новага Саюзнага дагавора, але ён не быў падпісаны. У жніўні 1991 г. у Маскве адбыліся падзеі, якія ў рэшце рэшт прывялі да ліквідацыі СССР.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Калі была абвешчана палітыка перабудовы? Назавіце яе мэты. З якіх мерапрыемстваў (эканамічных, палітычных) яна складалася?
2. Ахарактарызуйце грамадска-палітычнае жыццё ў БССР у другой палове 1980-х гг.
3. Назавіце дату правядзення рэферэндуму па пытанні захавання Саюза ССР? Якімі былі яго вынікі ў БССР?

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Прааналізуйце палітыку перабудовы паводле плана (прычыны, сутнасць, вынікі).
2. Якія ацэнкі палітыкі перабудовы вы сустракалі ў гістарычнай літаратуры, перыядычным друку? Суаднясіце іх з ацэнкай, дадзенай у падручніку. Дайце ўласную абгрунтаваную ацэнку гэтай з'яве.

## § 29. СТАНАЎЛЕННЕ СУВЕРЭННАЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Успомніце.** Якія формы дзяржавы вядомы вам з курса «Грамадазнаўства»? Дайце азначэнне тэрмінаў, якія выкарыстоўваюцца для іх абазначэння.

**Абвяшчэнне дзяржаўнага суверэнітэту БССР.** Нечарговы *III З'езд народных дэпутатаў СССР* у сакавіку 1990 г. адмяніў 6-ы артыкул савецкай Канстытуцыі аб кіруючай ролі КПСС і ўвёў пасаду Прэзідэнта СССР. З'езд на безальтэрнатыўнай аснове выбраў Прэзідэнтам СССР М. С. Гарбачова.

Вырашальны ўдар па СССР быў нанесены ў маі — чэрвені 1990 г. на I З'ездзе народных дэпутатаў Расіі ў Маскве. У выніку напружанай палітычнай барацьбы Б. М. Ельцын з нязначнай перавагай галасоў быў выбраны Старшынёй Вярхоўнага Савета

РСФСР. 12 чэрвеня 1990 г. была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце РСФСР.

Падзеі ў Маскве ўзмацнілі цэнтрабежныя тэндэнцыі ў краіне, ініцыявалі прыняцце падобных дэкларацый у іншых рэспубліках. **27 ліпеня 1990 г.** Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР у складзе савецкай федэрацыі.

**Абвяшчэнне незалежнасці Беларусі. Распад СССР.** Падзеі 19—21 жніўня 1991 г. у Маскве паскорылі працэс распаду СССР. **25—26 жніўня 1991 г.** нечарговая сесія Вярхоўнага Савета БССР надала Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР сілу закона, а таксама прыняла пастанову аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларускай ССР. **19 верасня 1991 г.** Вярхоўны Савет прыняў Закон «Аб назве Беларускай ССР», у адпаведнасці з якім яна стала называцца «Рэспубліка Беларусь», а ў скарочаных назвах — «Беларусь». Дзяржаўнымі сімваламі Рэспублікі Беларусь былі абвешчаны герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг.

У жніўні 1991 г. Вярхоўны Савет БССР часова прыпыніў дзейнасць КПБ на тэрыторыі рэспублікі. Яе маёмасць перайшла ва ўласнасць дзяржавы.

**8 снежня 1991 г.** у Белавежскай пушчы, ва ўрадавай рэзідэнцыі Віскулі (Пружанскі раён Брэсцкай вобласці) кіраўнікі Расіі, Беларусі і Украіны Б. М. Ельцын, С. С. Шушкевіч, Л. М. Краўчук, ігнараваўшы волю сваіх народаў, выказаную на агульнасаюзным рэферэндуме 17 сакавіка 1991 г., дэнансавалі дагавор 1922 г. аб утварэнні СССР і тым самым канчаткова знішчылі вялікую і магутную дзяржаву. Савецкі Саюз спыніў сваё існаванне. На руінах СССР была створана Садружнасць Незалежных Дзяржаў (СНД). Дакументы сустрэчы ў Віскулях былі адобраны Вярхоўнымі Саветамі Расіі, Беларусі і Украіны, большасць дэпутатаў якіх складалі былыя камуністы.

21 снежня 1991 г. на сустрэчы ў Алма-Аце кіраўнікі 11 рэспублік былога СССР падпісалі Дэкларацыю аб утварэнні СНД. Членамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў сталі ўсе былыя саюзныя рэспублікі, акрамя Літвы, Латвіі і Эстоніі.

У сувязі з прыпыненнем існавання СССР 25 снежня 1991 г. Прэзідэнт СССР М. С. Гарбачоў склаў свае паўнамоцтвы. Чырвоны сцяг СССР над Крамлём быў заменены трохколерным расій-

скім. Перабудова, пачатая дзеля ўдасканалення сацыялізму, завяршылася яго знішчэннем.

**Парламенцкі перыяд 1991—1994 гг. Увядзенне прэзідэнцкай формы кіравання. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 г.** Правядзенне рэформаў у 1991—1994 гг. дазволіла стварыць у Беларусі неабходны мінімум асноўных рыначных інстытутаў, нарматыўна-прававых дакументаў, пераўтварыць сістэму дзяржаўнага кіраўніцтва эканомікай у новую сістэму, якая ў пэўнай ступені абапіраецца на рыначныя рэгулятары.

Разам з тым беларуская эканоміка цярпела значна большыя страты, чым мела здабыткаў. Для згаданага перыяду характэрны: разбурэнне раней існаваўшых вытворча-эканамічных сувязей і «абвальны» спад вытворчасці на 50 % і больш у параўнанні з канцом 1980-х гг., што пагражала дзяржаве стратай незалежнасці і ператварэннем у калонію; раскручванне інфляцыйнай спіралі і катастрафічнае падзенне курсу беларускіх грошай; крытычнае становішча з забеспячэннем гаспадаркі энергарэсурсамі; імклівы рост цэн (іх лібералізацыя не прывяла да ўстанаўлення раўнаважных цэн, што з'яўляецца асаблівасцю рынку, заснаванага на механізме свабоднай канкурэнцыі); рэзкае падзенне жыццёвага ўзроўню большасці насельніцтва, рост беспрацоўя, нарастанне іншых сацыяльных праблем.

Мадэль рыначных рэформаў метадам «шокавай тэрапіі» пацярпела правал. Новы варыянт рэформаў стаў праводзіць першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка.

Для пераадолення крызісных з'яў і недахопаў, а таксама для вызначэння перспектыўных задач у правядзенні рыначных рэформаў былі распрацаваны «Асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады». 20 кастрычніка 1996 г. удзельнікі І Усебеларускага народнага сходу адобрылі гэты дакумент.

1991—1994 гг. увайшлі ў гісторыю як часы жорсткай палітычнай барацьбы ў Вярхоўным Савеце рэспублікі і наогул у грамадстве па пытаннях эканамічнага жыцця, дзяржаўнага будаўніцтва, будучага саюза з Расіяй. Ішлі спрэчкі аб тым, якой рэспублікай павінна быць Беларусь: прэзідэнцкай ці парламенцкай. У гэтай дыскусіі ўзрастаў палітычны аўтарытэт старшыні камісіі Вярхоўнага Савета па барацьбе з карупцыяй А. Р. Лукашэнкі.

**15 сакавіка 1994 г.** Вярхоўны Савет рэспублікі прыняў новую Канстытуцыю — Асноўны Закон Рэспублікі Беларусь. Згодна з ёю Беларусь з'яўляецца *унітарнай дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавай*, якая валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі. Паводле Канстытуцыі ў рэспубліцы ўводзілася прэзідэнцкая форма кіравання.



*А. Р. Лукашэнка*

Першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь **10 ліпеня 1994 г.** быў выбраны *А. Р. Лукашэнка*. Для забеспячэння эфектыўнай дзяржаўнай палітыкі была створана падпарадкаваная ўсенародна выбранаму Прэзідэнту скразная вертыкальная структура, якая ўключае выканаўчыя і распарадчыя органы як у цэнтры, так і на месцах.

**Вынікі рэферэндумаў 1995 і 1996 гг.** У мэтах вырашэння некаторых спрэчных пытанняў, якія ставіла палітычная апазіцыя і якія мелі прынцыповае значэнне для забеспячэння згоды ў грамадстве, па ініцыятыве Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь **14 мая 1995 г.** быў праведзены рэспубліканскі рэферэндум. Беларускі народ падтрымаў прапановы Кіраўніка дзяржавы аб наданні рускай мове роўнага статусу з беларускай, развіцці эканамічнай інтэграцыі з Расійскай Федэрацыяй, устанаўленні новых Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь. Герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг на рэферэндуме народ не прызнаў нацыянальнымі і дзяржаўнымі сімваламі.

Па-першае, герб «Пагоня» — гэта рыцарскі сімвал воінскай славы, воінскай магутнасці, выява народнай традыцыі пагоні, характэрнай не толькі для беларусаў ці літоўцаў, а для ўсіх тых, хто ваяваў, падвяргаўся нападу і гнаўся за пераможаным ворагам ці ворагам, які адступіў без бітвы. У той час (XII—XIV стст.) ваявалі амаль усе — і народы Захаду, і народы Усходу (а не толькі беларусы ці літоўцы). Адпаведна і традыцыя народнай пагоні была характэрнай як для ўсходнеславянскіх народаў, так і для заходнееўрапейцаў, і выява пагоні сустракаецца і на Усходзе, і на Захадзе.

Па-другое, герб «Пагоня» не меў усебеларускага распаўсюджання, аб чым сведчыць наступнае. Сярод 47 гербаў губерняў

і гарадоў Беларусі, якія прыведзены ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, выяву «Пагоні» мелі толькі адзінаццаць. У XVI—XVIII стст. з 70 гербаў гарадоў Беларусі знак «Пагоні» быў толькі ў пяці — Магілёва, Лепеля, Дрысы, Чэрыкава і Ліпнішак.

Па-трэцяе, герб «Пагоня» ўзнік гістарычна, ён цалкам належыць сівой феадальнай даўніне. У якасці факта нашай гісторыі гэты сімвал можа выкарыстоўвацца ў прозе, вершах, кінастужках, тэатры, музыцы, архітэктуры, наогул у жыцці беларускага народа, як і іншых народаў. Як культурна-гістарычны знак герб «Пагоня» — чысты, як дзяржаўна-палітычны сімвал — заплямлены, бо ў 1941—1944 гг. знаходзіўся ў руках здраднікаў, катаў і ворагаў беларускага народа. А што можа сімвалізаваць сёння гэты феадальны знак «Пагоня» ў якасці дзяржаўнага герба? Агрэсіўнасць, ваяўнічасць, тэакратычнасць дзяржавы? Не, гэта не адпавядае менталітэту беларускага народа.

Яшчэ менш даследаваная праблема паходжання бела-чырвона-белага сцяга.

Няма амаль ніякіх дакументальных сведчанняў, што пацвярджалі б яго старажытнасць. Дакладная даведка маецца ў артыкуле Г. Альгердзіча (беларускі калабарацыяніст перыяду Вялікай Айчыннай вайны А. Адамовіч), змешчаным у газеце «Раніца» (месца выдання — Берлін) за 26 лістапада 1944 г. У ім напісана: «Паходжанне нашага сённяшняга бела-чырвона-белага сцяга параўнальна нядаўняе і звязана з часам рэвалюцыі 1917 г. таму, што пытанне аб агульнанацыянальным ці дзяржаўным сцягу ў мінуўшчыне было недаследаваным. А нашым нацыянальным дзеячам 1917 г. і зусім невядомым. Давялося ім выступіць у гэтай галіне вольнымі тварцамі. У выніку гэтай творчасці адразу з'явіўся... у якасці нацыянальнага сцяга аднаколерны белы штандар. Відаць, у прызнанні яго за нацыянальны сцяг кіраваліся расшыфраваннем самога назову „Беларусь". Аднак хутка выявілася неадпаведнасць такога аднаколернага белага сцяга: ён занадта біў у вочы на фоне рэвалюцыйнага разумення сімволікі колераў (чырвонае — колер рэвалюцыі, белае — колер контррэвалюцыі). Да таго ж, аддаўна меў міжнароднае значэнне знаку паддачы, капітуляцыі на вайне. Таму неўзабаве пасярод белае палатніны сцяга была праведзена чырвоная, „рэвалюцыйная" паласа. Гэтак і з'явіўся наш сённяшні сцяг».






*Дзяржаўны герб і Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь*

Такім чынам, герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг з'яўляюцца не нацыянальнымі сімваламі, а сімваламі барацьбы за ўладу пэўных палітычных сіл, не падтрыманых большасцю беларускага народа. Герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг — сімвалы буржуазнай Беларусі, чырвона-зялёны сцяг з белым арнаментам і герб з сярпом і молатам — сімвалы Савецкай Сацыялістычнай Беларусі.

Палітычная апазіцыя, у тым ліку частка дэпутатаў Вярхоўнага Савета і членаў Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь, выступіла супраць курсу, абранага А. Р. Лукашэнкам і большасцю беларускага народа. Палітычная напружанасць у грамадстве ўзмацнілася.

**24 лістапада 1996 г.** адбыўся ініцыяваны Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам рэспубліканскі рэферэндум. Беларускі народ прагаласаваў за прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі А. Р. Лукашэнкам (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), выказаўся супраць свабоднай, без абмежаванняў, куплі і продажу зямлі, супраць адмены смяротнай кары ў Рэспубліцы Беларусь.

На рэспубліканскім рэферэндуме была падтрымана прапанова А. Р. Лукашэнкі аб перанясенні Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дня Рэспублікі) з **27 ліпеня** на **3 ліпеня** — дзень вызвалення Мінска ад гітлераўскіх захопнікаў. 27 ліпеня ў памяці людзей звязваецца з некаторымі змрочнымі падзеямі айчыннай гісторыі. У гэты дзень у 1942 г. кат беларускага народа, гаўляйтэр В. Кубэ падтрымаў беларускіх здраднікаў і выдаў распараджэнне, у якім дазволіў «пры розных урачыстасцях і для распазнавання

нацыянальнасці беларускай побач з нямецкімі адзнакамі на дамах вывешваць і насіць бела-чырвона-белы сцяг і герб „Пагоню“». Менавіта ў гэты дзень (выпадкова ці наўмысна), 27 ліпеня 1990 г., Вярхоўным Саветам БССР была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. З гэтым днём і з гэтым дакументам большасць народа звязвае крок не толькі да незалежнасці Беларусі, але і да развалу вялікай і магутнай дзяржавы — Савецкага Саюза. Беларускі народ адмовіўся ад таго, каб і далей лічыць 27 ліпеня сваім галоўным дзяржаўным святам — Днём незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Днём Рэспублікі).

У адпаведнасці з новай рэдакцыяй Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь замест аднапалатнага Вярхоўнага Савета быў сфарміраваны двухпалатны Нацыянальны сход. Ён складаецца з Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі. Прэзідэнт з'яўляецца Кіраўніком дзяржавы, гарантам Канстытуцыі, правоў і свабод чалавека і грамадзяніна. Кіраўніком выканаўчай улады з'яўляецца прэм'ер-міністр урада. У адпаведнасці з новай рэдакцыяй Канстытуцыі пашыраны таксама правы і паўнамоцтвы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Назавіце гістарычныя падзеі, якія адбыліся 27 ліпеня 1990 г., 25—26 жніўня 1991 г., 19 верасня 1991 г., 8 снежня 1991 г., 15 сакавіка 1994 г., 10 ліпеня 1994 г., 14 мая 1995 г., 24 лістапада 1996 г.
2. Якія пытанні абмяркоўваліся на рэспубліканскіх рэферэндумах? Якімі былі вынікі рэферэндумаў?

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Абапіраючыся на тэкст параграфа і іншыя крыніцы, выкажыце сваё абгрунтаванае меркаванне па пытанні: чаму распаўся СССР. Вызначце прычыны і перадумовы гэтага працэсу.
2. Дайце ўласную ацэнку падзеям 1990—1996 гг. у Беларусі.
3. Складзіце тэзісны план адказу па тэме «Грамадска-палітычнае жыццё ў Рэспубліцы Беларусь у 1990-х гг.».
4. Выкажыце сваю пазіцыю па пытаннях, якія выносіліся на рэспубліканскія рэферэндумы.

## § 30. РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ НА ШЛЯХУ ДА СТАБІЛІЗАЦЫІ

**Успомніце.** 1. Дайце азначэнне паняцця *рыначная эканоміка*. 2. Назавіце формы і метады дзяржаўнага рэгулявання эканомікі.

**Беларуская мадэль сацыяльна-эканамічнага развіцця.** Беларуская мадэль сацыяльна-эканамічнага развіцця сфарміравалася ў час правядзення рыначных рэформаў новым кіраўніцтвам Рэспублікі Беларусь пачынаючы з 1994 г. Яна мае наступныя асаблівасці.

Па-першае, ва ўмовах глабалізацыі, жорсткай канкурэнтнай барацьбы за рынкі збыту і сыравінныя рэсурсы, пабудовы новага постіндустрыяльнага інфармацыйнага грамадства найважнейшым рэсурсам эканамічнага развіцця становіцца высокаадукаваны, фізічна здаровы і ўсебакова развіты чалавек, здольны працаваць на карысць краіны, генерыраваць новыя ідэі і паспяхова іх ажыццяўляць. Таму ў цэнтры беларускай мадэлі сацыяльна-эканамічнага развіцця знаходзіцца Чалавек, яго здароўе, адукацыя, зарплата, жыллё, пенсія, бяспека. Усё ў імя чалавека і для дабрабыту чалавека — такі глыбінны сэнс унутранай і знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь. Дзяржава для народа клапоціцца і будзе клапаціцца аб росце заработнай платы, пенсій, стыпендый і іншых выплат насельніцтву, аб паляпшэнні жыллёвых умоў, а таксама ўмоў працы і адпачынку з тым, каб чалавек адчуваў сябе камфортна, ганарыўся тым, што жыве і працуе ў краіне, імя якой — Рэспубліка Беларусь.

Па-другое, новае кіраўніцтва дзяржавы адмовілася ад ліберальнай мадэлі рынку і ўзяло на ўзбраенне *сацыяльна арыентаваную мадэль рыначнай эканомікі*. Выкарыстоўваючы яе, дзяржава праводзіць моцную і эфектыўную эканамічную і сацыяльную палітыку, абараняе інтарэсы ўсіх класаў і пластоў насельніцтва, у тым ліку і тых, хто па розных прычынах зарабляе мала ці зусім нічога не зарабляе (састарэлыя, інваліды, шматдзетныя сем'і, студэнты, навучэнцы і інш.). Гэта выключае сацыяльныя катаклізмы і забяспечвае сацыяльную стабільнасць у грамадстве.

Па-трэцяе, улічваючы вопыт краін з развітой рыначнай інфраструктурай, Рэспубліка Беларусь стала на шлях дзяржаўнага рэгулявання эканомікі. Правядзенне дзяржаўнай патэрналісц-

кай палітыкі забяспечвае павышэнне эфектыўнасці эканомікі, абарону інтарэсаў айчынных таваравытворцаў, недапушчэнне «праядання» крэдытаў, узмацнення інфляцыі, развіцця крымінальных і ценявых структур.

Па-чацвёртае, прыпынена раскраданне дзялкамі агульнанароднага багацця і стварэнне буйных прыватных капіталаў, большасць з якіх маюць крымінальнае паходжанне. Прыватызацыя праводзіцца пры ўдзеле і пад кантролем дзяржавы, у інтарэсах умацавання яе магутнасці і павышэння дабрабыту народа.

Па-пятае, народ і дзяржава адмовіліся ад куплі-продажу зямель сельскагаспадарчага прызначэння, ад дэмантажу буйной калгасна-саўгаснай вытворчасці і замены яе сялянскай (фермерскай) гаспадаркай. Сельскагаспадарчае прадпрыемства (кааператыў, аграфірма, агракамбінат і інш.), сялянская (фермерская) гаспадарка маюць роўныя правы і магчымасці існавання, калі яны эфектыўна гаспадараць на зямлі.

Па-шостае, Рэспубліка Беларусь адкрыта для эканамічнага супрацоўніцтва з усімі краінамі свету. Яна прыцягвае ў народную гаспадарку капіталы айчынных і замежных інвестараў. Але трэба памятаць, што ў эканоміцы дарэвалюцыйнай Расіі, у якую была ўключана і Беларусь, уладарыў замежны капітал. Найбуйнейшыя прадпрыемствы знаходзіліся ў прыватнай уласнасці ці ў арэндзе ў замежных капіталістаў. А між тым краіна і яе народ былі надзвычай беднымі. Таму сёння пры наяўнасці велізарнага вытворча-эканамічнага, навукова-тэхнічнага і інтэлектуальнага патэнцыялу стаўка робіцца на ўласныя сілы і сродкі. Іншаземныя інвестыцыі прыцягваюцца ў тым выпадку, калі яны даюць нам эканамічную выгаду і адпавядаюць нацыянальным інтарэсам.

Галоўным вынікам сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь у 1994—2005 гг. стала стварэнне і дзейнасць аптымальнай сацыяльна-эканамічнай сістэмы, заснаванай на паступовым, эвалюцыйным шляху эканамічных пераўтварэнняў. Краіна захавала багацце, створанае працай усяго народа, не прадала за бясцэнак зямлю, заводы і фабрыкі, прыпыніла інфляцыю і без дапамогі з-за граніцы скараціла дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту. Захаваны і паглыблены сацыяльныя гарантыі для людзей: жыллё, пенсіі, бясплатныя (за кошт бюджэту) адукацыя і лячэнне.

Галоўнай мэтай сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2006—2010 гг. з'яўляецца далейшы рост узроўню і якасці жыцця насельніцтва на аснове павышэння канкурэнтаздольнасці эканомікі, стварэння дзяржавы найбольшага спрыяння для людзей. Дзяржаўнымі прыярытэтамі сацыяльна-эканамічнага развіцця ў 2006—2010 гг. абвешчаны ўсебаковае гарманічнае развіццё чалавека на аснове павышэння рэальных грашовых даходаў, удасканалення сістэм адукацыі, аховы здароўя і іншых галін сферы паслуг; інавацыйны шлях развіцця эканомікі, энерга- і рэсурсазберажэнне; павелічэнне экспартнага патэнцыялу краіны на аснове павышэння канкурэнтаздольнасці айчыннай прадукцыі; развіццё аграпрамысловага комплексу і сацыяльнае адраджэнне сяла; развіццё малых і сярэдніх гарадоў; жыллёвае будаўніцтва.

**Умацаванне палітычнай сістэмы. Рэферэндум 2004 г. Выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2001 і 2006 гг. і іх вынікі.** Важную ролю ў распрацоўцы ўнутранай і знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь адыгралі ўсебеларускія народныя сходы. *Першы Усебеларускі народны сход* адбыўся **19—20 кастрычніка 1996 г.** у Мінску. Перад дэлегатамі сходу з дакладам «Толькі народ мае права рашаць свой лёс» выступіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка. Дэлегаты сходу, якія прадстаўлялі народ Беларусі, адобрылі ўнутраную і знешнюю палітыку кіраўніцтва дзяржавы.

**18 мая 2001 г.** у Мінску адбыўся *другі Усебеларускі народны сход.* На ім з дакладам «За моцную, квітнеючую Беларусь» выступіў А. Р. Лукашэнка. Сход падвёў вынікі выканання «Асноўных напрамкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 1996—2000 гады», прынятых першым Усебеларускім народным сходам у 1996 г. Была абмеркавана і адобрана Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2001—2005 гг.

**9 верасня 2001 г.** Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь на новы 5-гадовы тэрмін выбраны А. Р. Лукашэнка. Адбыліся таксама дэмакратычныя выбары дэпутатаў двухпалатнага Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

З мноства прадстаўленых на конкурс тэкстаў гімна ў выніку іх грамадскага абмеркавання ў 2002 г. былі адобраны і зацвярджа-

ны музыка і словы Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. Аўтарам музыкі з'яўляецца кампазітар Н. Сакалоўскі, аўтарамі слоў — паэты М. Клімковіч і У. Карызна. Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь — гэта музычна-паэтычны твор, які заклікае да яднання ўсіх жыхароў нашай краіны.

**17 кастрычніка 2004 г.** адбыўся ініцыяваны Прэзідэнтам рэспубліканскі рэферэндум і выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Сфарміраваны таксама новы склад Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу. На аснове галасавання на рэспубліканскім рэферэндуме з 81-га артыкула Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь выключана яго другая частка: «Адна і тая ж асоба можа быць Прэзідэнтам не больш за два тэрміны». Такім чынам, пераважная большасць беларускага народа пагадзілася з тым, каб А. Р. Лукашэнка нароўні з іншымі кандыдатамі мог балаціравацца ў час выбараў 2006 г. на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**2—3 сакавіка 2006 г.** у Мінску адбыўся *трэці Усебеларускі народны сход.* На ім з дакладам «Дзяржава для народа» выступіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка. Сход прыняў Праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2006—2010 гг. Дэвіз новага перыяду — «Дзяржава для народа», а галоўная стратэгічная задача — пабудова моцнай і квітнеючай Беларусі.

**19 сакавіка 2006 г.** у выніку свабодных дэмакратычных выбараў Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь на новы пяцігадовы тэрмін быў выбраны А. Р. Лукашэнка.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Ахарактарызуйце асаблівасці беларускай мадэлі сацыяльна-эканамічнага развіцця.
2. Пералічыце найбольш значныя падзеі грамадска-палітычнага жыцця Рэспублікі Беларусь у 1996—2006 гг.
3. Назавіце прыярытэты сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь у 2006—2010 гг.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Падрыхтуйце паведамленні аб правядзенні рыначных рэформаў у розных краінах СНД. Параўнайце беларускую мадэль сацыяльна-

эканамічнага развіцця з мадэлямі рыначных рэформаў у Расіі, Украіне, іншых краінах СНД (на выбар).
2. Ахарактарызуйце месца Усебеларускага народнага сходу ў палітычнай сістэме Рэспублікі Беларусь.

## § 31. МІЖНАРОДНАЕ СТАНОВІШЧА І ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Успомніце.** 1. Калі пачалася дзейнасць БССР на міжнароднай арэне? 2. У рабоце якіх міжнародных арганізацый удзельнічала наша рэспубліка?

**Фарміраванне знешнепалітычнага курсу. Рэспубліка Беларусь у сістэме міжнародных адносін.** Суседзямі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца Расійская Федэрацыя, Украіна, Польшча, Літва і Латвія. Пасля прызнання Рэспублікі Беларусь як суверэннай дзяржавы дагаворы аб дзяржаўнай граніцы былі падпісаны з Польшчай, Літвой і Латвіяй. У Беларусі няма тэрытарыяльных спрэчак з Расіяй і Украінай.

26 лютага 1992 г. Рэспубліка Беларусь падпісала Хельсінкскі Заключны акт Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. З гэтага моманту яна не толькі стала раўнапраўнай удзельніцай хельсінкскага працэсу, але і нясе разам з іншымі дзяржавамі адказнасць за захаванне міру і бяспекі ў Еўропе.

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 г. вызначыла асноўныя прынцыпы знешняй палітыкі суверэннай дзяржавы. У 18-м артыкуле запісана: «Рэспубліка Беларусь у сваёй знешняй палітыцы зыходзіць з прынцыпаў роўнасці дзяржаў, непрымянення сілы або пагрозы сілай, непарушнасці межаў, мірнага ўрэгулявання спрэчак, неўмяшання ва ўнутраныя справы і іншых агульнапрызнаных прынцыпаў і нормаў міжнароднага права».

Рэспубліка Беларусь далучылася да Дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе. Яна зменшыла колькасць агульных узбраенняў. У 1992 г. Беларусь вывела са сваёй тэрыторыі тактычную ядзерную зброю, нягледзячы на тое, што стратэгічныя і тактычныя ядзерныя ракеты ЗША і блока НАТО заставаліся нацэленымі на яе. Толькі ў чэрвені 1994 г. афіцыйныя колы ЗША

інфармавалі аб перанацэленасці іх ракет. У 1996 г. ядзерная зброя была поўнасцю выведзена за межы краіны. *Рэспубліка Беларусь — нейтральная бяз'ядзерная дзяржава ў цэнтры Еўропы.*

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь 3 ліпеня 1996 г. прапанаваў стварыць у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе прастору, свабодную ад ядзернай зброі.

**Саюз Беларусі і Расіі.** Рэспубліка Беларусь развівала палітычныя і эканамічныя сувязі з краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў, у першую чаргу з Расіяй. **2 красавіка 1996 г.** быў падпісаны *Дагавор аб Садружнасці Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі.* Ён забяспечыў грамадзянам абедзвюх краін роўныя правы ў атрыманні адукацыі, ахове здароўя, працаўладкаванні, аплаце працы і інш.

Важным крокам у далейшым паглыбленні інтэграцыі Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі стала падпісанне **2 красавіка 1997 г.** у Маскве *Дагавора аб Саюзе Беларусі і Расіі.* Гэты дзень абвешчаны Днём яднання народаў Беларусі і Расіі. Неад'емнай часткай дагавора стаў Статут Саюза Беларусі і Расіі, якім прадугледжваецца забеспячэнне ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця абедзвюх краін, іх бяспекі, абараназдольнасці, узаемавыгаднага супрацоўніцтва з краінамі Еўропы і свету.

**8 снежня 1999 г.** у Маскве быў падпісаны *Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.* Беларуска-расійская інтэграцыя ўзнялася на якасна новую ступень. На долю Расіі прыходзіцца каля паловы агульнага аб'ёму знешняга гандлю Беларусі.

Саюзная дзяржава Беларусі і Расіі ствараецца як добраахвотны і раўнапраўны саюз свабодных і суверэнных краін. Беларускі народ і кіраўніцтва беларускай дзяржавы робяць усё для таго, каб адносіны паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй былі добрасуседскімі і будаўніцтва Саюзнай дзяржавы на карысць беларускага і расійскага народаў паспяхова завяршылася.

**Гандлёва-эканамічныя і культурныя сувязі з замежнымі краінамі.** Рэспубліка Беларусь развівае гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва не толькі з краінамі СНД, але і з дзяржавамі далёкага замежжа. У яе знешняй палітыцы выразна вызначыліся ўсходні і заходні вектары. Важнымі гандлёвымі партнёрамі Беларусі з'яўляюцца еўрапейскія краіны, у тым ліку Германія, Вяліка-

брытанія, Польшча, Нідэрланды, Літва, Латвія і інш. У 2002 г. аб'ём гандлю з імі склаў каля 5 млрд долараў.

Паспяхова развіваюцца палітычныя і гандлёва-эканамічныя сувязі паміж Рэспублікай Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікай. Знешнегандлёвы тавараабарот паміж краінамі складае каля 1 млрд долараў. Рэспубліка Беларусь і Кітайская Народная Рэспубліка маюць аднолькавыя ці блізкія погляды на праблемы развіцця сусветнай цывілізацыі, падтрымліваюць адзін аднаго ў міжнародных арганізацыях. Станоўчы вопыт назапашаны ва ўзаемаадносінах паміж Беларуссю і такімі аўтарытэтнымі краінамі Азіі са значным вытворча-эканамічным патэнцыялам, як Індыя, Іран, В'етнам, краіны Персідскага заліва.

Рэспубліка Беларусь пачала распрацоўку залежаў нафты і яе здабычу ў Венесуэле. У гэту лацінаамерыканскую краіну Беларусь пастаўляе прадукцыю свайго машынабудавання, хімічнай прамысловасці, бытавыя тавары, ажыццяўляе там жыллёвае будаўніцтва. Пашыраюцца маштабы і набіраюць высокія тэмпы палітычныя і гандлёва-эканамічныя сувязі паміж Беларуссю і Венесуэлай, гэтаму ў немалой ступені садзейнічалі ўзаемныя візіты прэзідэнтаў абедзвюх краін.

Рэспубліка Беларусь прыцягвае ў сваю эканоміку капіталы і вопыт замежных інвестараў і міжнародных валютна-фінансавых арганізацый, стварае сумесныя прадпрыемствы, дазваляе замежным фірмам займацца на сваёй тэрыторыі бізнесам і прадпрымальніцтвам.

Развіваецца супрацоўніцтва Беларусі і замежных краін у галіне навукі, літаратуры і мастацтва. Гэта сумесныя распрацоўкі беларускімі і замежнымі вучонымі навукова-даследчых тэм, пераклад і выданне за мяжой твораў беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, гастролі майстроў беларускай сцэны і дэманстрацыя работ беларускіх мастакоў і скульптараў у іншых краінах і г. д.

Адным з кірункаў міжнароднай дзейнасці Рэспублікі Беларусь з'яўляецца вырашэнне праблем, звязаных з *ліквідацыяй вынікаў аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі*. Падчас катастрофы ў атмасферу была выкінута вялікая колькасць радыеактыўнага рэчыва, 70 % якога выпала на тэрыторыю Беларусі. Забруджанай аказалася трэцяя частка плошчы рэспублікі, на якой пражывала больш за 2,2 млн чалавек. У крытычным

стане апынуліся 20 % лясоў, 73 рэспубліканскія і 162 мясцовыя заказнікі, 336 помнікаў прыроды. Сярод іх Белавежская і Налібоцкая пушчы, Бярэзінскі і Прыпяцкі запаведнікі, Асвейскае возера і інш.

Нягледзячы на вялікія намаганні, зробленыя кіраўніцтвам краіны дзеля пераадолення наступстваў чарнобыльскай катастрофы, а таксама на дапамогу ўрадавых арганізацый і грамадскасці замежных краін, праблема Чарнобыля па сённяшні дзень застаецца вострай. Патрэбны яшчэ немалыя сродкі і пэўны час. Наогул, пераадолець вынікі такой буйной тэхнагеннай катастрофы, як чарнобыльская, для Беларусі магчыма толькі з дапамогай міжнароднага супольніцтва.

**Удзел спартсменаў Беларусі ў Алімпійскіх гульнях.** Спартсмены Беларусі ўпершыню прынялі ўдзел у XV Алімпійскіх гульнях у 1952 г., якія адбыліся ў г. Хельсінкі (Фінляндыя). У складзе зборнай каманды СССР тады былі 4 беларускія лёгкаатлеты і 2 фехтавальшчыкі. Першы алімпійскі сярэбраны медаль сярод беларускіх спартсменаў заваяваў М. Крываносаў (кіданне молата) на XVI Алімпійскіх гульнях (1956) у Мельбурне (Аўстралія).

На XXVI Алімпійскіх гульнях (1996) у Атланце (ЗША) Рэспубліка Беларусь упершыню была прадстаўлена самастойнай нацыянальнай камандай. У яе складзе было 162 спартсмены. Залаты медаль заваявала К. Хадатовіч (акадэмічнае веславанне, байдарка-адзіночка). Беларускія спартсмены на гэтых гульнях атрымалі яшчэ 6 сярэбраных і 8 бронзавых медалёў.

На XXVIII Алімпійскіх гульнях (2004) у Афінах (Грэцыя) у камандзе Беларусі налічвалася 147 спартсменаў па 23 відах спорту. Заваявана 15 медалёў: 2 залатыя (Ю. Несцярэнка — бег на 100 м і І. Макараў — дзюдо), 6 сярэбраных і 7 бронзавых. У неафіцыйным камандным заліку Беларусь заняла 26-е месца сярод 202 краін-удзельніц, а па колькасці медалёў — 18-е месца.

На XXIX Алімпійскіх гульнях (2008) у Пекіне (Кітай) у камандзе Беларусі налічваўся 181 спартсмен. Рэспубліка Беларусь з 4 залатымі, 5 сярэбранымі і 10 бронзавымі ўзнагародамі (усяго 19 медалёў) заняла 16-е месца па якасці медалёў і 13-е — па колькасці сярод 204 краін-удзельніц. Сярод узнагароджаных залатымі медалямі — А. Арамнаў (цяжкая атлетыка, да 105 кг), А. Мянькова (лёгкая атлетыка, кіданне молата), Р. Петрушэнка, А. Абалма-

саў, А. Літвінчук, В. Махнеў (грэбля на байдарках і каноэ, байдарка-чацвёрка, 1000 м), Андрэй і Аляксандр Багдановічы (грэбля на байдарках і каноэ, каноэ-двойка, 1000 м).

У зімовых Алімпійскіх гульнях беларускія спартсмены ўдзельнічаюць з 1964 г. Першым з беларускіх спартсменаў, які атрымаў бронзавы медаль на XV зімовых Алімпійскіх гульнях (1988) у Калгары (Канада), быў канькабежац І. Жалязоўскі на дыстанцыі 1000 м. На XVII зімовых Алімпійскіх гульнях (1994) у Ліле-хамеры (Нарвегія) Беларусь упершыню выступала асобнай нацыянальнай камандай. На XIX зімовых Алімпійскіх гульнях (2002) у Солт-Лейк-Сіці (ЗША) каманда Беларусі ў складзе 62 спартсменаў у неафіцыйным камандным заліку заняла 19-е месца, а хакейная зборная каманда — 4-е месца.

Патрыятычны настрой і пачуццё гонару за Айчыну заўсёды выклікаюць высокія дасягненні беларускіх спартсменаў на Алімпійскіх гульнях, сусветных спаборніцтвах і спаборніцтвах на першынство Еўропы па відах спорту, на іншых спаборніцтвах, калі ў гонар пераможцы і яго краіны гучыць Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь і наш Дзяржаўны сцяг узнімаецца на стадыёне ці ў спартыўным палацы. Спорт і высокія дасягненні беларускіх спартсменаў — гэта адзін з важных і дзейсных сродкаў павышэння аўтарытэту рэспублікі на міжнароднай арэне, выхавання ў людзей патрыятызму, любові да сваёй Бацькаўшчыны.

**Беларуская дыяспара.** Слова «дыяспара» паходзіць ад грэчаскага diaspora, што азначае рассяленне, пражыванне значнай часткі этнасу па-за межамі этнічнай тэрыторыі. Ва ўсе часы па розных прычынах насельніцтва беларускіх зямель перасялялася ў іншыя краіны.

Найбольшая колькасць беларусаў пражывае ў Расіі, Украіне, Латвіі, Літве, Польшчы, ЗША, Канадзе. Ёсць згуртаванні беларусаў і ў краінах Заходняй Еўропы — Англіі, Францыі, Італіі, Даніі, Бельгіі, а таксама ў Аўстраліі і краінах Лацінскай Амерыкі — Аргенціне, Бразіліі, Парагваі, Уругваі і інш. Усяго за межамі Рэспублікі Беларусь пражывае каля 3—3,5 млн беларусаў.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Ахарактарызуйце асноўныя кірункі знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь у палітычнай, эканамічнай, духоўнай сферах.

2. Назавіце асноўныя прынцыпы знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь.
3. Ахарактарызуйце дасягненні Беларусі ў алімпійскім руху.
4. Дайце азначэнне паняцця *беларуская дыяспара*. Назавіце кантыненты і краіны, дзе дзейнічаюць згуртаванні беларусаў.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Ахарактарызуйце статус Рэспублікі Беларусь у міжнародным супольніцтве.
2. Растлумачце тэзіс: «Рэспубліка Беларусь — нейтральная бяз'ядзерная дзяржава ў цэнтры Еўропы».
3. Прааналізуйце працэс інтэграцыі Беларусі і Расіі паводле плана: прычыны і перадумовы, этапы, вынікі. Дайце ўласную ацэнку гэтаму працэсу.
4. Падрыхтуйце паведамленні пра:
   а) беларускіх алімпійцаў;
   б) беларускую дыяспару.

## § 32. РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XX — ПАЧАТКУ XXI ст.

**Успомніце.** Назавіце асноўныя дасягненні беларускага народа ў галіне культуры ў 1920—1930-я гг.

**Беларуская культура ў другой палове 1940-х — першай палове 1980-х гг. Развіццё адукацыі.** У канцы 1950-х — пачатку 1960-х гг. у Беларускай ССР была завершана работа па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці сярод дарослага насельніцтва. БССР стала рэспублікай суцэльнай пісьменнасці. Гэта было адно з агульнацывілізацыйных дасягненняў беларускага народа ў галіне культурнага будаўніцтва.

У пачатку 1960-х гг. у БССР было ўведзена ўсеагульнае абавязковае васьмігадовае навучанне. Наступнай задачай стаў пераход да ўсеагульнай сярэдняй адукацыі моладзі. Гэты пераход адбываўся паступова і быў завершаны ў канцы 1970-х гг., што стала яшчэ адным важным дасягненнем беларускага народа.

У БССР існавала разгалінаваная сістэма сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі. Былі адчынены новыя ВНУ, якія да-

валі падрыхтоўку пераважна па тэхнічных і сельскагаспадарчых спецыяльнасцях: Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут, Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту ў Гомелі, Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі ў Мінску, Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут, Мінскі радыётэхнічны інстытут, Віцебскі тэхналагічны інстытут лёгкай прамысловасці, Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут і інш. Існавалі таксама ВНУ педагагічнага, медыцынскага і іншых профіляў. Колькасць ВНУ ў Беларусі павялічылася з 24 у 1946 г. да 33 у 1985 г., а студэнтаў — адпаведна з 13 тыс. да 182 тыс.

**Літаратура.** Вызначальнай тэмай беларускай літаратуры ў пасляваенны перыяд стала адлюстраванне подзвігу беларускага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Сур'ёзнае асэнсаванне ваеннай тэмы і глыбокі псіхалагізм уласцівы прозе М. Лынькова, І. Навуменкі, В. Быкава, І. Чыгрынава і інш. Беларускіх пісьменнікаў хвалявалі маральна-этычныя праблемы (творы К. Крапівы, І. Шамякіна). Лепшымі творамі гістарычнай тэматыкі былі раманы, аповесці і п'есы У. Караткевіча, якія садзейнічалі выхаванню цікавасці да гістарычнай спадчыны беларускага народа. Паспяхова развівалася паэзія. У гісторыю беларускай літаратуры ўвайшлі імёны такіх паэтаў, як А. Куляшоў, П. Броўка, П. Панчанка, П. Глебка, М. Лужанін, Н. Гілевіч, Г. Бураўкін і інш.

**Тэатр і кіно.** Вядучай тэмай тэатральнага і кінамастацтва стала Вялікая Айчынная вайна. Творчымі дасягненнямі беларускіх тэатраў былі пастаноўкі п'ес «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона, «Трыбунал» А. Макаёнка, «Апошні шанц» В. Быкава, «Радавыя» А. Дударава. На тэатральных падмостках быў створаны маштабны і унікальны сцэнічны летапіс подзвігу беларускага народа ў час вайны. Не меншую вядомасць набылі беларускія мастацкія кінастужкі на ваенную тэму: «Альпійская балада» (рэжысёр Б. Сцяпанаў), «Вазьму твой боль» (рэжысёр М. Пташук), «Вясельная ноч» (рэжысёр А. Карпаў), «Я родам з дзяцінства» (рэжысёр В. Тураў) і інш.

Важнай падзеяй стала экранізацыя В. Туравым рамана-эпапеі І. Мележа «Людзі на балоце». Значны ўклад у экранізацыю рускай літаратурнай класікі і стварэнне дзіцячых фільмаў-казак зрабіла кінастудыя «Беларусьфільм». Штогод яна выпускала на экраны да 70 мастацкіх, дакументальных і навукова-папулярных

фільмаў. На тэатральных падмостках ажыццяўлялася паспяховае сцэнічнае ўвасабленне нацыянальнай і замежнай класікі.

**Музычнае мастацтва.** Тэма вайны займала важнае месца і ў музычным мастацтве. Яна аб'ядноўвала творы беларускіх кампазітараў Я. Цікоцкага, Р. Пуксты, Ю. Семянякі, Г. Вагнера, У. Алоўнікава. У 1955 г. быў зацверджаны Дзяржаўны гімн БССР, музыку да якога напісаў Н. Сакалоўскі, а словы — М. Клімковіч.

У 1960—1980-я гг. пашырылася тэматыка беларускай музыкі. Разам з нацыянальнымі матывамі з'явіліся тэмы і сюжэты з гісторыі іншых народаў, напрыклад, опера «Джардана Бруна» С. Картэса, балеты «Тыль Уленшпігель», «Маленькі прынц» Я. Глебава і інш. У беларускай музыцы раскрыліся творчыя здольнасці кампазітараў А. Багатырова, Дз. Смольскага, А. Мдывані.

Пэўнае развіццё атрымала і эстрадная музыка. За межамі рэспублікі набылі вядомасць песні кампазітараў І. Лучанка і Э. Ханка. Папулярызацыі беларускай музыкі ў іншых рэспубліках СССР садзейнічала творчасць вакальна-інструментальных ансамбляў «Песняры» пад кіраўніцтвам У. Мулявіна, «Верасы» пад кіраўніцтвам В. Раінчыка, «Сябры» пад кіраўніцтвам А. Ярмоленкі.

**Архітэктура і выяўленчае мастацтва.** У архітэктуры Беларусі канца 1940-х — пачатку 1950-х гг. наглядалася выразнае імкненне ўвекавечыць перамогу савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Таму невыпадковым стала звяртанне да спадчыны эпохі класіцызму з яе веліччу і трыумфальнасцю, з пабудовамі, аздобленымі багатым дэкорам і скульптурай.

У адзіным стылі вытрымана кампазіцыя Ленінскага праспекта ў Мінску (цяпер праспект Незалежнасці). Бясспрэчным дасягненнем беларускіх архітэктараў стаў ансамбль плошчы Перамогі ў Мінску (архітэктары Г. Заборскі, У. Кароль). Найбольш велічныя пабудовы стварылі архітэктары А. Воінаў (будынак ЦК КПБ у Мінску, у сааўтарстве), У. Кароль (будынак Мінскага паштамта; Манумент Перамогі; мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць-герой», у сааўтарстве), М. Паруснікаў (будынак Дзяржбанка, стадыён «Дынама», у сааўтарстве).

У 1960—1970-х гг. найбольшага росквіту дасягнула манументальнае мастацтва Беларусі. Стварэнне мемарыялаў, прысвечаных подзвігу беларускага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, падтрымлівалася на дзяржаўным узроўні. Менавіта ў гэты перыяд



*Партызанская мадонна. Мастак М. Савіцкі. 1967 г.*

былі ўзведзены велічныя і маштабныя мемарыяльныя комплексы, такія як «Хатынь», «Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі», «Брэсцкая крэпасць-герой», які быў адкрыты ў **1971 г.**, і інш. У стварэнні манументаў удзельнічалі лепшыя скульптары Беларусі: З. Азгур, А. Бембель, С. Селіханаў, А. Анікейчык, А. Заспіцкі, Л. Гумілеўскі і інш.

З сярэдзіны 1950-х гг. адбылася стылявая пераарыентацыя беларускага жывапісу. Мастакі паступова адмовіліся ад пафасу і апісальнасці, для іх твораў сталі характэрнымі лаканічнасць і прастата. Беларускія мастакі распрацавалі своеасаблівы стыль, які нагадваў манументальны жывапіс. У рэчышчы такога стылю выкананы работы М. Савіцкага, у тым ліку «Партызанская мадонна». Некаторыя аўтары звярталіся да падзей далёкага гістарычнага мінулага, іншых цікавілі тэмы і матывы сучаснага ім жыцця. Найвышэйшыя дасягненні беларускага мастацтва 1950-х — сярэдзіны 1980-х гг. звязаны з творамі, прысвечанымі Вялікай Айчыннай вайне.

**Беларуская культура на сучасным этапе. Развіццё адукацыі і навукі.** У 1990-я гг. у Рэспубліцы Беларусь пачала праводзіцца рэформа агульнаадукацыйнай школы, звязаная з пераходам на

дванаццацігадовы тэрмін навучання ў сярэдняй школе. Рэформа прадугледжвала пераход да абавязковай дзесяцігадовай базавай школы. Сярэднюю адукацыю можна было атрымаць у апошніх 11-м і 12-м класах ці ва ўстановах прафесійнай адукацыі. Апошнія класы мелі на мэце спецыялізаваную падрыхтоўку вучняў па розных кірунках (прыродазнаўчы, фізіка-матэматычны, гуманітарны, тэхналагічны). Аднак рэформа сярэдняй агульнаадукацыйнай школы сябе не апраўдала. У 2008 г. на вышэйшым дзяржаўным узроўні было прынята рашэнне прыпыніць рэформу і вярнуцца да адзінаццацігадовай сярэдняй школы.

Асаблівасцю развіцця сістэмы адукацыі Рэспублікі Беларусь у 1990-я гг. стала дзейнасць *недзяржаўных навучальных устаноў*, якія існуюць разам з дзяржаўнымі. Навучанне ў іх ажыццяўляецца на платнай аснове (за кошт асабістых сродкаў студэнтаў, навучэнцаў ці іх бацькоў). Гэтыя навучальныя ўстановы атрымліваюць ад дзяржавы ліцэнзію (права) на правядзенне вучэбнай дзейнасці. Каб забяспечыць адпаведнасць існуючым у краіне стандартам адукацыі, сістэматычна праводзіцца атэстацыя ўсіх навучальных устаноў, у тым ліку і недзяржаўных.

Беларускія вучоныя ажыццяўляюць шэраг важных даследаванняў практычна ва ўсіх галінах ведаў. Паступова аднаўляюцца страчаныя раней сувязі з вучонымі Расіі і краін былога СССР, падтрымліваюцца кантакты з навуковай супольнасцю замежных краін. Развіццё навукі павінна забяспечыць устойлівае сацыяльна-эканамічнае развіццё Рэспублікі Беларусь, павышэнне ўзроўню жыцця насельніцтва.

**Літаратура.** Змены ў сацыяльна-эканамічным і грамадска-палітычным жыцці Беларусі знайшлі адлюстраванне ў літаратуры. Палітыка галоснасці і дэмакратызацыі жыцця спрыяла з’яўленню твораў, прысвечаных праблеме палітычных рэпрэсій. Былі апублікаваны аповесці-ўспаміны С. Грахоўскага, Ф. Аляхновіча і інш. Тэму рэпрэсій уздымаў у сваіх творах В. Быкаў. Чытачы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з творамі беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў, якія да гэтага не публікаваліся ў Беларусі. Важнай тэмай мастацкай літаратуры стала аварыя на Чарнобыльскай АЭС. І. Шамякін стварыў раман «Злая зорка», дзе спрабаваў асэнсаваць сутнасць і наступствы гэтай катастрофы. Другая палова 1980-х — 1990-я гг. — перыяд узрастання інтарэсу пісьменнікаў

і паэтаў да гістарычнага мінулага. Новыя творы з'явіліся ў беларускіх паэтаў Н. Гілевіча, Г. Бураўкіна і інш.



*С. М. Станюта, народная артыстка БССР*

**Тэатр, музыка.** У складаных эканамічных умовах сярэдзіны 1980-х — 1990-х гг. развівалася тэатральнае мастацтва Беларусі. У 1990-я гг. узніклі новыя прафесійныя і аматарскія драматычныя тэатры. Галоўную ролю ў тэатральным мастацтве адыгрывалі прафесійныя дзяржаўныя калектывы.

Далейшае развіццё атрымала музычнае мастацтва. Шмат зрабілі і робяць для росквіту музычнай культуры Беларусі такія вядомыя кампазітары, кіраўнікі музычных калектываў і выканаўцы, як В. Роўда, М. Дрынеўскі, М. Казінец, С. Картэс, Дз. Смольскі, У. Солтан і інш. Беларусь, Расія і Украіна штогод, пачынаючы з 1992 г., сумесна праводзяць свята песні *«Славянскі базар»* у Віцебску. Уздыму ўзроўню майстэрства маладых выканаўцаў садзейнічае фестываль у Маладзечне, які з 1993 г. стаў традыцыйным.

Актыўнай канцэртнай дзейнасцю займаюцца сёння Беларуская дзяржаўная філармонія і абласныя філармоніі.

**Архітэктура.** У 1996 г. у Мінску адкрыты помнік «Сынам Айчыны, якія загінулі за яе межамі», вядомы як «востраў слёз» («востраў мужнасці і смутку»). Гэты помнік прысвечаны воінам, якія загінулі ў Афганістане. Помнікі і мемарыяльныя дошкі ў памяць воінаў-афганцаў устаноўлены ў Оршы, Рэчыцы, Баранавічах.

У беларускай манументальнай скульптуры наглядаецца таксама зварот да гістарычнай тэматыкі. Так, былі ўстаноўлены помнікі Кірылу Тураўскаму ў Тураве, Францыску Скарыне ў Лідзе і Мінску, Рагнедзе і Ізяславу ў Заслаўі, Ефрасінні Полацкай у Мінску і капліца Ефрасінні Полацкай у Рэчыцы.

Адной з важных задач палітыкі дзяржавы з'яўляецца захаванне помнікаў айчыннай гісторыі і культуры. У апошнія гады ў рэспубліцы праводзіцца мэтанакіраваная работа не толькі па вяртанні гісторыка-культурнай спадчыны, але і па рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Маштабныя рэстаўрацыйныя работы ў канцы 1980-х — 1990-я гг. праводзіліся ў Мірскім



*Будынак гарадской ратушы ў Мінску*

замку. Пастановай Савета Міністраў Нясвіжу быў нададзены статус Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. Надзвычайную каштоўнасць для Беларусі мае Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік. Вялася рэстаўрацыя помнікаў архітэктуры на Навагрудчыне, Лідскага замка, Барысаглебскай (Каложскай) царквы і Старога Замка ў Гродне, Благавешчанскай царквы ў Віцебску, гістарычнай забудовы старажытнабеларускіх гарадоў. У Мінску на плошчы Свабоды быў адноўлены будынак ратушы.

У 2006 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, якая ўяўляе сабой найбуйнейшы культурны і інфармацыйны цэнтр. Яна — частка інтэлектуальнага скарбу нашай планеты і своеасаблівы сімвал сучаснай Беларусі.

**Пытанні і заданні для самаправеркі**

1. Ахарактарызуйце змены, якія адбыліся ў сістэме адукацыі Беларусі ў другой палове XX — пачатку XXI ст. Якія рэформы былі праведзены ў сістэме адукацыі Беларусі ў гэты перыяд? Якімі былі іх вынікі?
2. Назавіце прозвішчы дзеячаў культуры Беларусі (літаратуры, жывапісу, архітэктуры, музыкі) другой паловы XX — пачатку XXI ст. і іх найбольш вядомыя творы (дасягненні). Якія вы ведаеце помнікі-манументы, прысвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны, акрамя згаданых у параграфе? Назавіце тыя, якія размешчаны ў вашай мясцовасці.
3. Растлумачце, чаму тэма Вялікай Айчыннай вайны стала вызначальнай у беларускай культуры ў 1950—1980-я гг.

4. Якія новыя тэмы з’явіліся ў беларускай культуры ў канцы XX — пачатку XXI ст.?
5. Назавіце вядомыя вам падзеі культурнага жыцця нашай рэспублікі на сучасным этапе.

**Пытанні і заданні для абмеркавання на ўроку**

1. Складзіце тэзісны план адказу па тэме «Асноўныя тэндэнцыі ў развіцці беларускай культуры ў другой палове XX — пачатку XXI ст.».
2. Прааналізуйце (на выбар) твор сучаснай беларускай літаратуры. Якія праблемы сучаснага беларускага грамадства знайшлі ў ім адлюстраванне? Назавіце прапанаваныя аўтарам шляхі вырашэння гэтых праблем.
3. Падрыхтуйце паведамленні (на выбар) пра:
   а) помнікі гісторыі і культуры, якія знаходзяцца ў вашай мясцовасці;
   б) дзеячаў беларускай культуры другой паловы XX — пачатку XXI ст.;
   в) падзеі культурнага жыцця Рэспублікі Беларусь на сучасным этапе.

## § 33. ЗАКЛЮЧЭННЕ

**Чаму вучыць гісторыя Беларусі? Аб чым сведчыць гістарычны вопыт?** Калектыўная памяць народа, гістарычны вопыт — гэта багацце краіны, састаўная частка яе інтэлектуальнага патэнцыялу і культурных здабыткаў, аснова нацыянальнай самасвядомасці. Без ведання гісторыі кожны народ у цэлым і кожны чалавек паасобку інтэлектуальна бяднейшыя, іх перспектывы руху наперад становяцца праблематычнымі.

Гістарычны вопыт сведчыць пра тое, што народы, якія не ведаюць сваёй гісторыі, не маюць будучыні. Колькі разоў іншаземцы-заваёўнікі знішчалі іх дзяржавы, рабавалі людзей, грабілі матэрыяльныя і знішчалі духоўныя каштоўнасці, зводзілі на нішто стваральную працу шматлікіх пакаленняў, нашчадкам якіх прыходзілася пачынаць усё спачатку. Калі мы сочым за падзеямі, якія адбываюцца ў многіх дзяржавах былой сацыялістычнай садружнасці, на Балканскім паўвостраве, на Блізкім Усходзе, у Афрыцы, Амерыцы і іншых частках планеты, хочацца адзначыць, што і сёння гісторыя «правучвае» народы за невуцтва і пагарджанне ёю.

Гістарычны вопыт сведчыць аб тым, што павярнуць назад кола гісторыі нікому не ўдавалася: зварот да капіталізму ўзору 1917 г. немагчымы, як і немагчымы зварот да сацыялізму ўзору 1985 г. Але чалавецтва павінна ўзяць усё лепшае, што выпрацавалі капіталізм і сацыялізм, і пабудаваць сваё новае грамадства.

Гістарычны вопыт сведчыць аб тым, што новае грамадства будуецца не на голым месцы, а на фундаменце, узведзеным папярэднімі пакаленнямі людзей. Прыхільнікі ліберальна-буржуазнай мадэлі грамадскага развіцця свабодную дэмакратычную сацыяльную прававую дзяржаву павінны былі будаваць на фундаменце савецкага грамадства, узяўшы з яго гісторыі ўсё лепшае і паступова адмаўляючыся ад таго, што вычарпала свае магчымасці і ператварылася ў «тормаз» далейшага прагрэсу. Галоўная памылка рэфарматараў у тым, што яны сталі на шлях разбуральніцтва, знішчэння ўсяго савецкага, не прапанаваўшы нічога стваральнага, што дапамагло б аб'яднаць народ і дазволіла заручыцца яго падтрымкай. Эканоміцы, сацыяльнай і духоўнай сферам некаторых краін СНД нанесена такая шкода, якой яны не мелі нават у гады Вялікай Айчыннай вайны. Ідэалогія ліберал-дэмакратыз-

му, прымітыўная рыначная рыторыка, разбуральныя рыначныя рэформы не з'яўляюцца прывабнымі для народаў постсацыялістычных краін.

Як сведчыць гістарычны вопыт, сацыялізм і капіталізм як грамадска-палітычныя сістэмы ў свядомасці значнай часткі народаў планеты дыскрэдытаваны. Разам з тым і сацыялізм і капіталізм маюць шмат здабыткаў, шмат станоўчага. Таму Рэспубліка Беларусь, бадай адзіная з постсацыялістычных краін, узяла на ўзбраенне канцэпцыю пабудовы грамадства, якое ўвабрала б усё лепшае і ад капіталізму (рыначна-буржуазную сістэму, але не з гангстэрска-мафіёзным, а з цывілізаваным рынкам) і ад сацыялізму (планава-сацыялістычнай сістэмы, але не з дырэктыўным і ўсеахопным планаваннем, а з планаваннем індыкатыўным, кропкавым). Умоўна гэта грамадства мы называем *грамадствам сацыяльнай справядлівасці*.

Рэспубліка Беларусь смела і рашуча адмовілася ад *ліберальна-буржуазнай мадэлі рынку*, калі прадпрыемствы кінуты ў рыначную стыхію, у свабоднае плаванне, цэны лібералізуюцца, валютна-фінансавая сістэма вызваляецца ад дзяржаўнай манаполіі (апекі), многія прадпрыемствы аб'яўляюцца банкрутамі, масавым становіцца беспрацоўе, эканоміка разбураецца. У Рэспубліцы Беларусь прынята *сацыяльна арыентаваная мадэль рынку*, калі дзяржава рэгулюе працэсы ў эканамічнай і сацыяльнай сферах, абапіраючыся пры гэтым на рыначныя механізмы попыту і прапановы.

Гістарычны вопыт сведчыць, што адзінай крыніцай даходаў, дабрабыту людзей павінна з'яўляцца праца і ні ў якім разе не ашуканства ці махлярства. У Рэспубліцы Беларусь спынена раскраданне кучкай дзеячаў нацыянальнага багацця і стварэнне капіталаў, якія маюць крымінальны характар.

Дзяржавы, дзе адзіным ідэалам з'яўляюцца грошы, будучыні не маюць. Патрэбны іншыя, духоўна-маральныя, каштоўнасці і ідэалы.

Гістарычны вопыт сведчыць, што ў любой краіне павінна кіраваць вяршэнства закона. Таму ў Рэспубліцы Беларусь умацоўваецца праваахоўная сістэма, праводзіцца палітыка барацьбы з карупцыяй і іншымі негатыўнымі з'явамі.

Гістарычны вопыт сведчыць аб тым, што вырашэнне ўнутраных праблем — гэта адзіны спосаб павышэння аўтарытэту і прэ-

стыжу краіны ў свеце. Найбольшы эфект для краіны можа быць толькі там, дзе ёсць канцэнтрацыя намаганняў па ўсіх зразумелых і дасягальных канкрэтных мэтах і дзе дэмакратычная дзяржава выступае гарантам правоў і свабод чалавека, пабornікам сацыяльнай справядлівасці, клапоціцца аб інтарэсах усяго грамадства.

Гістарычны вопыт сведчыць, што вайна — самае вялікае злачынства супраць чалавечнасці, гэта кроў, слёзы і пакуты мільёнаў і мільёнаў людзей. Таму кожны чалавек паасобку і ўсё чалавецтва разам павінны выключыць вайну з жыцця народаў і краін і ўсе спрэчныя пытанні вырашаць шляхам перагавораў. Вось чаму наша краіна добраахвотна адмовілася ад ядзернай зброі. *Рэспубліка Беларусь — нейтральная, бяз'ядзерная дзяржава ў цэнтры Еўропы.*

У сучасным аднапалярным свеце пры наяўнасці мноства небяспек, у тым ліку і ваенных, «порах трэба трымаць сухім», каб абараніць сваю незалежнасць. Вось чаму Рэспубліка Беларусь умацоўвае свае ўзброеныя сілы, бо, як сведчыць гістарычны вопыт, калі народ не жадае ўтрымліваць свае ўласныя ўзброеныя сілы, ён будзе ўтрымліваць, карміць чужое войска, войска захопніка.

Няма добрых і дрэнных народаў, народаў-патрыётаў і народаў-здраднікаў. Пры пэўных абставінах сярод любога народа могуць знайсціся людзі, якія стануць на шлях супрацоўніцтва з ворагам, здрады сваёй Айчыне. Караць у адпаведнасці з законам трэба здраднікаў, а не народы.

Рэспубліка Беларусь, бадай, адзіная з усіх постсацыялістычных краін, якая не стала на шлях дэзінтэграцыі, разбурэння індустрыі на той падставе, што яна нібыта выраблялa «нікому не патрэбны хлам», а таксама на шлях дэкалектывізацыі, ломкі калгасна-саўгаснай сістэмы і стварэння фермерскіх, хутарскіх гаспадарак. Гэта прывяло б да катастрофы як у горадзе, так і ў вёсцы. Рэспубліка Беларусь цалкам захавала свой вытворча-эканамічны і навукова-тэхнічны патэнцыял. У нашай краіне ёсць эканамічная і палітычная стабільнасць, працуюць фабрыкі і заводы, сельскагаспадарчыя кааператывы, арганізацыі і ўстановы, прыватны сектар эканомікі, людзі рэгулярна атрымліваюць зарплату, у кватэрах цёпла і светла, дзяржава падтрымлівае тых, хто не можа зарабляць ці мала зарабляе. Гістарычны вопыт сведчыць, што рэформы, пабудаваныя на разбурэнні, а не стварэнні новага, без уліку

настрояў у грамадстве, церпяць крах. Рэформы ў Рэспубліцы Беларусь — паступовыя, абгрунтаваныя, стваральныя, а самае галоўнае — праводзяцца ў інтарэсах краіны і яе народа.

Рэспубліка Беларусь захавала сацыяльную сферу (бясплатную ахову здароўя, асвету, навуку і культуру), не знішчыла помнікі гісторыі і культуры, бо яны створаны працай і геніем народа і належаць яму. Беларускі народ — адзін з самых адукаваных, культурных, інтэлектуальна развітых народаў свету. Высокі агульнаадукацыйны, прафесіянальны і культурны ўзровень беларускага народа — яго агульнацывілізацыйнае дасягненне.

У нашай краіне ў асноўным закончаны перыяд індустрыяльнай трансфармацыі, і яна ўступіла ў перыяд постіндустрыяльнага развіцця, ажыццяўлення інфармацыйна-тэхналагічнай рэвалюцыі. Наш народ з надзеяй глядзіць у будучыню.

**Грамадска-палітычнае становішча і перспектывы развіцця Рэспублікі Беларусь.** У палітычным спектры Рэспублікі Беларусь яскрава выдзяляюцца тры асноўныя кірункі.

Першы з іх — праварадыкальны, буржуазны. Яго асноўныя мэты — буржуазная рэстаўрацыя,ператварэнне сацыялістычнага ладу ў капіталістычны, адмаўленне ўсіх здабыткаў апошніх дзесяцігоддзяў, спробы павярнуць кола гісторыі назад, у 1917 г. Але слоў «капіталістычная рэстаўрацыя», «буржуазнае адраджэнне» ў праграмах праварадыкальных партый і рухаў няма. Чаму? Таму што капіталізм як грамадска-палітычная сістэма ўжо даўно дыскрэдытаваны падзеямі апошніх стагоддзяў: дзве сусветныя вайны, каланіялізм і аграбленне народаў Азіі, Афрыкі, Акіяніі і Лацінскай Амерыкі, эксплуатацыя сваіх уласных народаў і г. д. Таму ідэолагі і палітыкі капіталістычных краін прыкладна з 1920—1930-х гг. адмовіліся ад тэрміну «капіталізм» і капіталістычнае грамадства пачалі называць «грамадствам усеагульнага росквіту», «грамадствам заходняй дэмакратыі», «грамадствам з рыначнай эканомікай» і г. д. Прыхільнікі праварадыкальнай палітычнай арыентацыі словамі і выразамі «дэмакратыя», «свабода», «правы чалавека», «прыватная ўласнасць», «прававая дзяржава», «рыначная эканоміка», «інтэграцыя ў сусветную супольнасць», «далучэнне да агульначалавечых каштоўнасцей» і іншымі прыкрываюць сваю адданасць капіталістычнаму выбару, а таксама свае дзеянні капіталістычна-рэстаўрацыйнага характару.

Другі кірунак у палітычным спектры — леварадыкальны, сацыялістычны. Яго галоўнымі мэтамі з'яўляюцца аднаўленне савецкай улады і сацыялістычнага грамадства, спробы вярнуцца назад, да канца 1980-х — пачатку 1990-х гг. Але сацыялізм як грамадска-палітычная сістэма сёння таксама дыскрэдытаваны памылкамі і злачынствамі, якія былі здзейснены кіраўнікамі КПСС і Савецкай дзяржавы, здрадай М. С. Гарбачова, Палітбюро і Сакратарыята ЦК КПСС, многіх мясцовых кіраўнікоў, а таксама магутнай антысацыялістычнай прапагандысцкай кампаніяй, якая праводзіцца ў апошнія дзесяцігоддзі не толькі на Захадзе, але і ў дзяржавах СНД і іншых былых сацыялістычных краінах.

Такім чынам, і праварадыкальны (буржуазны) і леварадыкальны (сацыялістычны) палітычныя кірункі сёння дыскрэдытаваны. І правы, і левы рухі і партыі Беларусі падтрымлівае меншасць насельніцтва.

Трэці кірунак развіцця грамадства аб'ядноўвае ў сабе ўсё лепшае, што выпрацавалі капіталізм і сацыялізм. Якія лепшыя здабыткі капіталізму можа ўключаць у сябе такое грамадства? Гэта элементы самарэгулявання ў рыначнай эканоміцы, высокая арганізацыя вытворчасці з арыентацыяй на канчатковы вынік, дысцыпліна працы, высокая прадукцыйнасць працы, паваротлівасць і мабільнасць у галіне навукова-тэхнічнага прагрэсу, выкананне буйных дзяржаўных праграм сацыяльна-эканамічнага развіцця і г. д.

Здабыткі сацыялізму — гэта элементы сацыяльна-эканамічнай прадказальнасці ў планавай эканоміцы, дзяржаўнае кіраўніцтва выкананнем буйных сацыяльна-эканамічных праграм (запазычана капіталізмам у сацыялістычных краінах і названа там «дзяржаўным рэгуляваннем»), навукова-тэхнічны прагрэс у вядучых галінах (космас, абаронная прамысловасць і г. д.), стабільнасць грамадства і ўпэўненасць людзей у заўтрашнім дні, моцная сацыяльная палітыка ў інтарэсах большасці народа — права і абавязак працаваць (адсутнасць беспрацоўя), адукацыя, ахова здароўя, пенсійнае забеспячэнне, жыллё, камунальныя паслугі і г. д., разумная і адказная культурная палітыка — дзяржаўнае фінансаванне і кіраўніцтва развіццём навукі, літаратуры, музыкі, тэатра, выяўленчага мастацтва і г. д., недапушчальнасць прапаганды

культу грошай (нажывы), насілля, садызму, спекуляцыі на чалавечых слабасцях, амаральнасці.

Ідэя трэцяга шляху развіцця грамадства, пабудовы грамадства сацыяльнай справядлівасці адсутнічае ў праграмах цэнтрысцкіх партый і рухаў Беларусі. У апошніх ёсць фразеалогія і правых і левых партый і рухаў, яны хітраць, хаваюць свае сапраўдныя палітычныя мэты. Людзі бачаць гэта і не хочуць звязваць з імі свае надзеі на будучыню.

*Магістральны шлях развіцця Рэспублікі Беларусь — пабудова грамадства сацыяльнай справядлівасці.*

## УРОК АБАГУЛЬНЕННЯ
## БЕЛАРУСЬ У XX — ПАЧАТКУ XXI ст.

**1.** Назавіце падзеі, якія былі вызначальнымі ў палітычнай, сацыяльна-эканамічнай гісторыі, гісторыі культуры Беларусі XX — пачатку XXI ст. Свой адказ абгрунтуйце.

| Палітычная гісторыя | Сацыяльна-эканамічная гісторыя | Гісторыя культуры |
|---|---|---|
| | | |

**2.** Пералічыце прозвішчы гістарычных дзеячаў, якія адыгралі вызначальную ролю (станоўчую ці адмоўную) у гісторыі Беларусі XX — пачатку XXI ст. Сваю думку абгрунтуйце.

| 1914—1945 гг. | 1946—2008 гг. |
|---|---|
| | |

**3.** Сістэматызуйце паняцці, якія характарызуюць асноўныя тэндэнцыі развіцця Беларусі ў XX — пачатку XXI ст., па самастойна выбраных крытэрыях. Дайце азначэнні паняццяў.

**4.** З дапамогай карты ахарактарызуйце працэс фарміравання тэрыторыі Беларусі ў XX ст.

**5.** Параўнайце асноўныя тэндэнцыі палітычнага, сацыяльна-эканамічнага, культурнага развіцця Беларусі і Заходняй Еўропы ў XX — пачатку XXI ст. На падставе табліцы зрабіце вывады аб агульных тэндэнцыях і асаблівасцях развіцця Беларусі ў вызначаны перыяд.

| Перыяды | Заходняя Еўропа | Беларусь |
|---|---|---|
| 1918—1945 гг. | | |
| 1946—2008 гг. | | |

Вызначце прычыны, якія, на ваш погляд, абумовілі асаблівасці развіцця Беларусі ў ХХ — пачатку ХХI ст.

**6.** Назавіце факты (падзеі, з'явы, працэсы) з гісторыі Беларусі ХХ — пачатку ХХI ст., якія атрымалі неадназначную ацэнку сучасных гісторыкаў. Чым, на ваш погляд, тлумачацца розныя пункты гледжання на адны і тыя ж гістарычныя факты?

**7.** Канкрэтызуйце з дапамогай фактаў вывады:

а) у гісторыі Беларусі ХХ — пачатку ХХI ст. спалучаюцца рэфармісцкі і рэвалюцыйны шляхі развіцця;

б) гісторыя Беларусі — неад'емная частка еўрапейскай гісторыі.

**8.** Вызначце асноўныя тэндэнцыі развіцця Рэспублікі Беларусь у 1996—2008 гг.

| Сферы грамадскага жыцця | Асноўныя тэндэнцыі развіцця |
|---|---|
| Эканамічная | |
| Палітычная | |
| Сацыяльная | |
| Духоўная | |

## ЯК ВЫВУЧАЦЬ ГІСТОРЫЮ
## ПАМЯТКІ

**Памятка 1. Як рашаць пазнавальную задачу**

1. Прааналізуйце пазнавальную задачу, сфармулюйце пытанні, на якія неабходна адказаць. Падзяліце вялікае пытанне на часткі.

2. Устанавіце, якія дзеянні неабходна выканаць для рашэння задачы; вызначце паслядоўнасць іх выканання.

3. Прадумайце, які прыём выкладання адказу адпавядае пастаўленай задачы.

4. Выканайце ўсе вызначаныя дзеянні.

5. Суаднясіце атрыманыя вынікі з умовай задачы: ці з'яўляюцца атрыманыя вынікі адказам на пастаўленую задачу?

**Памятка 2. Як устанаўліваць прычынна-выніковыя сувязі**

*1-ы спосаб.* Устанавіце храналагічную паслядоўнасць развіцця гістарычных падзей у пэўнай сферы грамадскай дзейнасці людзей, пры якой адна падзея выклікае другую.

*2-і спосаб.* Устанавіце сувязь гістарычнай падзеі ці з'явы, што вывучаецца, з рознымі сферамі грамадскага жыцця (эканамічнай, палітычнай, сацыяльнай, духоўнай). Укажыце, якія менавіта гістарычныя з'явы абумовілі вывучаемы факт.

*3-і спосаб.* Устанавіце супярэчнасці гістарычнага развіцця, што выклікалі падзею, якая вывучаецца.

**Памятка 3. План аналізу гістарычнага дакумента**

1. Узгадайце гістарычныя ўмовы стварэння дакумента.

2. Прывядзіце звесткі пра аўтара дакумента.

3. Сфармулюйце асноўныя ідэі дакумента.

4. Ацаніце дакумент з пункту гледжання яго ўплыву на ход гістарычнага развіцця.

**Памятка 4. Як ацэньваць гістарычны факт**

1. Прааналізуйце ўплыў гістарычнага факта на эканамічнае, палітычнае, сацыяльнае, духоўнае развіццё грамадства ў вывучаемы перыяд.

2. Прасачыце маштаб уздзеяння факта ў прасторы: вызначце яго ўплыў на працэсы ў свеце, рэгіёне, асобных краінах.

3. Прасачыце маштаб уздзеяння факта ў часе: вызначце яго ўплыў на эпоху, гістарычны перыяд.

4. Дайце ацэнку гістарычнаму факту з пазіцый маралі, якая існавала ў грамадстве вывучаемага перыяду, і з пазіцый сучасных уяўленняў пра мараль.

**Памятка 5. Як складаць тэзісы**

Тэзісы — гэта выкладанне асноўных ідэй, палажэнняў без іх аргументацыі.

1. Уважліва прачытайце тэкст.

2. Выдзеліце ў ім галоўныя ідэі, палажэнні, вывады.

3. Коратка сфармулюйце гэтыя палажэнні і запішыце.

**Памятка 6. Як складаць план-канспект**

1. Уважліва прачытайце тэкст, падзяліце яго на лагічна завершаныя часткі.

2. Коратка сфармулюйце галоўную ідэю кожнай часткі, у выглядзе загалоўка запішыце яе ў левай частцы старонкі.

3. Выдзеліце ў кожнай частцы тэксту факты, лічбы, вывады, якія ўдакладняюць галоўную думку. Коратка перакажыце ці працытуйце іх у правай частцы старонкі насупраць загалоўка.

**Памятка 7. Як працаваць з навуковым тэкстам**

1. Уважліва прачытайце тэкст.

2. Абапіраючыся на назву (загаловак) тэксту, вызначце праблему (ідэю), выкладзеную ў ім.

3. Падзяліце тэкст на лагічна завершаныя часткі, вызначце сэнсавы змест кожнай з іх.

4. Суаднясіце змест лагічна завершаных частак паміж сабой і з праблемай (асноўнай ідэяй) тэксту, устанавіце сувязі паміж імі.

5. Абагульніце атрыманую з тэксту інфармацыю, зрабіце вывад, абагульняючы змест лагічна завершаных частак тэксту.

**Памятка 8. Патрабаванні да вывадаў**

1. Вывад павінен адносіцца да сутнасці выкладзенага матэрыялу, выцякаць толькі з разгледжаных фактаў і сувязей, не перавышаць іх аб'ёму, не пакідаць частку фактаў без увагі.

2. Пры разглядзе вялікай колькасці фактаў і сувязей спачатку робяцца прыватныя вывады, а затым — агульныя.

**Памятка 9. Як даказваць сваё меркаванне**

Доказ — гэта паслядоўнае абгрунтаванне думак, ідэй.

1. Сфармулюйце тэзіс, які будзеце даказваць.
2. Прывядзіце факты на карысць тэзіса, які даказваеце.
3. Шляхам разважання дакажыце, што прыведзеныя факты пацвярджаюць тэзіс.
4. У сілу якіх доказаў тэзіс з’яўляецца слушным? Зрабіце вывад.

## НАЙВАЖНЕЙШЫЯ ДАТЫ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ (XIX— ПАЧАТАК XXI ст.)

**1801—1802 гг.** — адміністрацыйна-тэрытарыяльная рэформа ў Беларусі.

**1803 г.** — арганізацыя Віленскай навучальнай акругі.

**1812 г., 12 (24) чэрвеня** — уварванне французскіх войскаў Напалеона ў межы Расійскай імперыі.

**1817—1823 гг.** — дзейнасць тайных студэнцкіх таварystваў у Віленскім універсітэце.

**1820 г.** — забарона дзейнасці ордэна езуітаў у Расійскай імперыі.

**1829—1850 гг.** — дзейнасць Беларускай навучальнай акругі.

**1830—1831 гг.** — паўстанне ў Польшчы, Літве і Беларусі.

**1831 г.** — скасаванне дзеяння Статута ВКЛ 1588 г. у Віцебскай і Магілёўскай губернях.

**1836—1838 гг.** — дзейнасць тайнага студэнцкага Дэмакратычнага таварыства ў Віленскай медыцынскай акадэміі.

**1839 г.** — Полацкі царкоўны сабор і далучэнне уніяцкай царквы да Рускай праваслаўнай царквы.

**1840 г.** — скасаванне дзеяння Статута ВКЛ 1588 г. у Мінскай, Гродзенскай і Віленскай губернях.

**1846—1849 гг.** — дзейнасць у Беларусі падпольнай арганізацыі Саюз свабодных братоў.

**1848 г.** — пераўтварэнне Горы-Горацкай земляробчай школы ў Горы-Горацкі земляробчы інстытут.

**1861 г., 19 лютага** — адмена прыгоннага права ў Расійскай імперыі.

**1862 г.** — утварэнне Віленскай ваеннай акругі.

**1862—1863 гг.** — выданне К. Каліноўскім і яго паплечнікамі «Мужыцкай праўды» — першай нелегальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай газеты на беларускай мове (друкавалася лацінкай).

**1863 г., студзень — 1864 г., восень** — паўстанне ў Польшчы, Літве і Беларусі.

**1863 г.** — унясенне змен у правядзенне сялянскай рэформы ў Беларусі: увядзенне абавязковага выкупу сялянскіх надзелаў, спыненне часоваабавязанага становішча сялян, змяншэнне на 20 % памераў выкупных плацяжоў, надзяленне абеззямеленых сялян трохдзесяцінным сямейным надзелам.

**1864 г.** — пачатак школьнай рэформы ў Расійскай імперыі.

**1865 г.** — пачатак цэнзурнай рэформы ў Расійскай імперыі.

**1867 г.** — перавод дзяржаўных сялян у Беларусі з аброку на выкуп.

**1872 г.** — увядзенне ў Беларусі міравых судоў.

**1874 г.** — увядзенне ў Расіі ўсесаслоўнай воінскай павіннасці.

**1875 г.** — гарадская рэформа ў Беларусі. Увядзенне органаў гарадскога самакіравання.

**1881 г., 1 сакавіка** — забойства нарадавольцамі Аляксандра II.

**1884 г.** — выданне ў Пецярбургу нелегальнага часопіса «Гомон».

**1897 г., верасень** — утварэнне Бунда.

**1898 г., 1—3 сакавіка** — I з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП) у Мінску.

**Канец 1901 — пачатак 1902 г.** — стварэнне партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў).

**Канец 1902 — пачатак 1903 г.** — стварэнне Беларускай рэвалюцыйнай грамады (БРГ), пазней перайменаванай у Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ).

**1905 г., 9 студзеня** — «Крывавая нядзеля» ў Пецярбургу — пачатак першай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Расіі.

**1905 г., восень** — Кастрычніцкая ўсерасійская палітычная стачка.

**1905 г., 17 кастрычніка** — падпісанне Мікалаем II Маніфеста аб «дараванні» народу палітычных свабод і надзяленні Дзяржаўнай думы заканадаўчымі паўнамоцтвамі.

**1906 г., 9 лістапада** — указ аб выхадзе сялян з абшчыны — пачатак сталыпінскай аграрнай рэформы.

**1907 г., 3 чэрвеня** — роспуск II Дзяржаўнай думы Мікалаем II. Заканчэнне першай расійскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі.

**1911 г., 27 сакавіка** — увядзенне земскіх устаноў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях.

**1914 г., 19 ліпеня (1 жніўня)** — пачатак Першай сусветнай вайны.

**1915 г., жнівень — кастрычнік** — захоп войскамі Германіі тэрыторыі Заходняй Беларусі.

**1917 г., 27 лютага (12 сакавіка)** — перамога Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Расіі; звяржэнне самадзяржаўя.

**1917 г., 4 (17) сакавіка** — утварэнне Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў; арганізацыя ў Мінску народнай міліцыі.

**1917 г., 25—27 сакавіка (7—9 красавіка)** — з'езд беларускіх нацыянальных арганізацый. Стварэнне Беларускага нацыянальнага камітэта.

**1917 г., 7—17 (20—30) красавіка** — I з'езд ваенных і рабочых дэпутатаў армій і тылу Заходняга фронту.

**1917 г., 20—23 красавіка (3—6 мая)** — I з'езд сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў у Мінску.

**1917 г., 8—10 (21—23) ліпеня** — II з'езд беларускіх нацыянальных партый і арганізацый. Створана Цэнтральная рада беларускіх арганізацый, з кастрычніка 1917 г. — Вялікая беларуская рада.

**1917 г., 25 кастрычніка (7 лістапада)** — перамога ўзброенага паўстання ў Петраградзе; звяржэнне Часовага ўрада.

**1917 г., кастрычнік — лістапад** — усталяванне ўлады Саветаў пад кіраўніцтвам бальшавікоў на неакупіраванай тэрыторыі Беларусі.

**1917 г., лістапад (снежань)** — утварэнне Абласнога выканаўчага камітэта Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту (Аблвыкамзаха) і Савета Народных Камісараў (СНК) Заходняй вобласці і фронту.

**1917 г., 5—18 (18—31) снежня** — І Усебеларускі з'езд.

**1918 г., 31 студзеня (13 лютага)** — Дэкрэт СНК РСФСР аб стварэнні пры Народным камісарыяце па справах нацыянальнасцей РСФСР Беларускага нацыянальнага камісарыята (Белнацкома).

**1918 г., 18 лютага** — пачатак наступлення і акупацыі войскамі Германіі тэрыторыі Цэнтральнай і большай часткі Усходняй Беларусі.

**1918 г., 21 лютага** — зварот Выканкома Рады Усебеларускага з'езда да народа Беларусі з 1-й Устаўнай граматай, у якой ён абвясціў сябе найвышэйшай часовай уладай Беларусі і ўтварыў свой урад — Народны сакратарыят.

**1918 г., 21 лютага** — акупацыя войскамі Германіі г. Мінска.

**1918 г., 9 сакавіка** — Выканком Рады Усебеларускага з'езда прыняў 2-ю Устаўную грамату, у якой абвясціў стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі.

**1918 г., 25 сакавіка** — Рада БНР прыняла 3-ю Устаўную грамату, у якой БНР аб'яўлялася «незалежнай і вольнай дзяржавай».

**1918 г., 13 лістапада** — Дэкрэт ЦВК РСФСР аб ануляванні Брэсцкага мірнага дагавора.

**1918 г., 30—31 снежня** — VI Паўночна-Заходняя канферэнцыя РКП(б) у Смаленску; прыняцце пастановы аб утварэнні Беларускай ССР. Зацвярджэнне складу Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі на чале з З. Х. Жылуновічам.

**1919 г., 1 студзеня** — абвяшчэнне Беларускай ССР.

**1919 г., 2—3 лютага** — І Усебеларускі з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў; прыняцце першай Канстытуцыі БССР, а таксама рашэння аб стварэнні Літбел.

**1919 г., 8 жніўня** — захоп польскімі войскамі г. Мінска.

**1920 г., 11 ліпеня** — вызваленне г. Мінска ад польскай акупацыі.

**1920 г., 31 ліпеня** — прынянцце «Дэкларацыі аб абвяшчэнні незалежнасці Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь».

**1921 г., 18 сакавіка** — падпісанне Рыжскага мірнага дагавора паміж Савецкай Расіяй, Украінай і Польшчай, паводле якога Заходняя Беларусь адышла да Польшчы.

**1921 г., сакавік** — X з'езд РКП(б) і прыняцце ім новай эканамічнай палітыкі (нэпа).

**1921 г., 30 кастрычніка** — адкрыццё Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

**1921—1925 гг.** — партызанскі рух у Заходняй Беларусі.

**1921—1936 гг.** — дзейнасць Таварыства беларускай школы (ТБШ) у Заходняй Беларусі.

**1922 г., 30 снежня** — утварэнне СССР.

**1922 г.** — стварэнне Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта).

**1923—1938 гг.** — дзейнасць Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ).

**1924 — канец 1920-х гг.** — ажыццяўленне палітыкі беларусізацыі.

**1924 г., 1926 г.** — узбуйненне БССР.

**1925 г., снежань** — XIV з'езд ВКП(б) і прыняцце ім курсу на сацыялістычную індустрыялізацыю.

**1925—1927 гг.** — дзейнасць Беларускай сялянска-рабочай грамады (БСРГ) у Заходняй Беларусі.

**1926 г.** — прыняцце пастановы ЦВК і СНК БССР «Аб увядзенні ўсеагульнага абавязковага навучання ад 8 да 11 гадоў».

**1927 г., 11 красавіка** — прыняцце VIII Усебеларускім з'ездам Саветаў другой Канстытуцыі БССР.

**1927 г., снежань** — XV з'езд ВКП(б) і прыняцце ім курсу на калектывізацыю сельскай гаспадаркі.

**1929 г.** — стварэнне Акадэміі навук БССР.

**1937 г., 19 лютага** — прыняцце трэцяй Канстытуцыі БССР.

**1939 г., 23 жніўня** — Дагавор аб ненападзе паміж СССР і Германіяй.

**1939 г., 1 верасня** — напад фашысцкай Германіі на Польшчу. Пачатак Другой сусветнай вайны.

**1939 г., 17 верасня** — пачатак паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь.

**1939 г., 28 верасня** — Дагавор аб граніцы і дружбе паміж СССР і Германіяй.

**1939 г., 28—30 кастрычніка** — Народны сход Заходняй Беларусі ў Беластоку.

**1939 г., 14 лістапада** — 3-я (нечарговая) сесія Вярхоўнага Савета БССР пастанавіла прыняць Заходнюю Беларусь у склад БССР.

**1941 г., 22 чэрвеня** — напад фашысцкай Германіі на СССР. Пачатак Вялікай Айчыннай вайны.

**1941 г., 28 чэрвеня** — акупацыя Мінска.

**1941 г., чэрвень — жнівень** — абарончыя баі на тэрыторыі Беларусі.

**1942 г., май, верасень** — стварэнне Цэнтральнага і Беларускага штабоў партызанскага руху.

**1943 г., жнівень — верасень** — першы этап «рэйкавай вайны».

**1943 г., верасень — лістапад** — другі этап «рэйкавай вайны».

**1943 г., 23 верасня, 26 лістапада** — вызваленне ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў першага раённага цэнтра — Камарына і першага абласнога цэнтра — Гомеля.

**1943 г., снежань** — стварэнне Беларускай цэнтральнай рады (БЦР) на чале з Р. К. Астроўскім.

**1944 г., чэрвень — ліпень** — трэці этап «рэйкавай вайны».

**1944 г., 23 чэрвеня** — пачатак Беларускай наступальнай аперацыі («Баграціён»).

**1944 г., 3 ліпеня** — вызваленне Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**1944 г., 28 ліпеня** — вызваленне Брэста. Канчатковае выгнанне нямецка-фашысцкіх захопнікаў з беларускай зямлі.

**1945 г., 9 мая** — Дзень Перамогі над фашысцкай Германіяй. Заканчэнне Вялікай Айчыннай вайны.

**1945 г., 26 чэрвеня** — БССР падпісала Статут ААН.

**1945 г., 2 верасня** — Японія падпісала Акт аб безагаворачнай капітуляцыі. Заканчэнне Другой сусветнай вайны.

**1946 г.** — прыняцце Вярхоўным Саветам БССР Закона аб пяцігадовым плане аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі на 1946—1950 гг.

**1947 г.** — выпушчаны першыя самазвалы МАЗ-205 на Мінскім аўтамабільным заводзе.

**1956 г., люты** — адбыўся XX з'езд КПСС.

**1958 г.** — выпушчаны першыя кар'ерныя самазвалы на Беларускім аўтамабільным заводзе ў Жодзіне.

**1960 г.** — выпушчана першая ЭВМ «Мінск-1» на Мінскім заводзе электронных вылічальных машын імя Р. К. Арджанікідзе.

**Першая палова 1960-х гг.** — будаўніцтва першага і другога салігорскіх калійных камбінатаў, Гомельскага суперфасфатнага і Гродзенскага азотна-тукавага заводаў.

**1965 г.** — Брэсцкай крэпасці прысвоена ганаровае званне «Крэпасць-герой».

**1969 г.** — адкрыццё мемарыяльнага комплексу «Хатынь».

**1971 г.** — адкрыццё мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой».

**1974 г.** — Мінску прысвоена ганаровае званне «Горад-герой».

**1977 г.** — прыняцце Канстытуцыі СССР.

**1978 г.** — прыняцце Канстытуцыі БССР.

**1985—1991 гг.** — правядзенне ў СССР палітыкі перабудовы.

**1990 г., 27 ліпеня** — Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР у складзе савецкай федэрацыі.

**1991 г., 25—26 жніўня** — нечарговая сесія Вярхоўнага Савета БССР надала Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР сілу закона, а таксама прыняла пастанову аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларускай ССР.

**1991 г., 19 верасня** — Вярхоўны Савет прыняў рашэнне аб змене назвы Беларускай ССР на Рэспубліку Беларусь, а ў скарочаным варыянце — Беларусь.

**1991 г., 8 снежня** — дэнансацыя ў Віскулях (Белавежская пушча) дагавора 1922 г. аб утварэнні СССР і спыненне яго існавання. Стварэнне Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД).

**1994 г., 15 сакавіка** — прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, абвяшчэнне яе унітарнай дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавай.

**1994 г., 10 ліпеня** — першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь выбраны А. Р. Лукашэнка.

**1995 г., 14 мая** — правядзенне рэспубліканскага рэферэндуму. Замена дзяржаўнай сімволікі. Наданне рускай мове статусу дзяржаўнай разам з беларускай.

**1996 г., 2 красавіка** — падпісанне Дагавора аб Садружнасці Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі.

**1996 г., 19—20 кастрычніка** — першы Усебеларускі народны сход у Мінску.

**1996 г., 24 лістапада** — правядзенне рэспубліканскага рэферэндуму. Унясенне дапаўненняў і змяненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Перанясенне Дня незалежнасці (Дня Рэспублікі) з 27 ліпеня на 3 ліпеня.

**1997 г., 2 красавіка** — падпісанне Дагавора аб Саюзе Беларусі і Расіі. Гэты дзень абвешчаны Днём яднання народаў Беларусі і Расіі.

**1999 г., 8 снежня** — падпісанне Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.

**2001 г., 18 мая** — другі Усебеларускі народны сход у Мінску.

**2001 г., 9 верасня** — выбранне Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь на новы пяцігадовы тэрмін А. Р. Лукашэнкі.

**2004 г., 17 кастрычніка** — рэспубліканскі рэферэндум аб унясенні паправак у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, звязаных з парадкам правядзення выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**2006 г., 2—3 сакавіка** — трэці Усебеларускі народны сход у Мінску.

**2006 г., 19 сакавіка** — выбранне Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь на новы пяцігадовы тэрмін А. Р. Лукашэнкі.

## ЗМЕСТ

(Назва і нумар школы)

| Вучэбны год | Імя і прозвішча вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / 20 | | | |
| 20 / 20 | | | |
| 20 / 20 | | | |
| 20 / 20 | | | |
| 20 / 20 | | | |
| 20 / 20 | | | |

Вучэбнае выданне

**Новік** Яўгеній Канстанцінавіч
**Качалаў** Ігар Леанідавіч
**Цяплова** Валянціна Анатольеўна
**Новік** Наталля Яўгеньеўна

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ**

**XIX — ПАЧАТАК XXI ст.**

**Вучэбны дапаможнік для 11 класа агульнаадукацыйных устаноў з беларускай мовай навучання**

Галоўны рэдактар *Т. Я. Янчук*
Вокладка мастака *А. А. Жданоўскай*
Мастацкі рэдактар *М. Я. Шкурпіт*
Тэхнічны рэдактар *К. У. Хвагіна*
Камп'ютэрная вёрстка *Н. Я. Бацюковай*
Карэктары *Н. Б. Кучмель, А. В. Семенчукова, В. С. Ярмак*

Падпісана ў друк 22.06.2009. Фармат 60×90/16. Папера афсетная № 1.
Гарнітура Літаратурная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 15,0.
Ул.-выд. арк. 12,06. Тыраж 30 000 экз. Заказ 1476.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецкі цэнтр Беларускага дзяржаўнага універсітэта». ЛИ № 02330/0494361 ад 16.03.2009.
Вул. Чырвонаармейская, 6, 220030, г. Мінск.

Вытворчае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Мінская фабрыка каляровага друку». ЛП № 02330/0494156 ад 03.04.2009.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск.